Протаіерэй **Георгій Рой**

# НАКРЫШКІ

## ЛЕТАПІС БАРЫСА-ГЛЕБСКАЙ ЦАРКВЫ І КРАЮ



МІНСК
ВЫДАВЕЦТВА «ЧАТЫРЫ ЧВЭРЦІ»
2021

УДК [271.22-774-9+908](476.6)
ББК 86.372(4Беи)
Р65

*Аўтар выказвае шчырую падзяку*
*за дапамогу ў выданні кнігі*
*Герко Віталію Фёдаравічу, Булычаву Сяргею Васільевічу,*
*Палавінка Людміле Аляксандраўне.*

**Рой, Г. В.**

Р65 Накрышкі : летапіс Барыса-Глебскай царквы і краю / протаіерэй Георгій Рой. — Мінск : Чатыры чвэрці, 2021. — 248 с. : іл.

ISBN 978-985-581-464-2.

Кніга раскрывае гісторыю Накрышскай Барыса-Глебскай царквы, якая знаходзіцца на ўскрайку Ліпічанскай пушчы ў Дзятлаўскім раёне. У кантэксце царкоўнай гісторыі апавядаецца таксама пра мінуўшчыну ўсяго Накрышскага краю — амаль трох дзясяткаў вёсак і хутароў, што складаюць прыход Барыса-Глебскага храма. Асобную частку кнігі займае гісторыя сям'і Стравінскіх — фундатараў будаўніцтва царквы і ўладальнікаў Накрышскага маёнтка.

Выданне адрасуецца тым, хто цікавіцца царкоўнай гісторыяй і краязнаўствам.

**УДК [271.22-774-9+908](476.6)**
**ББК 86.372(4Беи)**

**ISBN 978-985-581-464-2**



*Прысвячаецца*
*памяці майго дзеда*
*Цімашука Васіля Данілавіча.*

## ПРАДМОВА

Перакрыжаванне — прыгожая і трапная алегорыя лёсавызначальных сустрэч у жыцці чалавека. Ніколі не ведаеш, на якім з іх і ў які час апынешся.

Досыць дзіўная назва вёскі Накрышкі паходзіць ад мясцовага слова «накры́жкі», што менавіта і азначае перакрыжаванне, крыж дарог. Прамысленнем Божым Накрышкі сталі маім першым святарскім прызначэннем на прыходскае служэнне і разам з тым надзвычай важным жыццёвым перакрыжаваннем. Да моманту ўступлення ў настаяцельскія паўнамоцтвы я ніколі не чуў пра Накрышскую Барыса-Глебскую царкву і ў краях тых бываць не даводзілася. Маёй галоўнай справай на той момант было выкладанне ў духоўнай акадэміі ў Жыровічах, а служэнне ў далёкім вясковым прыходзе ўспрымалася як дадатковае паслушанне. Але ўжо першая сустрэча змяніла гэты настрой. Калі я прыехаў у Накрышкі, то царкву на невялікім узвышэнні ўбачыў здалёк і спыніўся, каб агледзецца: мураваная, класічнага архітэктурнага стылю, акружаная воблакам стракатай кастрычніцкай лістоты старадаўніх клёнаў. Бель франтона і пілястраў адбіваюць промні лагоднага восеньскага сонца. Храм літаральна ззяе. Незвычайная, хвалепадобная агароджа, складзеная з буйнога камення, атачае царкву і своеасабліва падкрэслівае яе строгую прыгажосць.

Прыкладаю пэўнае намаганне, каб апрытомнець ад першага нечакана моцнага ўражання. Спакваля ўсплывае пачуццё судакранання з абалонкай таямнічай даўніны, якая ткалася вакол гэтай царквы на працягу стагоддзяў невядомымі людскімі лёсамі. Прыходзіць разуменне, што з пачаткам служэння і мой лёс далучаецца да плыні накрышскай гісторыі.

Пэўны час гістарычнае даследаванне накрышскай мінуўшчыны было маім, бадай што, самым моцным захапленнем, ад якога вельмі цяжка было адарвацца і пераключыцца на штосьці іншае. У гэтых



пошуках даводзілася літаральна прадзірацца да рэшткаў старажытных муроў праз густыя зараснікі кустоўя і з яшчэ большым намаганнем уваходзіць у зараснікі чалавечай памяці, заблытанасці старажытных дакументаў і сведчанняў, хапацца за танюсенькія нітачкі чалавечых успамінаў.

У гэтай кнізе гісторыя Накрышскай царквы і вёсак прыхода раскрываецца не столькі праз выяўленне паслядоўнасці фактаў і падзей, колькі праз аповед пра лёсы канкрэтных людзей. Я глыбока перакананы, што сапраўдная гісторыя якраз і складаецца з падзей людскіх лёсаў, ці, прынамсі, гэта найважнейшы яе ўзровень, асноўнае апірышча, галоўны наратыў. І менавіта храм застаецца тым цэнтрам, які аб'ядноўвае, збірае ў адзінае цэлае гісторыю гэтага краю. Бо за мінулыя стагоддзі змянілася ўжо не адна дзяржава, узнікалі і знікалі тыя ці іншыя ўстановы, услед за адным пакаленнем нараджалася наступнае, карэнна мяняўся лад чалавечага жыцця, прыходзілі і сыходзілі ворагі, а храм быў і застаецца тою прастораю, праз якую чалавечае жыццё перацякае ў памяць і ў вечнасць.

Вельмі хочацца спадзявацца, што тая памяць, якая аднаўляецца на старонках гэтай кнігі, стане актуальнай для кожнага пакалення людзей, што жывуць і будуць жыць на гэтай зямлі. Магчыма, гэтая кніга дапаможа наступным пакаленням усвядоміць сябе пераемнікамі і прадаўжальнікамі веры і спраў жыцця сваіх продкаў.

Накрышская зямля — не мая малая радзіма, але пяцігадовае святарскае служэнне абудзіла ўва мне да гэтых мясцін і тутэйшых людзей шчырую і глыбокую любоў, якая ўжо назаўсёды застанецца са мною светлым і шчымлівым пачуццём. Менавіта тут, у прынёманскіх пушчах і вёсачках, як нідзе і ніколі я адчуў жывую душу нашае Беларусі.

Гэтая кніга — сціплае прынашэнне глыбокай удзячнасці той цудоўнай зямлі і тым добрым людзям Накрышскага краю, з якімі Божаю міласцю я меў шчасце разам маліцца і жыць. Фактычна ўсе пяць гадоў майго служэння ў Накрышскім прыходзе былі сапраўдным паглыбленнем у тую мінуўшчыну, якая складае надзейны падмурак сучаснасці, бо без ведання гісторыі не мінулае страчвае свой змест і сэнс, а менавіта дзень сённяшні і той, які ў Беларусі яшчэ надыдзе.



# 1. ПЕРШАПАЧАТКІ НАКРЫШСКАЙ ГІСТОРЫІ

Вёска Накрышкі, а разам з ёй іншыя паселішчы, якія складаюць прыход Барыса-Глебскай царквы, знаходзяцца на прынёманскай зямлі, авеянай паданнямі сівой даўніны.

Пра дагістарычнае мінулае нагадваюць дзюны «Нёманскага мора», курганы-пахаванні і курганы, якія былі некалі селішчамі першых людзей на гэтай зямлі. Пра гістарычнае мінулае сведчыць крыж на месцы старажытнага храма на скрыжаванні дарог, а таксама царква і велічэзныя старыя дрэвы былога Накрышскага парку з рэшткамі фальваркавай забудовы. Але, бадай, найвыразнейшы голас даўніны — мясцовыя паданні і аповеды старажылаў. Шмат з каштоўнай спадчыны мінулага гэтага куточка беларускай зямлі, на жаль, ужо страчана назаўсёды. Але ці пад сілу няхай сабе і наймацнейшым гістарычным бурам разарваць жывую повязь часоў?!

## ДАГІСТАРЫЧНАЕ МІНУЛАЕ СУЧАСНАЙ НАКРЫШСКАЙ ЗЯМЛІ

Тэрыторыя, якая адносіцца да прыхода Накрышскай Барыса-Глебскай царквы, мае сваёю асноўнаю мяжой Нёман, потым сягае ў глыб Ліпічанскай пушчы і адтуль цягнецца на паўночны ўсход да ваколіц Дзятлава і Вензаўца. Уся гэтая тэрыторыя, як вызначаюць геолагі, некалі ўяўляла сабою дно так званага «Нёманскага мора», якое ўзнікла ў выніку таяння ледавікоў. Талая вада ў перыяд адступлення ледавіка запоўніла Верхнянёманскую даліну і вытокі сучаснай Шчары. Так і з’явілася велізарнае «Нёманскае мора», воды якога, як мяркуецца, спачатку беглі на поўдзень, на Палессе, а пазней, калі ў раёне сучаснага Гродна была размыта марэнавая града, пацяклі ў Балтыйскае мора. Адбылося гэта прыкладна паміж XVII і X стагоддзямі да нашай эры. Так і ўзнік наш Нёман.

Дно велічэзнага вадаёма высцілалі прынесеныя ледавікамі пяскі. Калі вада сышла, то вятры змяталі гэтыя пяскі ў доўгія пагоркі, якія атрымалі назву «дзюна», або «выдма». З цягам часу, калі клімат стаў





больш вільготным і цёплым, уся даліна і выдмы парaслі густым лесам, спыніўшы рух пяскоў. Так узнікла Ліпічанская пушча, дзе і дагэтуль можна ўбачыць нямала парослых лесам выдмаў — цікавых помнікаў геалагічнага мінулага. Напрыклад, каля вёскі Дзям’янаўцы Дзятлаўскага раёна, якая адносіцца да прыхода Накрышскай царквы, звяртае на сябе ўвагу вельмі працяглая выдма, вышыня якой у некаторых месцах дасягае 10–12 метраў. Яна выцягнутая з паўночнага захаду на паўднёвы ўсход. Гэта азначае, што вятры, якія яе насыпалі, дзьмулі з паўднёвага захаду. Падветраны схіл гэтай выдмы больш пакаты і спадзісты, а паўночна-заходні, не падветраны, абрывісты.

## СВЕДЧАННІ АРХЕАЛОГІІ

Два фактары прывабілі на гэтыя мясціны людзей. Па-першае, Нёман як старажытны водны шлях, што даваў магчымасць развіцця гандлю, абмену, рыбнай лоўлі. Па-другое, Ліпічанская пушча, якая ў гэтых мясцінах упёрлася ў Нёманскія берагі, спрыяла развіццю палявання і давала схоў у часы небяспекі[1]. Дакладных звестак пра засяленне гэтых тэрыторый дагэтуль няма, але археалагічныя і гістарычныя даследаванні апошніх дзесяцігоддзяў пакрысе праясняюць карціну. Менавіта Нёман быў тым шляхам, па якім чалавек прыйшоў на гэтыя тэрыторыі. Пазней рака стала адною з дарог, па якой з берагоў Балтыкі ў старажытны свет трапляла акамянелае сонца — бурштын. Вядомы факт, што карону егіпецкага фараона Тутанхамона ўпрыгожваў вялікі бурштынавы камень, таксама і зброя мікенскіх цароў была інкруставана балтыйскімі каштоўнасцямі. Знаходзілі бурштынавыя ўпрыгожанні таксам і ў Месапатаміі. Бурштын, асабліва з інклюзівамі раслін і насякомых, каштаваў даражэй за золата і іншыя каштоўныя камяні. Зразумела, што гандлёвы рух па рацэ аказваў пэўны культурны і цывілізацыйны ўплыў на прынёманскія плямёны, дастаўляючы сюды бронзу, жалеза, золата. Ад берагоў Нёмана ішло паступовае асваенне навакольных зямель.

Цікавыя звесткі дае археалогія. У 1955 годзе паміж вёскамі Карытніца і Дзям'янаўцы, а ў 1970-я гады каля вёскі Латышы (гэтыя населеныя пункты ўваходзяць у склад Накрышскага прыхода і знаходзяцца на беразе Нёмана) былі знойдзены курганныя могільнікі I тысячагоддзя да н.э.[2]. Таксама старажытны могільнік быў знойдзены непадалёк ад вёскі Дзям'янаўцы каля дарогі, якая вядзе ў Карытніцу. Там налічваецца каля 30 курганных пахаванняў XI–XIII стагоддзяў[3]. На захад ад вёскі Дзям'янаўцы ў кірунку Шаршні размешчаны на плошчы 350 м2 яшчэ 7 курганоў. Іх дыяметр складае 12–17 метраў, а вышыня каля 2 метраў. На адлегласці прыкладна 1 кіламетра на поўнач ад вёскі знаходзяцца яшчэ 4 доўгія курганы, якія ўяўляюць сабою, па сведчанні археолагаў, парэшткі славянскіх гарадзішчаў VI–VIII стагоддзяў і XV–XVI стагоддзяў[4]. На паўночным ускрайку вёскі Дубраўка (прыкладна 3 км ад Нёмана і 5 км ад Накрышак) знаходзяцца 3 паўсферычныя курганы[5].

Тэрыторыя Панямоння, як сведчыць археалогія, была прыкладна з II тысячагоддзя да н.э. заселена балтамі, якія, верагодна, змешваліся з мясцовымі групамі так званага даіндаеўрапейскага насельніцтва. Славянскія народы з'явіліся тут прыкладна ў V–VI стагоддзях н.э.[6].

З X стагоддзя пачынаецца працэс актыўнай каланізацыі славянамі тэрыторый Панямоння. Менавіта гэтым часам і датуюцца знойдзеныя непадалёк вёскі Накрышкі (у кірунку вёскі Раманавічы) сляды сельскага паселішча: парэшткі гарадзішча і фрагменты гліняната посуду X–XIII стагоддзяў[7,8]. Гэта дазваляе выказаць меркаванне, што з X стагоддзя на тэрыторыі, дзе цяпер знаходзіцца вёска Накрышкі, існавала славянскае паселішча.

## ШТО АЗНАЧАЕ НАЗВА НАКРЫШКІ?

Верагодна, паходжанне назвы Накрышкі[9] (Nakryszki, Nahryszki — *пол.*) бярэ пачатак ад беларускага слова «крыж». Калі прыняць за аснову гэтае меркаванне, то магчымы 2 варыянты тлумачэння назвы: «крыж» як асноўны сімвал хрысціянства і як тапаграфічнае абазначэнне перакрыжавання дарог. Думаецца, што абодва гэтыя значэнні ў пэўнай меры паўплывалі на ўзнікненне назвы паселішча. Па-першае, вёска Накрышкі ўзнікла на ўскрайку ўрочышча з аднайменнай назвай. А само ўрочышча ў цэнтры мела перакрыжаванне

1 Петрыкевіч, М. Ф. Ліпічанская пушча / М. Ф. Петрыкевіч // Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Дзятлаўскага раёна. — Мінск, 1997. — С. 367.

2 Труды Прибалтийской объединенной комплексной экспедиции / [Акад. наук СССР и др.] ; ред. Х. А. Моор [и др.]. — Москва : Издательство Академии наук СССР, 1959. — Т. 1. Вопросы этнической истории народов Прибалтики: по данным археологии, этнографии и антропологии ; под ред. С. А. Таракановой, Л. Н. Терентьевой. — 1959. — С. 252.

3 Краткие сообщения о докладах и полевых исследованиях Института истории материальной культуры, выпуски 71–77. — Академия наук СССР. Институт истории материальной культуры. 1958. — С. 58.

4 Зверуго, Я. Г. Верхнее Понеманье в IX–XIII вв. / Я. Г. Зверуго. — Мн., 1989. — С. 96.

5 Труды Прибалтийской объединенной комплексной экспедиции Х. Моора, 1959. — Т. 1. — С. 252.

6 Зверуго, Я. Г. Верхнее Понеманье в IX–XIII вв. / Я. Г. Зверуго. — Мн., 1989. — С. 15.

7 Куза, А. В. Древнерусские городища X–XIII вв. Свод археологических памятников. — М., 1996. — С. 91.

8 Гуревич, Ф. Д. Древности белорусского Понеманья / Ф. Д. Гуревич. — Л., 1962. — С. 170.

9 У сваім даследаванні «Літоўскай метрыкі» польскія гісторыкі А. Рахуба і Х. Лулевіч узгадваюць Накрышкі (у публікуемым дакуменце Nahryszki), але разам з тым даюцца яшчэ два варыянты назвы Nakryszki и Naliczyszki. Асаблівую цікавасць выклікае другі варыянт — Naliczyszki. Цяжка сказаць, на чым грунтуюцца даследчыкі, падаючы гэтую назву як паралельную асноўнай. У тэксце метрыкі ўжываецца толькі назва Nahryszki. Гэта стала польскамоўнае найменне паселішча вядомае з пісьмовых крыніц наступных стагоддзяў. Магчыма, варыянт Naliczyszki — гэта паралельная славянская назва літоўская, ці сама назва Накрышкі з'яўляецца вынікам славянізацыі першапачатковай літоўскай назвы. У Дзятлаўскім раёне ёсць цэлы шэраг назваў населеных пунктаў, якія маюць прамое паходжанне з літоўскай мовы (Andrzej Rachuba, Henryk Lulewicz. Metryka litewska: rejestry podymnego Wielkiego Księstwa Litewskego, Wojewodstwa nowogrodzkie 1690 r. Neriton, 2002. S. 148).

дарог паміж вёскамі Хвіневічы – Раманавічы, Накрышкі – Парэчча. Перакрыжаванне наўрад ці магло абазначацца словам «крыж», аднак на гэтым перасячэнні дарог знаходзіўся са старажытных часоў шанаваны людзьмі каменны крыж. Таму рухацца да гэтага перакрыжавання абазначалася як «ісці на крыж». Ад гэтага, як можна меркаваць, узнікла назва ўрочышча Накрыжкі. З цягам часу пры вымаўленні гук «ж» змяніўся на гук «ш». Такім чынам Накрыжкі пастунова пераўтварыліся ў Накрышкі.

## ТОЙ САМЫ КРЫЖ, З ЯКОГА ЎСЁ ПАЧАЛОСЯ

Надзвычай цікавае і важнае сведчанне пра старажытны крыж, які знаходзіўся на скрыжаванні дарог, змешчана ў кнізе «Археологическая карта Гродненской губернии», складзенай вядомым археолагам і гісторыкам Ф. В. Пакроўскім на пачатку ХХ стагоддзя. Навуковец дае такое апісанне: «Около деревни Хвиневичей лежит камень-плита. На этой, несомненно, весьма древней плите высечены, на обеих сторонах, изображения православного креста; на лицевой стороне имеется надпись старинного славянского письма, — по всей вероятности, — XII или XIII ст. В народной памяти этот камень окружен преданиями и сказаниями.

Описываемая плита высечена из твердого камня гранитной породы, по своей форме — продолговатый четырехугольник, величиною 23 вершка длины, 18 ширины и 3–6 толщины[10]. Плита плашмя лежит на земле, причем правый бок ее глубоко сидит в земле, а левый расположен почти на поверхности; сторона с надписью обращена кверху. Поверхность плиты шероховата и покрыта мхом в виде лишаев, края плиты неровны и как бы обломаны. Четырехконечный крест на лицевой стороне в 1 аршин длиною[11] окружен изображением сияния в виде пяти линий, выходящих радиусами из перекрестия. По сторонам креста — буквы Г и XS; внизу — однострочная надпись, в которой можно различить три или четыре отдельных слова. Из всех букв этой надписи только две, по своему начертанию, тождественны с теперешними, именно — буквы К и О, третья напоминает греческую букву μ (ми) или перевернутую русскую “ц”. Все прочия буквы надписи по своему начертанию отчасти приближаются к древнегреческому алфавиту, частию же напоминают собою форму букв древнееврейского письма. Если допустить,

[10] 102 см даўжыні, 80 см шырыні, каля 20 см таўшчыні.
[11] 71 см.







что рассматриваемая надпись состоит из букв русско-славянских, то наиболее вероятное и как единственно, по-видимому, возможное чтение ея будет: ЯЦЬКО ИЛИНИЧЬ. Таким образом, плиту с надписью можно рассматривать как надгробный камень над одним из лиц исторически известной фамилии Илиничей.

Местное предание говорит, что настоящий камень представляет собою остаток от находившейся невдалеке от этого места древней православной церкви.

Существует также рассказ, что однажды управляющий фольварком Поречье распорядился перевезти этот камень и положить перед порогом своего дома, но в следующую ночь на управляющего напал какой-то необъяснимый страх, и наяву слышались голоса, говорившие ему: “Зачем ты взял мой камень под порог своего дома; нельзя попирать ногами святой крест; положи камень обратно на старое место”. После страшной, бессонной ночи управляющий распорядился отвезти камень обратно»[12].

Такім чынам, калі тэкст на накрышскім камені быў правільна расчытаны Ф. В. Пакроўскім, а яго кампетэнтнасць не падлягае сумненню, то ў нас ёсць падстава меркаваць, што Накрышкі маюць непасрэдныя адносіны да гісторыі роду Ілінічаў, а канкрэтна да аднаго з прадстаўнікоў гэтага роду — Яцко Ілініча.

[12] Покровский, Ф. В. Археологическая карта Гродненской губернии / Ф. В. Покровский. — Вильна, 1895. — С. 17.

Род Ілінічаў у пісьмовых крыніцах згадваецца з сярэдзіны XV стагоддзя. У дакументах таго часу сустракаецца імя старадубскага баярына — Яцко Ілініча, які атрымаў ад Вялікага князя Казіміра ўладанні ў розных частках краіны. Вядома таксама, што ў другой палове XV стагоддзя яшчэ адзін прадстаўнік роду — Івашка Ілініч (магчыма, брат ці сын Яцко Ілініча) — быў кашталянам Лідскага замка і меў сярод іншага ўладанні ў Лідскай і Ваўкавыскай землях (цалкам верагодна, што Накрышская зямля магла належаць да Лідскіх уладанняў Ілінічаў). У Лідзе ўзнік востры канфлікт з каралём Аляксандрам Ягелончыкам, які пазбавіў Ілініча ўладання Лідскім замкам і зняволіў Івашку[13],[14]. Прыкладна да гэтага часу адносіцца і смерць Яцко Ілініча.

Такім чынам, Яцко Ілініч, імя якога напісана на накрышскім камені, мог быць і тым самым старадубскім баярынам — братам ці бацькам лідскага кашталяна Івашкі Ілініча, ці нейкім іншым менш вядомым прадстаўніком роду, які пакінуў у Накрышках помнік аб сабе, ці помнік быў пастаўлены ў памяць пра яго. Можна меркаваць, што Яцко Ілініч, кім бы ён ні быў, мог загінуць у нейкім ваенным сутыкненні ў Накрышках прыкладна ў 80-х гадах XV стагоддзя, і на месцы яго пахавання ці смерці быў пастаўлены памятны камень, а потым і царква. З цягам часу памятны камень становіцца аб’ектам асаблівай пашаны ў мясцовага насельніцтва.

[13] Хроника Быховца // Полное собрание русских летописей. — Т. 32. — М. : Наука, 1975. — С. 128.

[14] Stryjkowski, M. Kronika polska, litewska, żmódzka i wszystkiej Rusi: w 2 t. / M. Stryjkowski. — Wyd. Nowe. — Warszawa : Nakł. Gustawa Leona Glucksberga, 1846. — T. 2. — S. 321–322.



# 2. ГІСТОРЫЯ НАКРЫШСКІХ ХРАМАЎ

## СТАРАЖЫТНЫЯ НАКРЫШСКІЯ ЦЭРКВЫ

Цяперашняя царква ў Накрышках не была першай на гэтай зямлі, што засведчана дакументальна ў прыходскіх кліравых ведамасцях[15]. У дакументах пазначаецца, што старажытная драўляная царква знаходзілася на захад ад сучаснага мураванага храма, які быў фундатаркаю перанесены бліжэй да сядзібы[16]. Пакуль што не з’яўляецца магчымым вызначыць дакладную дату пабудовы першай Накрышскай царквы. У дакументах зафіксавана, што першая вядомая метрычная кніга Накрышскай[17] царквы была датавана 1788 годам[18]. Але існуе шэраг фактаў, якія дазваляюць выказваць меркаванні адносна значна ранейшай даты ўзнікнення царквы ў Накрышках.

Па-першае, трэба звярнуць увагу на той факт, што і папярэдняя сучаснаму храму царква ў Накрышках таксама іменавалася ў гонар святых мучанікаў Барыса і Глеба[19]. Шанаванне гэтых святых было пашырана ў Панямонні і адносіцца да перыяду перад заключэннем царкоўнай уніі 1596 года. На берагах Нёмана, вышэй і ніжэй па цячэнні, знаходзяцца яшчэ два старажытныя Барыса-Глебскія храмы, узнікненне якіх датуецца ажно XII стагоддзем: Каложская Барыса-Глебская царква ў Гродне і Барыса-Глебская царква ў Навагрудку. Зыходзячы з гэтага, можна меркаваць што першы храм у Накрышках быў пабудаваны яшчэ да канца XVI стагоддзя і, верагодна, звязаны з прадстаўнікамі нейкага княжацкага роду.

Па-другое, у Гродзенскім праваслаўна-царкоўным календары за 1898 год выказваецца меркаванне, што некалі існаваў храм у вёсцы Парэчча, нібыта якраз каля яго і ляжаў той шанаваны людзьмі

[15] Архіў Накрышскай Свята-Барыса-Глебскай царквы. Кліравая ведамасць за 1898 год.

[16] Архіў Накрышскай Свята-Барыса-Глебскай царквы. Кліравыя ведамасці за 1898 год.

[17] У зборніку «Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов» (СПб., 1907, т. 2, с. 1252) пазначаюцца метрычныя кнігі Накрышскай царквы з 1790 года па жнівень 1801 года.

[18] Архіў Накрышскай Свята-Барыса-Глебскай царквы. Кліравыя ведамасці за 1905 год.

[19] Kołbuk Witold. Kościoły wschodnie w Rzeczypospolitej około 1772 roku: struktury administracyjne. — Instytut Europy Środkowo-Wschodniej, 1998. — S. 54.



ВѢДОМОСТЬ О ЦЕРКВИ

1 Церковь сія построена помѣщицей Францискою (изъ Володковичей) Стравинской въ 1821 г. вмѣсто старой деревянной церкви, которая стояла съ западной стороны нынѣшн. церкви.

2 Зданіемъ каменная съ таковою же при ней отдѣльно колокольнею, зданія церкви и колокольни прочны. Ограда церкви каменная прочная. Сторожки при церкви нѣтъ.

3 Престолъ въ ней одинъ, освященъ въ память св. Мучениковъ Бориса и Глѣба, престольный праздникъ совершается въ году одинъ разъ 24го Іюля. Престолъ вновь, послѣ внутрен. ремонта церкви освященъ 22 Октября 1889 года.

4 Утварью достаточна.

5 Причтъ при сей церкви по новому штату Высочайше утвержден., положено: Священникъ и Псаломщикъ. Жалованье причтъ получаетъ 486 руб., кромѣ того получаетъ: а, изъ ...

Старонка кліравай ведамасці Накрышскай царквы. 1905 г.







Замалёўкі на старонках старажытных дакументаў




Накрышкі. Выгляд са спутніка

камень, пра які ўзгадвалася вышэй. Складальнік календара епіскап Іосіф (Сакалоў) сцвярджае таксама, што гэты храм у Парэччы быў да рэшты разбураны ў 1708 годзе падчас шведскай вайны[20].

Падсумоўваючы ўсю прыведзеную інфармацыю, можна прыйсці да наступнай высновы. Верагодней за ўсё, епіскап Іосіф, згадваючы царкву ў Парэччы, гаворыць пра самы першы Накрышскі храм, які знаходзіўся на полі ў аднолькавай адлегласці ад трох вёсак: Накрышкі, Парэчча і Хвінявічы. Гэта тое самае месца, якое і цяпер пазначана паклонным крыжам, дзе ляжаў старажытны, шанаваны людзьмі камень з выявай крыжа. У 1708 годзе гэты храм

[20] Гродненский православно-церковный календарь. — 1899. — Т. 1. — С. 33–34.



*Прыклад драўлянай беларускай сакральнай архітэктуры*

быў вельмі моцна пашкоджаны ці наогул разбураны. Накрышскія старажылы ўзгадваюць аповеды сваіх бабуль і дзядуль, якія казалі, што разам з тою старажытнаю царквою згарэла і ўся вёска. Верагодна, у Накрышках адбылося баявое сутыкненне рускіх і шведскіх ваенных падраздзяленняў. Людзі пасля вайны перанеслі свае дамы бліжэй да фальварку, на тое месца дзе цяпер знаходзяцца сучасныя Накрышкі. Такім чынам, не вядома, калі тая першая царква была



СТАРАЖЫТНЫЯ НАКРЫШСКІЯ ЦЭРКВЫ

пабудавана і колькі часу прастаяла. У часы пасля Паўночнай вайны на тым самым месцы, дзе стаяла разбураная царква, людзі збудавалі часовую капліцу, каб было дзе збірацца на малітву. Такая часовая капліца не магла вылучацца ані сваёй знешняй прыгажосцю, ані прывабнасцю ўнутранага аздаблення, ані дыхтоўнасцю пабудовы. Таму і праіснаваў гэты, умоўна кажучы, другі храм адносна нядоўга — да пачатку XIX стагоддзя, калі была збудавана і асвечана новая Накрышская царква.

Пабудова сучаснай мураванай царквы ў Накрышках пачалася, верагодна, у 1791 годзе, калі мясцовыя паны Стравінскія надалі фундуш Накрышскай царкве[21] і адначасова з гэтым царкоўныя ўлады пачалі працэс вылучэння асобнага Накрышскага прыхода з Вензавецкай парафіі. Цікава, што прыкладна ў 4 кіламетрах ад Накрышак знаходзяцца мясціны з характэрнымі назвамі — Папова даліна і Папоў груд. Верагодна, гэтая зямля па фундушы і была перададзена Накрышскай царкве панамі Стравінскімі[22].

Скончылася будаўніцтва новай царквы толькі ў 1821 годзе, пра што сведчыць запіс у кліравых ведамасцях Накрышскай царквы[23], а таксама і надпіс на франтоне храма. Урачыстае асвячэнне царквы, якое ўзначаліў афіцыял Брэсцкай епархіі Антоній Тупальскі[24], адбылося 24 ліпеня 1822 года. Будынак жа старой царквы з прычыны дрэннага стану канструкцый, верагодна, быў папросту разабраны, а месца пазначана паклонным крыжам.

Надзвычай цікавымі з'яўляюцца звесткі праваслаўна-царкоўнага календара за 1899 год пра тое, што на тэрыторыі сучаснага Накрышскага прыхода існавала яшчэ адна царква ў вёсцы Дубраўка, што прыкладна ў пяці кіламетрах ад Накрышак. У 1831 годзе гэтая царква была разбурана[25]. На жаль, пра гэты храм, калі ён сапраўды

21 Архіў Накрышскай царквы. Указ Літоўскай духоўнай кансісторыі № 35 ад 3 красавіка 1883 г.

22 Петрыкевіч, М. Ф. Ліпічанская пушча / М. Ф. Петрыкевіч // Память: Гіст.-дакум. хроніка Дзятлаўскага раёна. — Мінск, 1997. — С. 367.

23 Архіў Накрышскай Свята-Барыса-Глебскай царквы. Кліравыя ведамасці 1898, 1905 гг.

24 Протапрасвітар Антоній Тупальскі. Нарадзіўся ў 1769 г. у Вялікай Бераставіцы, памёр у 1848 г. у Вільні. У 1796 г. скончыў курс Папскай семінарыі і быў рукапаложаны ў свяшчэнніка. Выконваў абавязкі сакратара Гродзенскай мітрапалічай кансісторыі і Ваўкавыскага благачыннага. У наступным годзе стаў чальцом Брэсцкай кансісторыі, канонікам і епархіяльным рэвізорам (1800–1801), віцэ-старшынёй кансісторыі (1804) і, нарэшце, афіцыялам (старшынёй) Брэсцкай кансісторыі і генеральным вікарыем Брэсцкай епархіі (1807–1832). Быў адным з бліжэйшых паплечнікаў мітрапаліта Іосіфа (Сямашкі) і ў 1839 г. падпісваў акт уз'яднання ўніятаў з Праваслаўнай царквой. У апошнія гады жыцця быў пазаштатным протапрасвітарам Віленскага кафедральнага сабора.

25 Гродненский православно-церковный календарь. 1899. — Т. 1. — С. 33–34.

існаваў, наогул не засталося ніякіх успамінаў сярод мясцовага насельніцтва.

## ПРАПАВЕДЗЬ НА АСВЯЧЭННЕ НАКРЫШСКАЙ ЦАРКВЫ

Сярод дакументаў фонду Стравінскіх у Варшаўскай універсітэцкай бібліятэцы захаваўся аркуш, на якім была запісана прапаведзь, прамоўленая ў дзень асвячэння новазбудаванай Накрышскай царквы 24 ліпеня 1822 года[26], аўтар яе невядомы. Прывядзём поўны тэкст гэтай прапаведзі ў перакладзе з польскай мовы на беларускую.

«Прапаведзь на асвячэнне царквы ў Накрышках
24 ліпеня 1822 года

*Асвяціў паселішча Сваё Усявышні.*
*Бог пасярод яго і яно не пахіснецца.*
*Псалом 45*

Адвеку меў Бог справядлівае і непарушнае права выбіраць паўсюль ад стварэння Свайго частку, належную славе Сваёй. Гэта таму, што свет з'яўляецца паселішчам Бога Жывога і прастолам Яго велічы. А паколькі Яго ўсемагутнасць і прамысленне паўсюль прысутныя, таму ўсялякай гарачай любоўю, усялякай магутнасцю Яго і міласэрнасцю Ён Сябе праяўляе. Нябёсы апавядаюць пра славу Божую, прамаўляе псалмапевец, і пра створанае рукамі Яго абвяшчае цвердзь. Аднак, акрамя гэтай усеагульнай хвалы і пашаны, Ён пажадаў яшчэ чуць асаблівую хвалу Сабе, пажадаў мець асобнае месца, прысвечанае славе Сваёй, каб гэта было месца Яго прысутнасці на зямлі, дзе б Ён прымаў пашану паслухмянасцю, міласцю, ушанаваннем, удзячнасцю і еднасцю, дзе б выслухоўваў малітвы людзей і надзяляў іх патрэбным за дабрадзейнасці. Такім вось месцам, або найпершым домам Гасподнім, быў храм Саламона, найвялікшае стварэнне, стварэнне іншай эпохі, стварэнне вялікага кошту і працы. Бог загадаў пабудаваць яго Сабе, а збудаванае асвяціў прысутнасцю Сваёй велічы і славы. Спадабалася вачам і сэрцу Госпада тая святыня і паслаў з вышыні агонь нябесны на ўскладанне ахвяр, прынесеных Яму. Там Ён абяцаў выслухоўваць усе малітвы народа, каб ратаваць Яго ад усялякіх уціскаў і прыгнёту, дасылаць яму

[26] Biblioteka Uniwersytetu Warszawskiego. Sygnatura TNW. — 314.






Kazanie
Na poświęcenie Cerkwi w Nakryszkach 1822 Julii 24
Poświęcił Przybytek swoy Naywyższy - Bóg w pośrodku jego nie będzie poruszony - Psalmu 45

*Першая старонка прапаведзі на асвячэнне Накрышскай царквы*

благаслаўленне і міласці, прабачаць правіны і дараваць грахі. Там Ён знаходзіўся заўсёды і даў запавет, што вочы Яго будуць адкрыты і вушы схілены да малітваў народа, што Ён абраў і асвяціў гэтае месца, каб імя Яго было тут назаўжды, каб выканаць тое, што Ён сказаў праз прарока: “Я буду жыць з вамі і буду Богам вашым, а вы народам Маім”. Таму, сапраўды, найласкавы запавет Бога нашага з намі ажыццявіўся цяпер у гэтай новай святыні, здзейсніўся ён найперш праз цябе, яснавяльможная старасціна Стравінская, фундатарка гэтага месца, сэрца якой праўдзівае, богабаязнае і набожнае натхніў Бог духам раўнівасці дзеля славы Яго і дзеля выратавання людзей. У такім рэдкім для веку гэтага дзейсным прыкладзе пазнаецца сёння любы сэрцу хрысціянскаму напамін пра век Саламона, пра ўсіх тых годных бессмяротнай славы мужоў, якія ўмелі сабраць плады, каб з благаслаўлення Божага прысвяціць садавіну, здабытую руплівай працай, свайму Тварцу, у знак пакланення Яму і дзеля выратавання людзей. Спраўджваецца нарэшце той найслаўнейшы і найкарыснейшы запавет праз твае рукі, яснавяльможны афіцыял і кавалер Тупальскі, бо ты дапаўняеш святымі абрадамі асвячэнне гэтага дома Гасподняга, ты нам першым адчыняеш яго дзверы, ты нам праваднік, каб нас суправаджаць да падножжа прастола Усявышняга і там шчодрыя Яго даброты адкрыта паказаць нам, людзям тут сабраным, для збаўлення якіх і для свяшчэннадзеянняў духоўных той дом збудаваны і асвячоны. І вось, Бог ісцінны жыць у ім будзе адгэтуль і нішто яго цяпер не пахісне. Жыць Ён будзе ўсім Боствам і міласэрнасцю Сваёй, жыць будзе ў таінстве алтара, жыць будзе з усёй шчодрасцю Сваёй міласэрнасці. Не аддаліцца Ён ад вас, толькі б вы звярталіся да Яго.

Напаўняемся мы, Божа, дабротамі дома Твайго. Святы ёсць Твой храм, дзівосны ў праведнасці! Усё нам паводле добрага запавету Твайго абяцаў Ты, нікога словам Тваім не падмануў, таму мы павінны з верай і даверам, годным Тваёй усепрысутнасці і міласэрнасці, прыходзіць да Цябе і прасіць Цябе аб усім. Святы Дух сышоў на Твой храм, і дзівосны ў праведнасці Бог, Ты яго Сам асвяціў, і Ты ў ім праўдзіва, у праведнасці, знаходзішся. Таму мы павінны прыходзіць да Цябе ў духу сціпласці, набожнасці і пакоры, з сэрцам чыстым і праведным. Навучы ж нас, Божа, тым святым абавязкам, што прывядуць да славы Тваёй і асвячэння сэрцаў нашых.

Бог, найвышэйшая і творчая істота, мог па праўдзе Сваёй не дапусціць, каб убогае выляпленне рук Яго набліжалася да прастола Яго велічы, але, будучы Найвышэйшым Дабром, Ён не толькі дазволіў людзям такую блізкасць да Сябе, а нават прызначыў гэта як абавязак. Таксама дазволіў Бог людзям прасіць Сябе аб усялякіх дарах і міласцях Сваіх, і нават загадаў прасіць, і ўчыніў гэтак для славы Сваёй, што памножыў для дабра людскога, якога прагне. Калі б мы з верай і даверам Яго папрасілі, то Ён паказаў бы нам, што ўсё можа даць як Усемагутны, але Ён хоча даць нам як Міласэрны. Дазволіў і сказаў прасіць Яго для славы Сваёй, каб ведама было, што Ён адзіны ёсць усемагутны, адзіны — падацель даброт, адзіны — невычэрпны ў скарбах міласэрнасці і шчодрасці. Апроч Яго няма нікога, хто мог бы даць ці нават мець, без Яго нішто не мае свайго быцця, нішто не трывае, нішто не ўзрастае і нішто не ўтрымлівае і не раздае. На самой справе, хто ж без дапамогі Яго, Божай, без Яго апекавання і паратунку абысціся можа, хто так захаваць і ацаліць зможа тыя ж душы ў зменлівых варунках жыцця? Хто ведае, як паклапаціцца пра тое, каб дадаць да росту свайго адзін локаць? Таму Бог дазваляе нам прасіць Сябе, бо хоча ў нас ажывіць веру ў тое, што Ён можа даць нам усё, бо Усемагутны. Бо такой веры патрабаваў Ён ад народа Ізраільскага, калі, з нагоды прысвячэння Яму храма Саламонавага, заключыў з ім і з тым народам запавет. У ім Ён пералічыў найпрыкрыя для роду чалавечага няшчасці, горасці і напасці, якія мог дапусціць, ад якіх ніхто з людзей абараніць народ не мог, а насупраць наважыўся нават даць ім права крывадушнічаць у доме Сваім, але хуткім паратункам і суцяшэннем запэўніў. Паказвае Ён тым Сваю ўсемагутнасць і прагне веры людской. “Калі ж замкну неба, — кажа Бог Саламону і народу яго, — і не будзе дажджу, то накірую саранчу, каб жэрла зямлю, сыйдзе зараза, голад і пошасць на народ Мой, і ён, звярнуўшыся да Мяне, прызаве імя Маё ў доме Маім і папросіць Мяне быць выслуханым з Неба, тады адпушчу яму грахі яго і зямлю зраблю здаровай”.

Такім чынам, ва ўсялякіх горасцях, няшчасцях і патрэбах павінны мы прыбягаць да Бога, з вераю ў Яго неабмежаваную ўсемагутнасць. Сапраўды, тая вера ў Бажаство Хрыста некалі збаўляла людзей ад усялякай немачы, цудоўна вызваляла ад нястач і бед, ачышчала праказу, уваскрашала памерлых і грэшнікам адпускала правіны. Але разам з тым, не парушаючы даверу ўціскам, вяртае нас да міласэрнасці Гасподняй у Яго Святым паселішчы, дзе жыве Бог і Збаўца наш Хрыстос, прысутны ў Таінстве алтара. Той, Які нас, вінаватых, выкупіў коштам найбалесных пакут і даражэйшай пралітай Сваёй Крыві, Які дзеля міласці нашай не адмовіўся памерці, няўжо захоча адмовіць нашым просьбам, што з даверам да Яго

накіраваны. Заслугі пакут і смерці Яго ўжо ўсё для нас выкупілі. Калі мы дзіцяці нашаму, што просіць у нас хлеба, не даем каменя, так і Бог адзіны, добры і міласэрны, гэты Збавіцель наш усяміласцівы, толькі з нагоды адмовіў бы просьбе нашай аб Яго ласцы і дарах. Сапраўды, Ён хоча рабіць нам добрае і дапусціць нас да прашэння ў сябе, калі пад заслонаю таемнай веры ўсемагутнасцю Боства Свайго ўкрые нас перад слабасцю і бездапаможнасцю нашай, калі толькі асвеціць самой міласэрнасцю, калі ўсялякія скарбы, схаваныя ў рэлігіі, праз жатву падобных нам людзей, здзяйсняльнікаў службы сваёй, раздасць, калі нам Божым словам Сваім гарантуе, што калі мы што-небудзь у імя Яго будзем прасіць Айца Нябеснага, тое дасць нам бесперашкодна. Сюды прыходзь увесь народ прававерны з паклонам падначалення і ўшанавання велічы Бога! Тут прыпадай на твар у духу набожнасці і пакоры! Тут пралівай сэрца сваё, напоўненае ўдзячнасцю, тут не можа быць удзячнасці шчырэйшай, тут усе патрэбы і нястачы свае выкладай таму найдабрэйшаму Айцу, тут падаянні і спачуванні Яго і міласэрнасць з даверам, тут дух скрушаны, сэрца скрушанае і пакорлівае як наймілейшаму Яму ўскладай на Яго святыя алтары. Словам, тут просячы возьмеш, шукаючы знойдзеш, стукай і будзе адчынена скарбніца Гасподніх даброт і найпраўдзівым будзеш у абшарах дому Божага. Але святое ёсць паселішча Божае, дзівоснае ў праведнасці, прыносім мы тут сэрца чыстае і праведнае.

Святое ёсць паселішча Божае, дзівоснае ў праведнасці, бо яго Сам Бог асвяціў Сваёй Божай прысутнасцю і мноствам усялякіх святынь рэлігіі, асвяціў яго праз руку святара Свайго, які здзяйсняе належныя абрады асвячэння. Так, гэта сцены, асаблівай святасцю адзначаныя. Гэта ўшанавальныя рэлігійныя абрады, гэта набожныя спевы, што заклікаюць імя Госпаднее, гэта, нарэшце, поўнае надзеі шчырае служэнне атачаючых Гасподні алтар служыцеляў, здатных узвышаць душы нашы. Бог, Які жыве ў паселішчы, — святы, месца Яго прабывання — святое, а святое асвячае кожнага. О, людзі, будзьце і вы святымі! Дзівоснае ў праведнасці паселішча Госпаднее, бо ў ім жыве Бог, — Найвышэйшая праведнасць. Калі б дабрадзейнасць на ўсім свеце збіралася загінуць і нідзе б не мела для сябе бяспечнага прытулку, то ў гэтым святым месцы яна знойдзе сваіх прыхільнікаў і імя яе паважаным быць не перастане, і больш таго, прыклад руплівасці і набожнасці адных паслужыць да ўзбуджэння сарамлівасці і вагання іншых. Калі ж злачынства было ўжо паўсюль і ўсеагульным у той пашкоджаны грахом час, то яго мелі ўчыняць





нават у тым святым месцы, дзе ўсё, здаецца, было звернута на памнажэнне цноты, а не на павелічэнне злачынства.

Прыносячы Богу ў праўдзе ахвяры ад людзей, такія як усеспаленне, і ўсялякую частку, якую мы аддаем згодна з абрадамі рэлігіі, мы чуем ад Бога запавет прысвячаць Яму ва ўсе часы, як у старым, так і ў новым законе, перадусім сэрца чалавека чыстае і праведнае, якое найлепш усведамляе, за што прыносіцца яго ахвяра. Славіў Яго некалі народ Ізраільскі, але скардзіўся на яго Бог, кажучы, што людзі гэтыя вуснамі славяць Мяне, а сэрцы іх далёка ад Мяне. Здзяйснялі Госпаду ахвяру Каін і Авель: але прыйшоў Гасподзь і ўпадабаў ахвяру Авеля перад ахвярай Каіна, бо там была ахвяра чыстага і нявіннага сэрца, зацертая зайздрасцю, нянавісцю і братазабойствам. Хвалілі Бога фарысеі, прысвячалі Яму ўсялякія ахвяры і выглядалі набожнымі. Гэта значыць, што пабачыць іх можна было ў храме і не было больш нясціплай постаці. У іх была заўважная сканцэнтраванасць на абмежаванне сябе перад спакусамі свету, яны прысвячалі сябе спевам у храме, запаўнялі сваімі ахвярамі алтары. Не было такой урачыстасці, такога набожнага сходу, да якога б яны не належалі і дзе б не былі ўпісаны іх імёны. Бледнасць твару і аслаблыя сілы стваралі ўражанне жыцця падзвіжніцкага і далёкага ад паслаблення. Так, набожнымі былі фарысеі і, здавалася б, у гэтым не было ганебнага, а толькі дастойнае пахвалы і збаўленчае, але, наадварот, Хрыстос кажа найбольш дапытліваму з вучняў Сваіх: “Праўду, кажу вам, калі праведнасць ваша не пераўзыдзе праведнасці фарысеяў, то не ўвойдзеце ў Царства Божае, а наадварот, сыйдзе на вас праклён”. Чаму ж, фарысеі, будучы з выгляду праведнымі, не былі цнатлівымі ў сэрцы, а толькі за маскай знешняй набожнасці хавалі свае злачынствы, выконваючы рэлігійныя абрады, сваволна пераступалі важныя запаветы Гасподнія, праяўляючы міласць да Бога, не мелі міласці да бліжніх? Таму што набожнасць іх была толькі пабеленай труной, якую людская фанабэрыя ўпрыгожыла кветкамі, але ўнутры яна была толькі сховам сапсаванасці і згубы. Таму Хрыстос пасылае на іх праклён: “Гора вам, кніжнікі і фарысеі, крывадушнікі, што ўмываеце рукі і ачышчаеце звонку чашы, а сэрца ваша нячыстае, поўнае гневу, зайздрасці, нянавісці да бліжніх і крывавай помсты. Гора вам, фарысеі і крывадушнікі, што даяце Богу дзесяціну з мяты і кмену, а маёмасць удоў і сірот паціху прысвячаеце ўласнаму спажыву. Гора вам, фарысеі і крывадушнікі, што моліцеся, ходзячы па вуліцах, каб быць бачнымі людзям, а ў дамах сваіх маеце распусту і пекла, быццам дбаеце аб норавах падначаленых,

вялікія на іх плечы ўскладаеце цяжары, а самі пальцам паварушыць не жадаеце, якія надта суровыя да другіх у выкрыцці іх памылак, а самі сабе спускаеце і дазваляеце ўсялякага". Сапраўды, вочы іх, напрыклад, здаваліся заслонай сціпласці, што прысутнічае ў святынях, але пазней з якім гонарам і пагардай яны не пераносілі іншых! Вусны іх, апяваючы славу Божую ў доме Яго, якіх пазней паклёпаў і крыўдаў не выплёўвалі на славу і характар праведных! Рукі іх, узнесеныя да Бога і просячыя міласці Яго над сабой у Яго панаванні, пазней з якой заўзятасцю і акаянствам не здзекаваліся, парушаючы правы слабейшых! Сэрцы іх, нарэшце, з такой велікадушнасцю аддаючы ахвяры Богу, якіх толькі не выкарыстоўвалі пазней сродкаў на дагаджанне ўласнай хцівасці для вымагання, ашукання і несправядлівых спагнанняў! Такім чынам, малітвы, ахвяры, уздыханні і ўсялякая праведнасць фарысеяў ці маглі быць упадабанымі Богам пры ўсіх іх несправядлівасцях і злачынствах? Няўжо толькі самых знешніх праяў набожнасці жадае Бог ад людзей, ці не даволі сэрца і яго праведнасці? Зусім не дастаткова адных вусных малітваў, каб годна хваліць Бога, а толькі сэрца ўздымаецца над усялякай патрэбай. Каб годна хваліць Бога, голас і крыкі нецнатлівага сэрца тым чароўным гукам напаўняйце, які знікае ў паветры ў духу і ў праўдзе, усеагульнай хвале Бога, прыносьце ж, хрысціяне; сэрца чыстае і праведнае перад абліччам Гасподнім, бо вочы Яго на ўсялякую няпраўду не могуць глядзець. Як увойдзеце калі ў паселішча Гасподняе, то папярэдне аплачце ў яго прытворы вашы беззаконні, каб вынішчыць з сэрцаў вашых усялякія ганьбы, якіх не ўпадабаюць вочы Гасподнія. Як будзеце прасіць праявы міласэрнасці Божай над сабой, папярэдне злітуйцеся адны над другімі. Як у патрэбах вашых праявы апекі заклікаць будзеце, папярэдне вазьміце апеку над галечай, беднасцю бліжніх. Як паяднаецеся з Богам як з Айцом вашым, то паяднайцеся паміж сабой, як браты. Калі вы прасілі прабачэння за парушэнне законаў Бога, дапускаючага для вас непрыемнасці, то адпускайце і вы адзін другому шкоды і крыўды. Калі вы атрымалі благаславенне Нябёс, то працуйце і не прыпыняйцеся ў працы. Калі вы атрымалі трываласць здароўя і моц, то пазбягайце раскошы, якая іх марнуе. Калі вы спазнавалі над сабой дабрачынную апеку, то будзьце беспадазрона вернымі і зычлівымі да тых, якія вас апякуюць, накіроўваючы Богу малітвы за вас, за маёнткі і дамы вашы; накіроўвайце малітвы вашы за пані і дабрадзейку вашу, якая будаўніцтвам гэтай святыні Гасподняй адамкнула для вас скарбніцу вялікіх міласцей і благаславення. Неба перадае вашы шчырыя малітвы



ПРАПАВЕДЗЬ НА АСВЯЧЭННЕ НАКРЫШСКАЙ ЦАРКВЫ

Богу, каб дабрадзейныя дні той пані і ўсяго яе шаноўнага дому ў найтрывалым здароўі і найпажаданых задумах ласкава доўжыліся.

Ты ж, паважаны сяшчэннаслужыцель, яснавяльможны афіцыял, які першым сёння пературарыў найсвяцейшую ахвяру Богачалавека ў гэтым асвячоным праз цябе паселішчы Гасподнім, накіруй, як заступнік, гэтыя малітвы народа да Госпада, далучыўшы да іх сваё паслушэнства, і тое кранальнае хваляванне, якое ў сэрцах усіх нас яўляе той гожы прыклад руплівасці хрысціянскай. Няхай Бог дасць вартаму сэрцу зрабіцца спадкаемцам таго прыкладу для славы Сваёй і збаўлення людзей Сваіх! Амінь».

# 3. ГІСТОРЫЯ НАКРЫШСКАЙ ЦАРКВЫ Ў БІЯГРАФІЯХ ЯЕ НАСТАЯЦЕЛЯЎ

### Свяшчэннік Мікалай Міхайлавіч БАРОЎСКІ

**Гады жыцця:** 1754–1817.
**Гады служэння ў Накрышках:** 1788–1817 гг.[27].

Свяшчэннік Мікалай Бароўскі, шляхецкага паходжання[28], у 1780 годзе быў прэзентаваны да святарства Станіславам Радзівілам[29]. У наступным 1781 годзе прыняў хіратонію ад епіскапа Турава-Пінскага Гедэона Дашковіча-Гарбацкага[30] ў г. Пінску[31]. У тым жа 1781 годзе быў прызначаны вікарным святаром царквы ў Вензаўцы. Накрышская царква ў гэты час была прыпісною да Вензавецкай парафіі і, па сведчанні аднаго з тагачасных прыхаджан Міхала Пархача, які быў у 1800 годзе ва ўзросце 92 гадоў, самастойнага свяшчэнніка ў Накрышках пры яго памяці не было[32]. У 1791 годзе ўладальніца Накрышскага маёнтка Францыска Стравінская надае асобны фундуш для забеспячэння Накрышскай царквы і святара.

З гэтага часу пачынаецца працэс вылучэння з Вензавецкай парафіі асобнага Накрышскага прыхода. З гэтай нагоды ў ліпені 1800 года ў

[27] ЛДГА. Ф. 605. — Воп. 1. — Сп. 195. Дело об определении в Накрышский приход священника Боровского Николая.

[28] ЛДГА. Ф.605. — Воп. 1. — Сп. 2032. Дело по прошению жены священника Накрышской церкви Анны Боровской о крестильных метриках рода Боровских. 1836–1844 гг.

[29] Станіслаў Радзівіл (пол.: Stanisław Radziwiłł) (нар. 3 мая 1722, мяст. Дзятлава, памёр 22 красавіка 1787) — дзяржаўны і ваенны дзеяч ВКЛ. Сын Мікалая Фаўстына Радзівіла, навагрудскага ваяводы. Генерал-лейтэнант кавалерыі, маршалак Трыбунала ВКЛ. Крайчы ВКЛ з 1752 г., падкаморы літоўскі з 1759 г. Кавалер ордэна Белага Арла. Пасол на соймы 1750, 1760, 1762, 1767, 1776 гг. Быў кіраўніком групоўкі Радзівілаў у Навагарудскім ваяводстве, Слонімскім, Ваўкавыскім і Лідскім паветах, адказваў за выбары радзівілаўскіх прыхільнікаў на мясцовых сойміках. Ваяваў з прыхільнікамі Барскай канфедэрацыі. Меў маёнткі ў Навагарудскім, Віленскім і Троцкім ваяводствах.

[30] Юры Гедэон Дашковіч-Гарбацкі з 1766 г. быў біскупам тураўскім і каад'ютарам пінскім.

[31] ЛДГА. Ф. 634. — Воп. 3. — Сп. 270. Ревизионные сказки (ведомости) церквей Слонимского уезда Гродненской губернии за 1811 г.

[32] ЛДГА. Ф. 605. — Воп. 1. — Сп. 195. Дело об определении в Накрышский приход священника Боровского Николая.







Roku 1800 Dnia 31 Decembra Niżey podpisana daię to
świadectwo W. Jmci Xiędzu Borowskiemu, który będąc w Dobrach moich
Nakryszki zwanych w Powiecie Słonimskim położonych Plebanem
Obrządku Greckiego, Nabożeństwo w Cerkwi regularnie odprawuie
Nauki Duchowne w święto dla Parafian z przykładem mawia,
do Chorych z zaraz uwiadomieniem bez żadnego zamitrężenia
w którym czasie jedzie, Dnia Anni; słowem wszystkie Obowiązki
wypełnia, jakie należy do Dobrego y Gorliwego Plebana stara-
jącego się o Uprzejmienie doczesne y wieczne swoich Parafian.
Takowe Pismo Świadectwa Duchownemu oddać się mające
przy wyciśnieniu Herbowney pieczęci własną Ręką podpisuię —
Datt ut Supra w Nakryszkach
F. Strawinska
Stat: Słonimska

*Дакумент з уласнаручным подпісам фундатаркі Накрышскай царквы пані Ф. Стравінскай*

Брэсцкай уніяцкай кансісторыі была адкрыта асобная справа, якую вёў брэсцкі канонік Ян Дэлеўскі. Ён апытваў прыхаджан Накрышскай царквы адносна мінуўшчыны храма і дзейнасці тут свяшчэнніка Мікалая Бароўскага. Адзін з прыхаджан складае такое сведчанне пра дзейнасць айца Мікалая Бароўскага: «Той ксёндз Бароўскі восем год тут знаходзіцца, за парафіяй глядзіць і ёй служыць, чулы ва ўсялякіх патрэбах духоўных, ніводнага выпадку не было, каб нехта без святых таямніц адышоў, або каб той свяшчэннік што дрэннае зрабіў, агулам, ва ўсім прыкладны, шаноўнымі панамі і намі, парафіянамі, упадабаны, у гаспадарцы дбайны. Пятым на пытанні адказваў сведка і ўласнай рукою крыжыкамі падпісаў — Юзаф Ківуля»[33].

Канчаткова айцец Мікалай Бароўскі прызначаецца настаяцелем Накрышскай царквы толькі 31 снежня 1800 года пра што яму выдаецца спецыяльнае пасведчанне[34]. Прыкладна ў гэты час было распачата будаўніцтва новага мураванага храма ў Накрышках.

Да часоў служэння першага Накрышскага настаяцеля адносіцца рэзанансная судовая справа пра незаконнае вянчанне Матроны

[33] ЛДГА. Ф. 605. — Воп. 1. — Сп. 195. Дело об определении в Накрышский приход священника Боровского Николая. Пераклад фрагмента дакумента выкананы В. Врублеўскім.

[34] ЛДГА. Ф. 605. — Воп. 1. — Сп. 195. Дело об определении в Накрышский приход священника Боровского Николая.



*Дакумент з подпісамі прыхаджан Накрышскай царквы*

Келнікавай з Мастаўлян, Зблянскага прыхода, і Францішка Керды, жыхара вёскі Карытніцы, якое здзейсніў айцец Мікалай Бароўскі. Справа была ў тым, што малады 20-гадовы Францішак Керда захацеў узяць шлюб з Матронай Келнік з суседняй вёскі Мастаўляны, якая належала да Беліцкага маёнтка. Бацькі нявесты далі згоду на шлюб. Але Беліцкі пан Захваловіч, убачыўшы сватоў, раззлаваўся і выгнаў іх, а нявесце сказаў, што ён ніколі не дасць згоды на гэты шлюб. Даведаўшыся пра тое, Карытнянскі пан Юстын Ёдка вырашыў дапамагчы маладой пары пабрацца шлюбам і падгаварыў закаханага Францішка ўкрасці нявесту з Мастаўлян. Сам жа Ёдка, будучы суддзёю гранічным у Лідскім павеце і чалавекам паважаным, паехаў да састарэлага ўжо Здзецельскага (Дзятлаўскага) дэкана Ралевіча і, узяўшы сведак, увёў таго ў зман, каб той даў патрэбную для вянчання нявесты даведку і загад падначаленаму свяшчэнніку Накрышскай царквы абвянчаць маладую пару. Але маладой пры гэтым трэба было вянчацца не пад сваім сапраўдным імем, а ўзяць на час імя сваёй карытнянскай равесніцы Тэклі Лунь. Ні пра што не ведаючы, настаяцель Накрышскай царквы айцец Мікалай Бароўскі паспавядаў і абвянчаў маладых Францішка і Матрону. Праз пару дзён пан Захваловіч даведаўся пра вяселле Матроны з Францішкам і быў у страшнай ярасці. Ён пачаў судовы працэс. Справа расцягну-







*Фрагмент старонкі з уласнаручным подпісам першага накрышскага святара*

лася на некалькі гадоў. Але шлюб, супраць якога выступіў Захваловіч, быў прызнаны дзейсным. Накрышскага свяшчэнніка прызналі невінаватым, а старому здзецельскаму дэкану выбачылі памылку за старасць і бездакорную рэпутацыю[35].

У айца Мікалая Бароўскага было двое сыноў: Пётр, які навучаўся ў Жыровіцкім манастыры, і Іосіф (1796 г.н.), які знаходзіўся пры бацьках і быў калекам[36]. У 1803 годзе насельніцтва Накрышскага прыхода складала 722 чалавекі[37].

## Свяшчэннік Пётр Мікалаевіч БАРОЎСКІ

**Гады жыцця:** *1792–1847.*
**Гады настаяцельства ў Накрышскай царкве:** *1817–1847.*

Пётр Бароўскі атрымаў святарскую адукацыю пры Жыровіцкім манастыры[38], і 11 сакавіка 1817 года ва Успенскім манастырскім саборы быў рукапаложаны ў дыякана, а 22 сакавіка мітрапаліт Іасафат (Булгак) здзейсніў яго свяшчэнніцкую хіратонію[39]. Жонка Ганна Бароўская (1800 г.н.). Дзеці: Леанард-Мікалай, які стаў пазней на-

35 ЛДГА. Ф. 605. — Воп. 1. — Сп. 661. Дело о незаконном бракосочетании Кейликувны Матроны с Кердой Францишкем, обвенчанных настоятелем Накрышского прихода Боровским Миколаем. 1815–1816.

36 ЛДГА. Ф. 634. — Воп. 3. — С. 270. Ревизионные сказки (ведомости) церквей Слонимского уезда Гродненской губернии за 1811 г.

37 Radwan, M. Kościół greckokatolicki w zaborze rosyjskim około 1803 roku. Instytut Europy Środkowo-Wschodniej, 2003. — T.6. — Lublin. — S.102.

38 ЛДГА. Ф. 634. — Воп. 3. — Сп. 270. Ревизионные сказки (ведомости) церквей Слонимского уезда Гродненской губернии за 1811 г.

39 ЛДГА. Ф. 605. — Воп. 2. — Сп. 1314. Дело о смерти священника Накрышской церкви Петра Боровского.



IN IMPERIO SUÆ IMPERATORIÆ MAJESTATIS SERENISSIMI
ALEXANDRI PRIMI
IMPERATORIS
ET AUTOCRATORIS TOTIUS RUSSIÆ DOMINI NOSTRI CLEMENTISSIMI
Ignatius Josaphat Bulhak Divina Misericordia & Sanctæ Sedis Apostolicæ Benedictione per Circulum Bialostocensem, Gubernia Lithvania, Grodnense & partem Minscensis
EPISCOPUS BRESTENSIS.
Unitarum in Rossia Ecclesiarum Metropolita

Omnibus & singulis, quorum interest, aut quomodolibet interesse poterit, notum testatumque facimus, qualiter Nos Divino vivifici Spiritus invocato auxilio Generosum Dominum Petrum Borowski — habita prius notitia de ejus doctrina, & bonis moribus, Anno 1817 Mensis Martii 11 die, ad quatuor Minores Ordines & Sub-Diaconatum, ~~die vero 18 ejusdem~~ Mensis et Anni ad Diaconatum, tandem Mensis Martii 22 die 1817 Anno ad Sacrum Presbyteratus Ordinem, juxta ritum Catholicæ Orientalis Ecclesiæ inter Solemnia Missæ in Ecclesia Monasterii Zyrovicensis — celebratæ, per impositionem Manuum Nostrarum in Titulum Coadjutoria Ecclesiæ Parochialis Nacrinensis promovimus & ordinavimus: eidemque Petro Borowski nunc jam Presbytero, hæc omnia, quæ ad Sacerdotale Munus pertinent, exequi, licentiam & facultatem damus & concedimus. In quorum Fidem præsentes Literas Manu Nostra subscriptas, Sigillo Majori Communiri jussimus. Dabantur in Residentia Nostra Zyrovic: Mensis Martii 22 die 1817 Anno

Josaphat Episcopus
Metropolita

Secretarius Consistorii Brestensis Zacharewicz

*Грамата стаўленіка ў святарства а. Пятра Бароўскага*

*Дакумент з подпісам а. Пятра Бароўскага*





стаяцелем Накрышскага прыхода (1822 г.н.), Юліян-Адам (1828 г.н., у 1848-м навучаўся ў Літоўскай духоўнай семінарыі), Фелікс-Каліст (1830 г.н.), Фёдар (1831 г.н., у 1848-м быў навучэнцам Жыровіцкага духоўнага вучылішча), Эмілія (1832 г.н.)[40].

У 1836 годзе сям'я вядзе справу пра пацверджанне дваранскай годнасці тых прадстаўнікоў сям'і, якія нарадзіліся пасля 1817 года[41].

Менавіта пры настаяцельстве айца Пятра Бароўскага 24 ліпеня 1822 года адбылося ўрачыстае асвячэнне новай мураванай царквы ў Накрышках[42]. Яшчэ адна лёсавызначальная падзея, якая прыпала на часы настаяцельства айца Пятра — уз'яднанне ўніяцкага прыхода з Праваслаўнай Царквою ў 1839 годзе.

Асноўным захаваным дакументам, які сведчыць пра гэты перыяд жыцця Накрышскага прыхода, з'яўляецца справа пра забеспячэнне прычта Накрышскага прыхода ад 1844 года.

У 1844 годзе ў царкоўнай маёмасці знаходзіліся:

а) пакрыты саломаю жылы святарскі дом з цаглянаю падлогаю, які складаўся з трох пакояў з дзвюма галандскімі печкамі. Другая частка дома складалася з кухні і кладоўкі. Акрамя дома былі і іншыя пабудовы: а) хлеў для свойскай жывёлы; б) засекі для зерня; в) свіран.

Усе пабудовы, акрамя свірана, былі збудаваны фундатарамі Стравінскімі.

Утрыманне свяшчэнніка забяспечвалася згодна з фундушам ад 20 студзеня і 31 кастрычніка 1791 года, які быў складзены Францыскаю Стравінскай. Згодна гэтаму дакументу на забеспячэнне кліра Накрышскай царквы даваўся надзел для святарскай сядзібы, ворная зямля, сенакосы і сяляне (6 мужчын і 7 жанчын). Тымі самымі фундушавымі дакументамі была ўстаноўлена ссыпка з жыта і аўса для святара з кожнай сялянскай сядзібы. Самі Стравінскія бралі абавязак выплаты на карысць свяшчэнніка 30 рублёў срэбрам. Настаяцель прыхода, у сваю чаргу, браў абавязак бясплатнага трэбавыканання[43].

Тым не менш дзяржаўная камісія прызнала забеспячэнне кліра Накрышскай царквы не адпаведным устаноўленым у дзяржаве нор-

[40] ЛДГА. Ф. 605. — Воп. 2. — Сп. 1314. Дело о смерти священника Накрышской церкви Петра Боровского.

[41] ЛДГА. Ф. 605. — Воп. 1. — Сп. 2032. Дело по прошению жены священника Накрышской церкви Анны Боровской о крестильных метриках рода Боровских. 1836–1844 гг.

[42] Biblioteka Uniwersytetu Warszawskiego. Sygnatura TNW. — 314.

[43] НГАБ Гр. Ф. 135. — Воп. 1. — Сп. 119. Дело об обеспечении содержанием православного духовенства Накрышской православной церкви, Слонимского уезда. Начато 14 сентября 1844 г., закончено 31 августа 1845 г. На 19 листах.

*Апісанне маёмасці сям'і Бароўскіх. 1848 г.*

мам і абавязала гаспадароў Накрышскага маёнтка павялічыць памер утрымання царкоўнага кліра. Акрамя таго, Стравінскім было прадпісана за свой кошт правесці рамонт даху святарскага дома, змяніць цагляную падлогу на дашчатую, зрабіць рамонт печак.

Прычт Накрышскай царквы ў гэты час складалі: свяшчэннік, дзячок, панамар і прасфорніца. Службовы дом быў толькі ў настаяцеля царквы, а прычэтнікі службовага жылля не мелі. Выходзячы з



ГІСТОРЫЯ НАКРЫШСКАЙ ЦАРКВЫ Ў БІЯГРАФІЯХ ЯЕ НАСТАЯЦЕЛЯЎ

*Апісанне маёмасці сям'і Бароўскіх. 1848 г.*

гэтага факта, камісія рэкамендавала пабудаваць на царкоўнай зямлі жылыя памяшканні для псаломшчыка, панамара і прасфорніцы.

Гадавое грашовае забеспячэнне свяшчэнніка павінна было складаць 100 рублёў срэбрам, а жалаванне псаломшчыка — 40 рублёў срэбрам.

Абавязкі дзячка пры айцы Пятры Бароўскім выконваў Мікалай Здановіч.

У чэрвені 1836 года кансісторыя Літоўскай епархіі дала загад святару Накрышскай царквы айцу Пятру Бароўскаму зрабіць у храме іканастас. Гэтая задача вырашалася надзвычай цяжка. Фундатары царквы Стравінскія адмовіліся выдаткаваць сродкі на гэтую справу. Урэшце частку грошай на іканастас выдаў Гродзенскі губернатар і ён жа падштурхнуў да ўдзелу ў фінансаванні справы сям'ю Стравінскіх[44].

У 1844 годзе да прыхода Накрышскай царквы адносілася 144 двары, у якіх пражывалі каля 1 800 чалавек[45].

Айцец Пётр Бароўскі цяжка захварэў у 1846 годзе. 15 ліпеня 1847 года епархіяльнае кіраўніцтва накіроўвае ў дапамогу айцу Пятру яго сына — выпускніка Літоўскай духоўнай семінарыі Мікалая Бароўскага, які на гэты час ужо быў рукапаложаны ў сан свяшчэнніка.

Свяшчэннік Пётр Бароўскі памёр 20 красавіка 1848 года ва ўзросце 54 гадоў. 22 красавіка пасля Бажэственнай літургіі, якую адслужылі свяшчэннікі навакольных цэркваў, у прысутнасці мноства прыхаджан Накрышскай царквы адбылося адпяванне айца Пятра і яго пахаванне[46]. Невядома, дзе дакладна знаходзіцца магіла айца Пятра, але з вялікай доляй верагоднасці можна меркаваць, што ён быў пахаваны недзе каля царквы.

Пасля смерці айца Пятра быў складзены вопіс маёмасці сям'і, паводле якога можна ўявіць побыт беларускага вясковага святара ў сярэдзіне XIX стагоддзя. Дамашнюю гаспадарку свяшчэнніка складалі: адзін конь, два валы, чатыры авечкі, тры свінні, шэсць гусей. Дамашняя мэбля складалася з чатырох сталоў, васьмі крэслаў, чатырох куфраў, аднаго камода. Уся маёмасць была ацэнена ў 89 рублёў[47].

[44] ЛДГА. Ф. 605. — Воп. 1. — Сп. 2694. Дело об устройстве иконостасов в Слонимском деканате.

[45] НГАБ Гр. Ф. 135. — Воп. 1. — Сп. 119. Дело об обеспечении содержанием православного духовенства Накрышской православной церкви, Слонимского уезда. Начато 14 сентября 1844 г., закончено 31 августа 1845 г. На 19 листах.

[46] ЛДГА. Ф. 605. — Воп. 2. — Сп. 1314. Дело о смерти священника Накрышской церкви Петра Боровского.

[47] ЛДГА. Ф. 605. — Воп. 2. — Сп. 1314. Дело о смерти священника Накрышской церкви Петра Боровского.







*Малацьба. Замалёўка са старонак архіўных дакументаў*

## Свяшчэннік Мікалай ЛЯШКЕВІЧ[48]

**Час настаяцельства ў Накрышскай царкве:**
снежань 1851 г. – кастрычнік 1852 г.

Мікалай Фёдаравіч Ляшкевіч (сын свяшчэнніка Ляхавіцкай Прачысценскай царквы Кобрынскага павета) 1825 г.н., выпускнік Літоўскай духоўнай семінарыі 1846 года. Пасля заканчэння семінарыі некаторы час працаваў пісарам у Жыровіцкім духоўным вучылішчы. У 1851 годзе ён звярнуўся да архіепіскапа Віленскага і Літоўскага Іосіфа (Сямашкі) з просьбаю пра рукапалажэнне і размеркаванне на вакантны прыход. У 1851 годзе Мікалай атрымлівае ад кансісторыі білет на жаніцьбу і бярэ шлюб з дзяўчынаю са святарскай сям'і — Юліяй Васільеўнай Зубковіч. 18 лістапада 1851 года ён прымае дыяканскую хіратонію, а затым 21 лістапада таго ж года дыякан Мікалай Ляшкевіч быў рукапаложаны ў свяшчэнніка архіепіскапам Іосіфам (Сямашкам). Пасля завяршэння стаўленіцкай практыкі пры Віленскім Прачысценскім саборы свяшчэннік Мікалай Ляшкевіч накіроўваецца на служэнне ў Накрышскую царкву і прыбывае сюды ў снежні 1851 года. Аднак служэнне аказалася для новага свяшчэнніка не лёгкім. У адным з рапартаў ён адзначае, што дом, у якім трэба жыць, знаходзіцца ў вельмі дрэнным стане і небяспечны для здароўя чалавека, а адрамантаваць яго няма ніякай магчымасці. Таму цяжарная жонка айца Мікалая Ляшкевіча засталася ў доме сваіх бацькоў, а сам свяшчэннік, паслужыўшы ў халодным Накрышскім храме і пажыўшы ў вільготным і таксама халодным доме, восенню 1852 года цяжка захварэў і пераехаў у дом свайго цесця для праходжання адпаведнага лячэння. Пакідаючы прыход восенню пасля збору ўраджаю, айцец Мікалай вельмі непакоіцца пра захаванне царкоўнай маёмасці і просіць благачыннага, каб той пракантраляваў належнае захоўванне і распараджэнне зернем. З гэтага рапарту мы даведваемся, з чаго складаўся даход святара, пра яго быт і сялянскую працу: «З-за хваробы, якая са мною здарылася, —

[48] ЛДГА. Ф. 605. — Воп. 2. — Сп. 1861. Дело о рукоположении во священники к Накрышской церкви семинариста Николая Ляшкевича.



Билетъ.

№ 6131

Объявителю сего Семинаристу Николаю Ляшковичу по резолюціи Его Высокопреосвященства дозволяется вступить въ законный бракъ съ честною дѣвицею Православнаго исповѣданія.

Въ увѣреніе чего и данъ сей билетъ изъ Литовской Духовной Консисторіи за надлежащимъ подписомъ и приложеніемъ Казенной печати съ тѣмъ, чтобы онъ Ляшковичъ послѣ женитьбы, явился въ Городъ Вильно и представилъ сей билетъ въ Консисторію, для сдѣланія распоряженія о рукоположеніи его во Священника къ Накрышской Церкви, вмѣстѣ съ засвидѣтельствованіемъ причта вѣнчавшаго его и удостовѣреніемъ о лѣтахъ невѣсты. Г. Вильно 16 Іюня 1851 года.

Членъ Консисторіи, Ключарь Священникъ Іоаннъ Борзаковскій

Секретарь Митровичъ

*Білет на жаніцьбу семінарыста*

піша айцец Мікалай, — не магу ні працягваць свайго служэння, ні сваімі сіламі захаваць царкоўную маёмасць у Накрышках… пасеянае ўласнымі маімі рукамі і сабранае ў сёлетнім 1852 годзе: 5 коп пшаніцы, 3 капы ячменю, 8 коп аўса, 4 капы грэчкі трэба скласці ў святарскую жытніцу. Ды яшчэ 20 літоўскіх вазоў зарыхтаванага мною ў самае лепшае надвор'е сена трэба скласці ў пуні. А таксама і сабраную мною ссыпку і ссыпку, якая належыць мне, ад пана





Стравінскага за 1852 год»[49]. Урэшце, з-за сваёй хваробы, а таксама з-за вельмі дрэнных бытавых умоў, свяшчэннік Мікалай Ляшкевіч падае прашэнне з просьбай перавесці яго на іншае месца служэння. Такім чынам, знаходжанне айца Мікалая ў Накрышках доўжылася менш за год: з канца студзеня 1851 года да пачатку кастрычніка 1852 года. На час адсутнасці настаяцеля Накрышскай царквы, прыход абслугоўваў свяшчэннік Вензавецкай царквы Антоній Васілеўскі. Неўзабаве ў Накрышкі зноў быў пераведзены свяшчэннік Мікалай Пятровіч Бароўскі.

## Свяшчэннік Мікалай Пятровіч БАРОЎСКІ

**Гады служэння ў Накрышскім прыходзе:** 1852–1878.

Выпускнік Літоўскай духоўнай семінарыі 1847 года[50]. Ён скончыў духоўную школу па другім разрадзе. Пасля рукапалажэння адразу быў накіраваны на служэнне ў Накрышскую царкву для дапамогі свайму хвораму бацьку, пачаў святарскае служэнне з ліпеня 1847 года. У Накрышках ён і служыў на працягу амаль 31 года да дня сваёй смерці.

Пры ім у 1860 годзе ў Накрышках адкрываецца царкоўна-прыходская школа[51] — першая навучальная ўстанова ў гэтай мясцовасці.

Мяркуючы па ўсім, у айца Мікалая вельмі няпроста складваліся адносіны з уладамі і гаспадром Накрышскага маёнтка панам Адамам Стравінскім. Айцец Мікалай актыўна выступаў супраць тых несправядлівасцей, якія чыніліся ў адносінах да сялян — прыхаджан Накрышскага храма. Нарэшце, гэта было прадстаўлена як падбухторванне сялян да бунту. Сітуацыя сапраўды была неспакойная. У красавіку 1861 года памешчыкі Слонімскага павета даносілі наступнае: «...Прыходскія святары Слонімскага павета Дзенціёльскай (Дзятлаўскай) і суседняй Накрышскай цэркваў тлумачылі сялянам, што паншчыну можна ўжо не адбываць, калі сяляне гэтага пажадаюць». Прыстаў Пахноўскі паведамляў земскаму спраўніку, што сяляне Адама Стравінскага ў фальварках Накрышкі і Міроўшчына адмовіліся адбываць паншчыну[52]. Невядома, якія наступствы такая

[49] ЛДГА. Ф. 605. — Воп. 2. — Сп. 1861. Дело о рукоположении во священники к Накрышской церкви семинариста Николая Ляшкевича.

[50] Список выпускников Литовской духовной семинарии за 1847 г. [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: http://www.petergen.com/bovkalo/duhov/litsem.html. — Дата доступу: 28.05.2012.

[51] Литовские епархиальные ведомости. 1860. — № 6. — С. 15.

[52] Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Дзятлаўскага раёна. — Мінск : Універсітэцкае, 1997. — С. 47–48.



*Малацьба. Замалёўка са старонак архіўных дакументаў*

пазіцыя мела для свяшчэнніка, але ёсць звесткі, што сялянскія хваляванні ў Накрышках прыехалі ўтаймоўваць казакі з нагайкамі.

Жывы і непасрэдны ўдзел у жыцці сваіх прыхаджан характарызуе айца Мікалая як неабыякавага і клапатлівага пастыра. У сваю чаргу і прыхаджане па меры іх сціплых магчымасцей падтрымлівалі свайго свяшчэнніка. У 1863 годзе прыхаджане ахвяравалі ў рызніцу Накрышскай царквы святочныя святарскія рызы і 20 рублёў грошай.

З-за канфлікту з Адамам Стравінскім прыход і сям’я айца Мікалая цярпелі нястачы, бо ніякай дадатковай падтрымкі ад фундатара не было. Для вырашэння гаспадарчых праблем настаяцель вымушаны быў браць пазыкі. І ў 1863 годзе ўзніклі праблемы з выплатаю доўгу. Яўрэйка Сташынская падала позву ў Слонімскі земскі суд і патрабавала неадкладнага вяртання пазычаных грошай[53]. Выкананне гэтых фінансавых абавязкаў стала цяжкім выпрабаваннем для айца Мікалая.

Летам 1863 года атрад паўстанцаў увайшоў на панадворак святарскага дома, забраўшы для сваіх мэт пару коней. Праз некалькі гадзін коней гаспадару вярнулі[54].

Жонку айца Мікалая Бароўскага звалі Анастасіяй. Сын Уладзімір навучаўся ў 1865 годзе ў Жыровіцкім духоўным вучылішчы[55]. Вядома, што ў айца Мікалая і матушкі Анастасіі таксама была дачка Алена[56].

Да часу служэння айца Мікалая ў Накрышскім прыходзе адносіцца таксама справа пра спагнанне сродкаў на закупку віна для бога-

[53] ЛДГА. Ф. 605. — Воп. 4. — Сп. 102. Отношение Слонимского земского суда о денежной претензии еврейки Сташинской к священнику Накрышской церкви Баровскому.

[54] Литовские епархиальные ведомости. — 1863 г.

[55] Литовские епархиальные ведомости. — 1865 г.

[56] Литовские епархиальные ведомости. — 1871 г.







*Замалёўка сялянскай працы са старонак архіўных дакументаў*

службных мэт і свечак з памешчыка Стравінскага[57]. Справа ўзнікла ў выніку працы камісіі па забеспячэнні кліра належным утрыманнем. Святар Бароўскі не пазначыў тады, што згодна з фундушам Францыскі Стравінскай царква павінна была мець ад фундатараў забеспячэнне богаслужэбным віном і свечкамі. Святар падпісаў акт, у якім выказаў сваю згоду пра дамоўленасць аб забяспячэнні царквы фундатарамі. Потым жа выявілася, што Адам Стравінскі адмовіўся выдзяляць сродкі на закупку віна і свечак. Святар, у сваю чаргу, падаў судовую позву на спагнанне свечак і віна з пана Стравінскага, згодна з фундушавым запісам Францыскі Стравінскай. Справа была вырашана на карысць прыхода[58].

Яшчэ адзін вельмі сур’ёзны судовы працэс[59], але ўжо супраць самога свяшчэнніка, распачаўся напярэдадні смерці айца Мікалая Бароўскага і, магчыма, паскорыў яго сыход з жыцця. Духоўная кансісторыя завяла справу пра незаконнае вянчанне асоб, якія былі паміж сабою ў сваяцтве і, акрамя таго, належалі не да Накрышскага, а да Дзятлаўскага прыхода. Сутнасць гэтай сітуацыі была ў тым, што свяшчэннік Мікалай Бароўскі, дакладна ведаючы пра сваяцкія сувязі, павянчаў жаніха і нявесту, якія былі адпаведна роднымі братам і сястрою іншай пары, што строга забаронена канонамі і грамадзянскім правам. Адзначым, што гэта быў не адзінкавы выпадак. Выявілася, што раней падобнае парушэнне свяшчэннікам

[57] НГАБ Гр. Ф. 2. — Воп. 34. — Сп. 251. О взыскании Накрышской церковью Слонимского уезда с помещика Стравинского вина и свечей. Начато 11 апр. 1847 г., законч. 18 апр. 1849 г.

[58] НГАБ Гр. Ф. 2. — Воп. 34. — Сп. 251. О взыскании Накрышской церковью Слонимского уезда с помещика Стравинского вина и свечей. Начато 11 апр. 1847 г., законч. 18 апр. 1849 г.

[59] ЛДГА. Ф. 605. — Воп. 8. — Сп. 1022. О повенчании причтом Накрышской церкви лиц в родстве, прихожан Дятловской церкви.

Накрышскай царквы было дапушчана пры вянчанні нявесты, якая была роднаю сястрою мачахі жаніха. Царкоўны суд пачаўся ў той час, калі айцец Мікалай Бароўскі ўжо цяжка хварэў, а скончыўся тады, калі настаяцель Накрышскай царквы адышоў з жыцця. Магчыма, на здзяйсненне гэтых кананічных парушэнняў айца Мікалая падштурхнула цяжкае матэрыяльнае становішча яго сям'і.

У 1878 годзе айцец Мікалай Бароўскі памірае. На ім спыняецца дынастычнае амаль векавое служэнне ў Накрышскай царкве сям'і Бароўскіх. Нашчадкі роду Бароўскіх працягнулі сваё служэнне ў іншых цэрквах Гродзенскай і Віленскай епархій.

## Свяшчэннік Мікалай Міхайлавіч ВЯХІРАЎ

**Гады служэння ў Накрышках:** 1878–1899.

Скончыў Цвярскую духоўную семінарыю з атэстатам другога разраду ў 1867 годзе. З 1867-га да 1874 г. з благаславення Высокапраасвяшчэннейшага Філафея, архіепіскапа Цвярскога[60], быў настаўнікам Ржэўскага духоўнага вучылішча для дзяўчат духоўнага саслоўя, а таксама выкладчыкам народнага вучылішча. У 1874 годзе архіепіскап Літоўскі Макарый (Булгакаў)[61] рукапалажыў яго ў сан дыякана і свяшчэнніка, накіраваўшы на прыходскае служэнне ў новазаснаваную Рогаўскую царкву Ковенскай губерні. Згодна з паданым прашэннем у 1875 годзе айцец Мікалай быў пераведзены ў Харашэвіцкую царкву Ваўкавыскага павета, а праз тры гады 22 жніўня 1878 года згодна з уласнай просьбай яго пераводзяць у Накрышскую царкву. 27 лютага 1897 года за старанную службу ён атрымаў архіпастырскае благаславенне Высокапраасвяшчэннейшага архіепіскапа Літоўскага Іераніма з унясеннем адпаведнага запісу ў фармулярныя спісы. Жонку айца Мікалая звалі Аляксандра Мікалаеўна. У сямейнай пары былі дзеці: Марыя, Іван, Віктар, Надзея, Вера[62].

З прыходам айца Мікалая Вяхірава ў Накрышскую царкву жыццё прыхода значна ажывілася. Але, паводле сведчання архіўных дакументаў, яго дзейнасць многімі ўспрымалася неадназначна. Першыя гады служэння ў Накрышках бесперапынна суправаджа-

60 Мітрапаліт Філафей (Успенскі). З 15.02.1857 епіскап Цвярскі і Кашынскі, з 5.05.1876 мітрапаліт Кіеўскі і Галіцкі. Памёр 29.01.1882.

61 Мітрапаліт Маскоўскі Макарый (Булгакаў). Гады жыцця: 1816–1882. З 1868-га да 1879 г. — архіепіскап Літоўскі. Вядомы царкоўны гісторык і багаслоў.

62 Архіў Накрышскай царквы. Клiравая ведамасць за 1898 г.







*Першая фатаграфія Накрышскай царквы. Год не вядомы.*



за нашимъ подписомъ и прило-
женiемъ церковной печати.

Настоятель Накрышской
церкви Священникъ

*Старонка дакумента з пячаткай Накрышскай царквы і подпісам а. М. Вяхірава*



*Накрышская царква. Сучасны выгляд*

ліся праблемамі ва ўзаемаадносінах з Дзятлаўскім благачынным, з псаломшчыкам, а таксама іншымі цяжбамі і судовымі працэсамі. Па-першае, цягнулася разбіральніцтва з настаяцелям Харашэвіцкага прыхода, дзе раней служыў айцец Мікалай. Новапрызначаны ў Харашэвічы свяшчэннік абвінавачваў былога настаяцеля ў тым, што ён пакінуў яму служэбнае жытло ў недагледжаным, паўаварыйным стане. Епархіяльная камісія пільна вывучыла абставіны гэтай справы і прысудзіла Мікалаю Вяхіраву сплаціць пэўную суму кампенсацыі[63]. Але і пасля пераходу ў Накрышкі ўзнікла канфліктная сітуацыя з удавою спачылага айца Мікалая Бароўскага за дом і гаспадарчыя пабудовы. Справа атрымала шырокі рэзананс і была накіравана на разгляд у Свяцейшы Сінод у Пецярбург. Гэтую цяжбу, як і папярэднюю, айцец Мікалай ізноў прайграў[64]. Складанымі былі адносіны свяшчэнніка і з гаспадарамі Накрышскага маёнтка Стравінскімі. Канфлікт быў выкліканы тым, што паны Стравінскія адабралі ў царквы перададзеную некалі зямлю і пазбавілі да-

[63] Архіў Накрышскай царквы. Иск священника Хорошевичской церкви к священнику Николаю Вяхиреву.

[64] Архіў Накрышскай царквы. Иск вдовы Боровской к священнику Накрышской церкви Николаю Вяхиреву.







*Іканастас Накрышскай царквы*

ходаў на ўтрыманне прыхода. Айцец Мікалай Вяхіраў распачынае яшчэ адну судовую справу. Верагодна, у адказ на гэта Стравінскія падгаворвалі прыхаджан скардзіцца на свяшчэнніка епархіяльнаму кіраўніцтву. На бок Стравінскіх стаў і Дзятлаўскі благачынны. Магчыма, былі і рэальныя правіны свяшчэнніка, на якія пры іншых абставінах маглі не звярнуць увагі, але ў дадзеных варунках яны актыўна выкарыстоўваліся для абвінавачання. У выніку, без належ-

нага разбіральніцтва справы свяшчэннік Мікалай Вяхіраў быў накіраваны на некалькі месяцаў на пакаянне ў Супрасльскі манастыр. Гэтыя знешнія нягоды ўскладняюцца яшчэ і сямейнымі праблемамі. Жонка айца Мікалая цяжка захварэла. Тым не менш свяшчэннік не апускае рук. Перш чым паехаць у Супрасль, айцец Мікалай наведваецца ў Вільню і робіць запыт у архіў адносна права ўладання Накрышскага прыхода на зямлю і на пэўныя даходы. У архіве былі знойдзены адпаведныя дакументы, якія пацвярджалі правы прыхода. На падставе гэтых архіўных сведчанняў суд вынес рашэнне, каб уладары Накрышскага маёнтка вярнулі царкве права карыстання зямлёй, а таксама выплацілі грашовую няўстойку за 8 гадоў[65].

У 1879 годзе агульная лічба насельніцтва прыхода складала 1 925 чалавек[66]. Здзіўляе дынаміка росту гэтага паказчыка, таму што ўжо ў 1882 годзе колькасць прыхаджан Накрышскага храма павялічылася да 2 237 чалавек (1 129 мужчын і 1 108 жанчын)[67].

У 1880 годзе Накрышскай царкве было зроблена ахвяраванне ад прыхаджан і ад мясцовых памешчыкаў[68].

У 1881 годзе праведзены рамонт святарскага дома і прычтавых пабудоў на агульную суму 763 рублі 29 капеек. Пасля гэтага айцец Мікалай Вяхіраў узяўся за ўнутранае аздабленне храма. Першачарговай задачай стала ўладкаванне новага іканастаса, што было справай няпростай і дарагой. На ажыццяўленне задумы спатрэбілася больш за два гады. Урачыстае асвячэнне новага іканастаса адбылося 30 кастрычніка 1883 года[69]. Настаяцель Дзятлаўскай царквы свяшчэннік Іаан Макарэўскі ў Літоўскіх епархіяльных ведамасцях апублікаваў артыкул пра тое, як быў зроблены новы іканастас Накрышскай царквы і як прайшлі ўрачыстасці з нагоды яго асвячэння:

«**Из села Накрышек** (Слонимского уезда). 30-го минувшаго октября совершилось освящение, по чиноположению Православной Церкви, вновь устроенного иконостаса в Накрышской церкви на средства местных прихожан. Освящение иконостаса и совершение затем Божественной литургии происходило при участии двух священников: настоятеля Накрышской церкви о. Николая Вяхирева и заведующего оным приходом[70], настоятеля Дятловской церкви Иоанна Макаревского. Само по себе невиданное доселе в означенной местности торжество освящения происходило обычным порядком; но замечательны в совершившемся акте те обстоятельства, при которых возродился новый благообразный иконостас стоимостью 700 рублей.

Накрышская церковь, — как свидетельствует ее наглядный вид внутри и снаружи, равно и самый приход оной церкви, состоящий исключительно из одних крестьян, — была униатской. Прежний ветхий иконостас представлял собою простые холщевые ширмы, без всяких украшений, с тремя иконами; даже на царских решетчатых вратах заметно было отсутствие божественного лика. Немало трудов пришлось перенести о. настоятелю, чтобы склонить своих прихожан к воссозданию вновь благообразного иконостаса. Неоднократные предложения на бывших сходах крестьянам-прихожанам, — сложить необходимую денежную сумму для устройства иконостаса, — ни к чему не привели. Оставалось избрать иное средство, более рациональное, к осуществлению задуманной цели, каковая и была достигнута при следующих обстоятельствах. Сделано было предложение прихожанам, со стороны священника, обходить их деревни крестным ходом безвозмездно; каковое предложение было принято с великою радостию последними.

И вот при посредстве личного немалого труда, хождения по деревням с крестными ходами, в продолжение двух лет (1880 и 1881) отцу настоятелю удалось собрать добровольных жертв около 200 рублей, чем положено было первое основание к началу устройства иконостаса. Когда в начале текущего года был собран снова церковно-приходской сход крестьян-прихожан, и заявлено о. настоятелем об имеющейся собранной наличной денежной сумме, на предмет устройства иконостаса, прихожане несколько смягчились в уступке добровольной жертвы. Но и тут дело не увенчалось желанным успехом, если бы не повлиял на крестьян писарь Накрышской (Пацевской) волости, **Осип Пацкевич**. Составлен был приговор крестьянами-прихожанами, которым они обязались добровольно внести на предмет устройства иконостаса в своей приходской церкви, к собранным уже

65 Архіў Накрышскай царквы. Иск священника Накрышской церкви к помещику Стравинскому.
66 Памятная книга Гродненской губернии за 1879 г.
67 Памятная книга Гродненской губернии за 1882 г. — С. 50.
68 Литовские епархиальные ведомости. — 1880. — № 14. — С. 12.
69 Архіў Накрышскай царквы. Отчет священника Накрышской церкви Дятловскому благочинному.

70 У выніку неаднаразовых дысцыплінарных заўваг епархіяльнага кіраўніцтва на адрас а. М. Вяхірава ён быў не толькі адпраўлены ў Супрасльскі манастыр на пакаянне, але таксама быў абмежаваны ў правах настаяцеля. Настаяцель Дзятлаўскай царквы а. І. Макарэўскі ажыццяўляў агульны надзор за дзейнасцю а. М. Вяхірава і прыхода Накрышскай царквы, таму і называецца «заведующий Накрышским приходом».

деньгам, как сказано выше настоятелем, по три рубля от каждого крестьянского участка. Таким образом собрана необходимая сумма денег, и в течении двух месяцев был устроен иконостас.

Собравшиеся крестьяне-прихожане по зову своего трудолюбивого пастыря на торжество освящения благоукрашенного иконостаса были поражены величественностью оного и красотою. По окончании торжества освящения и богослужения божественной литургии с крестным ходом вокруг церкви, прихожане единогласно заявили, что и на будущее время они готовы всегда помогать своими материальными средствами на другие имеющиеся нужды своего приходского храма; ибо убедились фактически, что трудовая их копейка, добровольно ими пожертвованная на дело Божие, не пропала даром»[71].

Відавочна, іканастас вельмі спадабаўся прыхаджанам, таму яны сапраўды выканалі сваё абяцанне скласці ахвяраванні на далейшыя рамонтныя работы ў храме. У 1885 годзе быў зроблены капітальны ўнутраны рамонт. Падчас гэтага быў заўважна зменены знешні выгляд царквы. Замест невялічкіх акенцаў у верхняй частцы царкоўных сцен былі зроблены шырокія і высокія праёмы. Унутраная прастора храма стала значна святлейшай. Працамі па рэканструкцыі будынка кіраваў малодшы інжынер Трубнікаў[72, 73]. 22 кастрычніка 1889 года адбылося ўрачыстае асвячэнне новага прастола.

У 1888 годзе здарылася бяда — пажар знішчыў святарскі дом. Зразумела, гэта дадало шмат клопатаў настаяцелю прыхода і прычыніла шмат праблем яго сям'і.

У гады служэння ў Накрышскім прыходзе айца Мікалая Вяхірава ў прыходзе дзейнічалі 7 школ граматы, у якіх навучаліся 107 хлопчыкаў і 25 дзяўчынак. Па стане на канец 1899 года колькасць прыхаджан склала 3 000 чалавек, якія месціліся ў 389 дварах[74].

На жаль, застаецца невядомым, што паслужыла ў 1899 годзе прычынай пераводу айца Мікалая з Накрышак у Шчарскую царкву[75]. На той момант свяшчэнніку было 55 гадоў. Праз тры гады пасля

[71] Литовские епархиальные ведомости. 1883. — № 46. — С. 414.

[72] НГАБ Гр. Ф. 8. — Воп. 2. — Сп. 490. — Л. 3.

[73] Малодшы інжынер І. Трубнікаў кіраваў у 1886 г. рэстаўрацыяй Сынкавіцкай царквы, а таксама кіраваў будаўніцтвам царквы ў Лунна. Кулагин, А. Н. Деятельность гродненских зодчих XIX — начало XX в. (по архивным материалам) / А. Н. Кулагин // НАН РБ. Пытанні мастацтвазнаўства, этналогіі і фалькларыстыкі. — Вып. 24. — Мн., 2018. — С. 79.

[74] Архіў Накрышскай царквы. Кліравая ведамасць за 1897 г.

[75] Литовские епархиальные ведомости. 1899 г.





пераводу, 1 студзеня 1902 года, Мікалай Вяхіраў памірае і пакідае пасля сябе ўдаву і пяцёра неўладкаваных дзяцей[76].

У кнізе М. Ізвекава «Статистическое описание православных приходов Литовской епархии» за 1893 год мы знаходзім такую інфармацыю пра забяспечанасць Накрышскага прыхода: «Накрышский — Дятловского благочиния. Церковь утварью достаточна. Земли 30 д. За отшедшую в казну землю получает 7 р. 50 к. Есть мельница с доходом в 90 р. 50 к. и с помещика ружных получается 120 р. и аннауты 30 р. У священника церковного дома нет. Дворов 337. Прихожан мужского пола 1 350 и женского — 1 323»[77].

У кнізе «Гродненский православно-церковный календарь», складзенай епіскапам Іосіфам (Сакаловым), якая была выдадзена ў 1899 годзе таксама даецца статыстычная інфармацыя пра Накрышскую царкву: «В селе Накрышках, Слонимского уезда, Дятловского благочиния, приходская церковь. Церковь каменная, сооружена в 1790 году неким Флором Стравинским. Отстоит от г. Слонима в 40 верстах. Прихожан при ней 1 384 мужского пола, 1 356 женска, а всего 2 740 в 15 селениях: Накрышках, Венсках, Гиричах, Гончарах, Дубровке, Колпине, Корытнице, Нагорниках, Новиках, Пацевщине, Поречье, Романовичах, Русаках, Трухановичах и Хвиневичах, из коих Корытница — самое отдаленное от церкви в 12 верстах. Имеется 5 церковных школ — в Гиричах, Колпине, Корытнице, Пацевщине и Трухановичах, и народное училище — в Накрышках»[78].

## Свяшчэннік Міхаіл Пятровіч ДЗЬЯКАНАЎ

**Гады служэння ў Накрышках:** 1899 — 11.04.1907.

Міхаіл Пятровіч Дзьяканаў нарадзіўся 22 лістапада 1873 года ў сям'і надворнага саветніка Пятра Дзьяканава. Міхаіл скончыў курс Літоўскай духоўнай семінарыі па другім разрадзе ў 1898 годзе. 20 верасня 1898 года ён быў прызначаны псаломшчыкам Занёманскай Уладзімірскай царквы ў Гродна. У гэты час Міхаіл Дзьяканаў бярэцца шлюбам з дачкой калежскага сакратара — Верай Андрэеўнай Кулічэнка. Свяшчэнніцкую хіратонію Міхаіл атрымаў 8 верасня 1899 года ад рук Высокапраасвяшчэннейшага Ювеналія, архіепіска-

[76] Гродненские епархиальные ведомости. 1902. — № 2. — С. 3.

[77] Извеков, Н. Статистическое описание православных приходов Литовской епархии / Н. Извеков. — Вильна, 1893.

[78] Епископ Иосиф (Соколов). Гродненский православно-церковный календарь, или Православие в Брестско-Гродненской земле в конце XIX в. — Воронеж, 1899. — С. 14.

па Літоўскага[79]. Адразу пасля рукапалажэння малады свяшчэннік атрымаў прызначэнне ў Накрышскую царкву. 30 красавіка 1902 года падчас епіскапскай рэвізіі айцец Міхаіл быў узнагароджаны набедранікам[80]. У Накрышках у святарскай сям'і нараджаецца два сыны: Пётр (13.02.1900) і Андрэй (28.01.1901). У 1902 годзе маленькі Пётр памірае. Хлопчыка пахавалі на тэрыторыі храма, і магіла захавалася дагэтуль.

Свяшчэннік Міхаіл працягнуў працу па рамонце храма. У 1900 годзе ў Накрышскай царкве былі заменены вокны, адрамантаваны іканастас і прытвор. Ён ініцыяваў і здзейсніў будаўніцтва дамоў для свяшчэнніка і псаломшчыка, якое было завершана ў 1902 годзе. У часы служэння айца Міхаіла ў Накрышскім прыходзе дзейнічаў шэраг вучэбных устаноў: Накрышскае народнае мужчынскае вучылішча і Накрышскае народнае жаночае вучылішча, Карытнянская царкоўна-прыходская школа (пачала дзейнічаць 1 верасня 1901 года), Гірыцкая царкоўна-прыходская школа (пачала дзейнічаць 1 кастрычніка 1902 года), школы граматы ў вёсках Калпінскія і Дубраўка. Колькасць прыхаджан у 1905 годзе склала 3 370 чалавек, якія пражывалі ў 419 сялянскіх дварах[81].

У 1902 годзе Накрышскі прыход наведаў Праасвяшчэнны епіскап Гродзенскі Іаакім (Лявіцкі)[82]. Відавочца тых падзей апісвае іх наступным чынам: «Путь к церкви более чем 200 детей усыпали цветами. Храм, в который вошел Владыка, был украшен зеленью и освещен более чем 400 зажженными свечами, горел многочисленной в нем и еще новой позолотой. Под пение 60 певчих Владыка выслушал речь местного священника об истории храма в честь князей и мучеников Бориса и Глеба…»[83].

У 1902 годзе, верагодна, рыхтуючыся да візіту епіскапа, прыхаджане Накрышскай царквы зрабілі багатыя ахвяраванні на свой храм. Было сабрана больш за 900 рублёў. 17 мая 1902 года Праас-

[79] Архіепіскап Ювеналій (Полаўцаў) 25 кастрычніка 1892 г. быў хіратанісаны ў епіскапа. З 3.09.1893 — епікап Курскі, з 7.03.1898 — архіепіскап Літоўскі і Віленскі. У 1900 г. з Віленскай епархіі выдзяляецца самастойная Гродзенская епархія. Памёр у Вільні 12 красавіка 1904 г.

[80] Архіў Накрышскай царквы. Кліравая ведамасць за 1905 г.

[81] Там сама.

[82] Архіепіскап Іаакім (Лявіцкі). Гады жыцця: 1853–1918. 4 студзеня 1896 г. рукапаложаны ў епіскапа Балцкага. 24 мая 1897 г. прызначаны епіскапам Брэсцкім, вікарыем Віленскай епархіі. З 13 студзеня 1900 г. епіскап Гродзенскі і Брэсцкі. Пазней архіепіскап Ніжагародскі.

[83] Іаакім Лявіцкі — першы епіскап Гродзенскай кафедры і яго архірэйскае служэнне на Гродзеншчыне [Электронны рэсурс]. — Афіцыйны сайт Гродзенскай епархіі. — Рэжым доступу: http://www.orthos.org/grodno/history/ioakim.htm. — Дата доступу: 27.02.2010.







*Інтэр'ер Накрышскай царквы. Пачатак ХХ ст.*



*Святарскі дом, пабудаваны а. М. Дзьяканавым*

*Фрагмент дакумента «Ведомость о церкви»*

вяшчэнны епіскап Іаакім падаў сваё архіпастырскае благаславенне цэламу шэрагу прыхаджан Барыса-Глебскай Накрышскай царквы.

Сялянка ўрочышча Сіратоўшчына Антаніна Гур'ян ахвяравала ў Накрышскую царкву 3 іконы агульным коштам 80 рублёў; селянін вёскі Труханавічы Іван Ганчар ахвяраваў 2 напрастольных Евангеллі (вялікае і малое) коштам у 56 рублёў 50 капеек, а яшчэ да таго





20 аршынаў парчы на аблачэнне для прастола і ахвярніка коштам у 44 рублі; жыхар вёскі Карытніца Васіль Лунь ахвяраваў ікону Спасіцеля коштам у 20 рублёў; селянін вёскі Хвінявічы Адам Сіўко ахвяраваў на царкву вобраз святых Барыса і Глеба коштам у 50 рублёў; жыхар вёскі Карытніца Мікалай Русін ахвяраваў ікону Пятра і Паўла коштам у 50 рублёў; селянін вёскі Гірычы Павел Новік перадаў у храм харугвы коштам па 6 рублёў; жыхар хутара Ліпічанскай Пушчы Мікалай Сцяцько падарыў царкве вобраз Казанскай іконы Божай Маці з лампадай да яе коштам у 20 рублёў; селянін вёскі Ганчары Ілля Макуца ахвяраваў на ікону 35 рублёў; селянін вёскі Ганчары Максім Марук ахвяраваў на ікону 35 рублёў; жыхар вёскі Панёманцы Зблянскага прыхода Навум Івашэвіч ахвяраваў на ўпрыгожванне Накрышскай царквы 50 рублёў; сялянка вёскі Пацаўшчына Пелагея Грынцэвіч ахвяравала 15 рублёў на набыццё паніхіднага стала з крыжам; сялянка вёскі Парэчча Параскева Сцяцько ахвяравала на ўпрыгожванне храма 25 рублёў; селянін вёскі Дубраўка Якаў Дзярвук ахвяраваў на ўпрыгожванне храма 50 рублёў; купец з Санкт-Пецярбургу Мельнікаў[84] ахвяраваў на іконы свяціцеля Мікалая і велікамучаніка Панцеляімана 80 рублёў[85].

У 1904 годзе айцец Міхаіл Дзьяканаў заклікаў прыхаджан сабраць ахвяраванні на карысць салдат рускай арміі, параненых у руска-японскай вайне. У Расійскае таварыства Чырвонага Крыжа ад Накрышскага прыхода былі перададзены 63 палатняныя кашулі, 14 кальсон і 125 аршын сялянскай тканіны[86].

У снежні 1905 года вучылішчны савет Гродзенскай епархіі выказаў падзяку свяшчэнніку Міхаілу Дзьяканаву за стараннасць у выкладанні і кіраванні прыходскімі школамі[87].

З Накрышак айцец Міхаіл Дзьяканаў быў пераведзены 11.04.1907 спачатку ў прыход вёскі Моталь[88], а потым 4.09.1909 другім свя-

[84] Звесткі пра Івана Дзімітрывіча Мельнікава захаваліся ў «Справочных книгах о лицах Петроградского купечества и других званий, акционерных и паевых обществах» с 1904-го по 1916 г.: «СПб. 2-й гильдии купец, веры православной, образование домашнее, в купечестве с 1903 г., выбир. свидетельство с 1900 г. На 1904 г. — ему 53 года. Житель: Вас. часть, 2-й участок, Средний пр., д. 77 (с 1904 по 1908 гг.), Вас. часть, 2-й участок, по 17-й линии, д. 42 (с 1909 по 1916 гг.). Содержит ломовой извоз в доме жительства (с 1904 по 1907 гг.). Содержит артель рабочих по земляным работам в доме жительства (с 1908 по 1916 гг.)».

[85] ГЕВ. 1902. — № 22. — С. 210.

[86] Черепица, В. Н. Звенья цепи единой: о больших и малых событиях в истории Гродненщины XIX–XX столетий / В. Н. Черепица. — Гродно, 2009. — С. 212.

[87] ГЕВ. 1905. — 25 декабря. — № 51–52. — С. 1331.

[88] ГЕВ. 1907. — 15 апреля. — № 14. — С. 148.

шчэннікам у прыход вёскі Сухопаль[89]. Можна меркаваць, што ў часы Першай сусветнай вайны айцец Міхаіл з сям'ёй апынуўся ў бежанстве ў Казані. Яго імя сустракаецца ў кнізе памяці Рэспублікі Татарстан: «Дьяконов Михаил Петрович. Родился в 1873 г., г. Гродно; белорус; инспектор личного страхования, управление сберкасс и госкредита. Проживал: г. Казань. Арестован 2 июня 1932 г. Приговорен: ОГПУ ТАССР 31 июля 1932 г., обв.: по ст. 58–11 ("бывший священник, организованная к/р деятельность"). Приговор: дело прекращено за недостаточностью улик. 21.04.33 арестован второй раз, 27.11.33 освобожден под подписку о невыезде. В 1937 г. — секретарь отдела кадров треста Кинофикации при СНК ТАССР. Арестован третий раз 22.08.37 ("систематическая к/р агитация, направленная на создание враждебной организации"), осужден Особым совещанием НКВД СССР 16.01.38 по ст. 58–4. Приговор: 10 лет ИТЛ. Реабилитирован 17.05.89»[90].

Падчас служэння ў Накрышках айца Міхаіла Дзьяканава з верасня 1904-га да кастрычніка 1905 года абавязкі псаломшчыка выконваў Мікалай Адамавіч Семяняка, будучы архіепіскап Мінскі Феафан (Семяняка)[91]. Будучыня і настаяцеля, і маладога псаломшчыка Накрышскай царквы складзецца так, што абодва загінуць у жорнах рэпрэсій савецкай улады, але тады, напэўна, яны не маглі прадбачыць такога развіцця падзей у грамадскім і асабістым жыцці.

## Свяшчэннік Павел САМАЙЛОВІЧ

**Гады служэння ў Накрышскім храме:** 11.05.1907 — 28.09.1909.
**(Архіепіскап Сан-Паўльскі і Бразільскі Феадосій + 1.03.1968).**

Свяшчэннік Павел Іванавіч Самайловіч нарадзіўся 19.06.1884 у вёсцы Макраны (сучасны Маларыцкі раён). Першапачатковую адукацыю атрымаў у Жыровіцкім духоўным вучылішчы ў гады, калі наглядчыкам там быў Пётр Палянскі. Потым скончыў Літоўскую духоўную семінарыю. Першае размеркаванне ён атрымаў на пасаду псаломшчыка Самуйлавіцкага прыхода Ваўкавыскага павета. У Накрышскую царкву Павел Самайловіч быў прызначаным свяшчэннікам з пасады настаўніка Патоцкай двухкласнай царкоўнаnprыходскай школы[92]. У Накрышках айцец Павел паслужыў нядоўга — да верасня 1909 года, затым быў пераведзены на пасаду настаяцеля Грушаўскай царквы Кобрынскага павета[93]. Прычынай такога хуткага пераводу з Накрышак паслужыла сямейная трагедыя. У 1908 годзе памерла яго маладая жонка, таму далейшае знаходжанне ў Накрышках было для яго маральна цяжкім. Пасля некалькіх гадоў служэння ў Грушаве айцец Павел у 1910 пасутпае ў Санкт-Пецярбургскую духоўную акадэмію. У 1912 годзе ён прымае манаскі пострыг з іменем Феадосій. Айцец Феадосій скончыў Пецярбургскую акадэмію ў 1914 годзе са ступенню кандыдата багаслоўя і быў прызначаны даглядчыкам Томскага духоўнага вучылішча. У часы грамадзянскай вайны далучаецца да Белага руху і выконвае абавязкі вайсковага святара. У 1919 годзе ён трапляе ў Крым, а ў 1920 годзе з'язджае ў эміграцыю. Айцец Феадосій уваходзіць спачатку ў клір Сербскай Праваслаўнай Царквы, а затым у 1930-м далучаецца да Замежнай Рускай Праваслаўнай Царквы. У 1931 годзе атрымаў архірэйскую хіратанію і першапачаткова быў прызначаны вікарыем на Дэтройцкую кафедру. 4 верасня 1934 года пераведзены на навастворaную Бразільскую кафедру і стаў першым архірэем Рускай Царквы ў Паўднёвай Амерыцы. Руплівасцю ўладыкі Феадосія быў пабудаваны Мікольскі кафедральны сабор у Сан-Паўла. Спачыў архіепіскап Феадосій 1 сакавіка 1968 года.



*Архіепіскап Феадосій (Самайловіч)*

[89] Sosna Grzegorz. Hierarchia i kler kościoła prawosławnego w granicach II Rzeczypospolitej i Polski powojennej w XIX–XXI wieku. — Ryboły, 2012. — S. 201.
[90] Книга памяти Республики Татарстан [Электронный ресурс]. — Режим доступа: http://www.memo.ru/memory/kazan/kaza34.htm.
[91] НИАБ Гр. — Фонд 1802.
[92] ГЕВ. 1907. — 20 мая. — № 19. — С. 196.
[93] Sosna Grzegorz. Hierarchia i kler kościoła prawosławnego w granicach II Rzeczypospolitej i Polski powojennej w XIX–XXI wieku. — Ryboły, 2012. — S. 752.

## Свяшчэннік Канстанцін Васільевіч ГАЙДУКОЎ

**Гады служэння ў Накрышскім храме:** 18.11.1909 — 1915.



*Айцец К. Гайдукоў (у цэнтры), В. Пуйта (справа)*

Да прызначэння ў лістападзе 1909 года ў Накрышкі Канстанцін Гайдукоў быў служачым Мінскага акцызнага ўпраўлення. У лістападзе 1908 года атрымаў пасвячэнне ў сан дыякана і пасаду псаломшчыка ў царкве вёскі Галавачы Гродзенскага павета[94]. У студзені 1909 года пераведзены на пасаду псаломшчыка ў Ружанскую царкву[95]. У лістападзе 1909 года дыякан Канстанцін Гайдукоў быў рукапалажаны ў свяшчэнніка і 18 лістапада таго ж года атрымаў прызначэнне на пасаду настаяцеля Накрышскай царквы[96]. На жаль, знойдзеныя звесткі пра біяграфію і дзейнасць айца Канстанціна маюць разрозненых характар. Падчас яго служэння прыхаджане ахвяравалі храму некалькі ікон, якія дагэтуль упрыгожваюць іканастас.

У 1907 годзе пры Накрышскай царкве было арганізавана праваслаўнае брацтва[97].

[94] ГЕВ. 1908. — 30 ноября. — № 48. — С. 368.
[95] ГЕВ. 1909. — 15 февраля. — № 7. — С. 75.
[96] ГЕВ. 1909. — 29 ноября. — № 48. — С. 453.
[97] НГАБ Гр. Фонд 1. — Воп. 1. — Сп. 162. Рапорт Преосвященнейшего Михаила, епископа Гродненского.





Утверждается. 1910 г. Авг. 28 дня.
Управляющій Страховымъ Отдѣломъ П. Зверев
Дѣлопроизводитель

**СТРАХОВАЯ КАРТОЧКА.**

Нижеуказанныя строенія, принадлежащія Борисо-Глѣбской церкви въ сел. Накрышкахъ Дятловскаго благочинническаго округа, Слонимскаго уѣзда, Гродненской епархіи, приняты на страхъ по страховой оцѣнкѣ, произведенной 24 іюля 1910 г.

| Названіе строеній. | По матеріалу наружныхъ стѣнъ. | Родъ покрытія. | Оцѣночная сумма въ рубл. | Страховая сумма въ рубл. | Премія съ 1000 р. р. | Премія съ 1000 р. к. | Годичный страховой взносъ р. | Годичный страховой взносъ к. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 Церковь | камен. | непрочн. | 10,000 | 10,000 | 1 | 70 | 17 | - |
| 2 Колокольня | камен. | непрочн. | 100 | 100 | 1 | 70 | - | 17 |
| 3 Домъ | деревян. | непрочн. | 2000 | 2000 | 7 | - | 14 | - |
| 4 Хлѣвъ | деревян. | непрочн. | 300 | 300 | 7 | - | 2 | 10 |
| 5 Амбаръ | деревян. | непрочн. | 100 | 100 | 7 | - | - | 70 |
| 6 Гумно | деревян. | непрочн. | 300 | 300 | 7 | - | 2 | 10 |
| 7 Домъ | деревян. | непрочн. | 900 | 900 | 7 | - | 6 | 30 |
| 8 Амбаръ | деревян. | соломой | 100 | 100 | 9 | 80 | - | 98 |
| 9 Сарай | деревян. | соломой | 100 | 100 | 9 | 80 | - | 98 |
| 10 Мельница | деревян. | непрочн. | 600 | 600 | 17 | 30 | 10 | 38 |
| | | | Итог | | | | 54 | 71 |

Дятловскій Благочинный
Священникъ Владимиръ Федоровъ

14500 14500

*Страхавы вопіс нерухомай маёмасці Накрышскага прыхода. 1910 г.*

У 1910 годзе складзены страхавы вопіс усёй нерухомай маёмасці Накрышскага прыхода. У гэтым дакуменце пазначаецца, што да храма быў прыбудаваны драўляны прытвор. Кошт храма вызначаны ў 9 000 рублёў, кошт іканастаса ў 1 000 рублёў, а кошт званіцы ацэнены ў 100 рублёў. Да царкоўнай маёмасці належаў святарскі дом і гаспадарчыя пабудовы: хлеў, гумно, свіран, якія былі збудаваны ў 1902 годзе. Дом псаломшчыка быў меншы па памерах за святарскі і таксама ўзведзены ў 1902 годзе. У страхавым дакуменце пазнача-

ецца, што найбліжэйшым да царквы будынкам было памяшканне міністэрскага народнага вучылішча. Да царкоўнай нерухомай маёмасці належаў і будынак Карытнянскай царкоўна-прыходскай школы, ацэнены ў 750 рублёў[98].

У 1914 годзе прыхаджанка Накрышскай царквы Параскева Сцяцько ахвяравала ў храм ікону архістратыга Міхаіла на кіпарысавай дошцы[99]. Ікона захавалася і знаходзіцца ў алтары Накрышскай царквы. У тым самым 1914 годзе прыхаджане ахвяравалі 500 рублёў на рамонт царквы і агароджы вакол храма[100].

Айцец Канстанцін Гайдукоў быў апошнім дарэвалюцыйным святарам Накрышскай царквы, менавіта ён арганізоўваў эвакуацыю царкоўнай маёмасці ў Расію ў 1915 годзе. З царквы быў вывезены антымінс, богаслужбовае начынне, свяшчэнніцкія рызы і некалькі найбольш каштоўных ікон[101]. Астатнія іконы і начынне знаходзіліся падчас вайны, акупацыі і безуладдзя ў будынку царквы пад наглядам паноў Стравінскіх і тых прыхаджан, якія засталіся. Імя айца Канстанціна Гайдукова са згадкаю, што ён з'яўляецца свяшчэннікам-бежанцам з Гродзенскай губерні, пазначана ў спісах духавенства горада Вяткі за 1923 г.[102]. Цалкам верагодна, што недзе ў Вятцы могуць знаходзіцца вывезеныя іконы і антымінс Накрышскай царквы. Далейшыя сляды свяшчэнніка Канстанціна Гайдукова губляюцца ў віры падзей грамадзянскай вайны і чырвонага тэрору.

З 1915-га да 1918 года пэўнай інфармацыі пра стан прыхода і храма няма. Дакладна вядома, што значная частка прыхаджан пакінула свае селішчы і падалася ў бежанства, але шмат хто і застаўся. Паводле сведчанняў старажылаў накрышскага прыхода, перад ад'ездам свяшчэннік Канстанцін Гайдукоў перадаў ключы ад царквы набожнаму прыхаджаніну **Венядзікту Пуйта**, які быў чалавекам адукаваным і да вайны працаваў павятовым землямерам. Пакуль усе праваслаўныя свяшчэннікі былі ў бежанстве, ён адчыняў храм для агульнай малітвы прыхаджан і ўзначальваў яе. Акрамя таго, Венядзікт міранскім чынам здзяйсняў хрышчэнні нованароджаных і адпяванні памерлых. Уладальніца накрышскага маёнтка пані Стравін-

[98] Архіў Накрышскай царквы. Страховая ведомость недвижимого имущества Накрышской церкви 1910 г.

[99] Гродненские епархиальные ведомости. 1914. — № 8. — С. 10.

[100] Там сама. С. 10.

[101] Архіў Накрышскай царквы. Кліравая ведамасць за 1923 г.

[102] Духовенство Вятской губернии [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: http://urzhum-uezd.ortox.ru/dukhovenstvo_vjatskojj_gubernii:_imennye_bazy_dann/view/id/1191199. ЦГАКО. — Фонд 237. — Оп. 77. — Д. 285.







*Кайзераўскія войскі ўваходзяць у беларускую вёску*

ская, па ўспамінах старажылаў, пасля ад'езду свяшчэнніка і значнай часткі прыхаджан мела намер перарабіць Накрышскую царкву на касцёл і паступова перавесці на каталіцкую веру мясцовае праваслаўнае насельніцтва. Можна меркаваць, што супраць такіх планаў актыўна выступіў Венядзікт Пуйта, менавіта дзякуючы яму Накрышская царква засталася праваслаўным храмам.

Часткі кайзераўскіх войскаў перыядычна наведваліся ў Накрышкі. Непадалёк ад іх каля вёскі Жукоўшчына немцы ўзводзілі дадатковую лінію абароны і там кватаравалі. Таксама і каля вёскі Калпінскія кайзераўскія салдаты будавалі дарогу для ваенных патрэб. На пэўны час яны выкарысталі пад казарму дом накрышскага свяшчэнніка. Будынак быў моцна пашкоджаны. **Святар Андрэй Максімавіч Кучук**, які прыйшоў у Накрышскі прыход у 1918 годзе, сведчыў, што дом свяшчэнніка знаходзіцца ў паўразбураным стане і жыць там немагчыма. Калі айцец Андрэй приступіў да служэння, у рызніцы храма заставалася толькі адно старое святарскае аблачэнне[103].

[103] Архіў Накрышскай царквы. Кліравая ведамасць за 1923 г.

## Свяшчэннік Андрэй Максімавіч КУЧУК

**Гады служэння ў Накрышках:** 1918–1924.

Андрэй Кучук нарадзіўся 9 чэрвеня 1883 года ў вёсцы Палонка Ваўкавыскага павета. Напачатку адукацыю атрымаў у Ваўкавыскім павятовым вучылішчы, затым паступіў у Свіслацкую настаўніцкую семінарыю, якую скончыў у 1900 годзе. Пасля гэтага ён атрымаў настаўніцкае прызначэнне ў Слонімскі павет. У 1907 годзе прайшоў сельскагаспадарчыя курсы, а ў 1910 годзе паступіў і паспяхова скончыў Гродзенскія царкоўна-пеўчаскія курсы. Менавіта там на яго звярнула ўвагу Гродзенскае епархіяльнае начальства як на годную кандыдатуру ў свяшчэнніки. Напрыканцы 1910 года Андрэй Максімавіч быў рукапаложаны спачатку ў дыякана, а неўзабаве атрымаў іерэйскую хіратонію і прызначэнне ў Руда-Яварскую царкву.

У час Першай сусветнай вайны быў у бежанстве ў Калужскай губерні і часова залічаны ў штат Калужскай епархіі. Першапачаткова служыў у Георгіеўскай царкве вёскі Упозева, а потым у Свята-Мікольскім храме вёскі Міляціна.

Па вяртанні з бежанства ў 1918 годзе айцец Андрэй Кучук становіцца свяшчэннікам Накрышскай царквы. З той прычыны, што антымінс Накрышскай царквы быў вывезены, а атрымаць новы антымінс не было магчымасці, айцец Андрэй для служэння Літургіі скарыстаў антымінс Руда-Яварскай царквы. Застаўшы Накрышскі храм без належнага літургічнага начыння і аблачэнняў, ён паступова камплектуе царкоўную рызніцу ўсім самым неабходным для служэння[104]. За некалькі год адсутнасці святара новаму прыходскаму свяшчэнніку трэба было вырашыць цэлы шэраг арганізацыйных праблем і пытанняў, а таксама актыўна заняцца пастырскай працай з тымі людзьмі, якія доўгі час былі пазбаўлены духоўнай апекі. Але не толькі аднаўленнем літургічнага жыцця займаўся айцец Андрэй. Адной з першачарговых задач стала адкрыццё школ. У 1922 годзе ў прыходзе ўжо дзейнічалі 2 беларускамоўныя школы — у Накрышках і Карытніцы. Новая польская ўлада перавяла выкладанне на польскую мову[105]. За гады вайны царкоўная зямля прыйшла ў занядбанне. Акрамя таго, быў разбураны царкоўны млын у вёсцы Ганчары, зарос ставок, на якім млын стаяў. Такім чынам, прыход страціў істотную крыніцу даходу. Айцец Андрэй адзначае, што гадавы даход царквы складае 3 600 марак. У кліра-

104 Архіў Накрышскай царквы. Кліравая ведамасць за 1923 г.
105 Архіў Накрышскай царквы. Кліравая ведамасць за 1923 г.







*Старонка Кліравай ведамасці за 1923 год*

вай ведамасці, складзенай настаяцелем у 1922 годзе, даюцца звесткі адносна даходаў Накрышскай царквы ў даваенны час. Прыход атрымліваў 4% гадавога даходу ад 100-рублёвага білета дзяржаўнага банка (№ 5843), які захоўваўся ў Віленскім банку пад распіскаю № 3060. Дадаткова 7 рублёў 45 капеек прыход атрымліваў штогод ад казначэйства за царкоўную зямлю, якая перайшла ў дзяржаўнае ўладанне.

У 1924 годзе айца Андрэя Кучука епархіяльнае начальства прызначае спачатку другім свяшчэннікам у Слонім, потым настаяцелем у Вензавецкую царкву, а затым благачынным Быценскай акругі. Вядома, што ў далейшым айца Андрэя вельмі часта пераводзілі з храма ў храм: 1927 год — Дзевяткавічы, 1928 — Орля, 1931 — Кляшчэлі і потым Ляхавічы, 1932 — Рось, 1933 — Славацічы і потым Ятвеск, 1934 — вёска Радзівонішкі Лідскага благачыння[106]. Свяшчэннік Андрэй Кучук спачыў у 1936 годзе ў Вільні і быў пахаваны на пра-

106 Sosna Grzegorz. Hierarchia i kler kościoła prawosławnego w granicach II Rzeczypospolitej i Polski powojennej w XIX–XXI wieku. — Ryboły, 2012. — S. 453.

васлаўных могілках[107]. На жаль, магіла яго не захавалася, вядома толькі, што пахаваны быў адразу пры ўваходзе на могілкі.

Жонку свяшчэнніка звалі Вера Пятроўна, у сям'і на 1924 год было двое дзяцей: Віталь Андрэевіч Кучук[108], народжаны 23.06.1907 (у 1923-м студэнт Літоўскай духоўнай семінарыі), і Мікалай Андрэевіч Кучук, народжаны 22.04.1914.

Пасля пераводу айца Андрэя Кучука ў Быцень каля двух месяцаў абавязкі прыходскага свяшчэнніка Накрышскай царквы часова выконваў **іерэй Грыгорый Іларыёнавіч Крацюк**[109].

## Свяшчэннік Антоній Андрэевіч СОКАЛ-КУТЫЛОЎСКІ

**Гады служэння ў Накрышках:** 21.06.1924 — 5.04.1926.

Гэты настаяцель Накрышскага прыхода мае самую яскравую біяграфію, якая фактычна адлюстравала ўсё, што мог зведаць чалавек у XX стагоддзі. Антон Сокал-Кутылоўскі нарадзіўся ў 1892 годзе ў фальварку Драгацішча-Перавалокі Слуцкага павета Мінскай губерні ў шляхецкай сям'і. У 1910 годзе ён экстэрнам скончыў шостае рэальнае вучылішча ў Санкт-Пецярбургу і паступіў у інжынерна-будаўнічы пададдзел Пецярбургскага палітэхнікума імя Пятра Вялікага, дзе навучаўся на працягу чатырох год.

У 1914 годзе пасля пачатку Першай сусветнай вайны Антон Сокал-Кутылоўскі паступіў у Казанскую ваенную вучэльню, якую скончыў у 1916 годзе, накіраваны на фронт. Ваяваць яму давялося на тэрыторыі Галіцыі і сучаснай Літвы. За вайсковую адвагу быў узнагароджаны салдацкім Георгіеўскім крыжам. Пасля кастрычніцкага перавароту ваяваў супраць чырвоных у арміях Юдзеніча і Дзянікіна. Летам 1920 года здолеў вярнуцца на Случчыну і далучыўся да вайсковых фарміраванняў Слуцкага збройнага чыну, якія змагаліся супраць Чырвонай арміі. Праз некаторы час ён узначаліў вайсковую брыгаду і правёў некалькі паспяховых ваенных аперацый

[107] Савицкий Лев, священник. Православное кладбище гор. Вильно: К столетию кладбищенской церкви св. Евфросинии: 1838–1938 гг. // Священник Лев Савицкий. — Вильно, 1938. — С. 47.

[108] У 1927 г. быў псаломшчыкам у Міроніме Слонімскага павета. У 1933 г. займае пасаду псаломшчыка ў царкве в. Ятвезь Шчучынскага павета. У наступным годзе пераведзены ў прыход Чэрэшскай царквы Друйскага благачыння, а ў 1936-м — у прыход в. Пліса Глыбоцкага благачыння. Біяграфічныя дадзеныя прыводзяцца згодна з кнігай: Sosna Grzegorz. Hierarchia i kler kościoła prawosławnego w granicach II Rzeczypospolitej i Polski powojennej w XIX–XXI wieku. — Ryboły, 2012. — S. 453.

[109] Sosna Grzegorz. Hierarchia i kler kościoła prawosławnego w granicach II Rzeczypospolitej i Polski powojennej w XIX–XXI wieku. — Ryboły, 2012. — S. 440.







*А. Антоній Сокал-Кутылоўскі ў студэнцкія гады*

супраць бальшавіцкіх частак, але паўнавартасна супрацьстаяць ворагу магчымасці не было, таму ў 1921 годзе прымае рашэнне перайсці з падначаленымі яму вайскоўцамі савецка-польскую мяжу. Польскія ўлады абяззброілі беларускіх вайскоўцаў і адправілі ўсіх у канцэнтрацыйны лагер, дзе яны мусілі правесці некалькі месяцаў.

Пасля вызвалення Антон Андрэевіч атрымлівае прапанову епіскапа Панцеляімана (Ражноўскага) прыняць свяшчэнніцкі сан. У той час адчуваўся востры недахоп святароў з-за таго, што далёка не ўсе праваслаўныя свяшчэннікі здолелі вярнуцца на Радзіму з вымушанага бежанства ў Расію. Такая прапанова была тым больш магчымай з той нагоды, што Сокал-Кутылоўскі ажаніўся з дачкой свяшчэнніка Канстанціна Ясінскага[110] — Аляксандры. 24 чэрвеня

[110] Служыў у Дзяляціцкай царкве і ў царкве в. Рубяжэвічы Стаўбцоўскага павета. Памёр 22.10.1926. Дадзеныя прыводзяцца па кнізе: Sosna Grzegorz. Hierarchia i kler kościoła prawosławnego w granicach II Rzeczypospolitej i Polski powojennej w XIX–XXI wieku. — Ryboły, 2012. — S. 337.

1921 года Праасвяшчэннейшы Панцеляіман (Ражноўскі)[111] рукапалагае Антонія Сокал-Кутылоўскага ў сан дыякана, а праз тры дні — у сан святара. Першапачаткова айцец Антоній быў прызначаны другім святаром Навагрудскага Мікалаеўскага сабора, але з-за адсутнасці кватэры ён падае прашэнне пра перавод у іншае месца. Спачатку служыць у храме вёскі Жалязніца Пінскага павета, а потым у храме вёскі Быхаў таго ж самага павета. У 1922 годзе ў

[111] Мітрапаліт Панцеляіман (Павел Сцяпанавіч Ражноўскі, 1867–1950) — епіскап Рускай Праваслаўнай Царквы, з восені 1942-га — мітрапаліт Мінскі і Беларускі. З 1946 г. увайшоў у клір Рускай Праваслаўнай Царквы за граніцай. Памёр у 1950 г.





айца Антонія нараджаецца сын Леанід. Пасля выхаду за штат па старасці ў 1923-м протаіерэя Канстанціна Ясінскага, айцец Антоній пераводзіцца ў Дзяляціцкую царкву Навагрудскага павета, дзе служыў яго цесць. 21 чэрвеня 1924 года Праасвяшчэннейшым Аляксіем (Грамадскім)[112] айцец Антоній быў прызначаны настаяцелем Накрышскага прыхода.

[112] Мітрапаліт Аляксій (Грамадскі). Гады жыцця: 1882–1943. У 1922 г. рукапалажаны ў епіскапа Луцкага, вікарыя Валынскай епархіі. У тым жа годзе прызначаны правячым епіскапам Гродзенскай епархіі. У 1923 г. абіраецца ў Сінод Польскай Праваслаўнай Царквы і становіцца Кіруючым справамі Свяшчэннага Сінода. У 1928 г. узводзіцца ў сан архіепіскапа. У 1934 г. прызначаецца на Валынскую кафедру. З пачаткам Другой сусветнай вайны ўзначальвае Украінскую аўтаномную царкву. У 1943-м забіты ОУН.




*Магіла А. Сокал-Кутылоўскага*

У першую чаргу новапрызначанаму настаяцелю трэба было зрабіць рамонт напаўразбуранага святарскага дома і гаспадарчых пабудоў. Пры гэтым айцу Антонію не хапала ні будаўнічых матэрыялаў, ні грошай. Тым не менш святарскі дом за нядоўгі перыяд служэння ў Накрышках свяшчэнніка Антонія Сокал-Кутылоўскага быў адрамантаваны.

Падчас яго настаяцельства на тэрыторыі прыхода дзейнічалі 2 школы: у Накрышках і Карытніцы. Выкладанне вялося на польскай мове. Але пры самым актыўным удзеле айца Антонія ў вёсцы Хвінявічы, нягледзячы на супрацьдзеянне польскіх улад, была адкрыта прыватная беларускамоўная школа[113].

У кліравай ведамасці за 1924 год, складзенай айцом Антоніем, прыводзяцца звесткі пра насельніцтва Накрышскага прыхода. Прыхаджане пражывалі ў 19 вёсках, размяшчаліся ў 574-х дамах. Мужчынскае насельніцтва складала 1 664 чалавекі, а жаночае — 1 738[114].

Па стане на 1922 год Накрышскі прыход валодаў 59 дзесяцінамі 942 сажанямі зямлі, якія за год давалі 200 злотых даходу. Зямля была пясчанай і па большай частцы непрыгоднай для сельскагаспадарчага выкарыстання. Гадавы талеркавы даход складаў 820 злотых.

Царкоўным старастам у 1924 годзе быў **Іван Фёдаравіч Конан**.

Шырокі розгалас у свой час атрымалі тыя абставіны, з-за якіх айцец Антоній Сокал-Кутылоўскі быў пераведзены з Накрышскага

113 Архіў Накрышскай царквы. Кліравая ведамасць за 1927 г.
114 Архіў Накрышскай царквы. Кліравая ведамасць за 1924 г.





прыхода ў прыход вёскі Казлоўшчына. Прыхаджане Казлоўшчынскай царквы не прынялі свяшчэнніка Мікалая Баталіна, які з пагардай выказваўся пра беларускую мову. Узнік востры канфлікт, і царкоўныя ўлады, ведаючы пра прыхільнасць айца Антонія да беларушчыны, перавялі яго ў Казлоўшчынскі прыход, каб залагодзіць сітуацыю супрацьстаяння. Падрабязна пра гэтую падзею і яе перадгісторыю напісаў у сваёй кнізе Сяргей Хмара[115].

У 1929 годзе свяшчэннік Антоній Сокал-Кутылоўскі быў прызначаны Дзятлаўскім благачынным і займаў гэтую пасаду да 1932 года. Далейшае служэнне адбывалася ў царкве вёскі Лісіца Нясвіжскага павета, у Ляхавіцкай царкве, верагодна, апошнім месцам святарскага служэння стала царква ў вёсцы Вострава Слонімскага павета[116].

У 1939 годзе пасля прыходу савецкіх войск свяшчэннік Антоній Сокал-Кутылоўскі пакідае святарскае служэнне і пераязджае ў Баранавічы. Напярэдадні вайны ён быў арыштаваны і ўтрымліваўся ў Баранавіцкай турме ў камеры смяротнікаў. Пасля прыходу немцаў вызвалены, але да святарскага служэння не вярнуўся. Працаваў інспектарам беларускамоўных школ у Ганцавіцкай акрузе. У 1944 годзе ён з’язджае ў Нямеччыну. Там далучаецца да беларускіх вайско-

115 Хмара, С. Рабінавы хмель / С. Хмара. — Мінск, 2009. — С. 136–137. «У 1924 г. намовілі святара Казлоўшчынскага праваслаўнага прыхода Катовіча з амбона заклікаць сялян, каб намагаліся беларускіх школ і пускалі моладзь у беларускія арганізацыі. Польскія ўлады пастанавілі яго за гэта выселіць з Польшчы ў Гданьск. Выклікала гэта вялікае абурэнне. Баючыся, што нашая партызанка яго адаб’е, бо такія хадзілі чуткі сярод сялян, а нашыя партызаны і ўзапраўду хацелі гэта зрабіць, польскія ўлады прыслалі арыштаваць і вывесці з Казлоўшчыны святара цэлы швадрон кавалерыі. Гэтак і вывезлі яго ў суправаджэнні двухсот вершнікаў і паліцыі. Вызначылі новага святара, былога белагвардзейскага афіцэра Баталіна, які адразу пачаў выступаць з казаннямі аб бандытах і іхных супольніках ды камуністах, што выдумалі нейкую беларускую мову. Намаўляў выдаваць прычасных да партызанкі паліцыі й наогул слухацца ўлады. З сялянамі паступаў, як з быдлам. Калі нешта хто меў да яго, не пушчаў на плябаню, мусілі чакаць на панадворку. За шлюб гроб карову…

Вернікі звярнуліся да нас, асабіста да мяне, каб дапамаглі. З маёй ініцыятывы заклалі Камітэт Беларусізацыі Царквы. Пайшлі да святара ў нядзелю перад службаю і ад імя камітэта й парафіян зажадалі беларускіх казанняў у царкве. Абзываючы нас бандытамі і камуністамі, выгнаў з плябані. У царкве, калі пачаў расейскае казанне з выкрыкамі аб бандытах і камуністах і нашым камітэце, з народу адазваліся выгукі: “Прэч расейскага правакатара, гавары па-беларуску!”. І ўсёй масай вернікі выйшлі з царквы й тут жа на пагосце зрабілі веча, прыняўшы рэзалюцыю з патрабаваннем выдалення папа-правакатара й беларусізацыі царквы. Пакуль поп паведаміў паліцыю, веча разышлося. Рэзалюцыя й апісанне падзей паслалі да кансісторыі ў Горадні і да віленскіх беларускіх і польскіх газет. Зрабіўся гук у прэсе. Перадрукавала і варшаўская. Кожную нядзелю рабіліся дэманстрацыі ў царкве й пры царкве. Паліцыя не памагала. Кансісторыя была змушаная зняць Баталіна і прыслаць нам беларуса. Гэта быў Сокал-Кутылоўскі. Кутылоўскі, былы камандуючы Слуцкай Паўстанцкай Брыгадай. Царква была беларусізавана. З амбона пачало заклікацца аб патрэбе складання дэкларацыяў за беларускую школу і іншае».

116 Sosna Grzegorz. Hierarchia i kler kościoła prawosławnego w granicach II Rzeczypospolitej i Polski powojennej w XIX–XXI wieku. Ryboły, 2012. S. 337.

вых фарміраванняў, якія ваявалі на баку немцаў, становіцца адным з камандзіраў і пераводзіць сваю вайсковую частку ў амерыканскі палон. Амерыканцы перадаюць палонных Савецкаму Саюзу. Антон Сокал-Кутылоўскі быў арыштаваны і асуджаны да 25 год зняволення. Выпусцілі па амністыі ў лістападзе 1957 года. Нейкі час пасля вызвалення Сокал-Кутылоўскі пражываў у стрыечнай сястры ў Ганцавічах. Потым ён выехаў на сталае жыхарства ў Шчэцін (Польшча), дзе жыла дачка. Памёр у 1983 годзе і пахаваны на Цэнтральных могілках Шчэціна (Cmentarz Centralny, nr. kwatery 72b, rzad 13, nr. grobu 6).

## Свяшчэннік Мікалай БАТАЛІН

**Гады служэння ў Накрышках:** 5.04.1926 — 3.01.1931.

Айцец Мікалай Баталін, як і папярэдні настаяцель Накрышскай царквы, у мінулым быў афіцэрам імператарскай арміі, а пасля рэвалюцыі —белагвардзейцам. Верагодна, асобу айца Мікалая Баталіна можна атаясаміць з Баталіным Мікалаем Сямёнавічам, выпускніком Калужскай семінарыі і студэнтам Санкт-Пецярбургскай духоўнай акадэміі з 1911-га. У 1914 годзе, на чацвёртым курсе акадэміі, ён запісваецца дабравольцам на фронт і паступае ў школу прапаршчыкаў









*Вянчанне ў Накрышскай царкве. Фота канца 20-х гадоў XX ст.*

у Арыенбауме[117]. Можна меркаваць, што далейшая служба Мікалая праходзіла ў 319-м пяхотным Бугульмінскім палку. У баі на рацэ Прут каля вёскі Садзаўка 23 мая 1915 года ён быў паранены. Пасля лячэння працягнуў службу і 31 жніўня 1916 года быў узнагароджаны ордэнам св. Ганны IV ступені «За храбрость»[118].

Пасля рэвалюцыі ён далучыўся да белага руху і ваяваў на франтах грамадзянскай вайны. Калі белы рух пацярпеў паразу Мікалай Баталін апынуўся на тэрыторыі Заходняй Беларусі і стаў святаром. Да прызначэння ў Накрышкі служыў у цэрквах вёсак Харобравічы і Казлоўшчына Дзятлаўскага благачыння. Айцец Мікалай Баталін стаяў на пазіцыях рускага манархізму[119] і крайне варожа ставіўся да беларускага нацыянальнага руху, падазраваў яго ўдзельнікаў у камунізме. На гэтай глебе ўзнік востры канфлікт з прыхаджанамі вёскі Казлоўшчына. У выніку айцец Мікалай у 1926 годзе быў пераведзены ў прыход Накрышскай царквы.

[117] Чернова (Мартынова), А. И. Наставники, студенты и выпускники Петроградских духовных школ на полях сражений Первой мировой войны (Биографический список) [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: https://cyberleninka.ru/article/n/nastavniki-studenty-i-vypuskniki-petrogradskih-duhovnyh-shkol-na-polyah-srazheniy-pervoy-mirovoy-voyny-biograficheskiy-spisok.

[118] Дадзеныя прыводзяцца згодна інфармацыі партала «Памяти героев великой войны» [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: https://gwar.mil.ru.

[119] Grzegorz Sosna. Kościół prawosławny na Białostocczyźnie w ocenie władz II Rzeczypospolitej: sytuacyjne sprawozdania Urzędu Wojewódzkiego w Białymstoku z lat 1928–1939: wybór dokumentów. Urząd Wojewódzki w Białymstoku, 1991. — S. 59.

На жаль, мы маем толькі фрагментарныя сведчанні пра дзейнасць свяшчэнніка ў Накрышскім прыходзе. Царкоўныя старажылы ўзгадвалі, што яго адносіны з прыхаджанамі былі складанымі і характарызаваліся ўзаемным недаверам. Свяшчэннік дыстанцыраваўся ад простых людзей і сябраваў з панам Стравінскім. Часта вячэраў у панскім доме і гуляў там у карты. Прыхаджане падазравалі, што ён паведамляе пану тое, што людзі адкрывалі яму ў прыватных размовах ці нават на споведзі. Верагодна, група прыхаджан накіравала пісьмо-скаргу на настаяцеля да епархіяльнага начальства. У выніку ў студзені 1931 года свяшчэннік Мікалай Баталін быў пераведзены на служэнне ў царкву вёскі Галынка. Але пасля некалькіх месяцаў знаходжання там пачаў хадайнічаць перад епіскапам, каб вярнуцца да служэння ў Накрышскай царкве. Просьба свяшчэнніка была задаволена, але прыхаджане не захацелі прымаць былога настаяцеля. Таму епархіяльнае начальства прызначыла ў Накрышскі прыход протаіерэя Дзімітрыя Гладкова. Такі паварот справы быў нечаканасцю для айца Мікалая. Калі новы свяшчэннік прыехаў у царкву, то айцец Мікалай не захацеў перадаваць справы. У царкве сабраліся прыхаджане, і айцец Мікалай звярнуўся да людзей з прапановай, каб яны вырашылі, хто будзе іх свяшчэннікам. Людзі падтрымалі протаіерэя Дзімітрыя Гладкова. Айцец Мікалай Баталін быў вымушаны пакінуць Накрышскі прыход[120].

Далейшае служэнне протаіерэя Баталіна праходзіла ў Навагрудку, Індуры, Друзгеніках, Беластоку. Апошнім месцам служэння айца Мікалая стаў польскі Эльблонг, дзе ён памёр у 1951 годзе і быў пахаваны[121]. Жонку айца Мікалая Баталіна звалі Любоў, яна пры сваім мужу амаль на ўсіх прыходах выконвала абавязкі псаломшчыцы[122].

Пасля пераводу айца Мікалая Баталіна ў Галынку на працягу трох месяцаў з 3 студзеня 1931 года па 28 красавіка 1931 года ў Накрышскай царкве служыў **протаіерэй Васілій Бекарэвіч** (1859 г.н.), які да гэтага быў настаяцелем Галынкаўскай царквы. Пасля Накрышак айцец Васілій атрымаў прызначэнне ў Наваельню і там у 1937 годзе памёр[123].

[120] З успамінаў жыхаркі в. Накрышкі Я. М. Анюкевіч.

[121] Prawoslawie w Polsce. — Białystok : Orthdruk, 2000. — S. 93.

[122] Sosna Grzegorz. Hierarchia i kler kościoła prawosławnego w granicach II Rzeczypospolitej i Polski powojennej w XIX–XXI wieku. — Ryboły, 2012. — S. 99.

[123] Sosna Grzegorz. Hierarchia i kler kościoła prawosławnego w granicach II Rzeczypospolitej i Polski powojennej w XIX–XXI wieku. — Ryboły, 2012. — S. 102.





## Протаіерэй Дзімітрый Ільіч ГЛАДКОЎ

**Гады служэння ў Накрышках:** 15.08.1931 — 1958.



*Айцец Дз. Гладкоў, Пётр Рак (у цэнтры), а. Андрэй Зенюк з прыхаджанамі Накрышскай царквы*

Протаіерэй Дзімітрый Гладкоў нарадзіўся 21 верасня 1875 года ў вёсцы Воля Косаўскага павета. У 1895 годзе скончыў Мінскую духоўную семінарыю па другім разрадзе. На працягу 5 гадоў праходзіў служэнне псаломшчыкам пры розных цэрквах Пінскага павета. 4 мая 1900 года епіскапам Мінскім і Тураўскім Міхаілам[124] Дзімітрый Гладкоў быў рукапаложаны ў сан свяшчэнніка і прызначаны настаяцелем царквы вёскі Азарычы Пінскага павета. Згодна з уласным прашэннем 20 лістапада 1905 года быў перамешчаны ў прыход вёскі Сваротва Навагрудскага павета. У 1906 годзе ўзнагароджаны набедранікам, а ў 1912 — скуф'ёй.

У 1913 годзе айцец Дзімітрый перажывае цяжкае жыццёвае выпрабаванне — памірае яго жонка Соф'я Сцяпанаўна Гладкова (Сулакоўская). На руках у святара застаюцца пяцёра малых дзяцей: Міхаіл

[124] Архіепіскап Міхаіл (Цемнарусаў). Гады жыцця: 26 мая 1854 г. — 29 мая 1912 г. З 1895 г. — рэктар Магілёўскай духоўнай семінарыі. 6 жніўня 1897 г. хіратанісаны ў епіскапа Ковенскага, вікарыя Літоўскай епархіі. З 22 верасня 1899 г. епіскап Мінскі і Тураўскі. У 1911 г. узведзены ў сан архіепіскапа.



*Айцец Дз. Гладкоў. г. Уфа, 1917 г.*



*Духавенства Дзятлаўскага благачыння з сем'ямі*



ГІСТОРЫЯ НАКРЫШСКАЙ ЦАРКВЫ Ў БІЯГРАФІЯХ ЯЕ НАСТАЯЦЕЛЯЎ




*Епіскап А. Уфімскі, князь Ухтомскі*



*Магілы а. Дз. Гладкова, яго сына і нявесткі*

*Протаіерэй Дз. Гладкоў з дачкой Таісіяй і зяцем А. Зенюком*

(29.08.1904), Таццяна (7.08.1906), Яўгенія (1907), Таісія (28.10.1908), Дзімітрый (3.10.1911).

У жніўні 1915 года набліжаўся фронт, і айцец Дзімітрый з дзецьмі вымушаны быў ехаць у бежанства ў горад Уфу. Там з 6 верасня 1915-га да кастрычніка 1921 года ён быў настаяцелем Прадцечанскай царквы. Цёплыя і даверлівыя адносіны склаліся ў айца Дзі-





*Прашэнне протаіерэя Дзімітрыя Гладкова*

*Т. Гладкова, унучка а. Дзмітрыя. 2008 г.*



Актъ

1942 года, августа 19 дня. Прихожане Накрышской церкви, по предложенiю местнаго настоятеля церкви, избрали открытымъ голосованiемъ от прихода выборщика для избранiя на благочинническомъ собранiи делегатов от благочинiя на Соборъ Белорусской церкви, который состоится въ г. Минскъ 29го августа; при чемъ единогласно избранъ былъ выборщикомъ гражданинъ д. Хвиневичи Алексей Стецко.

О чемъ и записанъ настоящий актъ за подписями членовъ причта и уполномоченнаго для подписи Петра Рака.

Протоiерей Дмитрий Гладковъ

Псаломщикъ А. [illegible]

и, по уполномочию от прихожан, П. Рак

*Акт ад 19 жніўня 1942 г.*

мітрыя з епіскапам Уфімскім Андрэем, князем Ухтомскім[125]. Захавалася фатаграфія з дароўным уласнаручным подпісам епіскапа Андрэя: «Отцу Дмитрию. Возлюбленному о Господе, брату, сомолитвеннику и помощнику, столько меня удивившему, на добрую память. Еп. Андрей 8 августа 1917 года». У 1918 годзе епіскап Андрэй узнагародзіў айца Дзімітрыя правам нашэння камілаўкі.

[125] Архіепіскап Андрэй (князь Ухтомскі). Гады жыцця: 26 снежня 1872 г. — 4 верасня 1937 г. Прадстаўнік княжага роду, які ўзыходзіць да князя Рурыка. 4 кастрычніка 1907 г. рукапаложаны ў епіскапа Мамадышскага, вікарыя Казанскай епархіі. 25 ліпеня 1911 г. прызначаны епіскапам Сухумскім. З 22 снежня 1913 г. — епіскап Уфімскі і Мензелінскі. Актыўны ўдзельнік Памеснага Сабору РПЦ 1917–1918 гг. У 1918 г. уваходзіць у склад Сібірскага Часовага Вышэйшага царкоўнага кіравання, узначальвае духавенства 3-й арміі Калчака. За падтрымку белага руху арыштоўваецца і пасля прызнання савецкай улады напрыканцы 1926 г. вяртаецца на Уфімскую кафедру. Архіепіскапа Андрэя шматкроць арыштоўвалі і ссылалі. Ён адмовіўся прызнаваць паўнамоцтвы мітрапаліта Сергія (Страгародскага) і абвесціў сваю епархію аўтакефальнай. Арганізоўвае шэраг тайных архірэйскіх хіратаній і стварае інфраструктуру т.зв. «катакомбнай царквы». 3 верасня 1937 г. тройка НКУС па Яраслаўскай вобласці прыгаварыла архіепіскапа Андрэя да расстрэлу. На наступны дзень прысуд быў выкананы. Кананізаваны Рускай Праваслаўнай Замежнай Царквой.



ГІСТОРЫЯ НАКРЫШСКАЙ ЦАРКВЫ Ў БІЯГРАФІЯХ ЯЕ НАСТАЯЦЕЛЯЎ

Несумненна, што ўфімскі перыяд біяграфіі айца Дзімітрыя быў адным са складаных. Цяжкасці бежанства, рэвалюцыя, грамадзянская вайна, чырвоны тэрор, голад, пошасці — усё гэта чорнаю хмараю вісела над жыццём айца Дзімітрыя і яго дзяцей. Унучка айца Дзімітрыя — Таццяна Дзімітраўна Гладкова — так распавядала пра гэты перыяд жыцця сям'і: «У 1915 годзе ўсім свяшчэннікам было загадана пакінуць свае цэрквы і дамы і з'ехаць у Расію. Зборы ў дарогу былі надта паспешлівымі. Узялі толькі тое, што можна было несці ў руках, згрузілі гэткі небагаты пажытак на воз і накіраваліся ў Стоўбцы да чыгуначнай станцыі. Там сям'ю свяшчэнніка пасадзілі ў перапоўнены людзьмі вагон і паведамілі, што месцам жыхарства ў бежанстве будзе далёкая і невядомая Башкірыя, а менавіта горад Уфа.

З дапамогаю мясцовых свяшчэннікаў і простых людзей побыт сям'і быў хутка наладжаны. Самаадданасць у служэнні і шчырасць айца Дзімітрыя выклікалі вялікую павагу да яго і з боку епіскапа, і з боку духавенства, і з боку прыхаджан. Але пасля рэвалюцыйных падзей і пачатку грамадзянскай вайны ў горадзе пачаўся моцны голад. Ад смерці майго дзядулю і яго дзяцей, у тым ліку і майго бацьку, уратавалі прыхаджане, якія літаральна дзяліліся са свяшчэннікам і яго дзецьмі апошнім кавалкам хлеба. Акрамя голаду ў горадзе пачала бушаваць халера. Зімою салдаты складалі памерлых штабелямі, потым падганялі вагоны, грузілі туды трупы і некуды звозілі. Нягледзячы на небяспеку заразіцца, айцец Дзімітрый сам штодзень ішоў да хворых, спавядаў іх і прычашчаў тых, хто паміраў. Неўзабаве з-за адсутнасці чыстай вады на халеру захварэла малодшая дачка айца Дзімітрыя — Таісія, але Бог злітаваўся. Усе дзеці засталіся жывымі»[126].

Палітыка так званага «чырвонага тэрору» здзейсніла самыя жудасныя злачынствы ў дачыненні да многіх жыхароў Уфы. Верагоднасць таго, што айца Дзімітрыя могуць забіць ці арыштаваць, была надзвычай вялікай. Дзеці ў такім выпадку засталіся б круглымі сіротамі. У тыя дні амаль звычайнай справай сталі здзекі над святарамі, арышты, вулічныя расстрэлы і казні без суда і следства. «Па дарозе з царквы дадому, — узгадвае Таццяна Гладкова аповеды свайго дзядулі, — айца Дзімітрыя неаднойчы спынялі так званыя "ахоўнікі грамадзянскага парадку", чынілі здзекі, пагражалі смер-

[126] Успаміны Т. Дз. Гладковай запісаны протаіерэем Георгіем Роем у 2009 г.

цю і прыстаўлялі да скроні рулю пісталета. Але Гасподзь захоўваў яго жыццё. Калі таты доўга не было дома, дзеці, пабраўшыся за рукі, ішлі шукаць яго, і гэта неаднойчы ратавала айца Дзімітрыя ад расправы. Нават у зачарсцвелых ад жорсткасці камісараў рука не падымалася забіць бацьку пяцёх малых напаўраздзетых дзяцей». Ратуючыся ад таго камуністычнага тэрору, голаду ды пошасці, айцец Дзімітрый прымае рашэнне вярнуцца на Радзіму. Развітваючыся са сваім пастырам, удзячныя прыхаджане Прадцечанскага храма Уфы напісалі напоўнены цёплымі пачуццямі памятны ліст. Дарога на Радзіму была надзвычай цяжкай і небяспечнай, але Гасподзь дапамог айцу Дзімітрыю і дзецям даехаць да пакінутага дома ў в. Сваротва Навагрудскага павета.

Указам епіскапа ад 8 лістапада 1921 года айцец Дзімітрый Гладкоў ізноў быў зацверджаны настаяцелям Сваротваўскай царквы. 20 чэрвеня 1921 года, згодна з паданым прашэннем, іерэй Дзімітрый Гладкоў пераведзены на месца настаяцеля царквы вёскі Поўбераг. У 1924 годзе ён быў узнагароджаны залатым святарскім крыжам. 10 чэрвеня 1925 года айцец Дзімітрый атрымаў польскае грамадзянства. 1 чэрвеня 1926 года ён быў пераведзены на пасаду настаяцеля царквы ў вёсцы Валеўка. 16 лістапада 1929 атрымаў прызначэнне ў царкву вёскі Дунайчыцы Нясвіжскага павета. 1 лютага 1930 года адбылося яшчэ адно перамяшчэнне — царква вёскі Ястржэмбель Баранавіцкага павета. 20 мая 1931 года айцец Дзімітрый быў узведзены ў сан протаіерэя.

15 жніўня 1931 года протаіерэй Дзімітрый Гладкоў атрымлівае прызначэнне на пасаду настаяцеля ў вёсцы Накрышкі Слонімскага павета. Прамысленнем Божым было наканавана, каб айцец Дзімітрый праслужыў у гэтай царкве 27 гадоў — да апошніх дзён свайго жыцця, і быў пахаваны за алтаром. Ён адзіны з усіх настаяцеляў Накрышскай царквы, які пахаваны каля яе сцен.

Часы яго настаяцельства ў Накрышках гэта, несумненна, важны, складаны і насычаны падзеямі перыяд у гісторыі прыхода. Гасподзь паслаў мудрага і мужнага пастыра Накрышскаму храму на час польскага панавання, Другой сусветнай вайны і на наступныя гады праўлення багаборчай савецкай улады.

У польскі перыяд з 1931-га да 1939 года айцец Дзімітрый актыўна займаўся ўладкаваннем унутранага жыцця прыхода і рэлігійнай адукацыяй моладзі. Надзейным памочнікам настаяцеля быў псаломшчык **Андрэй Зянюк**, які потым стаў яго зяцем, узяўшы замуж Таісію Гладкову.





У перыяд настаяцельства айца Дзімітрыя на тэрыторыі прыхода дзейнічалі 7 школ: у Накрышках, Калпінскіх, Дубраўцы, Карытніцы, Пушчы Ліпічанскай, Хвіневічах і ў Пацаўшчыне. Агульная колькасць вучняў гэтых школ складала 413 чалавек.

Згодна статыстычнай інфармацыі аб жыцці прыхода за 1938 год, Таінства споведзі з агульнага ліку прыхаджан прайшлі 1 519 чалавек. У справаздачы адзначаецца таксама, што агульная сума царкоўных даходаў складала 754 злотых і 85 грошы. Свяшчэннік за год здзейсніў 95 хрышчэнняў, 41 вянчанне і 52 пахаванні. Штогадова царква плаціла дзяржаўных і царкоўных падаткаў на сумму 605 злотых[127].

Айцец Дзімітрый актыўна ўдзельнічаў у жыцці Дзятлаўскага благачыння і Гродзенскай праваслаўнай епархіі. Захаваўся, напрыклад, яго рапарт пра немэтазгоднасць адкрыцця ў Гродна царкоўна-пеўчаскага вучылішча, у якім прыводзіць шэраг слушных і абгрунтаваных аргументаў. Важнай падзеяй перадваеннага жыцця прыхода стаў прыезд у Накрышкі на свята дабраверных князёў Барыса і Глеба 6 жніўня 1936 года тагачаснага ўпраўляючага Гродзенскай епархіі Праасвяшчэннейшага Антонія (Марцэнкі)[128].

Падчас Вялікай Айчыннай вайны, каб ўратаваць моладзь ад прымусовых прац у Нямеччыне, айцец Дзімітрый і Андрэй Зянюк пачынаюць маштабны рамонт. Справа ў тым, што немцы не забіралі тых, хто працаваў у царкве. У час рамонту былі дэманціраваны муравання хоры, а замест іх зроблены і ўсталяваны драўляныя. На даху заменены ўсе крокввы, а сам дах пакрыты гонтай. Для выканання гэтых прац былі прыцягнуты каля 20 маладых людзей. Андрэй Зянюк літаральна вывеў хлопцаў з барака, куды яны ўсе былі сагнаны для далейшай перасылкі ў Германію.

Накрышкі знаходзяцца на ўскрайку Ліпічанскай пушчы, якая падчас вайны стала адным з цэнтраў партызанскага руху, а значыць, і тэрыторыяй асаблівай увагі акупацыйнага рэжыму. Немцы ў раёнах базіравання партызанскіх атрадаў знішчалі ўсё і ўсіх. Праз гэта акупанты імкнуліся пазбавіць партызан якой-кольвек падтрымкі ад мясцовага насельніцтва. Ворагі палілі вёскі разам з жыхарамі, праводзілі масавыя расстрэлы, забіралі ў людзей дамашнюю скаціну. Накрышскаму настаяцелю і царкоўнаму псаломшчыку неаднаразова даводзілася ўпрошваць немцаў адмяніць загады пра пакаранне тых ці іншых людзей ці нават цэлых вёсак. Тым не менш карныя

127 Архіў Накрышскай царквы. Wykazy parafjalny za 1938 г.

128 Архіў Накрышскай царквы. Wykazy parafjalny za 1938 г.

аперацыі ў 1942 і ў 1943 гадах закранулі вёску Дубраўка і шматлікія хутары ў Ліпічанскай пушчы. У 1943 годзе пагроза смерці вісела і над іншымі вёскамі прыхода. У тыя дні прыхаджане сабраліся ў храме і горача малілі Госпада і Прасвятую Багародзіцу пра збаўленне ад смерці. Абшчына Накрышскай царквы дала такі зарок: за суткі мужчыны павінны былі зрабіць паклонны Крыж з дубу, а жанчыны саткаць ручнік, каб аздобіць новы Крыж. Абяцанне, дадзенае ў царкве, было выканана і з левага боку ад увахода ў храм усталяваны Крыж, які быў упрыгожаны тканым ручніком. Людзі з глыбокаю вераю спадзяваліся, што Гасподзь уратуе іх сілаю Свайго Пачэснага і Жыватворчага Крыжа. Так і адбылося, карнікі не кранулі іншых вёсак прыхода. І з таго дня і да нашага часу штогод у чацвёрты дзень Святой Пасхі служыцца ўрачыстая Літургія, пасля якой прыхаджане збіраюцца каля паклоннага Крыжа і ўзносяць Богу малітвы падзякі за сваё ўратаванне.

Бяда не абышла сям'ю айца Дзімітрыя. Падчас вайны загінулі яго сын і нявестка — Дзімітрый Дзімітрыевіч Гладкоў і Вера Гладкова. Пра смерць Дзімітрыя ёсць дзве версіі. Першая, заснаваная на дакуменце аб смерці, гаворыць пра тое, што яго забілі немцы. Другая заснавана на сведчанні мясцовых старажылаў, якія казалі, што сына святара нібыта забілі яўрэйскія партызаны. Малады чалавек працаваў на чыгунцы інжынерам. Немцы прыцягвалі да работ вязняў яўрэйскага гета. Дзімітрый кіраваў іх працай, і гэта было расцэнена як прыгнёт зняволеных. Хтосьці з вязняў перадаў інфармацыю ў лес яўрэйскаму партызанскаму атраду. Акрамя таго, канфлікт абвастрыўся таксама па прычыне штодзённых наведванняў яўрэйскімі партызанамі дома святара з патрабаваннямі даць ім прадуктаў. Дачка айца Дзімітрыя Яўгенія паскардзілася на гэта савецкім партызанам. Магчыма, гэта справакавала нейкі канфлікт паміж партызанскімі групоўкамі. У адзін з вечароў за Дзімітрыем дахаты прыйшлі савецкія партызаны і запрасілі на размову. Магчыма, яны хацелі атрымаць нейкую інфармацыю пра чыгунку, але ён заўсёды адмаўляўся што-кольвек гаварыць, бо баяўся помсты з боку немцаў. Потым, па сведчанні савецкіх партызан, яны адпусцілі яго дадому, а па дарозе ён спаткаў яўрэйскіх партызан, якія нібыта і забілі. Пра смерць сына айцу Дзімітрыю паведамілі савецкія партызаны, якія вельмі спачувалі, што загінуў нявінны чалавек.

Жонка Дзімітрыя, Вера Сямёнаўна Гладкова (Мелешчанка), была ўраджэнкай Украіны і перад вайной прыехала ў Дзятлава працаваць акушэркаю. Яна трагічна загінула праз два месяцы пасля смерці





свайго мужа ў верасні 1942 года. Да Накрышак з боку Дзятлава падышоў латышскі карны атрад[129]. У той самы час з'явіліся і партызаны. Вера Гладкова, сабраўшы на полі бульбу, накіроўвалася дахаты, каб пакарміць нованароджаную дачку. Менавіта ў той самы час, калі яна апынулася паміж латышскімі салдатамі і партызанамі, пачалася перастрэлка. Партызаны адступілі, а карнікі падумалі, што маладая жанчына папярэдзіла лясных ваяроў пра іх набліжэнне. Яе схапілі і пачалі дапытваць. Знайшлі ў яе зашыты ў сукенку камсамольскі білет. Вера да вайны сапраўды была камсамолкаю. Білет стаў, фактычна, яе смяротным прысудам. Ніякія ўгаворы і слёзныя просьбы айца Дзімітрыя ўжо не маглі яе ўратаваць. Жанчыну расстралялі ў той самы дзень. Двухмесячнае дзіцятка засталося на руках дачкі айца Дзімітрыя — Таісіі, жонкі Андрэя Зянюка.

Сям'я айца Дзімітрыя і асабліва Андрэй Зянюк імкнуліся ўсяляк падтрымліваць партызан: дапамагалі сувязным, хавалі партызан ад аблаў, перадавалі прадукты і медыкаменты. На гарышчы Накрышскай царквы час ад часу лячыліся параненыя партызаны. Гэта было велізарнай рызыкай для сям'і айца Дзімітрыя. Непадалёк ад храма размяшчалася камендатура, але акупанты былі абсалютна ўпэўнены ў поўнай лаяльнасці да іх з боку накрышскіх святароў і не маглі іх западозрыць у дапамозе партызанам. Дачка айца Дзімітрыя Таццяна Гладкова працавала ў немцаў медсястрой, дзякуючы гэтаму магла здабываць лекі, якімі потым і лячылі партызан. Пра тое, што на царкоўным гарышчы лечацца і хаваюцца партызаны, акрамя святароў, ведалі яшчэ два чалавекі — староста царквы **Мікалай Анюкевіч** і казначэй **Пятро Рак**.

У 1942 годзе ад епархіяльнага кіраўніцтва прыйшло распараджэнне накіраваць прадстаўніка ад Накрышскага прыхода для ўдзелу ў Саборы Беларускай Царквы, які меўся адбыцца ў Мінску 29 жніўня. Пасля Літургіі на свята Праабражэння 19 жніўня адбыўся прыходскі сход, на якім быў аднагалосна абраны дэлегат на Сабор ад прыхода — жыхар вёскі Хвінявічы Сяцко Аляксей[130].

Шматпакутны жыццёвы шлях і мноства цяжкіх узрушэнняў падарвалі здароўе айца Дзімітрыя. У 1944 годзе ён перанёс цяжкую сардэчную хваробу, усё цяжэй станавілася апекавацца немалым прыходам. 22 снежня 1945 года ён піша рапарт на імя Высокапра-

[129] «Уничтожить как можно больше...». Латвийские коллаборационистские формирования на территории Белоруссии, 1942–1944 гг. : Сборник документов / Фонд «Историческая память» ; сост. А. Р. Дюков, В. В. Симиндей [и др.] ; сопр. ст. А. М. Литвин. — М., 2009. — С. 109.

[130] Архіў Накрышскай Барыса-Глебскай царквы. Акт выбару прадстаўніка Накрышскага прыхода для ўдзелу ў Саборы Беларускай Царквы. 19.08.1942.

асвяшчэннейшага Васілія, архіепіскапа Мінскага і Беларускага, з просьбай здзейсніць свяшчэнніцкую хіратонію псаломшчыка Накрышскай царквы Андрэя Зенюка. Просьба была пачута, і неўзабаве яго зяць становіцца іерэем і прызначаецца другім свяшчэннікам Накрышскага прыхода. Айцец Дзімітрый Гладкоў памёр у 1958 годзе, пахаваны за алтаром Накрышскага храма. Прыхаджане да гэтага дня з павагай і ўдзячнасцю ўзгадваюць асобу айца Дзімітрыя і шануюць месца яго пахавання.

## Протаіерэй Андрэй Емельянавіч ЗЯНЮК

**Гады служэння ў Накрышках:**
7.08.1932 — 1945 (псаломшчык),
з 1945 — дыякан, з 1948 — свяшчэннік,
настаяцель 20.06.1957 — 23.07.1983.

Протаіерэй Андрэй Зянюк нарадзіўся 15 кастрычніка 1909 года ў вёсцы Артэль-Крулеўскі непадалёк ад Бялай Падляскі. Емельян Зянюк, бацька Андрэя, быў псаломшчыкам мясцовай царквы. Падчас Першай сусветнай вайны сям'я Зенюкоў апынулася ў вымушаным бежанстве. Андрэй у 1921 годзе скончыў чатырохкласнае гарадское вучылішча ў Мелітопалі. У 1921 годзе сям'я вяртаецца на Радзіму, у 1925 годзе Андрэй скончыў сямікласнае народнае вучылішча ў мястэчку Пішчац Бяла-Падляскага павета.

Пад кіраўніцтвам настаяцеля Нараўскай царквы протаіерэя Сцяфана Грамадскага, які даводзіўся яму родным дзядзькам, Андрэй Зянюк пачаў рыхтавацца да псаломшчыцкага служэння. У 1927 годзе ён здаў іспыты пры Гродзенскай духоўнай кансісторыі і 1 кастрычніка таго ж года епіскап Гродзенскі і Навагрудскі Аляксій (Грамадскі) прызначыў яго на пасаду псаломшчыка да Шчарскай царквы Слонімскага павета. У 1930 годзе псаломшчык Шчарскай царквы прайшоў курсы царкоўных спеваў, уставу і сектазнаўства пры Жыровіцкім манастыры. 1 ліпеня 1931 года Андрэй Зянюк быў прызначаны псаломшчыкам у Накрышскую Барыса-Глебскую царкву. Малады псаломшчык пакахаў дачку настаяцеля Таісію Дзімітраўну Гладкову і зрабіў прапанову рукі і сэрца. Дзяўчына адказала згодаю, не быў супраць шлюбу і бацька, які пабачыў у ім сумленнага і разумнага чалавека. 7 жніўня 1932 года ў Накрышскай царкве адбылося вянчанне.

Андрэй Зянюк працягваў адукацыю і ў 1934 годзе ў Гродзенскай духоўнай кансісторыі здаў іспыты на атрыманне права выкладаць





Закон Божы ў школе. Да 1939 года ён выкладаў у пачатковых школах Накрышскага прыхода. Старажылы ўзгадваюць, што яшчэ калі Андрэй Емельянавіч быў псаломшчыкам і настаўнікам, то сабраў вакол сябе ўсю моладзь, якая магла спяваць, а такіх было шмат. Рэгулярна праводзіў спеўкі, запрашаў пеўчых дахаты на бяседы, ладзіў супольныя трапезы. Таму ў Накрышскай царкве спявалі два хоры: старэйшых людзей і моладзевы, які вылучаўся мілагучнасцю і майстэрствам. У 1938 годзе Андрэй Зянюк за руплівую працу быў узнагароджаны пахвальным лістом ад епархіяльнага кіраўніцтва.

Падчас вайны менавіта Андрэй Емельянавіч вёў перамовы з немцамі пра вызваленне маладых людзей, адабраных на прымусовыя працы ў Германіі, матывуючы гэта тым, што неабходна правесці тэрміновы рамонт храма. Так былі вызвалены хлопцы, але ў бараку заставаліся яшчэ дзяўчаты. Бацькі забраных у няволю дзяўчат упрошвалі айца Дзімітрыя і Андрэя Емельянавіча пагаварыць з немцамі пра вызваленне іх дачок. Андрэю Зенюку ўдалося вырашыць гэтую праблему ў абыход прамых перамоў з немцамі. У доме Андрэя і Таісіі быў расквартараваны нямецкі доктар, які павінен быў праводзіць медагляд адабраных маладых людзей. Андрэй Зянюк пачаў прасіць доктара, каб ён паўплываў на лёс паланёных дзяўчат. Невядома, якія былі знойдзены аргументы, але назаўтра доктар пачаў ставіць зняволеным дзяўчынам такія дыягназы, якіх немцы баяліся як агню. Так, фактычна, набор моладзі ў Накрышках на прымусовыя працы не адбыўся.

Андрэй Емельянавіч актыўна супрацоўнічаў і з партызанамі. Яго жонка Таісія даставала лекі для параненых партызан, а сам часта дапамагаў хавацца лясным змагарам на гарышчы Накрышскай царквы.

Менавіта Андрэй Зянюк узначаліў рамонт царквы падчас вайны. Яму шмат што ўдалося зрабіць у тыя цяжкія часы. Усё гэта характарызуе яго як руплівага хрысціяніна, смелага і дыпламатычнага чалавека.

Па хадайніцтве айца Дзімітрыя Гладкова 14 студзеня 1945 года архіепіскап Мінскі і Беларускі Васілій[131] рукапалажыў Андрэя Емельянавіча ў сан дыякана. У 1948 годзе дыякан Зянюк скончыў

[131] Архіепіскап Васілій (Ратміраў). Гады жыцця: 29 снежня 1887 г. — канец 1960-х гг. Епіскап Рускай Праваслаўнай Царквы. З 1922-га па 1944 г. быў у расколе абнаўленцаў. З верасня 1944 г. прызначаны на Мінскую кафедру. За шматлікія фінансавыя махінацыі і дрэнныя маральныя ўчынкі ў 1947 г. выкліканы на Сінод. На разбіральніцтва не з'явіўся, у далейшым яго сляды губляюцца. Па ўскосных дадзеных можна меркаваць, што ён памёр напрыканцы 1960-х гг.




*А. Андрэй Зенюк з матушкай Таісіяй*

пастырска-багаслоўскія курсы пры Мінскай духоўнай семінарыі ў Жыровічах. 20 мая 1948 года ў дзень святкавання Жыровіцкай іконы Божай Маці архіепіскап Мінскі і Беларускі Піцірым[132] рукапалажыў яго ў сан свяшчэнніка і прызначыў памочнікам настаяцеля Накрышскай царквы. 20 чэрвеня 1957 года, за год да смерці айца Дзімітрыя, іерэй Андрэй Зянюк быў зацверджаны настаяцелем Накрышскай Барыса-Глебскай царквы.

У час так званых хрушчоўскіх ганенняў на Царкву, калі ў Беларусі масава закрывалі цэрквы, айцец Андрэй прыклаў усе магчымыя намаганні, каб ўратаваць храм у Накрышках. Часта нагодай для закрыцця станавіўся нібыта аварыйны стан царквы. Айцец Андрэй, як чалавек гаспадарлівы і працавіты, утрымліваў храм у ідэальным стане. Старажылы ўзгадваюць, што ў Накрышкі неаднаразова прыязджалі розныя камісіі, мэтай якіх было спыненне дзейнасці прыхода і закрыццё храма. Не зважаючы на дагледжанасць царквы, прадстаўнікі тых камісій усё роўна шукалі прычыны, каб закрыць храм. Айцу Андрэю прыходзілася ўжываць экстраардынарныя меры. Калі нават чальцы камісіі знаходзілі нейкія надуманыя нагоды, айцец Андрэй не спрачаўся, усё выслухоўваў амаль што моўчкі, каб лішне іх не раздражняць. Але пасля праверкі заўсёды запрашаў камісію на абед. Загадзя прыхаджане прыносілі матушцы найлепшыя прысмакі і ў вялікай колькасці самагон, каб тая магла накрыць стол. Усе разумелі, што трэба так прыняць «дарагіх гасцей», каб яны змянілі свае планы. Бывала і такое, што толькі праз дзень тую камісію вывозілі з Накрышак. Праўдамі і няпраўдамі, але айцец Андрэй Зянюк здолеў зрабіць галоўнае — захаваць храм і прыход.

Нямала даставалася айцу Андрэю і Накрышскай царкве ад мясцовых камсамольцаў і камуністаў. Аднойчы мясцовы актывіст пракраўся на званіцу і кувалдаю разбіў найвялікшы звон, а ў 1963 годзе камсамольцы ў велікодную ноч каменнем пабілі царкоўныя вокны.

Нягледзячы ні на што, айцец Андрэй не толькі захоўваў храм, але яшчэ і пастаянна рамантаваў яго. У 1963 годзе будынак царквы падключылі да электрычнасці. Айцец Андрэй асабіста асвоіў мантаж электраправодкі, зрабіў падсвятленне ікон, прыстасаваў панікадзіла пад электрычныя лямпачкі. Ён быў па-сапраўднаму тэхнічна адораным чалавекам. Не маючы спецыяльнай адукацыі, выдатна разбіраўся ў тэхніцы і нават у электроніцы. З усяе акругі людзі везлі да яго на рамонт паламаныя радыёпрыёмнікі, тэлевізары, электрапрасы і іншае. Рамонт радыё- і электрапрыбораў быў яго ўлюбёнай справай, адначасова гэта была магчымасць сказаць людзям слова пра Бога і веру. За руплівую пастырскую працу ў 1965 годзе айцец Андрэй Зянюк узведзены ў сан протаіерэя.

У 1967 годзе па драўлянаму гонтаваму пакрыццю царкоўнага даху быў пакладзены рубероід, што дапамагло захаваць дах ад працяканняў. А ў 1981 годзе, літаральна напярэдадні сыходу на пакой, будучы ўжо ў паважаным узросце і маючы праблемы са здароўем, айцец Андрэй здолеў перакрыць дах царквы алюмініевым шыферам, амаль вечным матэрыялам. Сам факт атрымання такога матэрыялу быў не меншы за цуд, і гэта стала магчымым дзякуючы надзвычайным камунікатыўным і дыпламатычным здольнасцям айца Андрэя. Бліжэйшымі яго памочнікамі ў гэтай справе былі **Адам Іванавіч Сіўко** і **Пятро Пятровіч Лаўнік**.

Таксама варта ўзгадаць і яшчэ аднаго актыўнага прыхаджаніна храма і памочніка — **Івана Пятровіча Саваня**. Вось адзін характэрны эпізод з прыходскага жыцця Накрышскай царквы, звязаны з

[132] Мітрапаліт Піцірым (Свірыдаў). Гады жыцця: 1887–1963. Узначальваў беларускую кафедру з 1947-га па 1958 г., пазней мітрапаліт Круціцкі і Каломенскі.

асобаю Івана Пятровіча. У той час людзі ўсяляк імкнуліся пераадолець забароны начальства, каб патрапіць на службу ў храм. Прывядзём фрагмент успамінаў Вацлава Браніслававіча Залеўскага, які ў свой час узначальваў саўгас «Парэчча»: «Іван Пятровіч Савань грамаце не вучыўся, мог толькі распісацца, але яго энергіі, арганізатарскім здольнасцям мог бы пазайздросціць любы кіраўнік». Вацлаў Браніслававіч успамінае такі выпадак: «Савань быў шчырым вернікам, праваслаўным чалавекам. Аднойчы ў Накрышках на Барыса і Глеба 6 жніўня ладзілі фэст. Гэта было сапраўднае свята са службай у царкве, шэсцем, потым гуляннем. Вяскоўцам, зразумела, хацелася пайсці. Але ж уборачная, кінуць работу немагчыма. І тады Савань прыдумаў, як заахвоціць мужчын і пазвозіць усе снапы з саўгаснага поля на ток (жалі тады яшчэ ў снапы, а потым на таку малацілі). Ён арганізаваў для мужчын пачастунак — купіў у Карытніцы гарэлкі, узяў закуску і аб'явіў: "Калі работа будзе скончана, усе пачастуюцца колькі душа пажадае". Канешне, мужчыны стараліся. Я ж не ведаў гэтага. На другі дзень, у свята, бачу, Савань едзе на кані ў Накрышкі. Крычу на яго, сваруся, а ён смяецца: "У мяне ўжо ўсё зроблена!"»[133].

У царкоўным архіве захаваўся рапарт айца Андрэя Зенюка на імя мітрапаліта Мінскага і Беларускага Філарэта з просьбай узнагародзіць прыхаджан за дапамогу ў важнай справе рамонту храма.

31 жніўня 1979 года айцец Андрей напісаў рапарт на імя Высокапраасвяшчэннейшага Філарэта, Мітрапаліта Мінскага і Беларускага, з просьбай перавесці яго ў лік пазаштатных клірыкаў з прычыны таго, што стан здароўя моцна пагоршыўся, а таксама з-за пэўных сямейных абставін. Свой рапарт айцец Андрэй пачынае такімі словамі: «Прежде, чем написать эти строки, я много думал. Ибо нелегко мне расстаться с делом, которому посвятил всю свою жизнь… За всю свою почти полувековую жизнь в Накрышках, я прошел все степени церковного послушания. До начала войны 1939 года я был законоучителем в начальных школах своего прихода. Теперь многие бывшие мои ученики являются уже дедушками.

В Накрышках на мою долю выпал нелегкий труд. Я трижды капитально ремонтировал свою церковь и сохранил ее от разрушения, а, следовательно, и сохранил приход. Все здесь сказанное является святой правдой, и это хорошо помнят и знают верующие и бывшее духовное начальство. Храм в Накрышках является одним из самых величественных и благоустроенных в нашем районе. Но всему в нашей жизни в свое время приходит конец. Так, наверное, и мне…

Накрышский приход вполне жизнеспособный, а потому почтительнейше прошу найти мне достойную замену».

Прашэнне было задаволена толькі 23 ліпеня 1983 года. У агульным ліку служэнне айца Андрэя ў Накрышскім прыходзе доўжылася болей за паўстагоддзя — 52 гады. Сваё жыццё руплівы пастыр статку Хрыстовага скончыў у Баранавічах, дзе і быў пахаваны на мясцовых могілках.

Пасля сыходу айца Андрэя Зенюка свяшчэннікі, якіх прызначалі ў Накрышскі прыход, служылі тут вельмі непрацяглы час, літаральна па некалькі месяцаў. Так, прызначаны ў Накрышкі **протаіерэй Іаан БЕЛУШ** праслужыў з 25 ліпеня 1983 года да 10 кастрычніка таго ж года. Яго змяніў **іерэй Уладзімір ПАШКЕВІЧ**, які паслужыў у Накрышках з кастрычніка 1983 года да 18 ліпеня 1984 года.

З чэрвеня 1984-га да студзеня 1986 года месца настаяцеля Накрышскай царквы наогул заставалася вакантным, і служыць у царкву час ад часу прыязджалі свяшчэннікі бліжэйшых цэркваў. 24 студзеня 1986 года настаяцелем Накрышскай Свята-Барыса-Глебскай царквы быў прызначаны **свяшчэннік Васілій Пятровіч ЯРМОЛІК**. Але і яго настаяцельства было непрацяглым, доўжылася толькі да 12 верасня таго ж года.

За час адсутнасці сталага настаяцеля рэальную ўладу ў свае рукі бралі старасты, што прывяло да моцных злоўжыванняў і дыктату ў адносінах да свяшчэннікаў, якія прыходзілі служыць. Такая частая змена настаяцеляў не ў апошнюю чаргу была выклікана немагчымасцю свяшчэнніка ўплываць належным чынам на жыццё прыхода.

## Протаіерэй Уладзімір ШЫЛА

**Гады служэння ў Накрышках:** 12.09.1986 — 11.11.2002.

12 верасня 1986 года настаяцелем Свята-Барыса-Глебскай царквы вёскі Накрышкі ўказам Мітрапаліта Мінскага і Беларускага Філарэта быў прызначаны Уладзімір Шыла. З іменем гэтага свяшчэнніка звязаны 16-гадовы перыяд гісторыі прыхода.

Свяшчэннік Уладзімір Шыла нарадзіўся 21 чэрвеня 1937 года ў вёсцы Муцькавічы Баранавіцкага раёна ў сялянскай сям'і. Пасля заканчэння сярэдняй школы ў 1955 годзе ён працаваў на мясакамбінаце ў горадзе Баранавічы. У 1956 годзе паступіў у Мінскую духоўную семінарыю. У 1960 годзе паспяхова скончыў навучанне ў семінарыі і паступіў на першы курс Ленінградскай духоўнай акадэміі,

[133] Абрамчык, А. Пакінуць сляды на зямлі [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: http://diatlovonews.by/2020/02/da-80-goddzya-dzyatla-skaga-rajona-pakinuc-slyady-na-zyamli.



ГІСТОРЫЯ НАКРЫШСКАЙ ЦАРКВЫ Ў БІЯГРАФІЯХ ЯЕ НАСТАЯЦЕЛЯЎ





*А. Уладзімір Шыла*

якую скончыў у 1964 годзе. З 1965 года працаваў у Іркуцкім епархіяльным упраўленні, выконваў паслушанні іпадыякана і загадчыка гасцініцы. У 1966 годзе Уладзімір Шыла бярэ шлюб з Аляксандрай Мікалаеўнай Пугач і 11 верасня 1966 года архіепіскап Іркуцкі Веніямін[134] рукапалажыў яго ў сан дыякана. Праз 10 дзён на свята Нараджэння Прасвятой Багародзіцы адбылася яго свяшчэнніцкая хіратонія. 10 кастрычніка 1966 года іерэй Уладзімір Шыла накіроўваецца на прыходскае служэнне ва Уладзівасток. У 1968 годзе ён прызначаецца свяшчэннікам царквы ў горадзе Зіма Іркуцкай вобласці. Але ў тым самым 1968 годзе пераходзіць у штат Валагодскай епархіі і прызначаецца настаяцелям царквы ў вёсцы Чырыкава

[134] Архіепіскап Веніямін (Навіцкі). Гады жыцця: 4 верасня 1900 г. — 14 кастрычніка 1976 г. Нарадзіўся ў Беларусі. У 1944 г. быў арыштаваны і высланы ў лагер на Калыме. Вызвалены ў 1956 г. З 1958-га да 1973 г. быў епіскапам Іркуцкім. Потым пераведзены на Чабаксарскую кафедру.







Усць-Кубенскага раёна Валагодскай вобласці. На гэтым месцы ён праслужыў да лістапада 1977 года.

У 1977 годзе айцец Уладзімір вяртаецца на Радзіму і залічваецца ў штат Беларускай епархіі. 9 лістапада 1977 года ўказам Высокапрасвяшчэннейшага Антонія, мітрапаліта Мінскага і Беларускага,[135] ён быў прызначаны настаяцелем царквы ў гарадскім пасёлку Малая Бераставіца Гродзенскай вобласці. У верасні 1986 года прызначаны настаяцелем Накрышскай царквы.

Служэнне айца Уладзіміра ў Накрышках прыпала менавіта на той час, калі, з аднаго боку, знікае цяжкі гнёт дзяржаўнага ўціску на Царкву, але, з іншага боку, гэты пераходны перыяд характарызуецца сур'ёзнымі сацыяльнымі і эканамічнымі праблемамі насельніцтва з-за развалу эканамічных сувязей савецкага перыяду.

Жыццё прыхода таксама было няпростым. За час адсутнасці пастаяннага настаяцеля рэальная ўлада ў царкве перайшла да царкоўнага старасты і яго бліжэйшага атачэння. Узаемаадносіны са свяшчэннікам выбудоўваліся такім чынам, што настаяцель павінен

[135] Мітрапаліт Антоній (Мельнікаў). Гады жыцця: 19 лютага 1924 г. — 29 мая 1986 г. Іерарх Рускай Праваслаўнай Царквы; Мітрапаліт Мінскі і Беларускі да 8 верасня 1975 г. З 29 верасня 1978 г. — мітрапаліт Ленінградскі і Наўгародскі, пастаянны член Святога Сінода, багаслоў.

быў прыняць і прызнаць стан рэчаў, калі староста фактычна кіраваў эканамічным і гаспадарчым жыццём прыхода, а свяшчэннік павінен быў абмежавацца выключна літургічнай дзейнасцю і з падкрэсленай удзячнасцю прымаць ад старасты сваю зарплату, не задаючы пытанняў пра выдаткаванне іншых сродкаў прыхода. Айцец Уладзімір паступова пачаў мяняць такія скажоныя ўзаемаадносіны і адстойваць права настаяцеля быць рэальным, а не фармальным кіраўніком. Усё гэта выклікала канфлікты і супрацьстаянне розных груп прыхаджан. Хтосьці станавіўся на бок свяшчэнніка і падтрымліваў яго, а хтосьці, наадварот, падтрымліваў старасту і прыходскі савет. Урэшце, айцу Уладзіміру ўдалося пераадолець гэтыя цяжкасці і адстаяць кананічнае права настаяцеля на паўнавартаснае кіраванне прыходам.

Высілкамі айца Уладзіміра да галоўнага ўвахода ў царкву быў прыбудаваны мураваны прытвор. У апошнія гады служэння ў Накрышках моцна пагоршылася здароўе айца Уладзіміра, што не дазваляла яму ажыццяўляць актыўнае пастырскае служэнне. Прыхаджане Накрышскага храма дагэтуль з глыбокай пашанай узгадваюць асобу айца Уладзіміра.

## Протаіерэй Расціслаў Салаўёў

**Гады служэння ў Накрышках:** *11.01.2003 — 30.10.2007.*

Протаіерэй Расціслаў Салаўёў нарадзіўся 25 жніўня 1979 года на Дзятлаўшчыне ў гарадскім пасёлку Наваельня. У 1999 годзе пасля атрымання сярэдняй спецыяльнай адукацыі паступіў у Мінскую духоўную семінарыю. У 2002 годзе ўзяў шлюб з Марынай Уладзіміраўнай Сало. У дзень Успення Прасвятой Багародзіцы 28 жніўня 2002 года быў рукапаложаны ў дыякана Высокапраасвяшчэннейшым мітрапалітам Філарэтам (Вахрамеевым) і, будучы студэнтам чацвёртага курса семінарыі, служыў у Свята-Успенскім Жыровіцкім манастыры. 5 студзеня 2003 года ў дамавым храме ў гонар свяшчэннамучаніка Гермагена ў Жыровіцкім манастыры прыняў свяшчэнніцкую хіратонію ад Высокапраасвяшчэннейшага Гурыя, архіепіскапа Навагрудскага і Лідскага. 11 студзеня 2003 года іерэй Расціслаў Салаўёў атрымлівае прызначэнне на пасаду настаяцеля Свята-Барыса-Глебскага храма вёскі Накрышкі.

Новапрызначаны настаяцель разам з жонкай прыбыў у Накрышскі прыход 13 студзеня, напярэдадні дня памяці свяціцеля Васілія Вялікага і Навалецця. У храме ў прызначаны час для знаёмства з







*А. Расціслаў Салаўёў*

новым настаяцелем сабраліся прыхаджане. Людзі былі ўзрадаваны прызначэннем да іх у царкву маладога свяшчэнніка, што давала надзею на вырашэнне цэлага шэрагу гаспадарчых праблем, якія назбіраліся за апошнія гады. Акрамя таго, усе разумелі, што трэба па-новаму наладжваць і прыходскае жыццё.

Па ўспамінах айца Расціслава, вонкава храм выглядаў не дрэнна, але відавочнай была неабходнасць афарбоўкі элементаў фасада. Усярэдзіне становішча было не найлепшым. Сцены былі апрацаваны масляннаю фарбаю, што псавала і знешні выгляд і дрэнна ўплывала на стан цэглы. У цёмна-зялёны колер быў пафарбаваны іканастас, што моцна псавала яго знешні выгляд. Акрамя таго, у савецкія часы былі зроблены няўдалыя і непрафесійныя спробы рэстаўрацыі ікон. Прыгожае іканапіснае пісьмо канца XIX — пачатку XX стагоддзя было няўмела «падпраўлена» новымі фарбамі. Настаяцелю з першых тыдняў служэння стаў відавочным той фронт работ, які неабходна выканаць для прывядзення храма ў парадак. Акрамя таго, рызніца складалася са старых і моцна абношаных святарскіх рыз. Такім чынам, яшчэ адной неадкладнай задачай было яе абнаўленне.

Але самай значнай праблемай для свяшчэнніка стала адсутнасць жылля для яго сям'і. Стары царкоўны дом быў ужо непрыдатным



для пражывання і патрабаваў грунтоўнага рамонту, а разам з тым і значных грашовых выдаткаў. Прыходская ж каса на момант яе прыёму новым настаяцелям налічвала ўсяго 7 тысяч беларускіх рублёў. Стан дома быў такі, што там немагчыма нават было арганізаваць начлег. Свяшчэннік разам з прыхаджанамі пачалі шукаць варыянты. Пустым стаяў дом былой прасфорніцы Накрышскай царквы. Па дамоўленасці з гаспадарамі свяшчэннік са сваёй жонкай пасяліўся ў старым і пахіленым маленькім доміку. Зразумела, што патрэбна было шукаць больш утульнае жытло.

На першую службу новага настаяцеля сабралася каля 50 чалавек. А на наступную — толькі 5. У храме было холадна і сыра. Ацяпленне адсутнічала. Як казалі, пакуль не пацяплее, то і людзей на службе не пабольшае.

Жонка новага настаяцеля, па адукацыі рэгент царкоўнага хору, адразу далучылася да пеўчых — жанчын сталага ўзросту, якія прыязна і з увагаю паставіліся да яе. Матушка пачала працаваць з царкоўным хорам, і паступова спевы загучалі больш стройна і ўпэўнена.

Першыя ўражанні новага свяшчэнніка ад стану прыходскіх спраў, умоў жыцця на прыходзе і магчымых перспектыў служэння былі не самымі абнадзейваючымі, тым больш на момант прызначэння настаяцелю споўнілася ўсяго 24 гады, у яго не было ні досведу арганізацыі прыходскага жыцця, ні вопыту пастырскай работы. Але было цвёрдае ўсведамленне, што прызначэнне ў гэты храм не выпадковае, і праз гэта здзяйсняецца Божая воля і Яго прамысленне. З гарачым жаданнем паслужыць Госпаду і Яго царкве айцец Расціслаў узяўся за справу наладжвання царкоўнага жыцця.

Лепшай нагодай пазнаёміцца з прыхаджанамі і прыходам стала аднаўленне традыцыі асвячэння дамоў пасля свята Хрышчэння Гасподняга. Прайшло некалькі дзесяцігоддзяў, як гэтая традыцыя перарвалася ў Накрышскім прыходзе. Айцец Расціслаў вырашыў аднавіць старадаўні звычай і ад вёскі да вёскі, ад хаты да хаты прайшоў усе дамы сваіх прыхаджан з малітваю, з пропаведдзю Божага слова і запрашэннем да актыўнага ўдзелу ў царкоўным жыцці. Людзі з вялікай радасцю сустракалі святара і ў пераважнай сваёй большасці шчыра адгукаліся на яго словы. Так адбылося больш глыбокае знаёмства маладога настаяцеля са сваімі прыхаджанамі, ладам іх жыцця, іх чаканнямі і пытаннямі, скіраванымі да царквы і свяшчэнніка. Прынялі свяшчэнніка не толькі ў дамах, але запрасілі таксама з малітваю наведаць дзіцячы садок і сярэднюю школу ў Хвіневічах, калгасную кантору, сельсавет, а таксама завод у вёсцы Парэчча. Мясцовае кіраўніцтва прыязна сустрэла маладога і актыўнага свяшчэнніка. Дырэктар Хвінявіцкай сярэдняй школы Марыя Антонаўна Доўгач прапанавала наладзіць сталае супрацоўніцтва. Сваю дапамогу прапанавалі дырэктар калгаса Сяргей Васільевіч Майсейчык і дырэктар завода ў Парэччы Валянцін Фёдаравіч Доўгач.

Відавочным паказчыкам ажыўлення царкоўнага жыцця і сведчаннем таго, што слова пастыра знайшло водгук у сэрцах прыхаджан, стаў Вялікі пост першага года служэння айца Расціслава. Прыходская статыстыка засведчыла шматкротны рост колькасці

спаведнікаў і прычаснікаў. Айцец Расціслаў правёў першае ў гісторыі прыхода велікапоснае сабораванне. Для прыхаджан гэта стала вялікай падзеяй, а ў храм сабралася больш як тры сотні чалавек. Людзі з цяжкасцю змяшчаліся ў царкве.

Пасля інтэнсіўнай і плённай пастырскай працы падчас посту было важна дапамагчы людзям сабрацца і на Велікодную начную службу. З гэтай мэтай настаяцель звярнуўся да старшыні калгаса з просьбай выдзеліць аўтобус, каб падвезці людзей з аддаленых вёсак. Многія з прыхаджан дзякуючы гэтаму змаглі ўпершыню ў жыцці пабываць на начной пасхальнай службе. Упершыню за 50 гадоў начная служба была адслужана і на Ражство Хрыстова. Акрамя таго, айцец Расціслаў заклаў традыцыю асвячэння могілак на Радаўніцу. Гэтая ініцыятыва настаяцеля, як і ўсе папярэднія, была з радасцю і ўдзячнасцю прынята прыхаджанамі.

Перад Вялікаднем у 2003 годзе было набыта новае свяшчэнніцкае аблачэнне жоўтага колеру. З гэтага пачалося паступовае абнаўленне царкоўнай рызніцы.

Пасля першых надзвычай насычаных пастырскай працай месяцаў служэння настаяцелю неабходна было брацца за вырашэнне шэрагу гаспадарчых пытанняў. Да таго ж маладому свяшчэнніку даводзілася сумяшчаць святарскае служэнне з навучаннем у Мінскай духоўнай семінарыі. Але маладая энергія і шчырае жаданне самаадданага служэння Хрыстовай Царкве дапамаглі айцу Расціславу паспяхова спраўляцца і з вучобай, і са службай, і з вырашэннем усіх гаспадарчых праблем прыхода.

Першай справай новага настаяцеля па рамонту храма была афарбоўка элементаў царкоўнага фасада і сцен. Для выканання гэтай задачы быў абвешчаны сбор сродкаў. Сума назбіралася невялікая — адпаведная 300 доларам ЗША. Гэтых грошай хапіла толькі на аплату працы рабочым, а іншыя выдаткі былі пакрыты з царкоўнай казны.

Наступнай неадкладнай задачай стала набыццё царкоўнага дома, дзе мог бы жыць свяшчэннік з сям'ёю. Падыходзячы дом з газавым ацяпленнем знайшоўся ў вёсцы Хвінявічы і прадаваўся за вялікую для таго часу суму, адпаведную 2 100 доларам ЗША. Прыходскі сход раздзяліўся ў сваіх меркаваннях, бо частка прыхаджан была супраць набыцця гэтага жытла, матывуючы дарагавізнай і тым, што свяшчэннік не будзе жыць побач з храмам. Але большасць людзей выказалася за тое, што калі ў свяшчэнніка будзе добрае і ўтульнае жытло, то ён не стане думаць пра перамену месца служэння. Такім чынам, быў абвешчаны збор сродкаў на набыццё царкоўнага







*А. Расціслаў Салаўёў з ключамі ад храма*

дома. Першае ахвяраванне было зроблена Высокапраасвяшчэннейшым архіепіскапам Гурыем, а потым пачалі паступаць ахвяраванні прыхаджан. Атрымалася так, што хутка была сабрана неабходная сума. Гэта было тым больш важна, бо ў сям'і свяшчэнніка менавіта ў гэты час нарадзіўся першынец. У доме быў зроблены касметычны рамонт, і сям'я свяшчэнніка змагла засяліцца ў сваё жытло.

Каб больш з'яднаць паміж сабою прыхаджан, айцец Расціслаў пачынае ладзіць прыходскія паломніцтвы да беларускіх святыняў і святыняў бліжняга замежжа. Час, які людзі праводзілі разам у паломніцтве, сумесная малітва ў святых месцах, размовы са свяшчэн-



*А. Расціслаў Салаўʼёў і а. Георгій Рой у дзень перадачы прыходскіх спраў*

нікам і адзін з адным па-сапраўднаму зʼядноўвалі прыхаджан у адзіную хрысціянскую сямʼю. Паступова фарміраваўся новы прыходскі актыў з тых людзей, якія мелі шчырае жаданне паслужыць царкве. Адной з найбліжэйшых памочніц айца Расцісалава стала Марыя Пятроўна Гумбар — чалавек глыбокай веры і чыстай сумленнасці, якая на працягу многіх гадоў самаахвярна служыла свайму храму і прыходу ў якасці казначэя. Вялікую падтрымку настаяцелю аказвалі Леанід Андрэевіч Глушкевіч і Уладзімір Малец, а таксама Іван





Іосіфавіч Гумбар (муж казначэя), якія дапамагалі свяшчэнніку і ў алтары, і пры вырашэнні шматлікіх гаспадарчых спраў. Разам з рэгентам хора матушкай Марынай Салаўёвай вялікую актыўнасць у спевах на клірасе праяўлялі Марыя Аляксееўна Сяцко, Зінаіда Андрэеўна Муха, Ганна Рыгораўна Емельянчык і іншыя. Вакол новага настаяцеля сабралася тое кола людзей, якія былі гатовыя раздзяліць з ім усю працу па добраўпарадкаванні царквы і наладжванні прыходскага жыцця.

На прастольнае свята ў 2003 годзе ў дзень святых страстацерпцаў Барыса і Глеба ў Накрышскай царкве сабраўся сабор духавенства з Навагрудскай, Гродзенскай і Брэсцкай епархій Беларускай Праваслаўнай Царквы. На службе ў гэты дзень па запрашэнні айца Расціслава спяваў хор Мінскай духоўнай семінарыі. Выкананне царкоўных песнапенняў мужчынскім складам хору моцна ўразіла і ўзрадавала прыхаджан.

З верасня 2003 года прыход аднавіў адукацыйную дзейнасць, арыентаваную на дзяцей. У прыходскім доме пачала дзейнічаць нядзельная школа. Праз некаторы час дырэктар Хвіневіцкай сярэдняй школы Марыя Антонаўна Доўгач перадала ў карыстанне прыходу адзін са школьных будынкаў, памяшканні якога былі прыстасаваны пад класы нядзельнай школы. Дарослыя людзі таксама выказалі жаданне сустракацца для размоў са свяшчэннікам. Таму была арганізавана і вячэрняя нядзельная школа для дарослых. Для сустрэч з дарослымі прыхаджанамі Накрышскай царквы айцец Расціслаў перыядычна запрашаў выкладчыкаў Мінскай духоўнай семінарыі, а таксама частым госцем прыхода быў дацэнт Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта Юрый Іванавіч Рубан, кандыдат гістарычных навук і кандыдат багаслоўя, спецыяліст у галіне гісторыка-літургічных даследаванняў. Госць з Пецярбурга вельмі ўпадабаў прыгажосць накрышскіх краявідаў і бываў тут амаль кожнае лета, удзельнічаў у богаслужэннях.

На Ражство Хрыстова дзеці, выхаванцы нядзельнай школы, падрыхтавалі Калядны канцэрт. Другую частку праграмы склалі калядныя спевы царкоўнага хору. Так узнікла традыцыя Калядных і Велікодных канцэртаў, якія ладзіліся настаўнікамі і выхаванцамі нядзельнай школы Накрышскага прыхода. Пасля першага канцэрта, на якім так прыгожа спявалі жанчыны сталага ўзросту, паспрабаваць сябе ў царкоўных спевах пажадалі таксама і кабеты сярэдняга ўзросту, большасць з якіх складалі настаўнікі. Пад кіраўніцтвам жонкі свяшчэнніка Марыны Салаўёвай утварыўся невялічкі спеўны

калектыў, які за кароткі тэрмін змог дасягнуць значных вынікаў. Яны прымалі ўдзел у спеўных конкурсах, фестывалях, святочных і архірэйскіх службах. Найвялікшым дасягненнем калектыву стаў удзел у 2006 годзе ў міжнародным фестывалі «Каложскі благавест», дзе яны атрымалі званне дыпламантаў.

14 студзеня 2004 года адбыўся прыходскі сход, на якім айцец Расціслаў даў справаздачу прыходскай дзейнасці за мінулы год яго служэння і запрасіў прыхаджан для абмеркавання далейшых планаў па рамонце царквы і арганізацыі прыходскага жыцця. Вынікам сустрэчы стала рашэнне аб правядзенні сур'ёзнага рамонту ўсярэдзіне храма: збіццё старой тынкоўкі разам з алейнай фарбай і новая атынкоўка ўнутраных сцен, замена столі, зняццё алейнай фарбы з іканастаса і рэстаўрацыя ікон. Адначасова прыход працягваў рамонт царкоўнага дома. Такія планы былі вельмі амбітнымі, і ў некаторых прыхаджан былі немалыя сумнівы, ці здолее малады настаяцель з гэтым усім справіцца, ці хопіць фінанасавых сродкаў на ажыццяўленне намераў. Але работа пачалася. Вялікую падтрымку аказалі як прыхаджане, так і кіраўніцтва мясцовых прадпрыемстваў. Асабліва дапамагаў старшыня СПК «Парэчча» Віктар Станіслававіч Дзедуль. Агульнымі намаганнямі былі выкананы неабходныя работы па тынкоўцы і фарбаванню сцен, па замене столі, па ачыстцы і перафарбоўцы іканастаса. Унутраны выгляд храма моцна перайначыўся, змяніўшы змрочныя зялёна-сінія колеры на светлыя. У наступныя гады айцу Расціславу ўдалося з дапамогай ураджэнца Накрышскага прыхода Васіля Ігнатавіча Сцяпуры, які ў той час быў намеснікам старшыні Гродзенскага абласнога выканаўчага камітэта, замяніць у храме вокны, зрабіць асфальтаваную стаянку перад царквою і пачаць рамонт званіцы.

Вялікіх фінансавых выдаткаў патрабавала рэстаўрацыя царкоўных ікон, якую выконвалі прафесіяналы-рэстаўратары з Мінска, знімаючы тыя слаі фарбы, якія былі ў савецкі час нанесены няўмелымі і непрафесійнымі мастакамі. Паступова былі закуплены ўсе неабходныя камплекты святарскіх аблачэнняў, напрастольныя пакрывалы, накідкі на аналоі і іншыя неабходныя рэчы. Прыход выдаткаваў сродкі на пашыў панамарскіх сціхароў, і хлопчыкі, навучэнцы нядзельнай школы, актыўна і з вялікай стараннасцю дапамагалі свяшчэнніку падчас богаслужэнняў у алтары. Дзяўчаткі сачылі за чысцінёй падсвечнікаў.

Значнай падзеяй у жыцці прыхода стала аднаўленне званоў на званіцы. Старадаўнія званы Накрышскай царквы былі вывезены





падчас Першай сусветнай вайны. Потым у 1930-я гады на ахвяраванні Канстанціна Каліноўскага быў адліты новы звон, але ў 1960-я ён быў знішчаны адным з мясцовых камуністаў. Айцец Расціслаў адвёз стары і расколаты Накрышскі звон на завод у Мінск і там са старога металу адлілі новы, а разам з ім былі замоўлены і некалькі меншых званоў. Выкананню гэтай справы дапамагла сродкамі спадарыня Ірына Сандзін з Вялікабрытаніі, ураджэнка вёскі Пацаўшчына. Так з'явіўся новы камплект гучных званоў у Накрышках.

З 2006 года айцец Расціслаў пачаў ладзіць летні паходны лагер для выхаванцаў нядзельнай школы пры Накрышскай царкве. Намётавы лагер месціўся заўсёды ў маляўнічых мясцінах каля вёскі Шаршні на беразе Нёмана і на працягу некалькіх тыдняў дзеці разам са свяшчэннікам праводзілі час у агульнай малітве, размовах на духоўныя і маральныя тэмы, спартыўных гульнях і рыбалцы. Усё гэта спрыяла ўцаркаўленню маладога пакалення накрышскіх прыхаджан і іх збліжэнню са свяшчэннікам. Выхаванцы нядзельнай школы з ахвотаю і жаданнем удзельнічалі і ў богаслужэннях, і ў хрэсных хадах. Акрамя велікодных і калядных канцэртаў, яны з радасцю ладзілі калядаванні і святкаванне масленіцы. Настаяцель штогод арганізоўваў для вучняў паломніцкія паездкі па святынях Беларусі, Расіі і Украіны. Акрамя таго, была створана прыходская бібліятэка, фонд якой складаўся з больш як 100 кніжак рэлігійнай тэматыкі і для дзяцей, і для дарослых. Па стане на 2007 год колькасць вучняў нядзельнай школы склала 46 чалавек, што для невялікага вясковага прыхода было значнай лічбай і сведчаннем таго, што дзецям сапраўды вельмі цікава ў царкве.

З 2004 года прыхаджане разам са свяшчэннікам заклалі яшчэ адну прыходскую традыцыю — штогадовы хрэсны ход са святыняю па ўсіх вёсках прыхода. Першай святыняй, прынесенай у Накрышскі прыход у 2004 годзе, была копія Жыровіцкай іконы Божай Маці са Свята-Успенскага Жыровіцкага манастыра. У 2005 годзе быў хрэсны ход з благадатным агнём ад Гроба Гасподняга. У 2006-м прыхаджане і свяшчэннік пранеслі па вёсках ікону свяціцеля і цудатворца Мікалая з часцінкай яго мошчаў. А ў 2007-м у Накрышскі прыход была прынесена ікона святой прападобнай Еўфрасініі Полацкай таксама з часцінкай яе пачэсных мошчаў. У кожнай вёсцы каля паклоннага крыжа служыліся адмысловыя малебны і далей хрэсны ход са святыняй праходзіў па цэнтральнай вуліцы паселішча. Хрэсныя хады заўсёды былі вялікай падзеяй і святам для кожнай з вёсак.

Па запрашэнні старшыні СПК «Парэчча» Віктара Станіслававіча Дзедуля свяшчэннік пачаў служыць малебны на свяце «зажынак» з асвячэннем усёй зернеўборачнай тэхнікі, таксама гучала малітва падзякі і на «дажынках». Гэта стала добрай мясцовай традыцыяй, якая захоўваецца і сёння.

Яшчэ адной важнай справай айца Расцісалава Салаўёва было ўладкаванне храма і царкоўнага жыцця ў калоніі-пасяленні каля вёскі Гезгалы Дзятлаўскага раёна, якое пачалося восенню 2005 года. Адміністрацыя калоніі перадала ў карыстанне Накрышскай абшчыне адно з памяшканняў, якое было пераабсталявана ў царкву для зняволеных. Трэба адзначыць, што Накрышскі прыход набыў для гэтага храма ўсё неабходнае царкоўнае начынне і іконы. Настаяцель Накрышскага прыхода рэгулярна служыў тут літургію, праводзіў чаепіцці і гутаркі з прыхаджанамі турэмнага храма.

Важнай падзеяй прыходскага жыцця стала наведванне правячым архірэем Навагрудска-Лідскай епархіі Накрышскай царквы ў 2005 годзе. Праасвяшчэннейшы Гурый заўважыў і становуча ацаніў тыя змены, якія адбыліся ў жыцці прыхода з моманту прызначэння айца Расцісалава. Настаяцель храма атрымаў сваю першую святарскую ўзнагароду — набедранік. На архірэйскім богаслужэнні пад кіраўніцтвам Марыны Салаўёвай спявалі два прыходскія хоры: старэйшы, які складаўся з жанчын сталага веку, і малады. Паперменны харавы спеў ствараў асабліва ўрачыстую атмасферу.

19 лістапада 2006 года архіепіскап Гурый асвяціў храм у калоніі-пасяленні № 26 вёскі Гезгалы ў гонар свяшчэннамучаніка Уладзіміра Хрышчановіча, які нарадзіўся тут. Пасля богаслужэння архірэй узнагародзіў айца Расціслава камілаўкай.

Наступны раз Высокапраасвяшчэннейшы Гурый прыехаў у Накрышкі 13 кастрычніка 2007 года. Тады на ўрачыстай службе маліліся сотні прыхаджан і прысутнічалі прадстаўнікі Гродзенскага абласнога выканаўчага камітэта, кіраўніцтва Дзятлаўскага раёна і мясцовае начальства. І свята са шматлікімі гасцямі, і агульны стан прыхода Накрышскай царквы, праведзены рамонт храма і званіцы, настрой прыхаджан — усё выразна сведчыла пра значны ўздым прыходскага жыцця. Такія становучыя вынікі працы іерэя Расціслава Салаўёва, якія былі дасягнуты за адносна непрацяглы час, паказалі патэнцыял маладога свяшчэнніка. Правячы архірэй узнагародзіў настаяцеля Накрышскага храма іерэя Расцісалава Салаўёва правам нашэння наперснага крыжа залатога колеру. А літаральна праз дзесяць дзён 24 кастрычніка 2007 года айцец Расціслаў быў прызначаны настаяцелям Георгіеўскага храма горада Ліды. Яго пастырская энергія спатрэбілася для ажыўлення царкоўнага жыцця гарадскога прыхода ў кафедральным горадзе епархіі. Такім чынам, іерэй Расціслаў Салаўёў паслужыў у Накрышках 4 гады і 8 месяцаў. За гэты час жыццё прыхода займела другое дыханне, царкоўная абшчына атрымала новыя імпульсы, неабходныя для далейшага свайго духоўнага развіцця. 30 кастрычніка 2007 года адбылася развітальная літургія, на якую сабраўся поўны храм людзей. У гэты ж дзень прыхаджанам быў прадстаўлены новы настаяцель — іерэй Георгій Рой. Развітанне з айцом Расціславам прыхаджан Накрышскай царквы было кранальным. Слёзы на вачах былі як у прыхаджан, так і ў свяшчэнніка. Узаемныя сардэчныя зычанні, цёплыя душэўныя словы, глыбокае і невымоўнае пачуццё ўзаемнай любові паказвалі, што прыход, дзякуючы шчырасці і самаадданасці ў служэнні айца Расціслава, стаў сапраўднай хрысціянскай сям'ёй.

У Георгіеўскім прыходзе горада Ліды айцец Расціслаў завяршыў будаўніцтва храма, рэарганізаваў прыходскае жыццё, надаўшы яму належны кірунак. Праз 2 гады пасля прызначэння настаяцелем Георгіеўскага храма айцец Расціслаў Салаўёў быў прызначаны благачынным Лідскай акругі і працягвае несці гэтае адказнае паслушанне.

«Гады служэння ў Накрышках, — успамінае айцец Расціслаў, — былі па-сапраўднаму благаславеннымі для мяне, нягледзячы на ўсе цяжкасці, з якімі давялося сутыкнуцца, я з настальгіяй узгадваю тыя першыя 5 гадоў свайго святарскага служэння. Мне вельмі хацелася паказаць усім людзям, што царква гэта не штосьці далёкае і даўняе, а гэта прастора сустрэчы з Богам, у якой чалавек знаходзіць сапраўдны сэнс свайго жыцця і дзейнасці. Менавіта таму ладзіліся і хрэсныя хады, і малебны, і паломніцтвы, арганізоўваліся заняткі ў нядзельнай школе, а самае галоўнае — маліліся за літургіяй, прычашчаліся, каяліся ў сваіх саграшэннях. Усё гэта дае жывое адчуванне таго, што Бог з'ядноўвае нас, запальвае іскрынку веры ў нашых душах, дае нам радасць і сэнс быцця. Хочацца верыць, што тыя парасткі абшчыннага жыцця, якія ўзыходзілі на нашых вачах, будуць і надалей узрастаць і мацнець у Накрышскім прыходзе. Яшчэ раз хачу выказаць сваю шчырую падзяку ўсім, з кім давялося разам і памаліцца, і папрацаваць»[136].

136 Успаміны пра служэнне ў Накрышскім прыходзе протаіерэя Расцісалава Салаўёва.

## Протаіерэй Георгій РОЙ

**Гады служэння ў Накрышках:** 29.10.2007 — 1.06.2012.

Пасля пераводу іерэя Расціслава Салаўёва на служэнне ў горад Ліду, выконваючым абавязкі настаяцеля стаў выкладчык Мінскіх духоўных акадэміі і семінарыі іерэй Георгій Рой.

Свяшчэннік Георгій Вячаслававіч Рой нарадзіўся ў Кобрыне ў 1978 годзе. У 1996 годзе скончыў Мінянскую сярэднюю школу і паступіў на першы курс Мінскай духоўнай семінарыі, якую з адзнакай скончыў у 2001 годзе. Па выніках паспяховага завяршэння вучобы ў Духоўнай семінарыі адбылося залічэнне на першы курс Мінскай духоўнай акадэміі. У 2001 годзе па благаславенні Высокапраасвяшчэннейшага Філарэта, мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі Юрый (Георгій) Вячаслававіч Рой быў накіраваны на вучобу ў Інстытут усходніх цэркваў у горад Рэгенсбург (ФРГ). У 2002 годзе паступіў на тэалагічны факультэт Рэгенсбургскага ўніверсітэта. У 2004-м абараніў кандыдацкую дысертацыю ў Мінскай духоўнай акадэміі і быў прызначаны выкладчыкам Мінскай духоўнай семінарыі і акадэміі. У 2005 годзе ўзяў шлюб з Зояй Анатольеўнай Хомбак. 12 лютага 2006 года Высокапраасвяшчэннейшы мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт (Вахрамееў) рукапалажыў Георгія Роя ў сан дыякана, а 26 лістапада 2006 года адбылася святарская хіратонія. Ад лістапада 2006 года да кастрычніка 2007 года іерэй Георгій Рой нёс свяшчэнніцкае служэнне ў храмах Свята-Успенскага Жыровіцкага манастыра.

З кастрычніка 2007 года па благаславенні Высокапраасвяшчэннейшага мітрапаліта Філарэта і згодна з распараджэннем правячага архірэя Навагрудскай епархіі Высокапраасвяшчэннейшага архіепіскапа Гурыя, іерэй Георгій Рой пачаў сумяшчаць служэнне ў Накрышскім прыходзе з выкладчыцкай працай у Мінскіх духоўных акадэміі і семінарыі, якія размяшчаліся ў Жыровічах.

Першай магчымасцю пазнаёміцца з вёскамі прыхода для новапрызначанага настаяцеля Накрышскай царквы стала Дзімітраўская памінальная субота. У гэты дзень па традыцыі свяшчэннік з малітвай аб'язджаў прыходскія могілкі ў кожнай з вёсак прыхода. Нягледзячы на тое, што ўсе прыхаджане моцна шкадавалі аб пераводзе айца Расціслава Салаўёва на служэнне ў Ліду, новапрызначанага настаяцеля прынялі прыязна і шчыра. У гэтых абставінах важна было прадоўжыць тую працу, якая была распачата папярэднім настаяцелем, а таксама захаваць стыль і змест пастырскага служэння.







Зіма 2007–2008 года выдалася дастаткова халоднаю, было відавочна, што храму патрэбна стацыянарнае ацяпленне. Настаяцель ініцыяваў, а прыходскі сход падтрымаў ідэю правядзення сістэмы паравога ацяплення. Вясною і летам 2008 года побач з храмам пачалося будаўніцтва кацельні, быў закуплены цвёрдапаліўны кацёл і ўсе неабходныя элементы сістэмы ацяплення. Восенню 2008 года Накрышскі храм пачаў ацяпляцца.

У лістападзе 2007 года ў другім па колькасці жыхароў населеным пункце прыхода — вёсцы Міроўшчына — пачала дзейнічаць нядзельная школа. Колькасць дзяцей, якія наведвалі заняткі, складала 15 чалавек, а дарослых — 30. Разам з тым заняткі нядзельнай школы праходзілі і ў Хвіневічах. З 2008 года па дамоўленасці з дырэктарам



*Крэсны ход на прастольнае свята*

школы Марыяй Антонаўнай Доўгач у Хвіневіцкай сярэдняй школе пачалі адбывацца рэгулярныя сустрэчы школьнікаў са свяшчэннікам на класных гадзінах, на агульнашкольных мерапрыемствах, а таксама на пазакласных занятках.

Памятным для прыхаджан стаў Калядны канцэрт 2008 года, калі разам з выхаванцамі нядзельнай школы выступіў змешаны хор Мінскай духоўнай семінарыі ў складзе 30 чалавек. Студэнты семінарыі і рэгенцкага аддзялення выканалі царкоўныя, калядныя і народныя песнаспевы. Пасля канцэрта ў мясцовым Доме культуры адбылася сустрэча семінарыстаў з вучнямі Хвіневіцкай сярэдняй школы, якая завяршылася снежным боем і сумесным чаяпіццем. Месяцам пазней настаўнікі і школьнікі Хвіневіцкай школы наведалі Жыровіцкі манастыр, Мінскія духоўныя акадэмію і семінарыю, дзе зноў сустрэліся са студэнтамі, якія на Ражство гасцявалі ў Накрышках і Хвіневічах. У красавіку 2008 года Накрышскі прыход і Хвіневіцкую сярэднюю школу наведаў беларускі паэт інак Мікалай (Бембель).

Значнай падзеяй жыцця прыхода ўлетку 2008 года стала прынясенне ў Накрышкі іконы велікамучаніка і цаліцеля Панцеляімана з







*Прастольнае свята Накрышскай царквы*

часцінкай яго святых мошчаў. Хрэсны ход з іконай прайшоў па ўсіх вёсках прыхода.

Але самай маштабнай падзеяй жыцця Накрышскага прыхода ў 2008 годзе стала правядзенне епархіяльнага моладзевага злёту-лагера, прысвечанага памяці дабравернага князя Канстанціна Астрожскага, які праходзіў з 5 да 9 жніўня на беразе Нёмана ў вёсцы Дзям'янаўцы. У гэтай сустрэчы бралі ўдзел моладзевыя брацтвы Навагрудскай, Мінскай, Гомельскай і Гродзенскай епархій. Для ўдзельнікаў былі арганізаваны лекцыі выкладчыкаў Мінскіх духоўных акадэміі і семінарыі, а таксама сустрэчы з насельнікамі Жыровіцкага манастыра. Час правядзення злёту быў прымеркаваны да прастольнага свята Накрышскага прыхода — дня памяці святых дабраверных страстацерпцаў і князёў Барыса і Глеба 6 жніўня. Усе ўдзельнікі сустрэчы маліліся на ўрачыстай літургіі, якую ўзначаліў правячы архірэй Навагрудскай епархіі — Высокапраасвяшчэннейшы архіепіскап Гурый. Напрыканцы святочнага богаслужэння выхаванцы нядзельнай школы падрыхтавалі тэатралізаваную інсцэніроўку «Святыя мучанікі Барыс і Глеб».



*Тэатралізаваная пастаноўка ў свята дабраверных князёў Барыса і Глеба*

Летам 2008 года пачаліся працы па будаўніцтве храма ў вёсцы Дзям'янаўцы. Неабходнасць узвядзення невялічкай царквы была абумоўлена тым, што Дзям'янаўцы і шэраг іншых вёсачак і хутароў, раскіданых у Ліпічанскай пушчы, дастаткова далёка знаходзяцца ад Накрышак, і састарэлым людзям досыць цяжка і нязручна дабірацца на богаслужэнні. Па просьбах настаяцеля Накрышскага прыхода і вяскоўцаў фундатарам будаўніцтва выступіў чалавек, які, уразіўшыся прыгажосцю прынёманскіх і пушчанскіх краявідаў, набыў сабе ў Дзям'янаўцах адзін з дамоў пад дачу — Сяргей Васільевіч Булычаў. З мэтаю будаўніцтва царквы быў выкуплены адзін з пустуючых дамоў, пачалося яго пераабсталяванне. Так за адзін год у Дзям'янаўцах быў збудаваны храм у гонар прападобнага Сергія, ігумена Раданежскага. Урачыстае асвячэнне царквы адбылося 1 мая 2009 года. Чын асвячэння і святую літургію ўзначаліў Высокапрасвяшчэннейшы Гурый, архіепіскап Навагрудскі і Лідскі. Правячаму архірэю Навагрудскай епархіі саслужылі рэктар Мінскіх духоўных акадэміі і семінарыі архімандрыт Іаасаф (Морза), благачынны Дзятлаўскай акругі протаіерэй Мікалай Пінчук, духавенства Навагрудскай, Мінскай і Гродзенскай епархій. За ўрачыстым набажэнствам маліўся фундатар будаўніцтва царквы — глава абласной думы Калінінградскай вобласці Сяргей Васільевіч Булычаў, а таксама мэр Гродна Б. М. Казелкоў, старшыня Гродзенскага абласнога савета дэпутатаў А. І. Карпуць, дэпутат палаты прадстаўнікоў нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь В. І. Сцяпура і іншыя ганаровыя госці. Фундатар царквы С. В. Булычаў быў узнагароджаны медалём свяціцеля Кірыла, епіскапа Тураўскага.

Урачыстую літургію на прастольнае свята Накрышскага прыхода — дзень памяці дабраверных князёў і страстацерпцаў Барыса і Глеба 6 жніўня 2009 года — узначаліў рэктар Мінскіх духоўных акадэміі і семінарыі архімандрыт Іаасаф (Морза) у саслужэнні клірыкаў Навагрудскай, Гродзенскай і Пінскай епархій Беларускай Праваслаўнай Царквы.

У верасні 2009 года Накрышскую царкву і прыход наведала дэлегацыя прафесараў багаслоўскага факультэта Цюбінгенскага ўніверсітэта (ФРГ) на чале з дэканам факультэта спадаром доктарам Фрыдрыхам Швайцарам. Акрамя таго, за 2009 год тройчы на экскурсію ў Накрышскую царкву прыязджалі студэнцкія групы Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі з горада Горкі Магілёўскай вобласці. Студэнты, якія падарожнічалі па Гродзенскай вобласці, з цікавасцю знаёміліся з гісторыяй Накрышскай царквы, асаблівасцямі архітэктуры і іканапісу, практыкаваліся званіць у царкоўныя званы, маліліся за літургіяй.

Важнай справай гаспадарчага характару стаў дэмантаж старой падгнілай драўлянай падлогі Накрышскага храма і яе замена на падлогу з падагрэвам і плітачным пакрыццём. Правядзенне гэтых работ вымагала значных арганізатарскіх намаганняў і фінансавых затрат, але ў вырашэнні гэтых праблем істотна дапамог ураджэнец Накрышскага прыхода Васіль Ігнатавіч Сцяпура.

У маі 2010 года на тэрыторыі Накрышскага прыхода ў наднёманскай вёсцы Дзям'янаўцы быў арганізаваны байкерскі злёт. Удзельнікі гродзенскага байкерскага клуба прысутнічалі за ўрачыстай вячэрняй у Свята-Сергіеўскім храме, пасля службы адбылася сустрэча байкераў са святарам ля вогнішча. Настаяцель Накрышскага прыхода расказаў гасцям пра багатую гісторыю наднёманскіх мясцін Дзятлаўшчыны.

Памятным для прыхаджан было наведванне ў маі 2010 года Накрышскай царквы прафесарам Маскоўскай духоўнай акадэміі пра-


ГІСТОРЫЯ НАКРЫШСКАЙ ЦАРКВЫ Ў БІЯГРАФІЯХ ЯЕ НАСТАЯЦЕЛЯЎ



*Прафесары багаслоўскага факультэта Цюбінгенскага ўніверсітэта. Накрышкі, 2009 г.*

фесарам У. М. Кірыліным, які маліўся за богаслужэннем і пасля літургіі расказаў прыхаджанам пра царкоўнае жыццё Масквы і Троіца-Сергіевай лаўры. У 2010 годзе прыход наведалі і іншыя ганаровыя госці: прафесар доктар Пауль Рэнэр (Італія, г. Брыксен), журналістка спадарыня Фрэдэрыка Вісані (Францыя), прафесар Мінскай духоўнай акадэміі протаіерэй Уладзімір Башкіраў, вядомы даследчык-літургіст протаіерэй Міхаіл Жалтоў, прафесар А. Т. Федарук, дэлегацыя супрацоўнікаў МЗС Польшчы на чале са спадарыняй Эдзітай Біін.

У 2010 годзе ў Накрышскім храме была заменена электраправодка, абноўлена ўнутранае асвятленне і зроблена знешняя падсветка будынка. У царкоўным двары былі ўсталяваны 5 двухліхтарных асвятляльных мачтаў.

Важнай падзеяй прыходскага жыцця стаў пачатак будаўніцтва могілкавага храма ў вёсцы Пацаўшчына. Фундатаркай з'яўлялася ўраджэнка гэтай вёскі спадарыня Ірына Сандзінг.

У 2011 годзе артыкулы з апісаннем гісторыі Накрышскай царквы былі апублікаваны ў шэрагу друкаваных і электронных СМІ і навуковых зборніках. У чэрвені 2011 года Накрышскі прыход наведала група турыстаў з Італіі ў складзе 23 чалавек. Госці азнаёміліся з храмам і яго гісторыяй, а таксама праехалі па Ліпічанскай пушчы і пабывалі на маляўнічым беразе Нёмана каля вёскі Дзям'янаўцы.

У ліпені 2011 года Накрышскі прыход з пастырскім візітам наведаў правячы архірэй Навагрудскай епархіі Высокапраасвяшчэннейшы архіепіскап Гурый. Уладыка азнаёміўся з вынікамі рамонту, а таксама агледзеў будынак турыстычнага цэнтра ў вёсцы Дзям'янаўцы.

Па благаславенні Высокапраасвяшчэннейшага Гурыя на тэрыторыі Накрышскага прыхода ў вёсцы Шаршні быў арганізаваны трохдзённы навукова-практычны семінар для свяшчэннікаў, у якім прынялі ўдзел прадстаўнікі амаль усіх епархій Беларускай Праваслаўнай Царквы.

29 кастрычніка 2011 года адбылося асвячэнне храма ў гонар Сабора беларускіх святых у вёсцы Пацаўшчына. Урачыстае богаслужэнне ўзначаліў Высокапраасвяшчэннейшы архіепіскап Гурый у саслужэнні сакратара Навагрудскай епархіі протаіерэя Андрэя Цыгеля, благачыннага Дзятлаўскай акругі протаіерэя Мікалая Пінчука, настаяцеля Свята-Барыса-Глебскага храма вёскі Накрышкі протаіерэя Георгія Роя, настаяцеля храма вёскі Наваельня іерэя Валерыя Мануйла. На ўрачыстасці прысутнічала фундатарка будаўніцтва спадарыня Ірына Сандзінг з сям'ёй.

У 2011 годзе распачаты рамонт званіцы Накрышскай царквы. На ёй была ўсталявана новая сістэма крокваў з металачарапічным пакрыццём. Ахвярадаўцам выступіў ураджэнец Накрышскага прыхода дырэктар прадпрыемства «Ізаком» А. А. Шалесны.

Разам з тым у 2011 годзе здзейснены работы па захаванні мураванай агароджы вакол царквы, пачалося будаўніцтва могілкавай капліцы ў вёсцы Калпінскія. Летам 2012 года адбылося яе асвячэнне. Такім чынам, колькасць храмавых пабудоў у Накрышскім прыходзе павялічылася да чатырох.

У час служэння ў Накрышках протаіерэя Георгія Роя, па благаславенні рэктара Мінскіх духоўных школ паслушанне панамара ў прыходзе нёс студэнт духоўнай семінарыі Аляксій Сцепановіч. Пасля заканчэння семінарыі і прыняцця свяшчэнніцкага сану іерэй Аляксій змяніў у чэрвені 2012 года на пасадзе настаяцеля Накрышскай царквы протаіерэя Георгія Роя. Далейшае служэнне протаіерэя працягвалася ў Каложскай Барыса-Глебскай царкве і ў Пакроўскім саборы горада Гродна.


ГІСТОРЫЯ НАКРЫШСКАЙ ЦАРКВЫ Ў БІЯГРАФІЯХ ЯЕ НАСТАЯЦЕЛЯЎ

## Іерэй Аляксій СЦЕПАНОВІЧ

**Гады служэння ў Накрышках:** 1.06.2012 — 28.11.2019.

Іерэй Аляксій Сцепановіч нарадзіўся 28 кастрычніка 1988 года ў вёсцы Чарняны Маларыцкага раёна. Пасля заканчэння школы паступіў у Мінскае духоўнае вучылішча, якое скончыў са спецыяльнасцю ўстаўшчык. У 2008 годзе паступіў у Мінскую духоўную семінарыю. Яшчэ ў час свайго навучання па благаславенні рэктара семінарыі дапамагаў на прыходзе ў якасці панамара настаяцелю Накрышскага храма протаіерэю Георгію Рою. У 2010 годзе Аляксій Сцепановіч узяў шлюб з Нінай Васільеўнай Бутыла. 12 лютага 2011 года ў храме Мінскай духоўнай семінарыі ён прымае дыяканскую хіратанію ад Высокапраасвяшчэннейшага мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта. 20 чэрвеня 2011 года ад Праасвяшчэннейшага Веніяміна, епіскапа Барысаўскага і Мар'інагорскага, дыякан Аляксій прыняў свяшчэнніцкую хіратанію. Першы год служэння прайшоў у Барысаўскай епархіі. У чэрвені 2012 года ён быў пераведзены ў Навагрудскую епархію і прызначаны настаяцелем Накрышскага прыхода. Прыхаджане спакойна ўспрынялі змену настаяцеля, бо добра ведалі яго яшчэ да святарства. Адпаведна і ён быў добра абазнаны ў справах прыхода, ведаў усіх прыхаджан і тыя традыцыі прыходскага жыцця, якія склаліся ў Накрышках за часы настаяцельства айца Расцісалава Салаўёва і айца Георгія Роя.

За перыяд служэння айцец Аляксій зрабіў шмат для захавання храма і яго добраўпарадкавання. Быў праведзены рамонт храмавых фасадаў, на франтоне ўсталявана ікона святых дабраверных князёў Барыса і Глеба — нябесных апекуноў Накрышскай царквы. Маштабнай справай стала рэстаўрацыя купала. Быў зроблены капітальны рамонт званіцы і падзванічнага памяшкання — хрысцільні. Акрамя таго, адрамантаваны прытвор царквы. Айцец Аляксій цалкам абнавіў рызніцу, у царкве з'явілася шмат новых ікон Прасвятой Багародзіцы і шанаваных святых. Знешняе аблачэнне прастола і ахвярніка былі зменены з тканінных на разьбяныя драўляныя.

Па ініцыятыве айца Аляксія ў прыходзе пачалі рэгулярна служыцца вячэрнія службы напярэдадні літургіі. Нярэдка па запрашэнні настаяцеля прыхаджане збіраліся і на начныя службы.

Шмат увагі айцец Аляксій прысвячаў хрысціянскаму выхаванню дзяцей у Накрышскім прыходзе. Рэгулярна праводзіліся заняткі ў Хвіневіцкай сярэдняй школе. Для прыхаджан арганізоўваліся паломніцкія паездкі.







*Ураджэнец Накрышскага прыхода а. Уладзімір Сяцко і а. Аляксей Сцепановіч*

Пад апекаю айца Аляксія заставаўся і храм у калоніі-пасяленні каля вёскі Гезгалы, што таксама патрабавала часу і намаганняў.

Айцец Аляксій разам з матушкай Нінай арганізавалі дамашнюю гаспадарку, каб берагчы сродкі прыхода для забеспячэння гаспадарчых патрэб храма. Яны ўсталявалі цяпліцы і пачалі вырошчваць агуркі і ўсё неабходнае для забеспячэння сваёй сям'і.

У 2019 годзе іерэй Аляксій Сцепановіч быў прызначаны другім свяшчэннікам у Дзятлаўскую царкву.

### Протаіерэй Мікалай Пятровіч ПІНЧУК

**Гады служэння ў Накрышках:** з 28.02.2019.



*Протаіерэй Мікалай Пінчук*

З 2019 года настаяцелем Накрышскай Барыса-Глебскай царквы стаў **протаіерэй Мікалай Пятровіч Пінчук**, які дагэтуль на працягу больш як двух дзесяцігоддзяў быў настаяцелем Дзятлаўскага прыхода, благачынным Дзятлаўскай акругі, пад яго кіраўніцтвам збудаваны новы велічны храм у горадзе Дзятлава. Протаіерэй Мікалай Пінчук нарадзіўся ў 1962 годзе ў вёсцы Стахава Столінскага раёна. У 1979 годзе скончыў сярэднюю школу № 3 горада Драгічына. З 1982-га па 1984 год праходзіў воінскую службу. У 1987-м скончыў Маскоўскую духоўную семінарыю. У 1988 годзе ўзяў шлюб са Святланай Іванаўнай Шуставай. 27 лістапада 1988 года прыняў дыяканскую хіратонію ад Высокапраасвяшчэннейшага Мітрапаліта Мінскага і Беларускага Філарэта. 10 снежня 1988 года адбылася яго свяшчэнніцкая хіратонія. У перыяд з 1989-га па 1990 год праходзіў святарскае служэнне ў Петра-Паўлаўскай царкве Кобрына і ў Спаса-Праабражэнскай царкве вёскі Брашэвічы Драгічынскага раёна. 28 жніўня 1990 года атрымаў прызначэнне на пасаду настаяцеля Спаса-Праабражэнскага храма г.п. Дзятлава. З 1996-га да 2017 года — благачынны Дзятлаўскай акругі. З 2017 года прызначаны настаяцелем храма ў гонар Сабора святых навамучанікаў і вызнаўцаў Рускай Царквы ў горадзе Дзятлава. 28 лютага 2019 года пераведзены свяшчэннікам у Свята-Троіцкі сабор Слоніма. З 28 лістапада 2019 года — настаяцель Свята-Барыса-Глебскага храма вёскі Накрышкі.



# 4. ПСАЛОМШЧЫКІ, ЦАРКОЎНАСЛУЖЫЦЕЛІ, СТАРАСТЫ, АХВЯРАДАЎЦЫ І ПЕЎЧЫЯ НАКРЫШСКАГА ПРЫХОДА

## ПСАЛОМШЧЫКІ

Першым вядомым псаломшчыкам Накрышскай царквы ў 30-я гады XIX стагоддзя быў **Мікалай Здановіч**. Яго імя ўзгадваецца ў Літоўскіх епархіяльных ведамасцях.

У 40-х гадах XIX стагоддзя псаломшчыкам у Накрышках служыў **Іван Калісскі**. У 1849 годзе ён быў пераведзены з Накрышскага прыхода на месца прычэтніка ў Віленскі Прачысценскі кафедральны сабор[137].

**Восіп Касперавіч Катовіч** (1807 г.н.) скончыў Жыровіцкае духоўнае вучылішча. З 1837 года быў псаломшчыкам Езерніцкай царквы (суч. в. Азярніца Слонімскага раёна). З 1850 года ў Восіпа Катовіча пачынаюцца дысцыплінарныя праблемы з-за злоўжывання алкаголем. Таму ён быў зняты з пасады і прызначаны ахоўнікам у Віленскае духоўнае вучылішча. Акрамя таго, быў папярэджаны, што далейшыя парушэнні прывядуць да выключэння яго з духоўнага саслоўя. 24 студзеня 1853 года ён атрымаў прызначэнне на пасаду псаломшчыка ў Накрышскую царкву[138]. У прыходскім архіве захаваліся рапарты настаяцеля царквы свяшчэнніка Мікалая Вяхірава, датаваныя 1882 і 1883 гадамі, у якіх настаяцель паведамляе, што прыходскі псаломшчык з-за сваёй «фізічнай слабасці» не можа належным чынам выконваць царкоўныя паслушанні. Відавочна, што паміж свяшчэннікам і псаломшчыкам існаваў працяглы кан-

[137] ЛДГА Ф. 605 оп. 2, д. 787. Дело о переводе дьячка Накрышской церкви Ивана Калисского причетником в Кафедральный Собор.

[138] Архіў Накрышскай царквы.


О причтѣ означенной церкви.

Кто именно, гдѣ родился, изъ какого званія происходитъ, гдѣ и чему обучался, когда и кѣмъ въ какой чинъ произведенъ, и къ какому мѣсту: какія проходилъ и проходитъ особенныя должности, когда чѣмъ былъ награжденъ, и кого имѣетъ въ семействѣ.

И. д. Псаломщика Антонъ Антоновъ Нейгъ,
сынъ псаломщика, родился въ — 1883 г.
окончилъ Гнѣзненское народное училище въ 1898 г.
Съ 1899 г. по 1901 г. состоялъ учителемъ шко-
лы грамоты; съ 1901 г. по 1903 г. состоялъ
послушникомъ въ Жировицкомъ Монастырѣ.
Согласно прошенію, резолюціей Преосвя-
щеннаго Іоакима, епископа Гродненскаго
и Брестскаго, отъ 16 января 1903 года
за № 158, назначенъ къ Островской церкви
и. д. псаломщика. Холостъ. Взятъ въ
военную службу 1904 г. 9 ноября.
Согласно прошенію, резолюціей Преосвя-
щеннаго Никанора, епископа Гродненскаго и Брестскаго отъ ноября 1905 г.,
за № назначенъ вновь псаломщи-
комъ къ Накрышской Борисо-Глѣб-
ской церкви, Дятловскаго благочинія.

флікт[139]. У 1883 годзе Катовіч быў звольнены з пасады псаломшчыка па старасці[140].

**Іван Разумоўскі** ў 1883 годзе быў пераведзены ў Накрышскую царкву за дысцыплінарныя парушэнні. Да свайго пераводу ён служыў псаломшчыкам Васількаўскай царквы Сакольскага павета[141]. Вядома, што ў 1899 годзе ён выконваў абавязкі псаломшчыка ў Янаўскім прыходзе Канстанцінаўскага павета[142].

139 Архіў Накрышскага прыхода.

140 Литовские епархиальные Ведомости. — 1883. — С. 331.

141 Архіў Накрышскага прыхода.

142 Sosna Grzegorz. Hierarchia i kler kościoła prawosławnego w granicach II Rzeczypospolitej i Polski powojennej w XIX–XXI wieku. — Ryboły, 2012. — S. 715.






Губернскій Комитетъ.
Владѣлецъ имѣнія Накрышки Иванъ Стравинскій
Дьяконъ Пригородной Накрышской церкви Николай Здановичъ

10 ліпеня 1884 года ў Накрышскую царкву прызначаны на пасаду псаломшчыка настаўнік Магілявецкага народнага вучылішча Ваўкавыскага павета **Мікалай Данілюк (Данілік)**[143]. Вядома, што пасля Накрышскага прыхода ён быў прызначаны псаломшчыкам у Груздаўскі прыход Ашмянскага павета, а затым служыў у Дакудаўскай царкве Лідскага павета. Мікалай Данілюк быў у бежанстве і пасля Першай сусветнай вайны зноў вярнуўся ў Дакудаўскі прыход, дзе праслужыў да дня сваёй смерці — 14 студзеня 1924 года[144].

**Іосіф Сцяпанавіч Вошчанка** з'яўляўся псаломшчыкам Накрышскай царквы з 1888-га да 1904 года. Нарадзіўся ў сям'і сялян у 1863 годзе і скончыў Бельскае павятовае вучылішча. З 1881 года працаваў настаўнікам. 22 верасня 1888 года ўказам Высокапраасвяшчэннейшага Аляксія, архіепіскапа Віленскага і Літоўскага, прызначаны псаломшчыкам у Накрышскую царкву. Яго служэнне на гэтым прыходзе працягвалася 16 гадоў. 2 мая 1897 года ў Гродзенскім Барыса-Глебскім манастыры Іосіф Вошчанка за выдатную

143 Литовские Епархиальные Ведомости. 1884. С. 313.

144 Sosna Grzegorz. Hierarchia i kler kościoła prawosławnego w granicach II Rzeczypospolitej i Polski powojennej w XIX–XXI wieku. — Ryboły, 2012. — S. 189.

службу Высокапраасвяшчэннейшым епіскапам Данатам быў пасвячоны ў сціхар[145]. У верасні 1903 года псаломшчык Іосіф Вошчанка прыняў сан дыякана і праслужыў у Накрышках да верасня 1904 года, а затым пераведзены на служэнне ў Гродна[146], выконваў абавязкі сакратара-казначэя гродзенскага епіскапскага дома[147]. Вядома, што ў 1905 годзе ён прыняў святарскі сан і быў настаяцелем цэркваў у Дзявяткавічах і Глоўсевічах Слонімскага павета, а перад вайной служыў у Краснастоку[148]. Падчас Першай сусветнай вайны быў эвакуіраваны ў Расію. Пасля рэвалюцыі жыў у сяле Пакроў Падольскага раёна Маскоўскай вобласці. Падчас камуністычнага тэрору быў арыштаваны і загінуў у лагеры. Яго імя пазначана ў кнізе памяці Маскоўскай вобласці[149].

З верасня 1904-га да кастрычніка 1905 года абавязкі псаломшчыка Накрышскай царквы выконваў **Мікалай Адамавіч Семяняка**, у будучыні — **архіепіскап Мінскі Феафан (Семяняка)**[150].

**Мікалай Адамавіч Семяняка** нарадзіўся 6 студзеня 1879 года ў Дзятлаве ў сям'і валаснога пісара. Будучы архіепіскап Мінскі атрымаў адукацыю ў Жыровіцкім духоўным вучылішчы і ў Літоўскай духоўнай семінарыі. Адразу пасля заканчэння семінарыі ў 1904 годзе ён быў накіраваны псаломшчыкам у Свята-Барыса-Глебскі храм вёскі Накрышкі. Але ўжо ў 1905 годзе Мікалай Семяняка прымае святарскі сан і атрымлівае прызначэнне ў храм вёскі Рагожына Слонімскага павета, дзе і служыў да 1914 года. У бежанстве свяшчэннік Мікалай служыў у розных прыходах Расіі, Грузіі, Крыма. З 1921 года ён служыў у Маскве. У 1925-м быў арыштаваны і прабыў у зняволенні да 1928 года. Пасля вяртання з турмы працягваў служэнне ў Маскве. Восенню 1930 года айцец Мікалай аўдавеў і прыняў манашаскі пострыг з імем Феафан. 13 студзеня 1930 года ён быў рукапаложаны ў сан епіскапа і атрымаў прызначэнне на Мінскую кафедру. 9 красавіка 1935 года ўладыка Феафан арыштаваны паўторна і прыгавораны да 8 гадоў зняволення ў лагеры. 16 кастрычніка 1937 года тройка НКУС прыгаварыла архіепіскапа Феафана да расстрэлу. 10 лістапада 1937 года прысуд быў выкананы.

145 Архіў Накрышскай царквы. Кліравыя ведамасці за 1898 год.

146 НГАБ Гр. Метрическая книга Накрышской церкви. Ф. 1802.

147 Sosna Grzegorz. Hierarchia i kler kościoła prawosławnego w granicach II Rzeczypospolitej i Polski powojennej w XIX–XXI wieku. — Ryboły, 2012. — S. 951.

148 Sosna Grzegorz. Hierarchia i kler kościoła prawosławnego w granicach II Rzeczypospolitej i Polski powojennej w XIX–XXI wieku. Ryboły, 2012. S. 951.

149 Книга памяти Московской области. http://lists.memo.ru/d7/f348.htm

150 НГАБ Гр. Метрическая книга Накрышской церкви. Ф. 1802.





**Антон Антонавіч Нейч** быў псаломшчыкам Накрышскай царквы з 1905-га да 1915 года і пасля вяртання з бежанства з 1918-га да 1930 года. Антон Нейч нарадзіўся ў сям'і псаломшчыка 8 красавіка 1883 года. У 1899-м ён скончыў народнае вучылішча. З 1899-га да 1901 года быў настаўнікам граматы ў школах Сядлецкай губерні. У 1901 годзе паступае паслушнікам у Жыровіцкі манастыр і знаходзіцца ў гэтым стане да 1903 года. 16 студзеня 1903 года епіскап Гродзенскі і Брэсцкі Іаакім прызначае яго на пасаду псаломшчыка Астраўскай царквы Слонімскага павета. У 1904 годзе Антон быў прызваны на вайсковую службу, а ў 1905-м указам епіскапа Гродзенскага Ніканора прызначаны псаломшчыкам Накрышскай царквы. У 1915 годзе знаходзіўся ў бежанстве і нёс царкоўнае паслушанне ў царкве вёскі Лебеткі Арлоўскай губерні. З 1916-га да 1918 года працаваў памочнікам бухгалтара ў канторы інжынера С. Н. Сысоева ў Кранштадце. З сакавіка 1917-га па 1918 год служыў рахункаводам у порце Кранштадта. 27 студзеня 1919 года вярнуўся з бежанства ў вёску Накрышкі і працягваў службу ў гэтым прыходзе да 1926 года[151]. У 1926 годзе рукапаложаны ў дыякана і служыў у прыходзе вёскі Казлоўшчына. Вядома, што ў далейшым Антон Нейч прыняў сан свяшчэнніка і служыў у Вастраўскай царкве (сучасны Зэльвенскі раён).

У 1930 годзе псаломшчыкам Накрышскай царквы быў прызначаны **Парфірый Нарановіч**, які да гэтага служыў у Марозавіцкай царкве Дзятлаўскага благачыння. У сакавіку 1931 года яго перавялі ў царкву вёскі Валковічы[152]. Некалькі месяцаў у 1931 годзе псаломшчыкам Накрышскай царквы быў **Павел Філіповіч**[153].

1 чэрвеня 1931 года псаломшчыкам Накрышскай царквы быў прызначаны **Андрэй Емельянавіч Зянюк**. Фактычна ён стаў апошнім штатным псаломшчыкам Накрышскай царквы.

## ЦАРКОЎНАЯ СТАРАСТЫ І ПРЫХАДЖАНЕ, ЯКІЯ ВЫКОНВАЛІ ЦАРКОЎНЫЯ ПАСЛУШАННІ

**Сямён Канюшкевіч** быў старастам Накрышскай царквы з 1847 года. Пра яго прызначэнне маецца запіс ва «Указах и распо-

151 Архіў Накрышскай Свята-Барыса-Глебскай царквы. Кліравыя ведамасці за 1924 г.

152 Sosna Grzegorz. Hierarchia i kler kościoła prawosławnego w granicach II Rzeczypospolitej i Polski powojennej w XIX–XXI wieku. — Ryboły, 2012. — S. 596.

153 Sosna Grzegorz. Hierarchia i kler kościoła prawosławnego w granicach II Rzeczypospolitej i Polski powojennej w XIX–XXI wieku. — Ryboły, 2012. — S. 235.



*Старэйшы панамар Накрышскага прыхода Л. А. Глушкевіч*

ряжениях Литовской консистории по Слонимскому благочинию Гродненской губернии»[154].

У студзені 1878 года старастам прызначаны **Адам Паўлавіч Коваль**.

У сакавіку 1881 года епархіяльным начальствам старастам зацверджаны **Сямён Сямёнавіч Канюшкевіч**, але ўжо ў чэрвені таго ж года на гэтую пасаду абралі **Якава Емяльянчыка**.

Напрыканцы 60-х і ў 70-х гадах XIX стагоддзя панамаром Накрышскай царквы значыўся **Сцяпан Касецкі**. У гэты ж перыяд і да 1883 года прасфорніцай у прыходзе была **Сцефаніда Макарэвічава**.

[154] НГАБ Гр. Ф. 1031. — Оп. 1. — С. 57.





11 верасня 1906 года старастам Накрышскай царквы быў абраны **Грыгорый Мякіш**[155]. У 1910 годзе старастам значыўся **А. Рамашко**[156].



*Уладзімір Малец*

Вядома, што ў 1924 годзе старастам быў **Іван Федаровіч**. Згодна з ведамасцю Накрышскай царквы за 1938 год, абавязкі старасты выконваў **Дзмітрый Мякіш**, які быў зацверджаны на гэтай пасадзе 14 ліпеня 1936 года ўказам № 2993 кансісторыі Гродзенскай епархіі[157]. Шмат гадоў у якасці старасты Накрышскай царквы служыў **Мікалай Ігнатавіч Мацюшка**. Прыкладна з 20-х гадоў XX стагоддзя казначэем быў **Пётр Рак**, якому таксама даручалася выкананне абавязкаў старасты. У 1951 годзе ў складзе прыходскай рэвізійнай камісіі значыцца **Ніна Міхайлаўна Глубокая**. Да 1965 года казначэем быў **Грыгорый Грыгор'евіч Емяльянчык**. Пасля яго гэтае паслушанне несла **Надзея Пятроўна Грынцэвіч**. Рэвізійную камісію ўзначальваў **Аляксандр Канстанцінавіч Бяленка**.

На пачатку 2000-х гадоў казначэем храма была **Марыя Глушкевіч —** жонка панамара **Лявона Андрэевіча Глушкевіча**. З 2003-га і да 2013 года казначэем прыхода была **Марыя Пятроўна Гумбар —** мудры чалавек і шчырая хрысціянка, пра якую хочацца ўзгадаць з асаблівую цеплынёю і ўдзячнасцю. Аўтару гэтых радкоў у гады служэння ў Накрышках Марыя Пятроўна была першай і самай разважлівай дарадцай і памочніцай. Яе мяккі характар, прыродная далікатнасць і надзвычайная ўважлівасць да людзей дапамаглі абшчыне Накрышскага прыхода ў шматлікіх сітуацыях пазбягаць унутранага напружання ва ўзаемаадносінах. Прымаючы запіскі і ахвяраванні за свечкі, Марыя Пятроўна была сапраўдным місія-

[155] ГЕВ. — 1906. — 17 сентября. — № 37. — С. 979.
[156] Архіў Накрышскай царквы. Страховая опись Накрышского прихода 1910 г.
[157] Архіў Накрышскай царквы. Wykazy parafjalny za 1938 r.



*Марыя Пятроўна Гумбар*

нерам, бо дапамагла многім людзям стаць бліжэй да Хрыста і Яго Царквы. Яе дом і яе сям'я заўсёды былі гасцінным прытулкам для накрышскіх свяшчэннікаў, а яна не шкадавала ні часу, ні сіл, каб паслужыць сваёй царкве.

У апошнія дзесяцігоддзі нязменным панамаром застаецца **Лявон Андрэевіч Глушкевіч —** чалавек, які вырас пры Накрышскай царкве і самаахвярна з малых гадоў служыць храму не толькі як панамар, але і як чалавек, які заўсёды гатовы ахвяраваць сваім часам і магчымасцямі дзеля вырашэння гаспадарчых ці арганізацыйных спраў. Лявон Андрэевіч адносіцца да тых старажылаў, якія на першым этапе даследавання вельмі дапамаглі неабходнай інфармацыяй, каб знайсці нейкія зачэпкі для больш глыбокага вывучэння гісторыі Накрышскага храма і прыхода.







*Прыхаджане Накрышскай царквы ў дзень свята Барыса і Глеба*

Разам з Лявонам Андрэевічам на працягу доўгіх гадоў у прыходзе панамарыць **Уладзімір Малец —** чалавек глыбокай і шчырай хрысціянскай веры. Уладзімір з-за хваробы вачэй амаль нічога не бачыць, але, не зважаючы на гэта, заўсёды самаадданa і з любоўю служыць Накрышскаму храму.

## АХВЯРАДАЎЦЫ

**Восіп Пацкевіч** — пісар Пацаўскай воласці, пераканаў прыхаджан падтрымаць святара ў яго намаганнях па ўсталяванні іканастаса ў Накрышскай царкве і пры гэтым выступіў адным з ахвярадаўцаў. У 1887 годзе сям'ю Восіпа Пацкевіча напаткала гора: памёр яго трохгадовы сын Іван. Магіла немаўляткі знаходзіцца адразу за алтаром Накрышскай царквы.

На тэтраподзе[158] Накрышскай царквы замацавана шыльдачка з малітваю за ўпакаенне душ рабоў Божых Івана, Францыскі і Васілія. Тэтрапод быў ахвяраваны **Пелагеяй Грынцэвіч**.

158 Паніхідны стол з чатырохвугольным падсвечнікам.

У 1894 годзе прыхаджане ахвяравалі некалькі ікон двунадзясятых свят.

Селянін вёскі Хвіневічы **Ілля Станіслававіч Лаўнік** ахвяраваў ікону Увядзення ў храм Прасвятой Багародзіцы. Селянін вёскі Накрышкі **Восіп Ківульчык** ікону Хрышчэння Гасподняга і ікону Стрэчання. Селянін вёскі Труханавічы **Павел Мілевіч** ахвяраваў ікону Уваскрасення Хрыстовага.

У 1901 годзе на сродкі сялян вёскі Карытніца **Мікалая і Сафіі Русіных** была напісана на золаце ікона святых апосталаў Пятра і Паўла і размешчана ў іканастасе Накрышскай царквы, дзе і знаходзіцца да гэтага дня.

У 1901 годзе на сродкі селяніна вёскі Хвіневічы **Адама Сіўко** напісаны на золаце ікона нябесных ахоўнікаў Накрышскай царквы, святых дабраверных князёў Барыса і Глеба. Ікону размясцілі ў іканастас храма, дзе яна знаходзіцца і зараз.

У 1903 годзе на сродкі жыхара вёскі Ганчары **Іллі Макуцы** на палатне была напісана ікона «Маленне Хрыста пра чашу». Цяпер гэтая ікона вісіць у алтары над ахвярнікам.

У 1903 годзе на сродкі селяніна вёскі Ганчары **Максіма Марука** была напісана ікона «Уваскрасення Хрыстовага» на палатне. Ікона і цяпер упрыгожвае алтар храма.

Варта ўзгадаць і тых людзей, якія ахвяравалі свае сродкі на вырашэнне гаспадарчых задач Накрышскага прыхода ў сучасны перыяд гісторыі.



*Фундатар царквы ў в. Дзям'янаўцы і капліцы ў в. Каўпінскія С. В. Булычаў*

Вялікую дапамогу прыходу аказаў **Сяргей Васільевіч Булычаў**, які на ўласныя сродкі пабудаваў і аздобіў усім неабходным царкву ў вёсцы Дзям'янаўцы і могілкавую капліцу ў вёсцы Каўпінскія, а таксама шмат сродкаў ахвяраваў на рамонт і добраўпарадкаванне Накрышскай царквы.







Ураджэнец Накрышскага прыхода **Васіль Ігнатавіч Сцяпура** спрыяў вырашэнню цэлага шэрагу надзвычай важных гаспадарчых спраў Накрышскага прыхода і заўсёды ахвяраваў асабістыя сродкі на ўпрыгожванне царквы. Дзякуючы яму, у храме замянілі ўсе вокны на новыя, стала магчымым правядзенне ацяплення. Яго клопатамі таксама з'явілася каля храма асфальтаваная стаянка для аўтамабіляў.

Ураджэнка вёскі Пацаўшчына **Ірына Андрэеўна Сандзін** ахвяравала грошы на набыццё вялікага звона на званіцу, на замену падлогі Накрышскай царквы, а таксама на ўласныя сродкі збудавала царкву ў сваёй роднай вёсцы, аздобіўшы яе ўсім неабходным.

Ураджэнец Накрышскага прыхода **Аляксандр Аляксандравіч Шалесны** таксама заўсёды быў уважлівым да патрэб царквы. У прыватнасці, на яго сродкі быў перакрыты дах на званіцы.

## ПЕЎЧЫЯ

На жаль, невядома, хто ў XIX і да другой паловы XX стагоддзя спяваў у Накрышскай царкве. У царкоўных дакументах пазначаны толькі імёны тых, хто спяваў на царкоўным клірасе ў 1970-я гады:

Вера Іванаўна Глушкевіч,
Паўліна Мікалаеўна Мацюшка,
Яўгенія Максімаўна Емяльянчык,
Яўгенія Мікалаеўна Анюкевіч,
Марыя Мікалаеўна Конан,
Марыя Іванаўна Абрамчык,
Яўгенія Феліксаўна Конан,
Кацярына Якаўлеўна Дубіцкая.
На пачатку XXI стагоддзя пеўчымі прыхода былі:
Марыя Аляксееўна Сцяцко,
Сцефаніда з Парэчча,
Алена Антонаўна Стукальская,
Надзея Пятроўна Ківуля,
Ганна Рыгораўна Емяльянчык,



*Хор Накрышскай царквы. 2008 г.*

Зінаіда Андрэеўна Муха,
Раіса Віктараўна Яфімчык.

У 2011 годзе хор Накрышскага прыхода абнавіўся, у яго склад увайшлі маладыя пеўчыя:

Інэса Анатольеўна Гусева,
Таццяна Аляксееўна Цярэшка,
Святлана Аляксандраўна Шалесная,
Алена Аркадзьеўна Наневіч.



# 5. ГІСТОРЫЯ НАКРЫШСКАГА МАЁНТКА

## ПЕРШЫЯ ЎЛАДАЛЬНІКІ

Назва Накрышкі (Nakryszki, Nahryszki — *пол.*) бярэ сваё паходжанне ад беларускага слова «крыж». Першая пісьмовая згадка пра Накрышкі адносіцца да 1583 года, калі вёска ўзгадваецца сярод іншых паселішчаў, якія адышлі ва ўладанне Льва Сапегі. На той час Накрышкі належалі да фальварка Вязавец (суч. Вензавец). Да Сапегаў гэтымі землямі валодаў род Глебавічаў[159], а яшчэ раней, мяркуецца, гэтыя землі маглі належаць Ілінічам.

Другая па храналогіі згадка Накрышак у пісьмовых крыніцах знаходзіцца ў дакументах Літоўскай метрыкі за 1690 год. У спісе шляхты Навагрудскага ваяводства пазначана імя Яна Станіслава Юрэвіча (Jan Stanislaw Jurewicz), мечніка[160] полацкага з фальварка Нахрышкі (у дакуменце Nahryszki)[161]. У 1744 годзе мы знаходзім назву фальварка Накрышкі ў спісе Віленскай рыма-каталіцкай дыяцэзіі, дзе пазначаецца, што фальварак належыць да Дзятлаўскай каталіцкай парафіі[162].

Першы вядомы інвентар Накрышскага маёнтка датуецца 1747 годам і захоўваецца ў Літоўскім дзяржаўным гістарычным архіве ў Вільні. З інвентару даведваемся, што Накрышкі належалі князіні

159 Вялікі гістарычны атлас Беларусі. — 2009. — Т. 1. — С. 224.

160 Мечнікам (Ensifer, Gladifer, Armiger, Miecznik) называлася асоба на дзяржаўнай пасадзе ў Вялікім Княстве Літоўскім, у абавязкі якой уваходзіла насіць перад Вялікім князем меч — знак княскай улады. Мечнік літоўскі быў пастаянным чыноўнікам пры князю; мечнікі земскія выконвалі сваю пачэсную службу толькі тады, калі кароль знаходзіўся на іх землях.

161 Metryka litewska: rejestry podymnego Wielkiego Księstwa Litewskiego, Wojewodstwa nowogrodzkie 1690 r. — Neriton, 2002. — S. 148.

162 Suwalskie Towarzystwo Genealogiczne im. prof. Jerzego Wiśniewskiego [Электронны дакумент]. — Рэжым доступу: http://www.mem.net.pl/stg/diecezjawilenska1744p.htm. — Дата доступу: 20.02.2010.



*Старонка дакумента з подпісам М. Камароўскага*

Барбары Радзівіл[163] з дому Завішаў і ў 1747 годзе яна перадае сваю ўласнасць у заклад пану Міхалу Камароўскаму[164]. Гэты інвентар — першы вядомы дакумент, які змяшчае апісанне Накрышскага маёнтка:

[163] Барбара Радзівіл (у дзявоцтве Завіша; 3 снежня 1690 г. — 15 лютага 1770г. ) — грамадская і палітычная дзяячка Вялікага Княства Літоўскага. У часы бескаралеўя ў 1733 г. выступіла ініцыятарам стварэння канфедэрацыі Наваградскага ваяводства, скіраванай супраць кандыдата на каралеўскі прастол Станіслава Ляшчынскага. У 1736 г. наведала Санкт-Пецярбург, дзе атрымала вельмі прыхільны прыём пры расійскім імператарскім двары. Была адной з найбольш палітычна актыўных прадстаўнікоў групоўкі Радзівілаў. Сачыла за абраннем прыхільных да Радзівілаў дэпутатаў на Наваградскім, Слонімскім, Ваўкавыскім, Гарадзенскім і Лідскім сойміках. Выйшла замуж 4 снежня 1710 г. за Мікалая Фаўстына Радзівіла — уладальніка Дзятлава. У шлюбе мела 6 дачок і 8 сыноў, у тым ліку Удальрыка Крыштафа, Альбрэхта, Юрыя, Станіслава.

[164] ЛДГА. — Ф. 11. — Воп. 1. — С. 1424.





«Інвентар уласнасці Накрышак, якія знаходзяцца ў павеце Слонімскім, ад мяне, Барбары з Завішаў княжны Радзівіл, ваяводзіны Навагрудскай, па праве залога ў суме дваццаці тысяч злотых польскіх ЯМ пану Міхалу Камароўскаму дня 15 снежня року 1747 вышэйзгаданаму перададзены, адкуль і выпісаны рэверсальны дакумент ад слова да слова…»

## АПІСАННЕ НАКРЫШСКАГА ДВАРА ПА ІНВЕНТАРЫ 1747 ГОДА

«Калі ўязджаеш у двор, то бачыш вароты, крытыя дранкаю, на бегунах, старыя, яны патрабуюць рамонту, адкрываюцца з невялікім трэскам. Па правай руцэ — кухня, крытая дранкаю, і таксама патрабуе рамонту. Калі ўваходзіш туды, то бачыш дзверы на бегунах, а ў сярэдзіне кухня з выведзеным комінам, які па цэгле аплецены і затынкаваны, лавак там дзве і палічка. Калі выходзіш з кухні, то па правым баку знаходзяцца пякарня і супраць яе хата. Хата тая мае пакрыты дранкай дах, які патрабуе поўнага рамонту. Калі ўваходзіш у сені, то бачыш дзверы на бегунах, а далей, ідучы ў хату, яшчэ адны дзверы на бегунах з жалезнаю клямкаю. Усярэдзіне печ, абкладзеная зялёнай старой кафляй, тры акны вялікія і тры лавы. У той хаце ёсць старая каморка з маленечкім акном. Калі выходзіш з той хаты, насупраць старая пякарня, якая патрабуе рамонту з дзвярыма на бегунах, а ўсярэдзіне звычайная пякарская печка, але невялікая, дзве лавы, чатыры акны, якія засоўваюцца з сярэдзіны, а шкляных вокнаў толькі два… Калі выходзіш з пякарскага будынка, то, ідучы правым бокам, бачыш бровар, крыты дранкаю, стары і патрабуе рамонту. Пры ўваходзе ў яго вароты на бегунах з жалезнай клямкай. Усярэдзіне там лазенка старая без печы, без дзвярэй і без акна, горан для катала. З таго бровара акно выходзіць да стоку. Калі выходзіш з бровара, то бачыш разбураную студню. Потым стаіць будынак, крыты дранкаю, а ганак пры ім падбіты гонтам. З будынка выходзяць два крыху адрозных адзін ад аднаго коміны. Уваходзячы ў будынак, бачыш ганак, і тут унізе лава, потым старыя прыступкі наверх, і там дзверы з жалезнымі завесамі і скразною клямкаю. Усярэдзіне той ганак мае двое закратаваных вокнаў каля балясін. Уваходзячы з ганка ў сені таго будынка, бачым трое дзвярэй на жалезных завесах і са скразнымі клямкамі і зашчэпкамі, але першыя з тых дзвярэй не маюць гэтых рэчаў. Адны дзверы размешчаны пра-

ма, а іншыя двое на правы бок і на левы. З гэтых сеняў паляць печы. Дом з камораю і нішамі. У тым доме зроблены камін, старая зялёная печ, вокны тут тры старыя са шклом простым і яны не адмыкаюцца, таксама адно акно ў каморы. У нішы адно старое акно. Стол у гэтым будынку стары і цалкам пагнілы. Калі выходзіш з гэтага будынка, то па левы бок іншы дом, уваходзячы ў які, бачыш белы камін, вельмі старую зялёную печку. Тут тры акны, зашклёных добрым шклом, з завесамі і зашчэпкамі. Вядуць у эркер дзверы на завесах са скразнымі клямкамі. У тым эркеры два такія самыя акны, як і ў доме, зашклёныя дарагім шклом. З таго эркера дзверы ў аптэчку, яны на завесах і са скразнымі клямкамі. Акно тут адно, зашклёнае шклом простым. З той аптэчкі выхад да прыватнага пакойчыка праз дзверы з завесамі, скразною клямкаю і зашчэпкаю. У гаспадарчым памяшканні таксама печ для выпякання хлеба з выведзеным комінам. З каморы ў дом дзверы на завесах са скразною клямкаю, а ўсярэдзіне старое акно на завесах, але з добрым шклом. Тут старая круглая печ зялёнага колеру. Адсюль з бакавой выходзяць двое дзвярэй. Адны — на двор, а другія — у сені… Прайшоўшы той будынак, па правай руцэ ўбачыш невялічкі садок насупраць самых вокнаў. За тым садком стайня, крытая дранкаю, якая патрабуе рамонту. Стайня мае яслі і месца для складання сена. Каля стайні старое памяшканне для вазоў. За той вазоўняй другая, пляцёная, з сенам, якая завецца адрынкай… Ідучы далей, знаходзіш гумно з доўгімі варотамі на бегунах. Гумно пакрыта саломай, мае дзве каморачкі для адсеву. Потым другое гумно, таксама з двума варотамі на бегунах… Выходзячы з гуменнага дзядзінца, бачыш хлеў, крыты саломаю, з двума варотамі на бегунах, а на канцы таго хлява вароты меншыя на вуліцу на бегунах. Потым свіронак з засекамі ўсярэдзіне. Пасля таго свіронка — скарбец новы з ніжнім свіранам, падбіты гонтам… Выходзячы са скарбца, бачыш сырніцу вельмі старую, якая патрабуе рамонту. Потым піўніца, крытая дранкаю… А потым тыя вароты, ад якіх пачаў і да якіх прыйшоў. Двор вакол мае паркан. А за тым парканам праз вуліцу будынак новы і вялікі, пакрыты дранкаю, толькі што пачалі накрываць, але не скончылі. У тым шэрым будынку сем акон з завесамі і сарцавінамі»[165].

Такім чынам, з інвентарнага апісання выразна бачна, што маёнтак быў запушчаны і патрабаваў сур’ёзнага рамонту. Зразумела, для Радзівілаў гэта было адно з шараговых уладанняў, і таму пільнага дагляду за гэтай перыферыйнай маёмасцю не было. Міхал Камароўскі, які атрымаў на некаторы час гэты фальварак, відавочна, таксама не быў зацікаўлены ў яго аднаўленні ці рамонце, а проста карыстаўся прыбыткамі. Сітуацыя ў Накрышках кардынальна мяняецца ў 80-х гадах XVIII стагоддзя, калі маёнтак пераходзіць да сям’і Стравінскіх. Ёсць меркаванне, што гэта адбылося ў 1786 годзе, калі фальварак Накрышкі і, магчыма, фальварак Міроўшчына пераходзяць ва ўласнасць новых гаспадароў[166]. Далейшая гісторыя Накрышак аж да 1939 года непарыўна звязана са шляхецкім родам Стравінскіх[167].

## ГІСТОРЫЯ НАКРЫШСКАЙ ГАЛІНЫ РОДУ СТРАВІНСКІХ

Накрышская галіна роду Стравінскіх (герба Суліма) сыходзіць ад імені Кшыштафа Стравінскага (+1623), Трокскага земскага суддзі. У Кшыштафа Стравінскага было 7 сыноў. Далей родавая лінія ідзе да другога сына Кшыштафа — Збігнева Стравінскага, стольніка і суддзі старадубскага. Яго сын Францыск стаў старастам мазырскім. У Францыска быў адзіны сын — Фларыян Казімір, стольнік старадубскі і падстараста ашмянскі. Адзіным сынам Фларыяна быў Ігнацій, сакратар генеральнай канфедэрацыі ў Літве, староста слонімскі, падкаморы Вялікага Княства Літоўскага.


*Герб роду Стравінскіх*

Сын **Ігнацiя Бруна Фларыян Стравінскі** (г.н. 1750) прыняў ад бацькі ў спадчыну тытул старасты слонімскага[168]. У 1775 годзе Бруна Фларыян Стравінскі ажаніўся з Францыскай Барбарай Валадковіч, дачкой мінскага стольніка Марціна Валадковіча[169]. Прыкладна

[165] ЛДГА. — Ф. 11. — Воп. 1. — С. 1424. Пераклад з польскай мовы на беларускую протаіерэя Георгія Роя.

[166] Згодна з дадзенымі «Літоўскай метрыкі», напрыканцы XVII ст. і ў пачатку XVIII ст. Міроўшчынай валодаў Міхал Станіслаў Юранд Макавецкі (Michal Stanislaw Jurand Makowiecki +2.10.1706). (Metryka litewska: rejestry podymnego Wielkiego Księstwa Litewskego, Wojewodstwa nowogrodzkie 1690 r. — Neriton, 2002. — S. 128).

[167] Aftanazy, R. Dzieje rezydencji na dawnych kresach Rzeczypospolitej / Roman Aftanazy. — V. 5–11: Ziemie ruskie korony. T. 2. — C. 272.

[168] Niesiecki, K. Herbarz polski. Rodzina Strawińskich / K. Niesiecki. — Wyd. J. N. Bobrowicza, Lipsk, 1841. — T. 8. — S. 534–536.

[169] Чарняўскі, Ф. В.Ураднікі менскага ваяводства XVI–XVIII стагоддзяў. Біяграфічны даведнік. Выпуск 1. — Мінск, 2007. — С. 83.

ў сярэдзіне 80-х гадоў XVIII стагоддзя сямейная пара Бруна Фларыяна і Францыскі Стравінскіх набываюць фальваркі Накрышкі і Міроўшчына, робяць Накрышкі сваім сямейным гняздом. Фларыян Стравінскі праводзіць шырокамаштабны рамонт Накрышскага дома і ўсёй сядзібы, засноўвае тут бібліятэку і збірае багаты кніжны фонд. Ён, несумненна, быў перадавым чалавекам свайго часу. Фларыян Стравінскі падарожнічаў па Заходняй Еўропе, быў знаёмы з французскімі асветнікамі і перапісваў у свае рукапісныя зборнікі іх творы і артыкулы з «Французскай энцыклапедыі». Рэшткі Накрышскай бібліятэкі захоўваюцца цяпер у аддзеле рукапісаў бібліятэкі Варшаўскага ўніверсітэта[170]. Сярод захаваных рукапісаў маецца копія «Генрыяды» Вальтэра, «Марсэльеза», розныя дакументы XVI стагоддзя, вершы Нарушэвіча і Карпінскага, беларуская «Прамова Мялешкі»[171], вершаванае ліставанне Ф. Карпінскага і ўладара Шчорсаў І. Храптовіча, апісанне Дзятлава, польскія вершы Ігнацыя Булгароўскага, апісанне падарожжа невядомага аўтара са Слоніма ў Марыенбад, інвентарныя спісы слонімскіх маёнткаў Стравінскіх. Акрамя таго, у калекцыі ёсць дакумент пад назвай: «Розныя рознасці даўномінулых і нашых часоў». Гэты зборнік утрымлівае творы гістарычнага, палітычнага і юрыдычнага зместу, а таксама літаратурныя, пераважна вершаваныя, творы розных польска-літоўскіх аўтараў[172]. Асобную частку накрышскай калекцыі складаюць падручнікі і школьныя нататкі, складзеныя самім Фларыянам Стравінскім[173]. У сваёй цэласнасці накрышская бібліятэка магла налічваць да 12 тысяч тамоў[174]. Шмат якія рукапісы з гэтага збору пазначаны подпісамі Бруна Фларыяна Стравінскага, яго жонкі, а таксама пячаткай з подпісамі: «Z biblioteki Nakryskiej Adama Strawinskego», «Biblioteka Nakryska Strawinskich»[175].

[170] Kowkiel, L. Prywatne księgozbiory na Grodzieńszczyźnie w pierwszej połowie XIX wieku / Lilia Kowkiel. — Wydawnictwo Naukowe Akademii Pedagogicznej, 2005. — S. 190.

[171] «Прамова Мялешкі» — помнік беларускай літаратуры 1-й пал. XVII ст. Належыць да гумарыстычна-парадыйных і сатырычных твораў аратарскай прозы. Узор беларускай патрыятычнай літаратуры. Створана ў форме прамовы на сейме, прыпісанай смаленскаму кашталяну І. Мялешку.

[172] Мальдзіс, А. Таямніцы старажытных сховішчаў / А. Мальдзіс. — Мн., 1974. — С. 54.

[173] Kamolowa, D. Zbiory rękopisów w bibliotekach i muzeach w Polsce / D. Kamolowa. — Warszawa : Biblioteka Narodowa, 2014. — S. 393.

[174] Aftanazy, R. Dzieje rezydencji na dawnych kresach Rzeczypospolitej / Roman Aftanazy. — V. 5–11: Ziemie ruskie korony. — T. 2. — S. 272.

[175] Kowkiel, L. Prywatne księgozbiory na Grodzieńszczyźnie w pierwszej połowie XIX wieku / Lilia Kowkiel. — Wydawnictwo Naukowe Akademii Pedagogicznej, 2005. — S. 152.








*Падручнік геаметрыі Б. Ф. Стравінскага*

Згодна з дадзенымі польскага класіка з галіны даследавання шляхецкай генеалогіі К. Несецкага, Бруна Фларыян Стравінскі памёр у 1778 годзе ва ўзросце 37 гадоў[176]. Але гэтая інфармацыя не пацвярджаецца. Захаваўся судовы дакумент датаваны 1789 годам, які падпісаны слонімскім судовым гродскім старастам Бруна Фларыянам Стравінскім[177]. Несумненна, аднак, што Францыска Стравінская перажыла свайго мужа. Мяркуецца, што Бруна Фларыян Стравінскі памёр напрыканцы 90-х гадоў XVIII стагоддзя ці ў самым пачатку XIX стагоддзя. Па сабе ён пакінуў двух сыноў: Яна і Маўрыцыя (Maurycy)[178]. Пасля смерці Бруна Фларыяна яго спадкаемцамі былі: удава Францыска Стравінская, яе сын Ян, унукі Юзэф (сын Маўрыцыя) і Адам (сын Яна).

Менавіта пры Францысцы Стравінскай была даведзена да завяршэння справа па пабудове новай мураванай царквы, званіцы і цар-

[176] Niesiecki, K. Herbarz polski. Rodzina Strawińskich / K. Niesiecki. — Wyd. J. N. Bobrowicza, Lipsk, 1841. — T. 8. — S. 534–536.

[177] Шаланда, А. Дакументальныя матэрыялы XVII–XVIII стагоддзяў у фондах Слонімскага краязнаўчага музея ім. І. І. Стаброўскага / А. Шаланда // Герольд Litherland. — 2002. — № 3–4. — С. 67.

Позва ў Слонімскі гродскі суд Фларыяна Брунона Стравінскага, судовага гродскага слонімскага старосты шляхце Плаўскага тракту … па скарзе Францішка Корчыца, слонімскага гродскага рэгента ў справе аб межах іх уладанняў. — Слонім, 06.09.1789 г. Польская мова, 2 арк. Пячатка: адсутнічае. Шыфр: КП 5957/6: Д. 1775.

[178] Ciechanowicz, Jan. Rody rycerskie Wielkiego Księstwa Litewskiego: S-Ż / Jan Ciechanowicz. — FOSZE, 2001. — T. 5. — С. 173.























*Старонкі падручніка геаметрыі Б. Ф. Стравінскага*




*Подпіс Б. Ф. Стравінскага*

коўнай агароджы ў Накрышках. Узвядзенне царквы было скончана ў 1821 годзе. Урачыстае асвячэнне адбылося 24 ліпеня 1822 года[179].

Няпроста складваліся адносіны ўдавы Стравінскай з мясцовым сялянствам. 1821 годам датавана судовая справа ў адносінах да Францыскі Стравінскай: «Об обременении помещицей Стравинской крестьян имения “Накрышки” и нанесении им побоев»[180]. Па шматлікіх сведчаннях сялян, запісаных следчымі, Францыска Стравінская была надзвычай жорсткай у адносінах да сваіх прыгонных. Да прыкладу, селянін Кіпрыян Сцяпура быў закаваны за правіну ў кайданы і доўгі час утрымліваўся ў зняволенні ў сутарэннях панскага дома. Згодна з іншымі сведчаннямі, пані Стравінская прымушала працаваць сваіх сялян звыш меры ў перыяды важных сезонных работ, змушала да цяжкай працы нават цяжарных жанчын. У сваё апраўданне Францыска Стравінская напісала два вялікія лісты.

У літаратуры засталіся ўспаміны пані Габрыэлі Пузыні пра асобу Францыскі Стравінскай і пра жыццё яе дома: «Па пяці днях, весела праведзеных у дзядзькі, было вельмі шкада з ім развітвацца, але чакала нас у Накрышках ужо папярэджаная цётка майго бацькі, паважная пані Стравінская з дому Валадковічаў. У доме бабулі Стравінскай усё было старасвецкае: пакоі вялікія, столь з лампэрыямі[181], панны ў доме рэспектабельныя і г.д. Назаўтра прыпадала нядзеля, і

[179] Biblioteka Uniwersytetu Warszawskiego. Sygn. 314.
[180] НГАБ Гр. Ф. 1. — Воп. 1. — С. 2235. «Об обременении помещицей Стравинской крестьян имения “Накрышки” и нанесении им побоев».
[181] Від панэльнай абшыўкі.






Datt: Roku 1820 d: 24 July —
Franciszka Strawinska

*Фрагмент дакумента з уласнаручным подпісам Ф. Стравінскай*

пасля імшы з’ехалася ўсё суседства — Дмахоўскія, Корсакі, а з імі іх госць — малады Антоні Эдвард Адынец»[182, 183].

Францыска Стравінская пайшла з жыцця, як мяркуецца, у 30-х гадах XIX стагоддзя[184]. Але яшчэ пры яе жыцці маёнтак быў падзелены на тры часткі. Накрышскі фальварак і вёскі Ганчары, Калпенікі, Нагорнікі, Навікі, Хабаткі, Русакі, Парэчча, Труханавічы, Гірычы адышлі да Яна Стравінскага. Юзэф Стравінскі прыняў у спадчыну вёскі Хвіневічы і Пацаўшчыну. Унук Францыск і сын Яна Адам павінны былі прыняць Міроўшчыну.

**Ян Раймунд Стравінскі** (г.н. 1787), харунжы слонімскі, быў жанаты з Катарынаю Францыскаю з дому Чацвярцінскіх (1785–1861).

[182] Gabrjela Puzynina (z Güntherów). W Wilnie i w dworach litewskich: pamiętnik z lat 1815–1843. — Krajowa Agencja Wydawnicza, 1990. — S. 78.
[183] Антоні Эдвард Адынец — паэт, перакладчык, сябра таварыства філарэтаў і сябар Адама Міцкевіча.
[184] Ciechanowicz, Jan. Rody rycerskie Wielkiego Księstwa Litewskiego: S–Ż / Jan Ciechanowicz. — FOSZE, 2001. — T. 5. — C. 173.



*Фрагмент дакумента з подпісам Я. Р. Стравінскага*

Ян Раймунд працягнуў справу свайго бацькі па папаўненні фондаў бібліятэкі кнігамі і па кіраванні маёнткам.

У 1819 годзе віленская геральдычная камісія пацвердзіла дваранскую годнасць Яна Стравінскага і яго сыноў Адама і Станіслава[185]. Ян Раймунд Стравінскі быў абраны маршалкам Слонімскага павета на выбарным з'ездзе шляхты. У фондах бібліятэкі Варшаўскага ўніверсітэта захавалася яго прамова перад сходам з гэтай нагоды[186]. У 1843 годзе намаганнямі і руплівасцю Яна Стравінскага на Дзятлаўскіх могілках была збудавана каменная капліца, якая знаходзіцца там і дагэтуль[187]. Цалкам верагодным падаецца меркаванне, што капліца была ўзведзена Янам над магілаю яго спачылых бацькоў — Фларыяна і Францыскі Стравінскіх. Сам Ян Стравінскі памёр ва ўзросце 70 гадоў 15 мая 1848 года[188].

Маршалак шляхты Слонімскага павета **Адам Стравінскі**, сын Яна Стравінскага, нарадзіўся ў 1807 годзе. Яшчэ пры жыцці свайго бацькі і бабкі Францыскі ён прыняў у спадчыну фальварак Міроўшчына. З 1827 года Адам знаходзіўся пад тайным наглядам паліцыі за ўдзел у патрыятычным аб'яднанні «Zorzanie», якое дзейнічала ў Вільні, Беластоку і Свіслачы. Да 1829 года паліцыя не знаходзіла нічога падазронага ў яго дзеяннях. Але ў 1830 годзе Адам Стравінскі стаў пад сцягі паўстанцаў. За гэта дзяржава канфіскавала ў сям'і Стравінскіх фальварак Міроўшчына, якім валодаў Адам[189].

185 Ciechanowicz, Jan. Rody rycerskie Wielkiego Księstwa Litewskiego: S–Ż / Jan Ciechanowicz. — FOSZE, 2001. — Т. 5. — С. 172.

186 Katalog rękopisów Biblioteki Uniwersyteckiej w Warszawie. — T. 2. — S. 13.

187 Архіў Дзятлаўскага краязнаўчага музея. Апісанне Дзятлаўскага касцёла за 1886 г.

188 Памятная насценная шыльда ў Дзятлаўскім касцёле Успення Дзевы Марыі.

189 НГАБ Гр. Ф. 31. — Воп. 2. — С. 76. Дело об конфискации имения Мировщина у помещика Адама Стравинского.







*Бібліятэчная пячатка А. Стравінскага*

З паліцэйскіх дакументаў мы даведваемся, што ў паўстанца Адама Стравінскага была бабка Францыска Барбара Стравінская, маці Кацярына Францыска, бацька Ян. Пасля паражэння паўстанцаў Адам эміграваў у Францыю. Яну Стравінскаму было строга забаронена дапамагаць сыну ў эміграцыі. Адам атрымаў магчымасць вярнуцца на радзіму ў 1833 годзе пасля царскай амністыі[190]. Неўзабаве пасля вяртання ён бярэ шлюб з Аленай Стравінскай (Helena Strawinska). Сям'і Стравінскіх удалося ў 1840 годзе дамагчыся ў Пецярбургу перагляду справы пра канфіскацыю маёмасці Адама Стравінскага. Фальварак Міроўшчына быў вернуты ва ўладанне былых гаспадароў[191]. Пасля смерці бацькі ў 1848 годзе Адам прымае ў спадчыну і Накрышскі сямейны фальварак.

Менавіта да часу кіравання Адамам Стравінскім Накрышскім маёнткам адносяцца звесткі пра сялянскія хваляванні ў Накрышках і Міроўшчыне. У красавіку 1861 года землеўладальнікі Слонімскага павета даносілі наступнае: «...приходские священники Слонимского уезда, Дзенциольской (Дятловской) и соседней На-

190 Ciechanowicz, Jan. Rody rycerskie Wielkiego Księstwa Litewskiego: S–Ż / Jan Ciechanowicz. — FOSZE, 2001. — Т. 5. — С. 173.

191 Государственный совет Российской империи в документах Российского государственного исторического архива. 1829–1844 гг. // О пересмотре решения Правительствующего Сената по делу об имении Адама Стравинского. — М., 2009. — С. 255.



# ЖУРНАЛЪ

Гродненскаго Губернскаго по крестьянскимъ дѣламъ Присутствія

состоявшійся Единогласно Августа 27 дня 1865 года.

| № | СЛУШАЛИ: | Время исполненія. |
| --- | --- | --- |
| 841 | Представленные из Слонимской Повѣрочной Коммисіи, отъ 15 Октября 1864 года за № [illegible], выкупные акты на имѣніе „Накрышки" помѣщика Адама Иванова Стравинскаго, на деревни Накрышки, Романовичи, Новики, [illegible], Гончары, Порѣчье, [illegible], [illegible], Труфановичи и [illegible], Накрышкинскаго, [illegible], Порѣчскаго и [illegible] Сельскихъ Обществъ [illegible] волости вмѣстѣ съ протоколами Коммисіи и именными списками крестьянъ домохозяевъ. Изъ производства этого видно, что протоколъ Коммисіи объявленъ крестьянамъ и повѣренному помѣщика 27 Февраля 1865 г. Въ имѣніи ревизскихъ мужескаго пола душъ: 466; въ томъ числѣ батраковъ 23, крестьянъ хозяевъ 138, и огородниковъ 2; въ томъ числѣ обезземельныхъ, вновь надѣленныхъ: изъ крестьянъ 37, изъ дворовыхъ „ – „. Выкупается ими, согласно ихъ желанію полный надѣлъ, а именно: 1541 дес. 2139 саж., обложенной платежемъ земли; сверхъ того пастбищъ 355 дес. 2070 саж., а [illegible] 337 дес. 1250 саж. а всего удобной земли 2234 дес. 1934 саж., и неудобныхъ мѣстъ 350 дес. 1342 саж. Кромѣ того крестьянамъ дер. Накрышки, Романовичи и Новики предоставлено право пасти скотъ по фольварковымъ угодьямъ. | Г. Мировому Посреднику участка уѣзда №. Къ нему же, для передачи крестьянамъ: а) объявленіе № б) именной списокъ №. Въ Уѣздное Полицейское Управленіе, для передачи помѣщику объявленіе №. Въ Гродненскую Казенную Палату: а) отношеніе № б) именной списокъ № |

*Старонка акта аб вызваленні сялян Накрышскага маёнтка Стравінскіх ад прыгону*

крышской церквей толковали им (крестьянам), что барщины можно не отбывать, если крестьяне того пожелают»[192]. Прыстаў Пахноўскі паведамляе земскаму спраўніку, што сяляне Адама Стравінскага ў маёнтках Накрышкі і Міроўшчына адмаўляюцца адбываць паншчыну[193]. Праблему падпарадкавання сялян вырашылі з дапамогаю казакаў Стараінгерманладскага палка, якія жорстка падаўлялі ўсялякія спробы пратэсту. Уласнаручныя подпісы Адама Стравінскага стаяць пад актам 1864 года аб вызваленні ад прыгоннай залежнасці сялян, належных да фальваркаў Накрышкі і Міроўшчына[194].

[192] Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Дзятлаўскага раёна. — Мінск : Універсітэцкае, 1997. — С. 47–48.





У 1865 годзе ў Адама і Алены Стравінскіх памірае васьмігадовая дачка Габрыэла[195].

Сярод іншага Адам Стравінскі займаўся і літаратурнай дзейнасцю. Захаваліся тэксты яго роздумаў пра спосабы і магчымасці тлумачэння твораў класікаў старажытнасці. Ён спрабаваў сябе і ў напісанні п’ес[196]. Напрыканцы жыцця склаў свае жыццёвыя ўспаміны, з якіх захаваўся толькі адзін фрагмент, у якім апісваюцца сучасныя аўтару дзеячы Слонімскага павета[197]. Адам Стравінскі памёр, трэба меркаваць, напрыканцы 70-х ці на пачатку 80-х гадоў XIX стагоддзя.

Наступным уладаром Накрышак стаў **Станіслаў Стравінскі**, верагодна, сын Адама Стравінскага. У 1883 годзе пажар знішчыў панскі палац у Накрышках. Станіслаў Стравінскі на месцы старога згарэлага дома ўзвёў новы. У новай пабудове быў рэканструяваны выгляд старога дома.

Новы ўладар Накрышскага фальварка пабудаваў драўляны дом у выглядзе працягнутага прамавугольніка з ломаным высокім дахам, пакрытым гонтай з авальнымі аконнымі адтулінамі ў ніжняй частцы. З боку галоўнага пад’езда да дома быў зроблены арыгінальны порцік на шасці драўляных калонах. Бакавыя калоны стаялі асобна, а чатыры сярэднія — папарна. Прастору паміж сярэднімі калонамі накрывала аркада, якая вянчалася трохвугольным верхам. З правага боку ад цэнтральнага ўвахода быў яшчэ адзін ганачак з трыма калонамі. З задняга боку будынка да сярэдзіны двара ішла шырокая тэраса. Фасады дома былі не тынкаваныя, а фарбаваныя[198].

Каля галоўнага жылога дома размяшчаліся таксама афіцына і лямус, якія не былі знішчаны пажарам 1883 года і адносіліся яшчэ да

[193] Там сама.

[194] Архіў Накрышскай царквы. Копия журнала Гродненского губернского по крестьянскому вопросу присутствия от 27 августа 1865 г.

[195] Памятная насценная шыльда ў Дзятлаўскім касцёле Успення Дзевы Марыі.

[196] Katalog rękopisów Biblioteki Uniwersyteckiej w Warszawie. — T. 2. — S. 36.

[197] Kowkiel, L. Prywatne księgozbiory na Grodzieńszczyźnie w pierwszej połowie XIX wieku / Lilia Kowkiel. — Wydawnictwo Naukowe Akademii Pedagogicznej, 2005. — S. 90.

[198] Aftanazy, R. Dzieje rezydencji na dawnych kresach Rzeczypospolitej / Roman Aftanazy. V. 5–11: Ziemie ruskie korony. — T. 2. — S. 272.



*Дом Стравінскіх у Накрышках*

старога архітэктурнага ансамбля накрышскай панскай сядзібы. Дом быў акружаны вялікім ландшафтным паркам, закладзеным яшчэ ў другой палове XVIII стагоддзя. У парку дамінавалі лісцевыя пароды дрэў, галоўным чынам ліпы і клёны, раслі таксама надвіслянскія таполі, якія былі высаджаны жывапіснымі групамі. Перад домам і за ім разлягаліся шырокія падстрыжаныя газоны[199].

У 1922 годзе ўдава Станіслава — Марыя Стравінская (з дому Агінскіх) — перадала Інстытуту антрапалагічных навук варшаўскага навуковага таварыства найбольш каштоўныя рукапісы і кнігі з Накрышскай бібліятэкі колькасцю 921 экзэмпляр[200]. Невядомы лёс тых кніжных фондаў, якія засталіся ў Накрышках. Верагодней за ўсё кнігі былі знішчаны альбо раскрадзены ў 1939 годзе, альбо згарэлі разам з домам у 1941 годзе.

Апошняга ўладара Накрышскага маёнтка звалі **Уладыслаў Станіслаў Стравінскі**. Нарадзіўся ён у 1883 годзе. У часы маладосці Уладыслаў служыў афіцэрам расійскай імператарскай арміі. Яго жонкай стала Яніна з дому Кашыцаў[201]. У гэтым шлюбе нарадзіліся

[199] Aftanazy, R. Dzieje rezydencji na dawnych kresach Rzeczypospolitej / Roman Aftanazy. V. 5–11: Ziemie ruskie korony. — T. 2. — S. 272.

[200] Kowkiel, L. Prywatne księgozbiory na Grodzieńszczyźnie w pierwszej połowie XIX wieku / Lilia Kowkiel. — Wydawnictwo Naukowe Akademii Pedagogicznej, 2005. — S. 152.

[201] Jasiewicz, K. Zagłada polskich Kresów: ziemiaństwo polskie na Kresach Północno-Wschodnich Rzeczypospolitej pod okupacją sowiecką 1939–1941: studium z dziejów zagłady dawnego narodu politycznego / Krzysztof Jasiewicz. — Warszawa, 1998. — S. 284.







*Старонкі інвентарнага спісу Накрышскай бібліятэкі Стравінскіх*

дзве дачкі Гелена Стравінская (Матэюн) (Helena Strawińska-Matejun, +2004) і Аляксандра Стравінская (Катвіцкая) (Aleksandra Strawińska-Kotwicka).

Па ўспамінах накрышскіх старажылаў, Уладыслаў вёў разгульны лад жыцця. Падчас аднаго са шматлікіх наведванняў Варшавы ён асабліва разышоўся, і ўсё гэта скончылася тым, што займеў вялізныя даўгі перад рознымі крэдыторамі, верагодна, гэтыя даўгі былі картачнымі. Заплаціць па рахунках ён быў не ў стане. Справа дайшла да вопісу Накрышскага маёнтка. Выйсце з цяжкай жыццёвай сітуацыі Уладыславу прапанаваў жыхар Накрышак яўрэй-камерсант Каплінскі. Па дамове ён аплочваў усе даўгі Уладыслава, але за гэта да яго пераходзіў найлепшы лес з Ліпічанскай пушчы, які належаў Стравінскаму. Справа была выключна выгоднай для Каплінскага. Лес абышоўся за палову яго кошту, а продаж пасля апрацоўкі абяцаў надзвычай вялікі прыбытак. Ва Уладыслава не было іншага выйсця, як толькі пагадзіцца на гэтую прапанову. Мясцовыя жыхары ўзгад-



*В. Стравінскі*



*Я. Стравінская з мамай С. Грабоўскай. Накрышкі, верасень 1938 г.*





ваюць, што Каплінскі, прыязджаючы ў лес на загатоўку, пасмейваўся і гаварыў: «Ох, пане, з'ездзіў бы ты ў Варшаву яшчэ разок, дык я б азалаціўся»[202].

У 1910 годзе Уладыслаў Стравінскі рэканструяваў у Дзятлаве на каталіцкіх могілках капліцу, пабудаваную яго прадзедам Янам Раймундам. Праект рэканструкцыі[203] быў падрыхтаваны віленскім архітэктарам А. С. Клейнам[204].

Мясцовыя жыхары без асаблівай сімпатыі ўзгадваюць апошняга пана Накрышскага маёнтка і адзначаюць яго дзівацтвы і фанабэрыстасць. Мяркуючы па ўсім, яго адносіны з мясцовым насельніцтвам былі вельмі напружанымі. Гэта пацвярджаецца і ўспамінамі жонкі вядомага польскага мастака Станіслава Чайкоўскага — Ганнай. Сям'я Чайкоўскіх пражывала ў Накрышках з 1930-га да 1939 года. Ганна Чайкоўская, маючы, верагодна, нейкую асабістую крыўду ці антыпатыю да накрышскіх гаспадароў, так узгадвала Уладыслава Стравінскага: «Абсалютны дзівак. Ён мог хавацца ад людзей па некалькі дзён. Часам браў кошык і ішоў з кіем у лес па грыбы. Але сам іх не збіраў. Ён адбіраў знойдзеныя грыбы ў жанчын-сялянак, якіх сустракаў у лесе»[205].

Успаміны Ганны Чайкоўскай — вельмі цікавае сведчанне пра жыццё ў Накрышках у 30-я гады XX стагоддзя. Сям'я Чайкоўскіх абрала Накрышкі месцам свайго сталага жыхарства. Працытуем некаторыя фрагменты гэтых успамінаў.

«Маёнтак называўся Накрышкі. Мы даведаліся, што гаспадыняю гэтага фальварка была пані Стравінская, а гаспадарыў тут адзін з яе сыноў. Коні выехалі за намі да мястэчка Дзятлава. Безлюдна. Дарога цудоўная. Вочы не могуць нацешыцца і тым, і іншым, і дарогаю, і дрэвамі. Пуста. Прыязджаем. Парк. Дом у старым парку. Цудоўна! Гаспадыня дома выйшла нас сустрэць. Гаспадара няма. Толькі гувернантка, дзве паненкі, яшчэ круціўся нехта з радні і нейкія пенсіянеры, якім штосьці там не падабалася. Гаспадара дома не відаць

202 З успамінаў жыхароў вёскі Накрышкі Яўгеніі Мікалаеўны Анюкевіч, Лявона Андрэевіча Глушкевіча і Міхаіла Міхайлавіча Ківулі.

203 Кулагін, А. М. З архітэктурнай спадчыны Дзятлаўшчыны [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: http:www.dyatlovo.info/content/z-arkh-tekturnai-spadchyny?page=0%2C3. — Дата доступу: 19.02.2010.

204 Аўгуст Клейн (літ. Augustas Kleinas; нар. у 1870 г., Ловічскі павет Варшаўскай губерні) — віленскі архітэктар нямецкага паходжання, прадстаўнік школы гістарызму. Сярод іншых стварыў праекты могілкавых капліц у Шырвінтах і Салечніках.

205 Budzyński, W. Świątynia przodków: Opowiesci biograficzne / Wiesław Budzyński. — Adam, 1995. — S. 9–10.

ні першы дзень, ні другі, ні трэці і гэтак далей. Потым прыехала старая пані Стравінская (тая, у якой быў мураваны дом на вуглу вуліцы Мазавецкай і плошчы Напалеона ў Варшаве) — вельмі клапатлівы і добры чалавек. Людзі яе любілі, у адрозненне ад жонкі сына — маладой пані Стравінскай з Накрышак. Яна была бландзінкаю з нябеснымі, але вельмі халоднымі вачыма… Калі гаворка заходзіла пра кнігі, то маладая пані казала, што для яе самая галоўная кніга — бухгалтарская. Як толькі старая пані прыехала, яна адразу ўпадабала майго мужа і была вельмі прыязная да нас. Ёй, напэўна, было за восемдзесят, нават хутчэй пад дзевяноста гадоў.

Чым далей мы там заставаліся, тым мацней пускалі карані. Мой муж любаваўся Нёманам і вясковай архітэктурай. Ён казаў: “Тут цудоўна. Нідзе не бачыў такога неба…” Клімат у тым месцы быў такім, што, здавалася, там было цяплей, чым ва ўсёй акрузе. У гэтым месцы чалавек адчуваў сябе супакоеным, прыласканым, прыціснутым да сэрца…

Настаўнікам у Накрышках быў адзін выдатны чалавек з цудоўнай жонкай і дзецьмі. Ён быў народжаны ў Прыкарпацці і ўсіх вучыў прыкарпацкім песенькам. Беларусы надзвычай музыкальныя. Калі выходзіш на бераг Нёмана ўвечары, як заганяюць скаціну ў хлявы, адусюль чуюцца шматгалосыя напевы…

У Накрышках мы пражылі з 1930 года і да пачатку вайны. Вайна нас там і застала. Спачатку да нас даходзілі чуткі пра бальшавікоў. А аднойчы раніцай да нас у акно пастукалі і паведамілі, што ў Накрышкі прыйшлі бальшавікі. Яны адразу накіраваліся на панскі падворак. Прайшла гадзіна, можа, дзве, і мы ўбачылі, што па вуліцы ідуць людзі і нясуць нарабаваныя ў панскім доме рэчы, а сярод іх адна вясковая жанчына невядома навошта несла тэнісную ракетку…[206]

Прайшоў яшчэ час, і адчыніліся дзверы нашага дома, і да нас у пакой увайшла перапужаная пані, такая самая спалоханая гувернантка і дзве дзяўчынкі, якія былі ўкутаны паверх начных кашуляў у палатняныя накідкі, але трэсліся ад холаду. Гэта было яшчэ на світанку[207], збеглі загадзя, таму што баяліся расправы. Жанчы-

[206] Накрышскія старажылы ўзгадваюць, што Стравінскім нічога не дазволілі ўзяць з дома. З дачок знялі нават паліто, нягледзячы на тое, што раніца была вельмі халоднай. Іх, маленькіх дзяўчатак, у адных начных кашульках выгналі з дома, які быў ушчэнт разрабаваны актывістамі: хтосьці панёс вопратку, хтосьці — мэблю, хтосьці рабаваў прадуктовыя запасы Стравінскіх, а некаторыя адразу кінуліся да запасаў віна і гарэлкі…

[207] Па ўспамінах мясцовых людзей, адміністратар насіў прозвішча Пазульскі.







*Накрышскі парк. С. Чайкоўскі*



*Сажалка ў Накрышскім парку. С. Чайкоўскі*



*Ганак старога Накрышскага дома. С. Чайкоўскі*

ны засталіся. У дзяўчынак ад холаду зуб на зуб не пападаў. Раніца была надзвычай халоднаю, а яны ў гэтых кашульках... Дзяўчынкі селі каля печкі. Што з імі рабіць? Да таго ранку Стравінскія ніколі ў нас не бывалі, а цяпер адразу прыйшлі да нас. Мы нават не мелі паўсядзённых стасункаў, пасля таго як выехала старая пані… Дзе іх хаваць? Але раптам, уявіце сабе, адчыняюцца дзверы, і мясцовыя яўрэі, якіх Стравінскія так моцна праследавалі, прапануюць ім дапамогу: “Шаноўная пані, запрэжаная фурманка стаіць за тою і тою хатаю. Выходзьце з дзяўчынкамі і хутчэй з’язджайце”. Вось яны, гэтыя яўрэі, якіх так праследавалі… Дарэчы там быў зусім іншы тып яўрэяў — не гандляры. Ва ўсіх пераважна была свая зямля, якую яны апрацоўвалі, сеялі, жалі, былі дбайнымі гаспадарамі. Былі ў іх і невялічкія крамы, асартымент якіх быў разлічаны на забеспячэнне панскага двара… Але пані была заражана сучаснаю заразаю і лічыла, што ў жыда нічога нельга купляць… А для іх гэта было фінансавай катастрофаю… Але нас яўрэі любілі. Быў такі стары яўрэй. Сівы бы голуб. Ён заўсёды прымаў у мяне брычку, знімаў збрую і карміў каня. “Няхай пані не турбуецца”, — казаў ён. Быў там таксама нейкі Срулек, закаханы ў мяне, у тым сэнсе, што надта любіў даваць мне самыя розныя парады… Некаторыя яўрэі вельмі радаваліся прыходу бальшавікоў. Прыхавалі тавар і думалі, што прададуць даражэй. Але бальшавікі наогул ліквідавалі гэты гандаль.

Увогуле, трэба сказаць, што ўсе — і яўрэі, і рускія — у Беларусі былі людзьмі добрымі. Ніколі не было ніякага крадзяжу.

Панскі двор апусцеў. Мы выехалі з Накрышак перад Раждаством 1939 года. І пасля вайны я там не была. Баюся, што маё сэрца разарвалася б. Дом наш разабралі. Няма за чым ехаць… Але старыя людзі, напэўна, нас памятаюць»[208].

У чэрвені 1941 года Уладыслаў Стравінскі быў арыштаваны ў Неменчыне (суч. Літва, пол. *Niemenczyn*, літ. *Nemenčinė*). Памёр, паводле інфармацыі савецкіх крыніц, 21 чэрвеня 1941 года ў СССР. Жонка Яніна Стравінская[209] і дачка Аляксандра былі вывезены з Вільні ў 1941 годзе ў Сібір[210], там былая гаспадыня накрышскага маёнтка за-

208 Budzyński, W. Świątynia przodków. Opowiesci biograficzne / Wiesław Budzyński. — Adam, 1995. — S. 8–20.

209 Татаренко, А. Недозволенная память. Западная Беларусь в документах и фактах: 1921–1954-е годы [Электронный ресурс]. — Режим доступа: http://hetman.by/Nedozvolenayapamyat.html.

210 Jasiewicz, K. Zagłada polskich Kresów: ziemiaństwo polskie na Kresach Północno-Wschodnich Rzeczypospolitej pod okupacją sowiecką 1939–1941: studium z dziejów zagłady dawnego narodu politycznego / Krzysztof Jasiewicz. — Volumen, 1997. — S. 284.



ГІСТОРЫЯ НАКРЫШСКАЙ ГАЛІНЫ РОДУ СТРАВІНСКІХ



*Месца, дзе некалі стаяў дом Стравінскіх*



*Былая панская стайня ў Накрышках*



*Сучасны выгляд Накрышскага парку Стравінскіх з вышыні*

хварэла на тыф і памерла. Яніна Стравінская пахавана на вайсковых могілках у сібірскім пасёлку Гузары[211].

Так трагічна завяршылася гісторыя сям'і Стравінскіх у Накрышках. Іх дом у 1939 годзе быў аддадзены пад шпіталь. У чэрвені 1941 года партызаны падпалілі дом, каб ён не стаў нямецкай камендатурай. Нямецкая ваенная частка тым не менш размясцілася на тэрыторыі Накрышскага маёнтка ў будынку былой афіцыны. Таму, можна сказаць, дом быў знішчаны дарэмна. Падчас вайны ў Накрышкі прыйшоў ліст ад былога панскага эканома Пазульскага, у якім гучалі пагрозы расправы над усімі, хто ўдзельнічаў у рабаванні дома. Але, на шчасце, Пазульскі да Накрышак так і не дабраўся[212].

У пасляваенны час парк пачаў зарастаць. Афіцыну разабралі. Пра панскі маёнтак нагадвалі дыхтоўныя свіраны, якія стаялі непадалёк ад Накрышскай царквы. Але ў 2016 годзе па праграме добраўпарадкавання вёскі мясцовы калгас разабраў і гэтыя будынкі, якія, напэўна, прастаялі б яшчэ не адно дзесяцігоддзе і маглі быць выкарыстаны ў мэтах развіцця турызму. Цяпер толькі векавыя клёны нагадваюць пра былую гісторыю Накрышскага маёнтка, але і іх век ужо не доўгі.

У 80-х гадах XX стагоддзя ўнукі і праўнукі апошняга гаспадара маёнтка прыязджалі ў Накрышкі і наведалі тое месца, дзе стаяў дом іх продкаў. Нашчадкі Накрышскага роду Стравінскіх жывуць цяпер у Польшчы і Канадзе.

[211] З успамінаў унучкі апошняга ўладара Накрышскага маёнтка пані Івоны Матэюн — дачкі Хелены Стравінскай.

[212] З успамінаў жыхара вёскі Накрышкі М. М. Півулі.

# 6. ГІСТАРЫЧНЫЯ ЗВЕСТКІ ПРА ВЁСКІ НАКРЫШСКАГА ПРЫХОДА

Прыход Накрышскай Свята-Барыса-Глебскай царквы складаўся з 24 навакольных вёсак. Кожнае паселішча мае сваю цікавую, старажытную, часам трагічную гісторыю. Без занатавання лёсу гэтых вёсак і жыцця іх жыхароў, апісанне мінуўшчыны Накрышскай царквы было б няпоўным, а месцамі і незразумелым.

## НАКРЫШКІ

Прыкладна з сярэдзіны XVIII стагоддзя Накрышкі сталі цэнтрам Пацаўскай воласці, якая ахоплівала значную частку тэрыторыі сучаснага Дзятлаўскага раёна.

Статыстычная інфармацыя пра колькасць жыхароў вёскі Накрышкі паходзіць з канца XVIII стагоддзя. Вядома, што ў 1795 годзе ў Накрышках пражывалі 39 мужчын и 40 жанчын. У гэты ж час яшчэ 29 чалавек, акрамя гаспадароў, жылі ў самім маёнтку[213]. Дарэчы, дагэтуль вёска Накрышкі ўмоўна дзеліцца на 2 часткі: сама вёска і тая яе меншая частка, размешчаная паблізу ад былога панскага дома. Згодна з «Рэвізскімі сказкамі» за 1855 год, у Накрышках налічвалася 67 мужчын і 64 жанчыны[214].

З сярэдзіны XIX стагоддзя ў польскамоўнай прэсе згадваецца некалькі трагічных выпадкаў з жыцця накрышскіх жыхароў. Так, у 1866 годзе лоўчы з Вялікага Мажэйкава нейкі Роўба і ўпраўляючы накрышскага маёнтка, імя якога не захавалася, кожны ў суправаджэнні свайго лесніка, адзін пра аднаго не ведаючы, пайшлі ў лес паляваць на лося. Абодва чулі гукі прывабліванння і былі ўпэўнены, што недзе блізка знаходзіцца лось. Упраўляючы маёнтка першым падабраўся да таго месца, дзе ў схованцы сядзеў Роўба, і стрэліў так, што куля прашыла лоўчага наскрозь. Убачыўшы, што забіў чалавека, ён пачаў уцякаць з таго месца няшчасця. Яго ж ляснік, які сядзеў у засадзе і чуў стрэл, падумаў, што гэта бяжыць паранены

213 Biblioteka Uniwersytetu Warszawskiego. Inwentarz. Sygnatura 306.
214 Biblioteka Uniwersytetu Warszawskiego. Sygnatura 306.







*Накрышкі з вышыні*



*Дом адміністратара ў Накрышках. С. Чайкоўскі*



*Леснічоўка ў Накрышках. С. Чайкоўскі. 1936 г.*







лось, стрэліў туды, адкуль чуў рух, і тым стрэлам палажыў мёртвым пана ўпраўляючага Накрышскага маёнтка[215].

Яшчэ адзін трагічны выпадак, у якім загінуў ураднік накрышскай гміны пан Рафаловіч, адбыўся крыху пазней. Ён ехаў на кані, і на яго напала зграя ваўкоў. Трох ён засёк шабляй, а астатнія разадралі яго самога[216].

У 1886 годзе ў Накрышках налічваўся 21 двор і 180 жыхароў. Акрамя таго, дзейнічала школа і піцейны дом. Паводле дадзеных за 1897 год, у Накрышках ужо было 55 дамоў, у якіх пражывала 315 чалавек. Па стане на 1905 год, у вёсцы Накрышкі пражываў 291 чалавек, а каля Накрышскага панскага дома жыло яшчэ 145 чалавек.

У 1906 годзе Накрышкі наведаў вядомы рэлігійны і грамадскі дзеяч — біскуп Каталіцкай Царквы Эдвард фон Ропп.[217] Польскамоўная газета «Кур'ер Літоўскі» так апісвае гэтую падзею: «У Накрышках біскуп быў госцем у чацвер. Адлегласць у 14 вёрст упрыгожвалі брамы… Характарыстычная асаблівасць. У павеце, дзе існуюць напружаныя рэлігійныя ўзаемаадносіны, […] падчас прыезду біскупа званы царкоўнай званіцы званілі на каталіцкі манер, а людзі віталі біскупа. Не можам не ўспомніць пра дом пані Стравінскай і выдатную прамову ў ім пана Хенрыка Пянкоўскага пра ідэю Польшчы, […] якая скончылася тостам за польскіх капланаў… Толькі позна вечарам госці пакінулі гасцінную сядзібу аднаго з найстаражытнейшых родаў слонімскага павета[218].

З пачаткам Першай сусветнай вайны шэраг прыхаджан Накрышскай царквы быў прызваны ў рускую імператарскую армію. З вёскі Накрышкі ў расійскім войску служылі: Конан Васілій Пятровіч[219] і Башко Максім[220]. Адным з прызваных на ваенную службу з Накрышкак быў і Васіль Іванавіч Дзідзюк 1897 г.н., які падчас грамадзянскай вайны стаў камісарам легендарнага «Залатога эшало-

[215] Gazeta Warszawska. 1866. — Nr 227.

[216] Kossak, S. Saga Puszczy Białowieskiej / Simona Kossak. — S. 496.

[217] Эдуард Юльевіч Ропп нарадзіўся бліз Дынабурга ў нямецкай сям'і. Скончыў Пецярбургскі ўніверсітэт у 1875 г. Вучыўся ў Ковенскай семінарыі, у Інсбруку і Фрайбуру. У 1903 г. стаў біскупам Віленскім. Заснавальнік кансерватыўна-каталіцкай партыі Літвы і Беларусі. Падтрымліваў імкненне мясцовых святарэннікаў пашыраць сферу ўжытку беларускай і літоўскай моў у жыцці каталіцкай царквы. Быў біскупам Магілёўскім. Пасля рэвалюцыі трапіў пад арышт і быў высланы ў Польшчу. Памёр 25 ліпеня 1939 г.

[218] Kuryer Litewski. R. 2 (1906). — No. 200.

[219] Портал «Герои великой войны 1914–1918» [Электронный ресурс]. — Режим доступа: https://gwar.mil.ru.

[220] Портал «Герои великой войны 1914–1918» [Электронный ресурс]. — Режим доступа: https://gwar.mil.ru.

на». Менавіта ён кіраваў у 1920 годзе дастаўкай з Іркуцка ў Казань вывезенага Калчаком залатога запасу Расіі, які складаў 21 тысячу 442 пуды залатых зліткаў і манет[221].

Падчас Першай сусветнай вайны частка жыхароў Накрышак была перасселена ў Расію. Вядома, што некаторыя ваенныя часткі нямецкай арміі пэўны час кватаравалі ў вёсцы і пры гэтым нанеслі шкоду цэламу шэрагу пабудоў. Ваенныя дзеянні ў раёне Накрышак з нямецкага боку ўзначальваў генерал артылерыі Макс фон Гальвіц. У сваіх успамінах ён згадвае пра развёртванне левага дывізіёна ўзначаленых ім войскаў у раёне вёскі Накрышкі[222].

Пры польскай уладзе да 1926 года Накрышкі былі цэнтрам Пацаўскай гміны, якая ахоплівала 83 населеныя пункты, у якіх пражывала 6 652 чалавекі[223]. Пазней Пацаўская гміна была далучана да Дзятлаўскай (Здзенціёльскай) гміны[224]. У 1923 годзе ў Накрышках налічвалася 287 жыхароў у самой вёсцы і яшчэ 146 чалавек жыло каля фальварка[225], сярод іх было некалькі яўрэйскіх сем'яў — агулам 20 чалавек. Вядома, што ў Накрышках жыла яўрэйская сям'я Каплінскіх.

У чэрвені 1928 года ў Накрышках адкрылася добраахвотнае пажарнае таварыства[226].

Абагульняючы, можна сказаць, што адносіны мясцовага насельніцтва з польскімі ўладамі не былі пазбаўлены непаразуменняў. Адным з асноўных фактараў, які павялічваў градус напружання, былі спробы паланізацыі. У якасці ілюстрацыі можна прывесці такі выпадак. Аднойчы ў Накрышках па загадзе польскай улады на танцах пачалі аб'яўляць музыку на польскай мове, а не на беларускай. Як толькі войт паспрабаваў гэта зрабіць, маладыя хлопцы накінуліся на яго з кулакамі, распачалася сапраўдная бойка[227]. Разам з тым прадстаўнікі дробнай шляхты, чынавенства, настаўнікі польскай школы, гаспадары Накрышскага маёнтка Стравінскія былі шчырымі прыхільнікамі Рэчы Паспалітай і польскай культуры. Пра-

[221] Кущ, А. В., Стукало, А. К. Музеи и памятники Черкасс [Электронный ресурс]. — Режим доступа: http://samiye-samiye.ru/?p=907.

[222] Max von Gallwitz. Meine Führertätigkeit im Weltkriege 1914 / 1916 : Belgien – Osten – Balkan / Max v. Gallwitz. — Berlin : Mittler, 1929. — S. 371.

[223] Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. — Warszawa, 1902. — T. XV. — Cz. 2. — S. 428.

[224] Dziennik Ustaw. — Poz. 43–44. — 1926. — № 7. — S. 86.

[225] Skorowidz Mejscowosci Rzeczpospolitej Polskiej. T. VII, cz. 1: Wojewodstwo Nowogrodske. — Warszawa, 1923. — S. 68.

[226] Dziennik Wojewodzki. — № 6. — 10.05.1928. — S. 124.

[227] З успамінаў жыхара вёскі Накрышкі М. М. Ківулі.





польскі настроеная грамадскасць Накрышскай гміны ў 1928 годзе ў Накрышках усталявала помнік у гонар дзесяцігоддзя аднаўлення польскай незалежнасці.

У верасні 1939 года Накрышкі былі заняты савецкімі войскамі. Стравінскія, як згадвалася раней, пакінулі свой дом і маёнтак. Пазней савецкая ўлада прызначыла панскі дом пад бальніцу. Накрышская бальніца стала першай на тэрыторыі сучаснага Дзятлаўскага раёна. У 1939 годзе ў Накрышках быў арганізаваны калгас. Шэраг сем'яў у гэты перыяд былі рэпрэсаваны савецкай уладай: Іван Паўлавіч Шчотка (1885 г.н.), Яўгеній Канстанцінавіч Шчотка (1937 г.н.), Канстанцін Давыдавіч Шчотка (1903 г.н.), Вера Паўлаўна Шчотка (1910 г.н.); Іосіф Андрэевіч Сайда (1901 г.н.), Іосіф Іосіфавіч Сайда (1938 г.н.), Марыя Іосіфаўна Сайда (1928 г.н.), Сцяпан Іосіфавіч Сайда (1936 г.н.), Чэслаў Іосіфавіч Сайда (1934 г.н.), Юзэфа Іосіфаўна Сайда (1905 г.н.); Марыя Сямёнаўна Рыбнік (1920 г.н.)[228].

У чэрвені 1941 года яшчэ да прыходу нямецкіх войск мясцовыя камуністы вырашылі спаліць дом Стравінскіх, баючыся, што яго могуць заняць немцы. Нягледзячы на тое, што панскі дом быў знішчаны, немцы ўсё ж заснавалі сваю камендатуру ў Накрышках і размясцілі яе ў колішняй афіцыне. Акупацыйныя ўлады забіралі моладзь з Накрышак і з навакольных вёсак на прымусовую працу ў Германію. Работу нямецкай камісіі па адборы моладзі ахоўвалі ўкраінскія ваенныя фарміраванні, належныя да нямецкай арміі[229].

Ліпічанская пушча, на ўскрайку якой знаходзяцца Накрышкі, стала падчас Айчыннай вайны адным з галоўных цэнтраў партызанскага руху. Мясцовае насельніцтва было ўцягнута ў партызанскую вайну. За падтрымку партызан немцы помсцілі бязлітасна.

Цікавая старонка гісторыі Накрышак звязана таксама з дзейнасцю яўрэйскіх партызанскіх аб'яднанняў: група Йехезкеля Атласа і атрад Тувіі Бельскага. Атрад сфарміраваўся менавіта ў Ліпічанскай пушчы. У 2008 годзе ў Галівудзе была знята мастацкая кінастужка «Выклік» (англ. *Defiance*) пра дзейнасць гэтага атрада. Падзеі першай часткі фільма разгортваюцца менавіта ў ваколіцах Накрышак.

[228] Дадзеныя прыводзяцца згодна з інфармацыяй партала «Жертвы политического террора в СССР» [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: https://base.memo.ru/, http://lists.memo.ru.

[229] Дерейко Іван. З архівів ВУЧК–ГПУ–НКВД–КГБ. — К. : Міжнародний Благодійний фонд Видавництво «СФЕРА», 2003. — № 1 (20). — С. 179–193. «Крім бойових завдань, вояками 115-го батальйону (шуцманшафт — заўв. Г.Р.) іноді доводилося виконувати суто поліційні функції. Так, в листопаді 1943 р. українські шуцмани охороняють німецьку комісію в селі Накришки, яка займається відбором білоруської молоді на примусові роботи до Німеччини, і конвоюють відібраних до залізничної станції».

Група Атласа вызваліла вязняў Дзятлаўскага гета і часткова Дзярэчынскага. Вызваленыя яўрэі стварылі сямейны партызанскі лагер, па сведчанні мясцовых людзей, недзе на адной з выспаў непраходнага балота Ройста. Хоць Атлас і клапаціўся пра сваіх людзей, але стан іх быў гаротны з-за голаду, холаду і хвароб. Накрышскія старажылы ўзгадваюць, што яўрэйскім партызанам фактычна даводзілася ваяваць супраць усіх: немцаў, савецкіх і польскіх партызан, мясцовага насельніцтва, бо папросту трэба было нечым харчавацца. Партызанка-яўрэйка Мірская так узгадвала пра сітуацыю яўрэйскага сямейнага лагера: «Цяжкія дні выпалі для групы сем'яў, якія не мелі ніякага ўкрыцця. Многія жыхары такіх лагераў палі ад рук забойцаў, а тыя, хто застаўся, блукалі па лесе галодныя і абарваныя… з малымі дзецьмі на руках… У дзяцей адмярзалі рукі, а ў дарослых ад холаду адымаліся ногі. Такі стан рэчаў доўжыўся да канца снежня 1942 года… Дзясяткі яўрэйскіх сем'яў былі кінуты на волю горкага лёсу, яны хварэлі на тыф, на часотку, запаленнем абмарожаных рук і ног. Людзі падалі ў лесе, але мы не маглі ім дапамагчы, бо камандаванне забараніла наведваць хворых з-за страху перад распаўсюджваннем заразных хвароб сярод партызан. 28 студзеня… я даставіла воз з хлебам і прывезла яго ў Накрышскі лес для галодных і хворых. Перад маімі вачыма адкрылася страшная карціна: непадалёк зямлянак выраслі магілкі для дзяцей і бацькоў, якія памерлі ад хвароб і голаду… Бруд, часотка, вошы і хваробы забралі жыцці многіх…»[230]

Адным з удзельнікаў гэтага яўрэйскага партызанскага атрада быў вядомы ў Ваўкавыску доктар Маркус. Менавіта каля Накрышак адбыўся яго апошні бой. Ён быў акружаны немцамі і адстрэльваўся да апошняга патрона, а потым забіў сябе, каб не патрапіць жывым у рукі ворага[231].

Падчас вайны ў шэрагах савецкай арміі з захопнікамі змагаліся многія жыхары вёскі Накрышкі[232]: Канстанцін Аляксеевіч Башко, Іосіф Канстанцінавіч Рагіня, Сяргей Сямёнавіч Канюшкевіч, Грыгорый Георгіевіч Емяльянчык, Мікалай Георгіевіч Емяльянчык, Яўген Емяльянчык, Іван Васільевіч Ківуля, Захар Рыгоравіч Ківуля, Васіль Іванавіч Бельскі, Мікалай Феафілавіч Абрамчык, Міхаіл

230 Арад Ицхак. Они сражались за Родину: евреи Советского Союза в Великой Отечественной войне [Электронный ресурс]. — Режим доступа: https://www.litres.ru/ichak-arad/oni-srazhalis-za-rodinu-evrei-sovetskogo-souza-v-velikoy-otechestvennoy-voyne/chitat-onlayn.

231 Kwartalnik historii żydów. Żydowski Instytut Historyczny, 2005. — S. 429.

232 Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Дзятлаўскага раёна. — Мінск : Універсітэцкае, 1997.





Дзям'янавіч Дубовік, Васіль Дзям'янавіч Дубовік, Вікенцій Пятровіч Катрач, Дзмітрый Сцяпанавіч Мякіш, Анатоль Дзмітрыевіч Мякіш, Васіль Пятровіч Рак, Аляксандр Сямёнавіч Канюшкевіч, Грыгорый Якаўлевіч Конан, Іван Фаміч Конан, Сцяпан Іванавіч Конан, Сяргей Андрэевіч Глушкевіч, Лявонцій Восіпавіч Шавель, Грыгорый Якаўлевіч Башко, Васіль Сілавіч Мілеўскі[233], Пётр Раманавіч Грынь, Сяргей Раманавіч Грынь, Іван Раманавіч Грынь, Юльян Францавіч Юшкевіч[234], Канстанцін Гаўрылавіч Германовіч, Станіслаў Канстанцінавіч Жых, Павел Сцяпанавіч Лукашэвіч, Іосіф Якаўлевіч Мілевіч, Лявон Аляксандравіч Рамашэўскі.

Загінулыя ў нямецкай няволі і расстраляныя жыхары Накрышак: Алена Аляксандраўна Анікевіч, Дзмітрый Дзмітрыевіч Гладкоў, Вера Іванаўна Гладкова, Алена Міхайлаўна Якша, Аркадзь Якаўлевіч Якша, Міхаіл Аркадзевіч Якша.

Пасляваенная гісторыя Накрышак звязана з дзейнасцю калгаса. Першапачаткова вёска была маладой і расла, але ўжо пачынаючы з 60-х гадоў XX стагоддзя насельніцтва Накрышак пастаянна змяншаецца.

Сёння Накрышкі — вёска з невялікай колькасцю пераважна пажылага насельніцтва, якое працягвае змяншацца. Але хочацца верыць, што прысутнасць Божага храма і надзвычай цікавая гісторыя Накрышскай царквы і сядзібы дадуць добры шанец у будучыні ў плане развіцця турызму.

## РАМАНАВІЧЫ

Раманавічы — найбліжэйшая вёска да Накрышак. Непадалёк ад яе, на паўднёвым баку паселішча, вучоныя-археолагі выявілі старадаўні курганны могільнік, які налічвае 53 курганы[235]. Першая пісьмовая згадка вёскі Раманавічы датуецца 1583 годам[236]. Згодна з інвентаром 1795 года ў вёсцы пражывала 17 мужчын і 17 жанчын[237]. Паводле дадзеных на 1858 год тут пражывала 29 мужчын і 45 жан-

233 Звесткі прыводзяцца згодна з дадзенымі партала «Память народа» [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: https://pamyat-naroda.ru.

234 Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Дзятлаўскага раёна. — Мінск : Універсітэцкае, 1997. — С. 273.

235 Краткие сообщения о докладах и полевых исследованиях Института истории материальной культуры. Академия наук СССР. Институт истории материальной культуры. — Изд-во Академии наук СССР, 1958. — С. 58.

236 Вялікі гістарычны атлас Беларусі. 2009. — Т. 1. — С. 230.

237 Biblioteka Uniwersytetu Warszawskiego. Inwentarz. Sygnatura 306.



Pasierbiece Zofia ... 13 3 2

Latus ... 19 16

Wioska Romanowicze

1 Marcin Samuela Syn Białous ... 40

U niego Zona Krystyna ... 32

Corki: Julianna ... 13

Taciana ... 3 1 3

2 Mikołay Jerzego Syn Jauchimczyk Wdowiec 52

Synowie: Hrehor ... 19

Wasil ... 15 3

3 Stefan Harasima Syn Jauchimczyk ... 20

Matka Katarzyna Wdowa ... 40

Brat Maxim ... 4

Siostry: Maryanna ... 13

Anastazya ... 9 2

*Фрагмент інвентару к. XVII ст.*








*План курганных пахаванняў каля в. Раманавічы*

чын[238]. У 1880 годзе насельніцтва складалі 75 чалавек, а ў 1897-м яно павялічылася да 84 чалавек, якія жылі ў 17 дамах. У 1905 годзе ў вёсцы налічвалася ўжо 97 жыхароў.

Раманавічы — вёска, якая вылучаецца дагледжанасцю і парадкам, што відаць літаральна па кожным панадворку і акуратна пафарбаваных хатах. Гледзячы на гэтую вёску, можна прыйсці да высновы, што тут было, магчыма, так званае шляхецкае пасяленне. Побач знаходзіцца прыгожае возера.

На франты Першай сусветнай вайны з Раманавічаў былі прызваны Канстанцін Андрэевіч Роман і Тарас Сцяпанавіч Іодчык.

У 1923 годзе ў Раманавічах налічвалася 126 жыхароў і з іх 10 чалавек былі яўрэйскай нацыянальнасці[239].

У 1940 годзе быў рэпрэсаваны за так званую «антысавецкую агітацыю» жыхар вёскі Аляксандр Міхайлавіч Ілянец, 1900 г.н.

Салдаты і партызаны Вялікай Айчыннай вайны, ураджэнцы вёскі Раманавічы[240]: Ігнат Юльянавіч Белавус, Даніл Андрэевіч Гоман, Іван Гаўрылавіч Глыбокі, Рыгор Іванавіч Конан, Анатоль Антонавіч Шчотка, Фёдар Гаўрылавіч Яфімчык, Аляксандр Рыгоравіч Глушкевіч, Уладзімір Лявонавіч Емяльянчык.

Загінулыя ў нямецкай няволі і расстраляныя: Рыгор Васільевіч Конан, Ігнат Васільевіч Конан, Пётр Іванавіч Конан, Вера Міхайлаўна Сцяпура, Канстанцін Фаміч Яфімчык.

---

238 Biblioteka Uniwersytetu Warszawskiego. Sygnatura 306.

239 Skorowidz Mejscowosci Rzeczpospolitej Polskiej. T. VII, cz. 1: Wojewodstwo Nowogrodske. — Warszawa, 1923. — S. 69.

240 Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Дзятлаўскага раёна. — Мінск : Універсітэцкае, 1997.

Адзін з самых вядомых ураджэнцаў вёскі Раманавічы — Васіль Ігнатавіч Сцяпура, які быў намеснікам старшыні Гродзенскага абласнога выканаўчага камітэта і дэпутатам Палаты прадстаўнікоў НС РБ.

## НАВІКІ

У 1624 годзе згадваецца ў складзе Здзецельскай воласці ва ўласнасці Сапегаў. У 1795 годзе ў Навіках налічвалася 19 мужчын і 16 жанчын[241]. Па дадзеных на 1858 год у вёсцы пражывала 24 мужчыны і 21 жанчына[242]. Згодна з перапісам 1905 года ў Навіках жыло 78 чалавек, а ў 1923 годзе насельніцтва павялічылася да 93 чалавек[243].

Назва Навікі гаворыць сама за сябе — новае пасяленне. І, хутчэй за ўсё, узнікла яна ў супастаўленні з суседнімі Раманавічамі. Цікава, што, па ўспамінах мясцовых людзей, паміж жыхарамі Раманавіч і Навікоў заўсёды існавала пэўная непрыязнасць, таму бацькі раманавіцкіх дзяўчат забаранялі сустракацца з навікоўскімі хлопцамі.

Захаваліся фрагменты ўспамінаў жыхаркі вёскі Навікі Валянціны Аляксандраўны Яфімчык пра былое жыццё навікоўскіх людзей: «Тады ўсё было па-іншаму. У вёсцы жыло шмат моладзі, кожную нядзелю мы ладзілі танцы, дзе знаёміліся адзін з адным і весела праводзілі час. Тады нават танцавалі па-іншаму: рукамі не махалі, танцавалі, у асноўным, разам. Полька, вальс, кракавяк — чаго толькі не было! У вёсцы нашай вельмі любілі святы. Ладзілі іх шумнымі і вясёлымі, а з часам гэта стала добрай традыцыяй. Мы разам гулялі, разам спявалі, разам плялі вянкі»[244].

Загінулыя ў фашысцкай няволі і расстраляныя жыхары вёскі Навікі: Ганна Іванаўна Баклага, Ніна Вікенцьеўна Баклага, Таццяна Іванаўна Баклага, Пётр Аляксеевіч Ківуля, Канстанцін Георгіевіч Сцяпура, Лідзія Аляксееўна Сцяпура, Мікалай Георгіевіч Сцяпура, Міхаіл Андрэевіч Сцяпура, Сямён Георгіевіч Сцяпура.

Салдаты і партызаны на франтах Другой сусветнай вайны[245]: Аляксей Несцеравіч Глушкевіч, Вікенцій Несцеравіч Глушкевіч,

241 Biblioteka Uniwersytetu Warszawskiego. Inwentarz. Sygnatura 306.
242 Biblioteka Uniwersytetu Warszawskiego. Sygnatura 306.
243 Skorowidz Mejscowosci Rzeczpospolitej Polskiej. T. VII, cz. 1: Wojewodstwo Nowogrodske. — Warszawa, 1923. — S. 68.
244 «Па сакрэты даўгалецця» [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: http://ckdyatlovo.by/sakrety-da%D1%9Egaleccya-valyanciny-yafimchyk. — Дата доступу: 24.06.2020.
245 Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Дзятлаўскага раёна. — Мінск : Універсітэцкае, 1997.







*Вёска Навікі. С. Чайкоўскі. 1937 г.*

Пётр Якаўлевіч Глушкевіч, Андрэй Якаўлевіч Глушкевіч, Канстанцін Фёдаравіч Мілевіч, Васіль Емельянавіч Сцяпура, Рыгор Якаўлевіч Яфімчык, Афанасій Якаўлевіч Яфімчык, Міхаіл Іванавіч Саўко.

## ХВІНЯВІЧЫ

Побач з вёскаю знаходзіцца старажытнае гарадзішча, якое датуецца канцом бронзавага, пачаткам жалезнага веку[246]. Першая вядомая пісьмовая згадка вёскі ў інвентары Дзятлаўскага маёнтка князя Канстанціна Астрожскага датуецца 1580 годам. Цікава, што ў тыя часы паселішча называлася крыху інакш — Хведзявічы. У такім гучанні зразумела, што назва паходзіць ад імені нейкага Хведара. З цягам часу гук [д], які ў гэтай назве вымаўляецца цяжка, перайшоў у гук [н], што прамаўляецца значна лягчэй.

Напрыканцы XVIII — у пачатку XIX стагоддзя Хвінявічы адносіліся да фальварка Сіратаўшчызна. У інвентары за 1795 год пазначана, што ў вёсцы жыло 58 мужчын і 55 жанчын. А ў інвентары, складзеным у 1832 годзе, указана, што вёска налічвала 21 дом[247].

246 Побаль, Л. Д. Старажытнасці Дзятлаўшчыны: кароткі аналіз археалагічных дадзеных / Л. Д. Побаль // На зямлі Дзятлаўскай : матэрыялы гісторыка-краязнаўчай канферэнцыі. — Ліда, 1998. — С. 123.
247 Biblioteka Uniwersytetu Warszawskiego. Inwentarz. Sygnatura 306.

**Село Хведевичи.**

Кгрунту доброго волокъ и҃ (8).

а҃ (1) Миколай Анъдрушковичъ на цыншу.
в҃ (2) Янъ Войтъковичъ.
г҃ (3) Адамъ Войтъковичъ, Болтрукъ Войтъковичъ.
д҃ (4) Ючи Мазелевичъ; Шимко Ючевичъ.
є҃ (5) Юрій Клусовичъ, Якубъ Ловъцовичъ.
ѕ҃ (6) Войтукъ Гридковичъ, Янукъ Мазюковичъ.
з҃ (7) Янукъ Домейкевичъ.
и҃ (8) Петрукъ Митъкевичъ, Добрукъ Стасевичъ.

*Повинность*, яко у Засетяхъ и въ Ятъвези вшеляка. Волокъ тяглыхъ з҃ (7), зъ нихъ по гр. м҃и (48), чини копъ є҃ (5)/л҃ѕ (36), цыншова волока одна, зъ нее копъ в҃ (2). Сумма плату пенежного копъ з҃ (7), гр. л҃з (37), жита дякольного бочокъ з҃ (7), овса бочокъ д҃і (14), сена возовъ з҃ (7), гусей и҃ (8), куръ ѕ҃і (16), яецъ копъ в҃ (2)/м҃ (40), поборъ яловицы и бараны.

*Запіс у інвентары XVI ст.*

У параўнанні з іншымі вёскамі прыхода Накрышскай царквы Хвінявічы былі адной з найвялікшых, што тлумачыцца неабходнасцю апрацоўваць шырокія палі і палеткі, якія раскінуліся вакол.

Сацыяльная актывізацыя насельніцтва Хвінявічаў адбываецца ў 20-я гады XX стагоддзя.

Захаваўся і апублікаваны дакумент, звязаны з гісторыяй паселішча: «Зварот жыхароў вёскі Хвінявічы ў беларускі сялянска-рабочы пасольскі клуб супраць правядзення палітыкі камасацыі»[248].

«28 лютага 1929 года жыхары вёскі Хвінявічы Навагрудскага павета Кастусь Пратоцкі, Васіль Грабень, Пракоп Сіўко і іншыя ў ліку 11 чалавек злажылі да Земскага Ураду ў Навагрудку заяву аб правядзенні камасацыі грунтоў нашай вёскі, маючы ўласных грунтоў вельмі малую частку агульнага абшару.

Усе жыхары нашай вёскі, аднагалосна пераканаўшыся ў шкодных выніках камасацыі, разам з тымі, каторыя падалі заяву аб камасацыі, апрача толькі Кастуся Пратоцкага, каторы пасядае ледзь 6 га, пратэстуюць і трэбуюць спынення камасацыі, каторая нясе поўную руіну для нашай вёскі, асабліва для яе бяднейшай часткі жыхарства, просім нашых соймавых прадстаўнікоў учыніць адпаведныя крокі, пратэстуючы ад Беларускага Сялянска-Работніцкага Клюбу проціў навязвання нам сілаю шкоднай нам камасацыі. Паўнамоцнік Пётра Латушка»[249].

У 1924 годзе ў вёсцы па ініцыятыве Таварыства беларускіх школ і пры падтрымцы свяшчэнніка Накрышскай царквы Антонія Сокал-Кутылоўскага была адкрыта беларускамоўная школа. Настаўніцай

248 Камасацыя — ліквідацыя церазпалосіцы шляхам звядзення сялянскіх зямель у адзін участак.

249 Коваленя, А. Польша — Беларусь (1921–1953). Сборник документов и материалов / А. Коваленя. — Минск, 2018. — С. 117.







*Выгляд з вышыні на Хвіневічы*

стала Вера Катрач. Але польскія ўлады паставіліся да гэтай ініцыятывы крайне негатыўна. Бацькі, чые дзеці хадзілі не ў польскую, а ў беларускую школу, атрымлівалі штрафы. Але і гэтая мера не дапамагла. Праз некаторы час польская паліцыя зачыніла беларускую школу, а настаўніца была арыштавана[250]. Апрача настаўніцы, у акружны суд у Гародні пацягнулі солтыса вёскі Хвінявічы Данілу Сцецьку, а таксама Максіма Сіўку і Міхася Пархача — гаспадароў, якія далі свае дамы пад школу і для пражывання настаўніцы Веры Катрач[251].

Па стане на 1923 год насельніцтва Хвінявічаў складала 249 чалавек[252].

Падчас Вялікай Айчыннай вайны ў шэрагі савецкай арміі на змаганне з фашыстамі прызваны шэраг жыхароў вёскі Хвінявічы[253]:

250 Хмара, С. Рабінавы хмель / С. Хмара. — Мінск, 2009. — С. 131.

251 Іванова, Н. Як судзілі слонімскіх настаўнікаў за беларускія школы [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: http://www.nastaunik.info/node/14677.

252 Skorowidz Mejscowosci Rzeczpospolitej Polskiej. T. VII, cz. 1: Wojewodstwo Nowogrodske. — Warszawa, 1923. — S. 68.

253 Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Дзятлаўскага раёна. — Мінск : Універсітэцкае, 1997.

Сцяпан Аляксандравіч Мацюкевіч, Марыя Пракопаўна Вахоніна, Васіль Васільевіч Верабей, Сяргей Васільевіч Верабей, Іван Астапавіч Грэбень, Пётр Астапавіч Грэбень, Уладзімір Астапавіч Грэбень, Васіль Васільевіч Канюшкевіч, Пётр Піліпавіч Латушка, Якаў Лук'янавіч Лаўнік, Антон Ільіч Лаўнік, Станіслаў Леанідавіч Палуян, Міхаіл Дзям'янавіч Вараб'ёў, Аляксандр Канстанцінавіч Лаўнік, Сяргей Васільевіч Канюшкевіч, Іван Юстынавіч Катрач, Барыс Міхайлавіч Лаўнік, Пётр Іосіфавіч Сіўко, Пётр Пракопавіч Сіўко, Іван Пракопавіч Сіўко, Мацвей Рыгоравіч Сіўко, Іван Рыгоравіч Сіўко, Іван Адамавіч Сіўко, Уладзімір Адамавіч Сіўко, Аляксандр Якаўлевіч Сіўко, Іван Іванавіч Шыпіла, Аляксандр Паўлавіч Шыпіла, Аляксандр Васільевіч Канюшкевіч, Пётр Іванавіч Сцяпура, Сяргей Бенядзіктавіч Шыпіла, Рыгор Купрыянавіч Сцяпура, Аркадзь Сямёнавіч Ёдчык, Міхал Канстанцінавіч Івашка, Пётр Іванавіч Сцяцко.

Загінулыя ў няволі і расстраляныя жыхары Хвінявічаў: Вікенцій Пятровіч Грэбень, Іван Мікалаевіч Лаўнік, Сяргей Іванавіч Лаўнік, Аляксандра Аляксееўна Сіўко, Валяр'ян Баляслававіч Статкевіч, Міхаліна Іванаўна Статкевіч, Ганна Іванаўна Сцяпура, Вячаслаў Глебавіч Сцяцко, Пётр Іванавіч Сцяцко, Іван Пятровіч Цімашэвіч.

## ПАРЭЧЧА

Па сведчаннях мясцовых людзей у Парэччы каля возера таксама быў панскі фальварак, але паны Стравінскія там пастаянна не жылі, а наязджалі час ад часу. Да гэтага фальварка адносілася і вёска Русакі[254]. Згодна з інвентаром 1795 года ў вёсцы пражывала 37 мужчын і 44 жанчыны. У 1862 годзе ў Парэччы налічвалася ўжо 64 мужчыны і 74 жанчыны[255].

На пачатку ХХ стагоддзя за возерам Ян Стравінскі з Мiроўшчыны пабудаваў спіртзавод, які пасля цэлага шэрагу рэканструкцый і мадэрнізацый дзейнічае і да гэтага дня.

У 1923 годзе насельніцтва Парэчча складалася з 232 чалавек, яшчэ 43 чалавекі жыло каля Парэцкага фальварка[256].

У часы Вялікай Айчыннай вайны на службу ў савецкай арміі былі прызваны жыхары вёскі Парэчча[257]: Уладзімір Пятровіч Мі-

254 Ciechanowicz, Jan. Na styku cywilizacji / Jan Ciechanowicz. — Wydawn. Naukowo-Literackie ZNICZ, 1997. — S. 82.

255 Biblioteka Uniwersytetu Warszawskiego. Inwentarz. Sygnatura 306.

256 Skorowidz Mejscowosci Rzeczpospolitej Polskiej. T. VII, cz. 1: Wojewodstwo Nowogrodske. — Warszawa, 1923. — S. 69.

257 Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Дзятлаўскага раёна. — Мінск : Універсітэцкае, 1997.







*Будынак былога панскага свірна ў Парэччы*




*Спіртзавод Яна Стравінскага*



*Парэцкае возера.*

левіч, Іван Пятровіч Мілевіч, Міхаіл Данілавіч Мілевіч, Васіль Фёдаравіч Мілевіч, Галіна Іосіфаўна Іванова, Альбін Міхайлавіч Белавус, Мікалай Андрэевіч Хрэшчановіч, Міхаіл Міхайлавіч Сцяцко, Любоў Глебаўна Сухецкая, Сямён Канстанцінавіч Казлоўскі, Іван Іванавіч Кірпачоў, Міхаіл Пятровіч Катрач, Сяргей Тафілевіч Катрач, Захар Якаўлевіч Жамойдзік, Вікенцій Фёдаравіч Жамойдзік, Арцём Пятровіч Статкевіч, Іван Глебавіч Сцяцко, Дзяніс Пятровіч Цілгузаў, Васіль Якаўлевіч Барыш, Антон Рыгоравіч Сіўко, Васіль Сілавіч Мілевіч, Пётр Піліпавіч Паўлоўскі, Андрэй Васільевіч Пратацкі, Яўген Андрэевіч Пратацкі, Валерый Баляслававіч Статкевіч, Міхаіл Статкевіч, Уладзімір Глебавіч Сцяцко, Казімір Казіміравіч Вадэйка, Іван Герасімавіч Емяльянчык, Іван Юсцінавіч Каменскі, Іван Іосіфавіч Серада.

Загінулыя ў нямецкай няволі і расстраляныя: Іосіф Гафт, Васіль Дабрыян, Іван Марфель.

Пасля сканчэння Другой сусветнай вайны некаторыя жыхары Парэчча польскай нацыянальнасці былі рэпрэсаваны. Вядомы некаторыя імёны: Надзея Дзям’янаўна Статкевіч (1908 г.н.), Юзаф





Станіслававіч Статкевіч (1899 г.н.), Ядзвіга Юзэфаўна Статкевіч (1939 г.н.)[258].

У аддаленні прыкладна двух кіламетраў ад вёскі ў бок Накрышак размешчаны вясковыя могілкі.

## РУСАКІ

Вёска вядомая з 1624 года і згадваецца як сяло Рускі Розвад у складзе Дзятлаўскай (Здзенцельскай) воласці ва ўласнасці Сапегаў. У далейшым належала да Парэцкага фальварка Стравінскіх. Згодна з інвентаром Накрышскага маёнтка за 1795 год у Русаках жыло 25 мужчын і 28 жанчын[259]. У 1883 годзе налічвалася 19 двароў і ў іх жыло 78 жанчын і 84 мужчыны. У 1905 годзе ў 24 дварах вёскі пражывала 96 мужчын і 102 жанчыны[260]. Па стане на 1923 год насельніцтва Русакоў складалася са 131 чалавека[261]. Скарачэнне насельніцтва пасля Першай сусветнай вайны тлумачыцца тым, што частка людзей выехала ў бежанства, а частка стала ахвяраю ваенных дзеянняў і разрухі.

Небяспечная для селішча сітуацыя склалася ў 1944-м. У лютым таго года немцы пачалі падрыхтоўку новай шырокамаштабнай аперацыі супраць партызанскіх фарміраванняў. Каля дзвюх з паловай тысяч нямецкіх салдат занялі пазіцыі ў вёсках Разважжа, Русакі, Гірычы, Юравічы, Вензавец з мэтай акружыць Ліпічанскую пушчу. Але і партызаны вырашылі не адседжвацца ў лесе, а ажыццявіць шэраг нападаў на ворага. Брыгада імя К. Каліноўскага 2 сакавіка 1944 года атрымала загад арганізаваць удары па ворагу з дапамогай баявых засад у раёне вёсак Алёхнавічы і Русакі. На шчасце, сама вёска ў час гэтых баявых дзеянняў не пацярпела.

З ліку жыхароў вёскі на франты Другой сусветнай вайны былі прызваны[262]: Сцяпан Іосіфавіч Марук, Аляксандр Сямёнавіч Марук, Аляксандр Макаравіч Марук, Канстанцін Барысавіч Марук, Іван Барысавіч Марук, Гаўрыл Гаўрылавіч Емяльянчык, Панцялей Сцяпанавіч Шавель, Канстанцін Канстанцінавіч Солтан, Аляксей

258 Дадзеныя прыводзяцца згодна з інфармацыяй партала «Жертвы политического террора в СССР» [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: https://base.memo.ru/, http://lists.memo.ru.

259 Biblioteka Uniwersytetu Warszawskiego. Inwentarz. Sygnatura 306.

260 Архіў Накрышскай царквы. Кліравая ведамасць за 1905 г.

261 Skorowidz Mejscowosci Rzeczpospolitej Polskiej. T. VII, cz. 1: Wojewodstwo Nowogrodske. — Warszawa, 1923. — S. 68.

262 Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Дзятлаўскага раёна. — Мінск : Універсітэцкае, 1997.



Мікалаевіч Жамойдзік, Сяргей Антонавіч Саўко, Аляксандр Якаўлевіч Каменскі, Канстанцін Барысавіч Марчук, Грыгорый Пятровіч Яфімчык, Васіль Фёдаравіч Савіцкі, Мірон Вікенцьевіч Каменскі, Іван Іванавіч Каменскі, Іван Раманавіч Грын, Ігнат Лявонцьевіч Белавусаў, Аляксандр Дзям'янавіч Шавель, Грыгорый Пятровіч Яфімчык, Якаў Якаўлевіч Каменскі, Аляксандр Мікалаевіч Сіняк, Уладзімір Фаміч Навумовіч.

Загінулыя ў няволі і расстраляныя: Канстацін Васільевіч Башко, Фёдар Іванавіч Каменскі, Аляксандр Іванавіч Марук, Іван Іванавіч Марук, Леанід Карпавіч Марук, Міхаіл Карпавіч Марук, Палікарп Пятровіч Мілейка[263].

## МІРОЎШЧЫНА

Сучасная вёска Міроўшчына ўзнікла, фактычна, толькі пасля Другой сусветнай вайны вакол былога маёнтка сям'і Стравінскіх. У 1923 годзе каля панскага маёнтка знаходзілася невялікая асада,

263 Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Дзятлаўскага раёна. — Мінск : Універсітэцкае, 1997.







*Алея былога парку Стравінскіх*



*Брама колішняй сядзібы Стравінскіх у Міроўшчыне*



*Дом Стравінскіх у Міроўшчыне. 1939 г.*



ioł 2.000zł.

i,które się spłacam stopniowe teraz:

Warszawa Willowa N I 6.000 zł.

rtko wieś Zyborty gm.Zdzięcioł 24.000 zł.

*Подпіс Я. Я. Стравінскага на дакуменце*

якую насялялі 7 чалавек[264]. Але пачатак гэтага селішча вядзецца ад часу заснавання панскага дома. Верагодна, фальварак быў пабудаваны недзе на пачатку XVIII стагоддзя. У 80-х гадах XVIII стагоддзя Міроўшчына разам з Накрышкамі пераходзяць ва ўласнасць Бруна Фларыяна Стравінскага, які абірае месцам жыхарства і адпаведна цэнтрам усіх уладанняў Накрышкі, а Міроўшчына становіцца маёнткам перыферыйным. З інвентару 1795 года даведваемся,

264 Skorowidz Mejscowosci Rzeczpospolitej Polskiej. T. VII, cz. 1: Wojewodstwo Nowogrodske. — Warszawa, 1923. — S. 68.





што пры фальварку жыло 10 чалавек. Упраўляючым тут быў нехта Мацей Аляхновіч, які жыў з жонкай Ганнай. А цівуном[265] служыў Андрэй Юргелевіч[266].

Упраўленнем Міроўшчынскага маёнтка заняўся спачатку сын Бруна Фларыяна і Францішкі Стравінскай — Ян, але потым ён перадаў яго ў распараджэнне свайму сыну — Адаму.

Адам Стравінскі з 1827 года знаходзіўся пад надзорам паліцыі за ўдзел у патрыятычным аб’яднанні «Zorzanie». У 1830 годзе ён далучыўся да паўстанцаў. За гэта ў Стравінскіх быў канфіскаваны фальварак, якім валодаў Адам[267].

Пасля паражэння паўстання Адам Стравінскі эміграваў у Францыю. Атрымаў магчымасць вярнуцца на радзіму ў 1833 годзе пасля царскай амністыі[268]. Неўзабаве пасля свайго вяртання бярэ шлюб з Аленай Стравінскай. Сям’і Стравінскіх удалося ў 1840 годзе дабіцца ў Пецярбургу перагляду справы пра канфіскацыю Міроўшчынскага маёнтка. Фальварак быў вернуты ва ўладанне былых гаспадароў і становіцца сядзібаю Адама і Алены[269]. У тыя часы жаданым госцем у Міроўшчынскім доме быў паэт Юліян Корсак[270], які жыў у маёнтку Страла, непадалёк Дзятлава. Адзін са сваіх вядомых вершаў паэт склаў менавіта ў Міроўшчыне[271].

Апошнім і самым паспяховым у вядзенні гаспадаркі стаў Ян Яўстах Стравінскі. Калі пачалася Першая сусветная вайна, гаспадар

265 Памагаты ўпраўляючага.

266 Biblioteka Uniwersytetu Warszawskiego. Inwentarz. Sygnatura 306.

267 НИАБ Гр. Ф. 31. — Оп. 2. — Д. 76. Дело об конфискации имения Мировщина у помещика Адама Стравинского.

268 Ciechanowicz, Jan. Rody rycerskie Wielkiego Księstwa Litewskiego: S–Ż / Jan Ciechanowicz. — FOSZE, 2001. — T. 5. — C. 173.

269 Государственный совет Российской империи в документах Российского государственного исторического архива. 1829–1844 гг. // О пересмотре решения Правительствующего Сената по делу об имении Адама Стравинского. — М., 2009. — С. 255.

270 Юліян Корсак (13 лютага 1806, Слонім — 30 жніўня 1855) — паэт і перакладчык. Вучыўся ў Шчучынскай школе піяраў, Віленскім універсітэце (1823–1826). У 1829 г. жыў у Пецярбургу. У 1830 г. вярнуўся ў свой маётак Страла (цяпер Дзятлаўскі раён). Ажаніўся з Юзэфай Мацкевіч. Апошнія гады жыў у Навагрудку. Пісаў на польскай мове. Аўтар зборнікаў «Вершы» (1830, 2-е выд. 1836) і «Новыя вершы» (т. 1–2, 1840), якія змяшчаюць і творы беларускай тэматыкі: «Да Нёмана», «Да Ігната Дамейкі» і інш. Пад уплывам творчасці А. Міцкевіча Ю. Корсак засвоіў рамантычны стыль лірычнай паэзіі, у якой выкарыстоўваў класічныя і беларускія фальклорныя матывы. Пераклаў на польскую мову творы Піндара, Вергілія, Гарацыя, Дантэ, Ф. Шылера, Дж. Байрана, У. Шэкспіра. Некаторыя вершы Ю. Корсака («Пілігрым», «Баркарола») пакладзены на музыку С. Манюшкам. У. Сыракомля прысвяціў Ю. Корсаку артыкул «Нататкі з дзіцячых уражанняў» (1853). Вёў перапіску з А. Э. Адынцом, І. Ходзькам і інш.

271 Juliusz W. Gomulicki. Zygzakiem: szkice, wspomnienia, przekłady. — Państwowy Instytut Wydawniczy, 1981. — S. 103.

дома не паехаў у бежанства, а застаўся, каб ахоўваць сваю маёмасць. Нягледзячы на тое, што нямецкія падраздзяленні заходзілі ў Міроўшчыну, значных ваенных дзеянняў тут не адбылося, а захопнікі не кранулі надзвычай багатага дома Стравінскіх. Потым суседзі прыводзілі Міроўшчыну як прыклад таго, што з'язджаць было наогул не варта[272].

У 1919 годзе маёнтак Міроўшчына апынуўся ў віры ваенных падзей. 16 сакавіка ўначы ў Міроўшчыну ўвайшоў кавалерыйскі аддзел 77 палка ковенскіх стральцоў польскай арміі. Ад гаспадароў яны даведаліся, дзе знаходзяцца чырвоныя падраздзяленні і раніцай знянацку напалі на сваіх праціўнікаў і атрымалі значную перамогу[273].

Гаспадарчы талент Яна Яўстаха Стравінскага ў поўнай меры раскрыўся ў міжваенны перыяд. На свой час ён быў сапраўды перадавым чалавекам. Ян Стравінскі, у адрозненне ад многіх сучаснікаў, самастойна вёў гаспадарку і дасягнуў вялікіх поспехаў. Менавіта пры ім Міроўшчынскі маёнтак Стравінскіх значна абышоў у развіцці Накрышскі фальварак, які далёка не так паспяхова кіраваўся яго братам Уладыславам Стравінскім. У Міроўшчыне ўсё было самым сучасным: дзве машыны на рухавіках для апрацоўкі сельскагаспадарчай прадукцыі, матарызаваныя малацілкі, трактар. У маёнтку было 52 кані і 70 кароў[274]. Дагэтуль у Міроўшчыне функцыянуе шматгектарная дрэнажная сістэма, створаная Стравінскім. У зямлю былі ўкладзены керамічныя трубы з адтулінамі. Менавіта Ян Стравінскі заклаў і пабудаваў вінакурны завод у Парэччы. Зразумела, такая тэхналагічная гаспадарка стала звышпрыбытковай, і Ян быў адным з найбагацейшых людзей краю. Ён меў на той час уласны аўтамабіль, а дом у Міроўшчыне вылучаўся багаццем і арыгінальнасцю інтэр'ераў і ландшафтаў.

Жонка Яна Стравінскага Аліна перад смерцю пакінула апісанне дома ў Міроўшчыне і парку: «Да 1939 года двор Міроўшчынскай сядзібы меў шмат лістоўніц, якія былі пасаджаны яшчэ, напэўна, у XVIII стагоддзі. Некалькі стагоддзяў Стравінскія не жылі ў сваім доме ў Міроўшчыне. Сям'я жыла ў Накрышках. У 1910 годзе Станіслаў Стравінскі рэканструяваў дом усярэдзіне і правёў некаторыя змены звонку.

[272] Protassewicz, I. A Polish Woman's Experience in World War II: Conflict, Deportation and Exile / Irena Protassewicz. — London, 2019. — S. 7.

[273] Markert, W. 77. Pułk Strzelców Kowieńskich w latach 1918–1939 / Wojciech Markert. — Oficyna Wydawn «Ajaks», 2003. — S. 21.

[274] ГАГО. Ф. 551. — Оп. 4. — Д. 592. — Л. 6.





У сваім канчатковым выглядзе дом уяўляў сабою партэрнае трынаццацівосевае збудаванне на нізкім падмурку. Трохвосевая сярэдняя частка мела невысокі пад'ём. З боку ўезда дом меў порцік з чатырма каменнымі шырока расстаўленымі калонамі. Да рэстаўрацыі дома калоны былі драўлянымі. Порцік вянчаўся трохвугольным шчытом. На фасадзе з боку саду на двух крайніх восях выступалі двое кароткіх крылаў, а пасярэдзіне на пяці восях — веранда з шасцю ці васьмю калонамі, ідэнтычнымі калонам галоўнага фасада. Каланада ў сукупнасці з бакавымі крыламі ўяўляла сабою суцэльную лінію. Два меншыя ганачкі, кожны з якіх меў па дзве маленькія калоны, вянчаліся трохвугольнымі шчытамі і знаходзіліся з абодвух крайніх бакоў будынка.

Увесь дом падчас рэканструкцыі быў гладка атынкаваны і пафарбаваны ў белы колер. Дом быў пакрыты высокім чатырохскатным гонтавым дахам, а пазней абабіты бляхаю. На даху на абодва бакі выходзілі шэрагі невялікіх акон і віднеліся чатыры высокія коміны. Унутраная планіроўка дома была нераўнамернаю. Пакоі рознага памеру і абсталявання былі злучаны паміж сабою непасрэдна ці праз калідоры. Найбольшую плошчу займалі тры памяшканні: змешчаны пад цэнтральным порцікам хол, сталовая з боку садовага ўвахода і салон, арыентаваны на правае крыло (рэзаліт). Усе памяшканні мелі форму простага прамавугольніка. Палова хола была засцелена гладкім паркетам, сцены абклеены шпалерамі і ўвешаны паляўнічымі трафеямі. У холе стаяла старасвецкая асінавая мэбля і цісавы пісьмовы стол. Усё гэта лічылася каштоўным антыкварыятам. У сталовай падлога была ўкладзена ўзорным паркетам, шпалеры імітавалі скуру. Па абодва бакі печкі, упрыгожанай мастацкай кафляй, стаялі дзве розныя фігуры, якія былі прывезены з Італіі. Побач са старасвецкай мэбляй была і больш новая: вуглавая зашклёная шафка, у якой стаяў французскі фарфор і крышталь. Адзін з кутоў займаў стыльны падлогавы гадзіннік, а ў іншым куце — арыгінальная ваза.

Сцены былі ўвешаны партрэтамі продкаў, сярод якіх асабліва вылучаліся партрэт Чацвярцінскай — жонкі Яна Стравінскага, яе маці і двух братоў, далей партрэт Юстыны Хлявінскай, жонкі Ігната Стравінскага, партрэты Жышчэўскіх і шэрагу прадстаўнікоў мужчынскай лініі сям'і Стравінскіх.

Амаль на ўсіх пералічаных партрэтах, напісаных пераважна ў XVIII стагоддзі, змяшчаліся подпісы мастакоў і надпісы асоб, якія на партрэтах былі выяўлены. Прозвішчы мастакоў былі французскімі і італьянскімі. У абодвух буфетах з люстэркамі захоўвалася вялікая колькасць старога сталовага срэбра, сярод іншага, камплект посуду для чаю і кавы з двума самаварамі і фарфорам.

Пакой з двума вокнамі насупраць хола служыў бібліятэкай. Падлога тут была ўкладзена таксама паркетам, сцены абклееены шпалерамі. У пакоі быў камін і стаяла разьбяная мэбля ручной работы. На сценах віселі карціны. Тут жа знаходзілася вялікая копія вядомага твора Рафаэля.

Паміж сталовай і вялікім салонам знаходзіўся маленькі пакой з узорнай падлогай і «каштоўнымі» шпалерамі з выяваю залатой лістоты. Тут таксама быў камін. Карціны і мэбля былі новыя.

Самым вялікім і найбольш рэпрэзентатыўным памяшканнем у доме быў вялікі салон. Там было пяць акон, ацяпляўся з дапамогаю двух кафлевых печак. Узорная паркетная падлога часткова была пакрыта ўсходнімі дыванамі. Шпалеры, апраўленыя рамамі з залатою лістотаю, імітавалі атла́с. На столі вісела крышталёвая люстра, а на сценах размяшчаліся бронзавыя бра. У розных частках пакоя знаходзіліся таксама бронзавыя кандэлябры. Звяртаў на сябе ўвагу велічэзны кубак невядомага паходжання. У салоне стаяла фартэпіяна Бэхштэйн.

Сярод карцін галоўнае месца займаў партрэт караля Станіслава Аўгуста ў шэрагу корпуса кадэтаў. Гэты партрэт быў падораны некалі аднаму з продкаў і лічыўся арыгіналам. Да хола з правага боку прымыкала спальня, абстаўленая стыльнай мэбляю. Тут знаходзілася мноства прадметаў дамашняга ўжывання, зробленых з цяжкага срэбра. У адным з пакояў вісеў партрэт жонкі апошняга гаспадара Міроўшчыны Аліны Стравінскай, напісаны Пянткоўскім.

У двары цягнуўся досыць шырокі газон з жывапісна раскіданымі па ім дагледжанымі клумбамі, дэкаратыўнымі кустамі і дрэвамі, стрыжанымі туямі. З усходняга і заходняга бакоў газона знаходзіліся два аднолькавыя драўляныя атынкаваныя памяшканні для прыслугі, накрытыя чатырохскатным гонтавым дахам. Адно з гэтых памяшканняў згарэла падчас Першай сусветнай вайны, другое захавалася да 1939 года. Там знаходзіліся кухні, пральні і жылыя пакоі для прыслугі.

Парк, які акружаў маёнтак, займаў каля 40 гектараў і быў раздзелены на стары і малады. Вельмі прыгожым быў злучаны з маёнткам стары парк з велічэзнымі лістоўніцамі, разгалістымі каштанамі, ліпавай алеяй, вялізнай вярбой, камель якой маглі абхапіць толькі некалькі чалавек. На ўсіх адкрытых газонах былі размешчаны ў вялікай колькасці кветкавыя клумбы. Летам каля дома выстаўляліся квітнеючыя алеандры і цытрусавыя дрэвы, якія нават пладаносілі. З паўночнага боку парка знаходзілася каплічка, у якой стаяла выразаная з дрэва фігура Божае Маці. Непадалёк гэтай капліцы знаходзіўся парнік, які зваўся «фігарня» (ад назвы плода «фіга»), хоць гэтыя экзатычныя расліны тут ужо даўно не вырошчвалі. У лесе, які некалі непасрэдна далучаўся да гароду, каля галоўнай дарогі стаяла старажытная выразаная з дрэва фігура святога Яна. Прасторныя сады аддзялялі сядзібу ад гаспадарчых пабудоў»[275].

Ян Яўстах Стравінскі быў не толькі выдатным гаспадаром, але і вёў вельмі насычанае культурнае і інтэлектуальнае жыццё. Напрыклад, у лістападзе 1914 года ў Варшаве адбылася знамянальная сустрэча Яна Стравінскага з вялікім рускім кампазітарам Ігарам Стравінскім. У Ігара Стравінскага і Яна Стравінскага былі агульныя продкі герба Суліма. Ян браў у свайго вядомага цёзкі інтэрв'ю для часопіса Wiadomosci Literackie. Па сведчанні відавочцаў Ігар Стравінскі быў надзвычай рады такой сустрэчы[276].

Пры панскім двары дзейнічала польскамоўная школа для мясцовых дзяцей з вёсак Міроўшчына, Гірычы, Труханавічы. Акрамя граматы, дзяцей вучылі Закону Божаму. Адзін раз на тыдзень прыязджаў свяшчэннік. Былая вучаніца той школы, жыхарка вёскі Гірычы В. Д. Сцяпура ўспамінае: «Адзін раз у год, у дзень нараджэння, да пані ў палац ішлі вучні, віншавалі гаспадыню са святам, чыталі вершы, спявалі песні. Пані частавала дзяцей прысмакамі»[277].

Але яшчэ да 1939 года жыццё ў Міроўшчынскім маёнтку рабілася ўсё больш неспакойным. У суседніх вёсках дзейнічалі гурткі КПЗБ, і чальцы гэтых арганізацый спрабавалі шкодзіць Яну Стравінскаму і яго гаспадарцы, на што пан таксама адказваў жорстка. Так, у 1935 годзе ў Міроўшчыне адбыўся бунт працаўнікоў супраць гаспадара Міроўшчынскага маёнтка і яго ўпраўляючага. У выніку сутычкі быў забіты малады хлопец Антон Бяленка з вёскі Гіры-

[275] Aftanazy, R. Dzieje rezydencji na dawnych kresach Rzeczypospolitej / Roman Aftanazy. V. 5–11: Ziemie ruskie korony. — T. 2. — S. 263–264.

[276] Walsh, S. Stravinsky: a creative spring: Russia and France, 1882–1934 / Stephen Walsh. — New York, 1999. — P. 395.

[277] «Міроўшчына: людзі жывуць з мірам». Успаміны В. Д. Сцяпуры — жыхаркі вёскі Гірычы. Дзятлаўская раённая газета «Перамога».

чы — малодшы брат паэта Нікіфара Жальбы (Алеся Бяленкі). З гэтай трагічнай нагоды Жальба склаў верш:

І паў ты нявіннай ахвярай
З рук подлага служкі паноў —
Жыцця маладога не стала
Між верных Айчыны сыноў.
Закрыліся светлыя вочы
У нема халодзячым сне,
І голас, да песні ахвочы,
Заціхнуў на ранняй вясне[278].

Усё гэта сведчыць пра досыць моцную напружанасць ва ўзаемаадносінах Стравінскіх і часткі мясцовага насельніцтва, асабліва моладзі, якая знаходзілася пад уплывам камуністычнай ідэалогіі. Таму зразумела, што ў 1939 годзе пры наступленні савецкіх войск Ян вымушаны быў тэрмінова ратаваць сябе і сваю сям'ю ад бальшавіцкага тэрору і ад пагрозы расправы з боку мясцовых камуністаў. Гаспадары селі на аўтамабіль і назаўсёды пакінулі дом і маёнтак[279], накіраваўшыся ў Вільню[280]. Але ўратавацца ім не ўдалося. У 1941 годзе яны былі сасланы савецкай уладай углыб СССР[281]. Арыштаваны і рэпрэсаваны былі і іншыя жыхары Міроўшчыны: Аляксандр Мацвеевіч Івашка (1925 г.н.), Аляксандра Сцяпанаўна Івашка (1892 г.н.), Марыя Мацвееўна Івашка (1936 г.н.), Мацвей Сцяпанавіч Івашка (1898 г.н.), Надзея Максімаўна Івашка (1908 г.н.), Сцяпан Мацвеевіч Івашка (1927 г.н.), Аляксандр Аляксандравіч Бублей (1940 г.н.), Амалія Войцехаўна Бублей (1906 г.н.)[282].

Аўтару гэтых радкоў удалося ўбачыць толькі адзіны прадмет, звязаны з домам Стравінскіх — ікону Божай Маці Вастрабрамскай, якая знаходзілася ў доме адной з пажылых жыхарак вёскі Гірычы. Яна, на жаль, адмовілася перадаць ікону на захаванне ў мясцовую царкву, таму што абяцала пасля смерці падарыць абраз пляменніцы.

278 Каляснік, У. Зорны спеў / У. Каляснік. — Мінск, 1975. — С. 160.

279 Татаренко, А. Недозволенная память. Западная Беларусь в документах и фактах: 1921–1954-е годы [Электронный ресурс]. — Режим доступа: http://hetman.by/Nedozvolenayapamyat.html.

280 З успамінаў жыхара вёскі Накрышкі М. М.Ківулі.

281 Jasiewicz, K. Zagłada polskich Kresów: ziemiaństwo polskie na Kresach Północno-Wschodnich Rzeczypospolitej pod okupacją sowiecką 1939–1941: studium z dziejów zagłady dawnego narodu politycznego / Krzysztof Jasiewicz. — Warszawa, 1998. — S. 284.

282 Дадзеныя прыводзяцца згодна з інфармацыяй партала «Жертвы политического террора в СССР» [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: https://base.memo.ru/, http://lists.memo.ru.





Тая жанчына расказала, што пасля ад'езду паноў Стравінскіх іх дом пачалі рабаваць, а тую ікону выкінулі пад ногі, яна ж падабрала яе і папрасіла дазволу забраць сабе. Усё астатняе багацце і рарытэты былі ці знішчаны, ці раскрадзены. У 1941 годзе дом Стравінскіх у Міроўшчыне быў спалены партызанамі. У 1944 годзе, пасля заканчэння вайны, у былым панскім маёнтку была арганізавана рамонтна-тэхнічная меліярацыйная станцыя. Цяпер пра былую веліч маёнтка нагадваюць толькі векавечныя дрэвы панскага парку.

Жыхары Міроўшчыны, якія былі прызваны на франты Вялікай Айчыннай вайны[283]: Станіслаў Пятровіч Апанашчык, Барыс Аляксеевіч Кончык, Павел Якаўлевіч Васільчыкаў, Аляксандр Кліменцьевіч Вейга, Іосіф Ільіч Грынцэвіч, Антон Васільевіч Саўрас, Канстанцін Іванавіч Жамойдзік, Іван Сільвестравіч Клешч, Тафіль Рыгоравіч Маляўка, Захар Мікалаевіч Самахвалаў, Міхаіл Уладзіміравіч Шыкас, Іван Іванавіч Рак.

## ГІРЫЧЫ

Першае ўпамінанне ў пісьмовых крыніцах датуецца 1583 годам. Згодна з інвентаром Накрышскага маёнтка, у 1795 годзе ў Гірычах пражывалі 41 мужчына і 38 жанчын[284]. У 1887 годзе тут налічваўся 61 двор і пражываў 361 чалавек[285]. З 1 кастрычніка 1902 года ў Гірычах пачала дзейнічаць царкоўна-прыходская школа. Да 1905 года колькасць насельніцтва склала 337 жыхароў[286]. З пачаткам Першай сусветнай вайны частка Гірыцкіх сялян выехала ў бежанства, а некаторыя былі прызваны ў войска. Вядома, што на франтах Першай сусветнай вайны з вёскі Гірычы ваявалі: Пётр Андрэевіч Абрамчык і Севасцьян Сямёнавіч Жэмайдзік[287].

Па стане на 1923 год у Гірычах налічвалася 280 жыхароў[288]. У так званы польскі час тут дзейнічалі гурткі КПЗБ і «Грамады». Шмат хто з бяднейшых гірыцкіх сялян быў незадаволены панам Стравінскім з Міроўшчыны.

283 Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Дзятлаўскага раёна. — Мінск : Універсітэцкае, 1997.

284 Biblioteka Uniwersytetu Warszawskiego. Inwentarz. Sygnatura 306.

285 Архіў Накрышскай царквы. Кліравая ведамасць за 1887 г.

286 Архіў Накрышскай царквы. Кліравая ведамасць за 1905 г.

287 Дадзеныя прыводзяцца згодна з інфармацыяй партала: «Герои великой войны 1914–1918» [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: https://gwar.mil.ru

288 Skorowidz Mejscowosci Rzeczpospolitej Polskiej. T. VII, cz: 1. Wojewodstwo Nowogrodske. — Warszawa, 1923. — S. 68.



*Від на Гірычы з вышыні*







Пасля прыходу савецкай улады ў 1939 годзе рэпрэсіі не абышлі і вёску Гірычы. Арыштаваны і асуджаны быў шэраг мясцовых людзей: Афанасій Міхайлавіч Абрамчык (1910 г.н.), Даніл Аляксеевіч Леўчык (1900 г.н.), Юззфа Феліксаўна Жыхава (1910 г.н.), Клемас Ігнатавіч Макарчык (1904 г.н.), Канстанцін Андрэевіч Жамойдзік (1928 г.н.), Сцепаніда Данілаўна Кугейка (1894 г.н.), Аляксандр Аляксеевіч Радзюк, 1913 г.н., Ганна Сцяпанаўна Радзюк (1926 г.н.), Марыя Рудольфаўна Радзюк (1900 г.н.), Сцяпан Аляксеевіч Радзюк (1896 г.н.), Сцяпан Сцяпанавіч Радзюк (1928 г.н.)[289].

У вёсцы Гірычы нарадзіўся паэт Аляксандр Бяленка (творчы псеўданім — Нікіфар Жальба)[290]. Ён быў чальцом партыі «Беларуская грамада» і заснаваў гурток гэтай арганізацыі ў Гірычах. У роднай вёсцы разам з сябрамі ставіў беларускія тэатральныя пастаноўкі: «Каліся», «Збянтэжаны Саўка». Вершы Н. Жальбы «На Усход», «Замест вянка на магілу брата» і інш. прысвечаны жыццю мясцовага сялянства[291].

Спісак жыхароў Гірыч, якія былі прызваны на франты Вялікай Айчыннай вайны ці сталі партызанамі[292]: Аляксандр Аляксандравіч Леўчык, Андрэй Пятровіч Мілейка, Іван Пятровіч Мілейка, Ілья Юстынавіч Саўрас, Пятро Раманавіч Кажалаў, Антон Пятровіч Кончык, Раман Пятровіч Кончык, Мікалай Аляксандравіч Кончык, Мікалай Аляксеевіч Кончык, Барыс Іосіфавіч Мілейка, Канстанцін Андрэевіч Бяленка, Восіп Канстанцінавіч Бяленка, Аляксандр Канстанцінавіч Вайчык, Мікалай Іосіфавіч Мацукевіч, Якуб Фадзеевіч Латушка, Міхаіл Фадзеевіч Латушка, Якаў Фёдаравіч Латушка, Віктар Данілавіч Ляўчук, Віктар Лук'янавіч Абражэй, Мікалай Лук'янавіч Абражэй, Васіль Міхайлавіч Сцяпура, Іван Міхайлавіч Сцяпура, Леанід Мікалаевіч Абрамчык, Міхаіл Сямёнавіч Абрамчык, Аляксандр Міхайлавіч Коска, Пётр Міхайлавіч Коска, Пётр

289 Дадзеныя прыводзяцца згодна з інфармацыяй партала «Жертвы политического террора в СССР» [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: https://base.memo.ru/, http://lists.memo.ru.

290 Бяленка Аляксандр Канстанцінавіч (1898–1991) нарадзіўся ў 1898 г. у вёсцы Гірычы. З маленства працаваў парабкам у багатых людзей. Навучаўся ў царкоўна-прыходскай школе і праявіў вялікія здольнасці да навукі. Шмат чытаў, цікавіўся кнігамі, газетамі і часопісамі. У маладым узросце пачынае пісаць вершы. Па цэнзурных меркаваннях у Полышчы многія вершы Н. Жальбы надрукаваць было нельга. Першыя яго допісы з'явіліся ў газетах «Наш сцяг» і «Змаганне» ў 1923 г. Друкаваўся таксама ў «Беларускай ніве», газеце «Жыццё вёскі», «Беларускай газеце», часопісе «Шлях моладзі». Аляксандр Бяленка быў старшынёй Таварыства беларускай школы ў Труханавічах. У гады Вялікай Айчыннай вайны з'яўляўся партызанскім сувязным.

291 Калеснік, У. Лёсам пазнанае / У. Калеснік. — Мн., 1982. — С. 239–242.

292 Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Дзятлаўскага раёна. — Мінск : Універсітэцкае, 1997.

Канстанцінавіч Вайчык, Юзаф Браніслававіч Пашукевіч, Канстанцін Дзянісавіч Леўчык, Мітрафан Васільевіч Леўчык, Іван Данілавіч Кійко, Іван Васільевіч Нагорны, Аляксандр Канстанцінавіч Вайчык, Іван Іосіфавіч Жамойдзік, Эдвард Адольфавіч Гаупт, Сцяпан Францавіч Муха, Васіль Макаравіч Грэбень[293], Вацлаў Лашчэўскі[294], Аляксандр Юльянавіч Аблажэй, Юльян Пятровіч Апанашчык, Пётр Раманавіч Кажала, Антон Уладзіміравіч Рак, Аляксандр Аляксандравіч Чыгір.

Загінулыя ў нямецкай няволі і расстраляныя: Іосіф Андрэевіч Бяленка, Канстанцін Пятровіч Варган, Пётр Антонавіч Варган, Васіль Вікенцьевіч Мякіш, Канстанцін Рыгоравіч Савань[295].

## ТРУХАНАВІЧЫ

У 1624 годзе вёска ўпамінаецца ў складзе Вензавецкай воласці ва ўладанні Сапегаў. Прыкладна з XVIII стагоддзя Труханавічы знаходзіліся ў складзе Пацаўскай воласці Слонімскага павета. Па дадзеных на 1795 год колькасць насельніцтва ў вёсцы складала 49 чалавек. У 1853 годзе ўзрасла да 135 чалавек[296], а згодна з дадзенымі ад 1887 года ў Труханавічах налічвалася ўжо 213 жыхароў[297]. У 1905 годзе насельніцтва склала 216 чалавек[298].

У Першую сусветную вайну на ваенную службу з вёскі былі прызваны: Якаў Рыгоравіч Мілейка, Восіп Пятровіч Быстрыцкі, Мікалай Малчанаў[299].

У 1923 годзе насельніцтва Труханавічаў складалася са 163 чалавек[300].

Вядома, што ў пасляваенныя гады некаторыя жыхары вёскі былі рэпрэсаваны: Аляксандр Аляксандравіч Грынцэвіч (1921 г.н.), Елізавета Андрэеўна Грынцэвіч (1890 г.н.), Яніна Міхайлаўна Грынцэвіч (1931 г.н.).

293 Звесткі прыводзяцца згодна з дадзенымі партала «Память народа» [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: https://pamyat-naroda.ru.

294 Lewandowski, L. Księga poległych na polu chwały: Żołnierze ludowego wojska polskiego polegli, zmarli z ran i zagnieni w czasie Drugiej wojny światowej w latach 1943–1945 / Leszek Lewandowski. — S. 880.

295 Памяць: Гіст.-дакум. Дзятлаўскага раёна. — Мінск : Універсітэцкае, 1997. — С. 258.

296 Biblioteka Uniwersytetu Warszawskiego. Inwentarz. Sygnatura 306.

297 Архіў Накрышскай царквы. Кліравая ведамасць за 1887 г.

298 Архіў Накрышскай царквы. Кліравая ведамасць за 1905 г.

299 Дадзеныя прыводзяцца згодна з інфармацыяй партала «Герои великой войны 1914–1918» [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: https://gwar.mil.ru.

300 Skorowidz Mejscowosci Rzeczpospolitej Polskiej. T. VII, cz: 1. Wojewodstwo Nowogrodske. — Warszawa, 1923. — S. 68.







*Труханавічы. Дом паэта Н. Жальбы*

На франтах Другой сусветнай з вёскі Труханавічы ваявалі: Іван Іосіфавіч Мілейка, Уладзімір Іванавіч Сасінскі, Уладзімір Іванавіч Варган, Вікенцій Сцяпанавіч Мілеўскі, Аляксандр Філіпавіч Мілевіч, Яўген Мацвеевіч Кананін, Мікалай Сямёнавіч Баклага, Юльян Піліпавіч Каско, Уладзімір Іванавіч Сасінскі, Васіль Антонавіч Харлап[301].

Жыхары Труханавіч, якія загінулі ў нямецкай няволі ці былі расстраляны: Пётр Пятровіч Каргельскі, Канстанцін Іосіфавіч Малчановіч, Канстанцін Вікенцьевіч Мілевіч, Міхаіл Іванавіч Мілейка, Рыгор Іосіфавіч Мякіш, Міхаіл Максімавіч Нікіпорчык, Леанід Іванавіч Сасінскі, Ілля Іосіфавіч Цімашэвіч[302].

## ПАЦАЎШЧЫНА

Назва Пацаўшчына, відавочна, паходзіць ад вядомага на беларускіх землях прозвішча Пац. Магчыма, хтосьці з прадстаўнікоў гэтага роду ў пэўны час валодаў тут зямлёй ці знаходзіўся маёнтак, які меў

301 Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Дзятлаўскага раёна. — Мінск : Універсітэцкае, 1997.

302 Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Дзятлаўскага раёна. — Мінск : Універсітэцкае, 1997.



*Асвячэнне царквы ў в. Пацаўшчына*



*Царква Усіх беларускіх святых*





важнае рэгіянальнае значэнне. Першая пісьмовая згадка населенага пункта датуецца 1566 годам[303]. Варта адзначыць, што на працягу стагоддзяў менавіта гэтая вёска лічылася цэнтрам воласці, хаця пазней валасная ўправа была перанесена ў Накрышкі, але назва воласці «Пацаўская» захоўвалася да 1938 года. Цікава і тое, што, па сведчанні мясцовых жыхароў, частка старых могілак называецца татарскай. Знойдзеныя на зарослай частцы мясцовых могілак каменныя помнікі сапраўды не маюць выявы крыжа, але не маюць таксама і ніякіх іншых надпісаў.

За старымі могілкамі ляжаць велізарныя камяні, відавочна, што калісьці яны былі падмуркам нейкага будынка. Пры роспытах мясцовых жыхароў ніхто ніякіх мясцовых паданняў, звязаных з гэтымі камянямі, не згадаў. Верагодна, збудаванне было настолькі старажытным, што нават людская памяць не захавала сведчанняў.

Першыя вядомыя статыстычныя дадзеныя адносна колькасці жыхароў вёскі адносяцца да 1795 года. Згодна Накрышскага інвентара ў Пацаўшчыне ў гэты час пражывалі 42 мужчыны і 41 жанчына.

З інвентару маёнтка Сіратаўшчына 1832 года даведваемся, што непадалёк ад Пацаўшчыны знаходзіўся млын, а ў самой вёсцы была новазбудаваная з акруглага дрэва карчма пры Пяскоўскім гасцінцы. Пры той карчме быў збудаваны таксама і бровар[304].

Па дадзеных на 1880 год у Пацаўшчыне пражывала 116 чалавек. Згодна звестак за 1897 год тут было 209 жыхароў і 31 дом. У 1905 годзе ў вёсцы налічвалася 198 жыхароў[305].

Вядома, што некаторыя жыхары вёскі ўдзельнічалі ў Першай сусветнай вайне: Іван Сцяпанавіч Русін і Канстанцін Паўлавіч Лявонцеў[306].

У 1923 годзе ў Пацаўшчыне пражывала 138 чалавек[307].

У 1941 годзе быў арыштаваны за спробу пераходу дзяржаўнай мяжы жыхар вёскі Пацаўшчына Мікалай Сямёнавіч Радомскі[308].

303 Акты, издаваемые Виленскою комиссиею для разбора древних актов. — Вильна, 1895. — Т. 22. Акты Слонимского земского суда. — Запись № 421. — С. 221.

304 Biblioteka Uniwersytetu Warszawskiego. Inwentarz. Sygnatura 306.

305 Архіў Накрышскай царквы. Кліравая ведамасць за 1905 г.

306 Дадзеныя прыводзяцца згодна з інфармацыяй партала: «Герои великой войны 1914–1918» [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: https://gwar.mil.ru.

307 Skorowidz Mejscowosci Rzeczpospolitej Polskiej. T. VII, cz: 1. Wojewodstwo Nowogrodske. — Warszawa, 1923. — S. 68.

308 Дадзеныя прыводзяцца згодна з інфармацыяй партала «Жертвы политического террора в СССР» [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: https://base.memo.ru, http://lists.memo.ru.

Падчас Вялікай Айчыннай вайны вёска Пацаўшчына неаднаразова апынался ў зоне баявых дзеянняў і карных аперацый, бо знаходзілася на ўскрайку Ліпічанскай пушчы — аднаго з цэнтраў партызанскага руху. Прывядзём у якасці ілюстрацыі ўспаміны Ніны Сяргееўны Петрашкевіч, апублікаваныя ў «Слонімскай газеце».

«Ёсць у Дзятлаўскім раёне невялікая вёска Пацаўшчына. Месціцца яна каля самага лесу. Яшчэ да вайны яна дзялілася на дзве вёскі: Пацаўшчына і Капец. Было там трохі больш за дваццаць двароў. Усе людзі жылі вельмі дружна. Памагалі адзін аднаму ў полі і дома. Святы ўсе гулялі разам. Гарэлку пілі толькі на свята. Маладыя спявалі, танцавалі. Старыя сядзелі на лавачках і разважалі. Дзеці бегалі каля дарослых, блыталіся ў іх пад нагамі. Жылі ў гэтай вёсцы двое сяброў — Сяргей і Іван. Перад вайной Сяргею споўнілася дванаццаць гадоў, а Івану — чатырнаццаць. Разам яны хадзілі ў школу, разам пасвілі жывёлу, разам хадзілі ў грыбы. Вайна пачалася знянацку. Людзі не паспелі апамятацца, як апынуліся пад нямецкай акупацыяй. У вёсках сталі кіраваць паліцаі. Хлопцы і маладыя мужчыны падаліся ў лес. Так з'явіліся ў пушчы партызаны. Ноччу ж яны наведваліся ў вёску. За сувязь з партызанамі жыхароў жорстка каралі: саджалі іх у астрог або расстрэльвалі, палілі хаты. Бяда адна на ўсіх. Толькі развіднела, пачуўся гул матораў варожых матацыклаў. Па ўсёй вёсцы разнёсся сабачы брэх. Здавалася, што сабакі плакалі, прадчуваючы бяду. Немцы заходзілі ў хаты і выганялі людзей на мароз. Вось і сям'ю Сяргея немцы выгналі на падворак і загадалі ўсім легчы на снег. Двое салдат сталі абліваць з каністраў хату бензінам. Вялікі стоўб дыму ўзнёсся ў неба. Сяргей ляжаў ціха-ціха і думаў, што апошні раз ён бачыць сваіх родных — бацькоў, сястру, дзядулю і бабулю. “Зараз куля трапіць у патыліцу — і ўсё”, — прамільгнула ў галаве. Але чамусьці страшна не было. Было крыўдна і горка ад таго, што лёс яго і ягоных родных залежыць ад гэтых тупаголовых фашыстаў. Бабуля ляжала побач. Сяргей пачуў, як яна шаптала малітву. Недалёка сядзела яго пяцігадовая сястра на падушках. Яна нічога не разумела, але чамусьці маўчала і не сыходзіла з месца. Салдаты нешта крычалі па-свойму, бегалі сюды-туды. Раптам застракатаў аўтамат, потым пачулася скавытанне сабакі — яго застрэлілі. Дзед трохі прыпадняўся, і тут жа немец сваім ботам стукнуў яму ў зубы. Стары выплюнуў на снег два зубы і ляжаў моўчкі. Па ўсёй вёсцы ўжо гарэлі хаты. За дымам нічога не было відаць. Яго чорныя клубы сцяліліся па снезе, і вакол усё рабілася чорным. Дзве гадзіны Сяргей і яго родныя ляжалі на снезе. Потым іх пагрузілі на







*Вясковая выстава*

воз і павезлі ў Дзятлава ў астрог. Тым часам сям'ю Івана таксама выгналі на вуліцу. Адзін з немцаў падышоў да хлопца, схапіў яго за руку і пачаў нешта крычаць. Іван зразумеў толькі слова «партызан». Хлопец, нібы нейкая сіла падхапіла яго, вырваўся з рук ворага і пабег у лес, які быў зусім побач. Услед яму раздаліся выстралы. Але Бог мілаваў — куля не закранула ўцекача. Толькі кажух прастрэлілі ў двух месцах. Доўга блукаў ён па лесе. Увечары яго затрымаў партызанскі патруль. Так Іван застаўся ў партызанскім атрадзе. Пазней ён даведаўся, што сям'ю яго расстралялі. З родных у яго застаўся толькі старэйшы брат, які жыў з жонкай у другой вёсцы. Сям'я Сяргея і яшчэ пяць сямей прасядзелі ў астрогу два тыдні. Потым іх адпусцілі. Куды дзявацца, дзе жыць? Людзі падаліся да сваякоў і знаёмых. Такі быў час, і бяда ў людзей была адна…»[309].

Падчас карнай аперацыі, праведзенай акупантамі 14 снежня 1942 года, былі забіты дзве сям'і: Марцінкевічаў — 8 чалавек і Індура — 4 чалавекі. Іх магілы захаваліся.

5 сакавіка 1944 года партызаны правялі ў Пацаўшчыне паспяховую ваенную аперацыю. Нямецкаму камандаванню стала вядома, што ў вёску прыходзяць партызаны, таму сюды быў накіраваны

309 Слонімская газета. — 2009. — № 19.

буйны атрад немцаў з заданнем арганізаваць засаду на партызан. Але сувязныя паведамілі пра гэта лясным ваярам, і тыя ноччу і ў непагадзь абышлі вёску і ўмацаваліся на вясковых могілках. Немцы, праседзеўшы ўсю ноч у засадзе і нікога не дачакаўшыся, змораныя, раніцай вярталіся ў Дзятлава. Калі атрад падышоў да могілак, па іх быў адкрыты агонь[310]. З засады былі забіты 8 нямецкіх салдат, 9 былі паранены, а ў палон захоплены яшчэ 6 салдат. Нямецкі атрад быў поўнасцю разбіты[311].

Жыхары вёскі Пацаўшчына, якія ваявалі падчас ВАВ у шэрагах савецкай арміі: Сцяпан Антонавіч Карамзін, Канстанцін Канстанцінавіч Лявончык, Міхаіл Сямёнавіч Радомскій, Канстанцін Лявонавіч Бівойна, Іван Лявонавіч Бівойна, Іван Вікенцьевіч Бівойна, Канстанцін Ануфрыевіч Глушковіч, Іван Ануфрыевіч Глушкевіч, Міхаіл Восіпавіч Грынцэвіч, Іван Вікенцьевіч Індура, Сяргей Фёдаравіч Лагуцік, Сцяпан Сямёнавіч Радомскі[312], Гаўрыла Гаўрылавіч Багдзель, Вацлаў Іванавіч Белавус, Леанід Іосіфавіч Стрыдзінскі, Баляслаў Феліксавіч Тумкевіч[313].

Пасля вайны быў арыштаваны і асуджаны Пётр Лук'янавіч Конан, які пры немцах мусіў выконваць абавязкі старасты вёскі Пацаўшчына.

Пасля вайны пачалося паступовае аднаўленне жыцця. Жыхары вёскі мусілі ўступіць у мясцовы калгас. І ў савецкі час, нягледзячы на атэістычную прапаганду, жыхары Пацаўшчыны ў пераважнай сваёй большасці былі актыўнымі прыхаджанамі Накрышскай царквы.

Надзвычай важная і знакавая падзея ў жыцці вёскі адбылася 29 кастрычніка 2011 года — асвячэнне на вясковых могілках царквы ў гонар Усіх беларускіх святых. Гэты храм быў збудаваны на сродкі ўраджэнкі вёскі спадарыні Ірына Сандзінг на ўспамін душы яе сястры, якая пахавана на мясцовых могілках. Урачыстае богаслужэнне з чынам асвячэння ўзначаліў Высокапраасвяшчэннейшы архіепіскап Гурый у саслужэнні сакратара Навагрудскай епархіі протаіерэя Андрэя Цыгеля, благачыннага Дзятлаўскай акругі протаіерэя Мікалая Пінчука, настаяцеля Свята-Барыса-Глебскага храма вёскі Накрышкі протаіерэя Георгія Роя, настаяцеля храма вёскі Наваельня іерэя Валерыя Мануйлы.

310 Абрамчык, А. Ваш подзвіг не забыты [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: https://diatlovonews.by/2019/05/vash-podzvig-ne-zabyty.

311 Архив. История. Память. Оперативные сводки Белорусского штаба партизанского движения. Январь-июль 1944 г. Документы и материалы. — Минск. НАРБ, 2019. — С. 120.

312 Звесткі прыводзяцца згодна з дадзенымі партала «Память народа» [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: https://pamyat-naroda.ru.

313 Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Дзятлаўскага раёна. — Мінск : Універсітэцкае, 1997.





## ВЕНСКІ

У вёсцы Венскі пражывала і пражываюць шмат сем'яў з прозвішчам Венскі. Узаемасувязь назвы паселішча з прозвішчамі жыхароў відавочная. Па дадзеных на 1897 год у Венсках было 37 дамоў, у якіх жыло 188 чалавек. Да 1905 года насельніцтва павялічылася да 203 чалавек. У 20-х гадах XX стагоддзя тут дзейнічала царкоўнапрыходская школа, але пераважная большасць насельніцтва вызнавала і вызнае каталіцызм. Па стане на 1923 год насельніцтва складалася са 188 чалавек, з якіх 180 вызнавалі каталіцызм і запісаліся палякамі, толькі 8 былі праваслаўнымі і запісаліся беларусамі[314].

Пасля 1939 года сярод жыхароў вёскі былі рэпрэсаваны: Іван Вікенцьевіч Венско, арыштаваны ў 1940 годзе, і Іосіф Іванавіч Саўрасевіч, арыштаваны за кантакты з Арміяй Краёвай у 1948 годзе[315]. Цікава, што да гэтага Іосіф Саўрасевіч прайшоў вайну ў шэрагах савецкай арміі.

На франтах ВАВ ваявалі таксама Іосіф Адамавіч Венско, Пётр Адамавіч Венско[316]. Баляслаў Антонавіч Ермаловіч быў вывезены немцамі і расстраляны.

314 Skorowidz Mejscowosci Rzeczpospolitej Polskiej. T. VII, cz: 1. Wojewodstwo Nowogrodske. — Warszawa, 1923. — S. 68.

315 Дадзеныя прыводзяцца згодна з інфармацыяй партала «Жертвы политического террора в СССР» [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: https://base.memo.ru/, http://lists.memo.ru.

316 Звесткі прыводзяцца згодна з дадзенымі партала «Память народа» [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: https://pamyat-naroda.ru.

# 7. ПУШЧАНСКІЯ ВЁСКІ НАКРЫШСКАГА ПРЫХОДА

Вёскі, якія ўваходзяць у склад Накрышскага прыхода, выразна дзеляцца на дзве часткі: умоўна назавём іх «палявымі» і «пушчанска-нёманскімі». Магчыма, з першага погляду гэтага і не заўважыш, але, прыгледзеўшыся да жыцця людзей, да іх звычак і традыцый, няцяжка пераканацца — гэта дзве розныя мадэлі сялянскага існавання, што непазбежна накладае адбітак на характар і светапогляд людзей. Калі даводзілася наведваць пушчанскія вёскі з малітвай ці праводзіць пахаванні, то заўсёды здзіўляў іх глыбока ўкаранёны ў мясцовай традыцыі цырыманіял. Яны па-свойму віталі гасцей, заўсёды прысутнічалі грунтоўная і няспешная размова, пачастунак, провады, жарты, прымаўкі; а калі пахаванне, то абавязковы аповед пра жыццё спачылага. Па ўсім відаць, што пушчанцы, якія жылі з пакалення ў пакаленне на аддаленых лясных хутарах, вельмі шанавалі гасцей і хутка іх не адпускалі, асабліва калі госць — бацюшка. Амаль што ў кожнай пушчанскай вёсцы ўласныя пахавальныя звычаі, часам не зусім правільныя з пункта гледжання кансерватыўнай царкоўнай традыцыі, але яны строга іх прытрымліваюцца і, нягледзячы на крытыку, беражліва захоўваюць. Прывядзём у якасці ілюстрацыі ўспаміны аднаго з настаяцеляў Накрышскай царквы протаіерэя Расціслава Салаўёва: «Вельмі своеасаблівыя і адкрытыя людзі жывуць у пушчанскіх вёсках. Тут такія мясціны, куды заўсёды цягне і хочацца прыехаць, як на радзіму. Людзі добрыя і спагадлівыя. Да свяшчэнніка ў гэтай мясцовасці ставяцца з асаблівай павагай і пашанай. Звяртаючыся, кажуць: "айцец духоўны" ці "айцец-бацюшка". Запомніўся мне адзін выпадак, калі ездзілі асвячаць дамы ў адну з лясных вёсак Калпінскія. Ехалі на кані, бо з-за снегу машынай праехаць магчымасці не было. Скончылі асвячэнні вельмі позна, каля 8 гадзін вечара. А непадалёк ад Калпінскіх, глыбей на кіламетры два ў лес, знаходзілася яшчэ адна вёска — Ганчары. На той час там заставалася каля 6 жылых дамоў, і нам не хацелася пакідаць іх, а потым зноў сюды ехаць. Нягледзячы на цемру, вырашылі заехаць і ў Ганчары. Заходзім у адзін дом, а там старая жанчына сустракае і паміж намі такі дыялог адбываецца:

— Вітаю Вас, шаноўная гаспадынька! Ледзьве во да Вас даехалі такою цемраю, такім снегам ды такім лесам. Як Вы жывяце ў гушчары гэткім?

— Вой, айцец духоўны, каб Вы толькі ведалі, як цяжка. О, нядаўна воўк сабаку разам з ланцугом у лес пацягнуў, а ліса ў хляве яйкі крадзе, і ніякага цяпер паратунку на яе няма.

— І калі тое было з сабакам?

— А во мо пару дзён таму… Але Вы не бойцеся, Вы — бацюшка, то Вас воўк не кране.

— Можа, і не кране, калі хутка ехаць будзем. Ну а летам мо лягчэй крыху, чым зімою?

— А дзе ж там, айцец-бацюшка?! Якое ж там лягчэй! Мінулым во летам ласі капусту маю паелі, а дзікі ўсю бульбу перавярнулі лычамі. Што не пасадзі — усё знішчаць. Была б дубальтоўка якая, то сама сядзела б ды пільнавала свой гарод.

— Каб у Вас была дубальтоўка, то я б яе, напэўна, цяпер пазычыў на зваротную дарогу.

— А, не! Вас і без дубальтоўкі ваўкі не зачэпяць. Ваўкі бацюшак не ядуць.

Пасля такога аповеду, шчыра кажучы, страшнавата было на кані кіламетраў 10 праз лес дадому вяртацца, так і азіраліся ўсю дарогу, ці не бягуць за намі тыя ваўкі, што сабаку ганчароўскага ў лес з ланцугом пацягнулі»[317].

## ЧЫРВОНЫ БОР, ЯБЛЫНЬКА, БЕЛАВУСЫ

Калі браць менавіта Ліпічанскую пушчу, то раней вёсак тут, фактычна, не было, а ўсе людзі жылі па шматлікіх хутарах. Той хутарскі кангламерат, які належаў да прыхода Накрышскай царквы, акрэсліваўся агульнай назвай Андрусаўшчына. Гэта былі і лесніцоўкі, і, так бы мовіць, класічныя хутары на ўзлесках і пушчанскіх прагалінах. У некаторых месцах былі групы хутароў, а вёскі ў іх сучасным выглядзе ўтварыліся ўжо ў пасляваенны час пад уплывам савецкай улады і калгаснага ладу. Да Накрышскага прыхода з пушчанскіх вёсак адносяцца: Чырвоны Бор, Яблынька, Белавусы. З трох узгаданых вёсак толькі Белавусы захавалі свой гістарычны выгляд, бо

[317] З успамінаў настаяцеля Накрышскай Барыса-Глебскай царквы протаіерэя Расціслава Салаўёва.





*Асушанае балота Ройста і Ліпічанская пушча*





гэта якраз і быў своеасаблівы хутарскі кангламерат, які насяляўся пераважна носьбітамі прозвішча Белавус.

Самы трагічны і цяжкі час для жыхароў пушчанскіх хутароў выпаў на гады Вялікай Айчыннай вайны. У 1942 годзе немцы правадзілі маштабную карную аперацыю пад кодавай назвай «Вандсберг» супраць партызанскіх атрадаў, якія базіраваліся ў Ліпічанскай пушчы. У аперацыі ўдзельнічаў і адзін з украінскіх батальёнаў, якія ваявалі на баку немцаў, а менавіта — 115-ты паліцэйскі батальён[318]. Адной з мэт карнікаў было пазбавіць партызан падтрымкі сялян. Гэтая задача вырашалася захопнікамі бязлітасна і крайне жорстка. Яны паспрабавалі знішчыць усё цывільнае насельніцтва Ліпічанскай пушчы. Дзейнічалі па прынцыпе: няма людзей — няма і падтрымкі. Бесчалавечная логіка кіравала фашыстамі. Такім чынам, за 2 гады акупацыйныя войскі правялі 3 буйныя аперацыі ў Ліпічанскай пушчы, кожная з якіх у большай ці меншай ступені прыносіла бяду мясцоваму насельніцтву. Партызаны, кіруючыся ваеннаю мэтазгоднасцю, вырываліся з блакады і пераходзілі ў іншыя месцы, а мясцовы люд заставаўся безабаронным. Самым жудасным і крывавым аказаўся дзень 14 снежня 1942 года, калі агнём у Ліпічанскай пушчы былі знішчаны 106 хутарскіх двароў і загінула 109 чалавек — прыхаджан Накрышскай царквы[319]. Прыходскі свяшчэннік протаіерэй Дзімітрый Гладкоў літаральна некалькі дзён запар адпяваў забітых карнікамі людзей.

Водгук гэтай трагедыі знайшоў свой адбітак і ў адным з класічных твораў беларускай літаратуры — у кнізе «Я з вогненнай вёскі…», складзенай Алесем Адамовічам, Янкам Брылём і Уладзімірам Калеснікам. Прывядзём адпаведны ўрывак з кнігі: «З усіх, убачаных намі ў розных кутках Беларусі, багатых і сціплых помнікаў на брацкіх і адзінокіх магілах з дзён акупацыі адзін уразіў нас па-асабліваму. Ён стаяў у Ліпічанскай пушчы, на Дзятлаўшчыне, каля шэрага, сумнага хутара Яблынька, які вырас пасля вайны на пажарышчы, сярод вялізнай пустыннай прагаліны. Мы бачылі той незвычайны помнічак улетку 1971 года, пакуль яго яшчэ не замяніў другі, сучасны, багацейшы. А той быў вельмі просты, вясковы — каменная пірамідка з іржавым чыгунным крыжам, і стаяў ён — і ў гэтым яго незвычайнасць — на нізенькім цэментаваным ка-

[318] Рудлинг, Пер Андерс. Террор и коллаборационизм во время Второй мировой войны: случай 118-го батальона охранной полиции в оккупированной Белоруссии / Пер Андерс, Рудлинг. — Lund University, 2016. — С. 283.

[319] Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Дзятлаўскага раёна. — Мінск : Універсітэцкае, 1997. — С. 120.




*Вокладка кнігі «Я з вогненнай вёскі»*

лодзежным крузе... У глыбіні калодзежа засыпана сялянская сям'я. Надпіс на помніку, ужо тым часам не вельмі выразны, гаварыў, што ў прадонне ўкінуты — хто ведае, ці забітыя папярэдне для большай зручнасці, ці, можа, і жыўцом, пад страшны плач і крык, — Іван Пархач, сорак восем гадоў, жонка яго Агата, сорак сем, дачка Зіна, васямнаццаць, сын Міхась, шаснаццаць, і меншая, Марыя, чатырнаццаць... Было гэта ў снежні 1942 года. Помнік паставілі пляменніца і зяць. Тыя, хто пасяліўся пасля на гэтым горкім котлішчы, пабудаваўшы хату далей ад калодзежа. Усхваляваў нас нават не так помнік, як людскі абавязак паставіць яго ціха, асцярожна, каб не парушыць спакою нябожчыкаў»[320].

Для малітоўнай памяці загінулых ад рук катаў прыхаджан Накрышскай царквы (таксама і іх суседзяў каталікоў), прывядзём вядомыя імёны закатаваных і на старонках гэтай кнігі: Вікенцій Бараноўскі, Іван Міхайлавіч Бараноўскі, Іван Паўлавіч Бараноўскі, Іосіф Іванавіч Бараноўскі, Міхаіл Іванавіч Бараноўскі, Мальвіна Адамаўна Бараноўская, Марыя Іванаўна Бараноўская, Кася Будзіловіч, Ганна Бурак, Іосіф Станіслававіч Бурак, Станіслаў Вікенцьевіч Бурак, Ядзвіга Станіславаўна Бурак, Яніна Станіславаўна Бурак, Яўгена Станіславаўна Бурак, Канстанцін Венскі, Іван Аляксеевіч Вішнеўскі, Андрэй Вікенцьевіч Валяк, Іван Іванавіч Валяк, Іван Ігнатавіч Валяк, Ігнат Міхайлавіч Валяк, Лідзія Іванаўна Валяк, Марыя Васільеўна Валяк, Міхаліна Верабей, Аляксандра Аляксандраўна Ганчар, Вера Пятроўна Ганчар, Ніна Пятроўна Ганчар, Уладзімір Ігнатавіч Ганчар, Вацлаў Раманавіч Гурневіч, Іван Раманавіч Гурневіч, Валянцін Іванавіч Дудзіч, Марыя Іванаўна Дудзіч, Канстанцін Камінскі, Браніслаў Вікенцьевіч Кашкало, Вікенцій Георгіевіч Кашкало, Ганна Іосіфаўна Кашкало, Іосіф Вікенцьевіч Кашкало, Іосіф Іосіфавіч Кашкало, Марыя Іосіфаўна Кашкало, Сцепаніда Вікенцьеўна Кашкало, Ядзвіга Іосіфаўна Кашкало, Марыя Рыгораўна Кур-

[320] Адамовіч, А. Я з вогненнай вёскі… / А. Адамовіч, Я. Брыль, У. Калеснік. — Мінск, 1975. — С. 273–274.







*Жыхары в. Ябланька*



*Ваколіцы в. Чырвоны Бор*

шук, Рыгор Ігнатавіч Куршук, Канстанцін Іванавіч Лаўнікаў, Філіп Лапеза, Юлія Адамаўна Лапеза, Ніна Мармыш, Іван Пятровіч Марцінчык, Пётр Вікенцьевіч Марцінчык, Лявонцій Макаравіч Марук, Анатоль Іванавіч Мархоцкі, Антаніна Мархоцкая, Ядзвіга Іванаўна Мархоцкая, Іосіф Паўлавіч Мацюкевіч, Кацярына Мацюкевіч, Міхаіл Паўлавіч Мацюкевіч, Надзея Паўлаўна Мацюкевіч, Вячаслаў Вікенцьевіч Моцевіч, Вячаслаў Іванавіч Моцевіч, Іван Іванавіч Моцевіч, Праскоўя Канстанцінаўна Моцевіч, Сафія Васільеўна Моцевіч, Станіслаў Канстанцінавіч Моцевіч, Станіслаў Станіслававіч Моцевіч, Юльян Іванавіч Моцевіч, Аляксандр Іванавіч Маскаль, Васіль Іванавіч Навумовіч, Іван Ігнатавіч Навумовіч, Марыя Баляславаўна Пятроўская, Баляслаў Антонавіч Пятроўскі, Мар'ян Баляслававіч Пятроўскі, Агата Порхач, Зінаіда Іванаўна Порхач, Іван Пятровіч Порхач, Марыя Іванаўна Порхач, Міхаіл Іванавіч Порхач, Мікалай Іосіфавіч Філідовіч, Канстанцін Канстанцінавіч Шмыгін, Лідзія Паўлаўна Шмыгіна, Геанарда Францаўна Чайкоўская, Франц Іосіфавіч Чайкоўскі, Юзэфа Іванаўна Чайкоўская, Яўгеній Іванавіч Шымановіч.

У сучаснай вёсцы Чырвоны Бор стаіць помнік простаму беларускаму герою-селяніну Іосіфу Юр'евічу Філідовічу, які быў гаспадаром аднаго са шматлікіх пушчанскіх хутароў і дапамагаў партызанам арганізаваць шпіталь на адной з выспаў непраходнага балота Ройста, якое раскінулася на вялізнай тэрыторыі ад вёскі Дубраўка да Шаршні. Толькі ён і яго ўнук ведалі дарогу да шпіталя па незаўважных балотных сцежках і кладках. Верагодна, хтосьці данёс на Іосіфа Філідовіча, і карнікі 16 снежня 1942 года, уварваўшыся на хутар, пачалі катаваць старога Філідовіча і яго 12-гадовага ўнука. Тады дзед Іосіф пагадзіўся паказаць сцежку да партызанскага шпіталя, але павёў карнікаў зусім у іншы бок. З сабой немцы цягнулі цяжкую зброю. Урэшце яны зразумелі, што стары іх падманвае, і забілі яго стрэлам у галаву, а самі з вялікімі цяжкасцямі і стратамі пачалі выбірацца з непраходнага балота. Так, прыхаджанін Накрышскай царквы Іосіф Філідовіч аддаў жыццё за сваіх бліжніх, выканаўшы запавет Хрыста. Партызанскі лазарэт так і не быў знойдзены да канца вайны і выратаваў жыцці многім людзям.

Вядома, што на франты Першай сусветнай вайны з Ліпічанскіх хутароў былі прызваны: Вікенцій Фёдаравіч Ганчароў і Іосіф Вікенцьевіч Марцінчык[321], а на Вялікай Айчыннай вайне салдатамі і партызанамі былі: Вікенцій Іванавіч Забела, Баляслаў Іванавіч Забела, Валянцін Іванавіч Дарашкевіч[322], Іван Уладзіміравіч Бараноўскі, Сяргей Канстанцінавіч Варган, Пётр Антонавіч Ганчарук, Васіль Юр'евіч Лазоўскі, Лявон Макаравіч Марук, Мікалай Восіпавіч Мацукевіч, Уладзімір Іванавіч Сухоцкі.

321 Дадзеныя прыводзяцца згодна з інфармацыяй партала «Герои великой войны 1914–1918» [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: https://gwar.mil.ru.





## ДУБРАЎКА

Сучасная вёска Дубраўка — адзін з найстаражытнейшых населеных пунктаў Дзятлаўшчыны. Яшчэ ў дагістарычную эпоху тут, непадалёк ад Нёмана, жылі людзі, пра што сведчаць 3 старадаўнія паўсферычныя па сваёй форме курганы, якія знаходзяцца на паўночным ускрайку вёскі[323].

Першае ўпамінанне Дубраўкі ў пісьмовых крыніцах датуецца 1580 годам. Вёска адносілася да маёнтка Здзяцель (суч. Дзятлава), што належаў князю Канстанціну Астрожскаму[324]. У інвентары прыводзіцца спіс жыхароў Дубраўкі і суседняй Карытніцы з апісаннем іх павіннасцей па падатках і працах. Адзін з такіх абавязкаў — ахова Ліпічанскай пушчы ў інтарэсах князя Астрожскага. У 1624 годзе Дубраўка згадваецца ў складзе Дзятлаўскай (Здзенцельскай) воласці ва ўласнасці Сапегаў[325].

З пісьмовых сведчанняў канца XIX стагоддзя вядома, што ў Дубраўцы калісьці існавала невялічкая царква, але ў 1831 годзе пры нявысветленых гістарычных абставінах яна была разбурана[326]. На жаль, і ў памяці мясцовых жыхароў пра гэты храм і месца яго знаходжання сведчанняў не засталося. У другой палове XIX стагоддзя ў Дубраўцы была адкрыта школа граматы, праіснавала яна да пачатку Першай сусветнай вайны.

Згодна з перапісам 1897 года ў паселішчы жыло 387 жыхароў. У 1924 годзе было 43 гаспадаркі і 204 жыхары.

Салдаты Першай сусветнай вайны з вёскі Дубраўка: Рыгор Мікалаевіч Дзярвук, Браніслаў Станіслававіч Юшкевіч[327].

322 Звесткі прыводзяцца згодна з дадзенымі партала «Память народа» [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: https://pamyat-naroda.ru.

323 Труды. Прибалтийская объединенная комплексная экспедиция Х. Моора. — 1959. — Т. 1. — С. 252.

324 Акты, издаваемые Виленскою археографическою комиссиею. Т. XIV. Инвентари имений XVI столетия. — Вильна, 1888. — С. 218.

325 Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Дзятлаўскага раёна. — Мінск : Універсітэцкае, 1997.

326 Гродненский православно-церковный календарь. 1899. — Т. 1. — С. 33–34.

327 Дадзеныя прыводзяцца згодна з інфармацыяй партала «Герои великой войны 1914–1918» [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: https://gwar.mil.ru.



— 218 —

**Село Коритъница и Дубровка.**

Волокъ і҃ (10) и полъ кгрунъту подлого.

а҃ (1) Стецута Василевичъ.

в҃ (2) Стецукъ Миньцовичъ, Хома Миньцовичъ.

г҃ (3) Дмитръ Миньцовичъ, Степанъ.

д҃ (4) Якубъ Болтромеевичъ, Валюкъ Матеевичъ, Степукъ Матысовичъ.

є҃ (5) При томъ селе съ перевозу Везовецкого зъ волоки Матей Приступа гр. м҃, то естъ, съ того застенку, на которомъ домомъ седитъ.

ѕ҃ (6) Анъдрей Русакъ, полъ волоки. Марътинъ Янковичъ, Валюкъ Матеевичъ.

з҃ (7) Стаюкъ Якубовичъ, Павлюкъ Новикъ.

и҃ (8) Яковъ Карповичъ.

ѳ҃ (9) Трохимъ Карповичъ.

і҃ (10) Яковъ Карповичъ.

А особливе подъ рубежомъ Везовецкимъ Янукъ а Тишукъ застенокъ обадва держатъ, зъ него даютъ гр. м҃ (40), а Стецукъ Кгелда зъ моркговъ г҃ (3) сеножатныхъ по гр г҃ (3).

*Повинъность тыхъ обеюхъ селъ.* Платятъ съ кождое волоки цыншу по гр. м҃ (40), а обедве сіола споломъ кождого року повинни до двора его кн. мил. Здетельского три бочки соли крупястое дать, летомъ толокъ ѕ҃ (6) съ кождое волоки заробить, тежъ повинни зъ лесничимъ его кн. мил. Коритъницкимъ до пущи его кн. мил. Коритъницъкое, иле кроть имъ лесничій укаже, ити и зъ нимъ посполу тое пущи боронить, бо самъ одинъ лесничій пущи уборонить не може, кгдыжъ тамъ на самой границы Зблянской и Яворской.

Сума пенезей съ тыхъ селъ обеюхъ копъ з҃ (7), гр. мѳ҃ (49), а соли бочокъ г҃ (3).

*Запіс інвентару XVI ст.*

Па стане на 1923 год насельніцтва Дубраўкі складалася з 204 жыхароў, з якіх 183 вызнавалі праваслаўе, а 21 — каталіцызм, але ўсе пры гэтым запісаліся беларусамі[328].

Несумненна, самым трагічным за ўсю гісторыю Дубраўкі быў перыяд Другой сусветнай вайны. Вёска паглыблена ў Ліпічанскую пушчу, знаходзілася на ўскрайку непраходнага балота Ройста, дзе размяшчаўся партызанскі лазарэт. Восенню 1942 года, за некалькі месяцаў да пачатку карнай аперацыі ў Ліпічанскай пушчы, па сведчанні мясцовых жыхароў, у Дубраўку наведаліся падасланыя немцамі правакатары, якія былі апрануты ў савецкую ваенную форму і гаварылі на чыстай рускай мове. Яны распытвалі пра партызан і даведаліся, што мясцовыя жыхары маюць рэгулярныя зносіны з партызанскімі атрадамі. Менавіта наведванне правакатараў адыграла ракавую ролю ў гісторыі Дубраўкі. 1 кастрычніка 1942 года пачалася карная аперацыя супраць жыхароў вёскі. З 279 жыхароў былі забіты 102 чалавекі. На малітоўны ўспамін прывядзём іх імёны: Іван Мікалаевіч Сівец, Канстанцін Іванавіч Сівец, Канстанцін Мікалаевіч Сівец, Мікалай Васільевіч Сівец, Ніна Фёдараўна Сівец, Раіса Іосіфаўна Сівец, Алена Іванаўна Ганчарук, Аляксей Васільевіч Ганчарук, Аляксей Паўлавіч Ганчарук, Аляксей Фёдаравіч Ганчарук, Вікенцій

[328] Skorowidz Mejscowosci Rzeczpospolitej Polskiej. T. VII, cz. 1: Wojewodstwo Nowogrodske. — Warszawa, 1923. — S. 68.







*Мясцовыя могілкі, дзе пахаваныя спаленыя жыхары в. Дубраўка*

Паўлавіч Ганчарук, Канстанцін Васільевіч Ганчарук, Кацярына Іванаўна Ганчарук, Мальвіна Адамаўна Ганчарук, Марыя Мікалаеўна Ганчарук, Мікалай Мікалаевіч Ганчарук, Марыя Пятроўна Ганчарук, Паўліна Іосіфаўна Ганчарук, Сцепаніда Міхайлаўна Ганчарук, Уладзімір Рыгоравіч Ганчарук, Мікалай Сцяпанавіч Гоман, Міхаіл Купрыянавіч Гоман, Агаф'я Сямёнаўна Дзірвук, Алена Вікенцьеўна Дзірвук, Алена Іванаўна Дзірвук, Аляксей Самуілавіч Дзірвук, Алена Феліксаўна Дзірвук, Анісся Канстанцінаўна Дзірвук, Антаніна Лук'янаўна Дзірвук, Валянціна Вікенцьеўна Дзірвук, Вікенцій Данілавіч Дзірвук, Вікенцій Іванавіч Дзірвук, Вікенцій Фёдаравіч Дзірвук, Вольга Міхайлаўна Дзірвук, Галіна Васільеўна Дзірвук, Ганна Гаўрылаўна Дзірвук, Ганна Данілаўна Дзірвук, Ганна Іванаўна Дзірвук, Ганна Сямёнаўна Дзірвук, Зінаіда Міхайлаўна Дзірвук, Зінаіда Самуілаўна Дзірвук, Зінаіда Сямёнаўна Дзірвук, Іван Васільевіч Дзірвук, Мікалай Васільевіч Дзірвук, Міхаіл Васільевіч Дзірвук, Міхаіл Гаўрылавіч Дзірвук, Міхаіл Мікалаевіч Дзірвук, Мікалай Міхайлавіч Дзірвук, Надзея Канстанцінаўна Дзірвук, Пелагея Мікалаеўна Дзірвук, Пётр Вікенцьевіч Дзірвук, Сафія Паўлаўна Дзірвук, Сцяпан Самуілавіч Дзірвук, Сяргей Вікенцьевіч Дзірвук, Уладзімір Вікенцьевіч Дзірвук, Юлія Іванаўна Дзірвук, Юлія Сямёнаўна Дзірвук, Алена Мікалаеўна Дзірвук, Васіль Аляксеевіч

Дзірвук, Ганна Міхайлаўна Дзірвук, Зінаіда Іосіфаўна Дзірвук, Канстанцін Іосіфавіч Дзірвук, Канстанцін Міхайлавіч Дзірвук, Любоў Мікалаеўна Дзірвук, Марыя Мікалаеўна Дораш, Марыя Уладзіміраўна Дораш, Мікалай Іосіфавіч Дораш, Міхаіл Канстанцінавіч Дораш, Міхаіл Фёдаравіч Дораш, Юлія Міхайлаўна Дораш, Юлія Фёдараўна Дораш, Валянціна Аляксандраўна Жагель, Ганна Міхайлаўна Жагель, Вікенцій Антонавіч Заянчкоўскі, Марыя Рыгораўна Красоцкая, Сафія Іванаўна Красоцкая, Юлія Гаўрылаўна Красоцкая, Іван Іосіфавіч Красоцкі, Мікалай Рыгоравіч Красоцкі, Рыгор Іосіфавіч Красоцкі, Васіль Емельянавіч Майсейчык, Ганна Сільвестраўна Ненартовіч, Марыя Рыгораўна Ненартовіч, Валянціна Міхайлаўна Сцяпура, Вольга Іосіфаўна Сцяпура, Зінаіда Фёдараўна Сцяпура, Канстанцін Міхайлавіч Сцяпура, Марыя Аляксееўна Сцяпура, Марыя Міхайлаўна Сцяпура, Мікалай Ігнатавіч Сцяпура, Мікалай Канстанцінавіч Сцяпура, Міхаіл Іванавіч Сцяпура, Міхаіл Якаўлевіч Сцяпура, Уладзімір Мікалаевіч Сцяпура, Юлія Мікалаеўна Сцяпура, Юльян Антонавіч Юшкевіч[329].

Астатнія жыхары вёскі паспелі схавацца ў лесе і ўцячы ад крывавай расправы карнікаў.

Салдаты Вялікай Айчыннай вайны з вёскі Дубраўка: Васіль Пятровіч Ганчарук, Дзмітрый Васільевіч Ганчарук, Аляксандр Дзмітрыевіч Гоман, Міхаіл Дзмітрыевіч Гоман, Міхаіл Рыгоравіч Жагель, Вікенцій Антонавіч Зайнчкоўскі[330].

У Германію быў вывезены і загінуў жыхар Дубраўкі Іосіф Сцяпанавіч Дораш[331].

Рэпрэсаваныя жыхары вёскі: Бернадзя Антонаўна Юшкевіч (1912 г.н.), Канстанцін Канстанцінавіч Дораш (1929 г.н.), Любоў Сямёнаўна Дораш (1898 г.н.), Іван Канстанцінавіч Дудзіч (1884 г.н.), Адольф Антонавіч Красоцкі (1903 г.н.[332]). Яны выжылі ў 1942 годзе, калі загінула пераважная большасць жыхароў Дубраўкі ад куль і агню нямецкіх карнікаў, але былі арыштаваны савецкімі органамі бяспекі ў 1948 годзе за неданясенне на сваіх аднавяскоўцаў.

329 Память: Гіст.-дакум. хроніка Дзятлаўскага раёна. — Мінск : Універсітэцкае, 1997. — С. 128.

330 Память: Гіст.-дакум. хроніка Дзятлаўскага раёна. — Мінск : Універсітэцкае, 1997. Таксама звесткі прыводзяцца згодна з дадзенымі партала «Память народа» [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: https://pamyat-naroda.ru.

331 Память: Гіст.-дакум. хроніка Дзятлаўскага раёна. — Мінск : Універсітэцкае, 1997.

332 Дадзеныя прыводзяцца згодна з інфармацыяй партала «Жертвы политического террора в СССР» [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: https://base.memo.ru/, http://lists.memo.ru.



# 8. ПРЫНЁМАНСКІЯ ВЁСКІ НАКРЫШСКАГА ПРЫХОДА

Прынёманскія вёскі Накрышскага прыхода — надзвычай маляўнічыя мясціны, бо менавіта тут Ліпічанская пушча ўглядаецца галінамі сваіх вячыстых дрэў у няспынную нёманскую плынь. Усе гэтыя паселішчы стаяць побач са старадаўнімі курганамі, і людское жыццё перацякае тут з культуры ў культуру, ад аднаго народа да іншага, з пакалення ў пакаленне ўжо на працягу больш як дзвюх з паловай тысяч гадоў. Адно толькі ўсведамленне гэтага факта абуджае пачуццё незвычайнасці гэтай зямлі, а маляўнічыя краявіды заварожваюць і ўразаюцца ў памяць яскравым адбіткам. Жыхары гэтых вёсак — простыя людзі, але менавіта яны пераемнікі спрадвечнай плыні прынёманскага жыцця.

## ШАРШНІ

Першы пісьмовы ўспамін датуецца 1577 годам. Вёска адносілася да маёнтка Ліпічна, а ў гэты час шаршнёўская зямля належала Пятковічам[333]. У XIX стагоддзі Шаршні адпісаны да ўладанняў сям'і Чацвярцінскіх з Жалудка. У Шаршнях у першай палове XIX стагоддзя жыла шляхецкая сям'я Добашыньскіх[334].

Па стане на 1923 год насельніцтва складалася са 116 жыхароў[335].

У вёсцы Шаршні нарадзіўся і пахаваны Іосіф Юр'евіч Філідовіч. З Шаршнёў родам быў і яшчэ адзін партызан Міхаіл Юр'евіч Белуш. У 1941 годзе савецкай уладай быў рэпрэсаваны Эдвард Войцехавіч Гарнцарых (1918 г.н.)[336].

Першапачаткова вёска адносілася да Арлянскага прыхода Шчучынскага раёна, але пасля закрыцця ў савецкія часы арлянскай

333 Вялікі гістарычны атлас Беларусі. 2009. — Т. 1. — С. 242.

334 Czesław Malewski Rodziny szlacheckie na Litwie w XIX wieku. Powiaty lidzki, oszmiański i wileński. — Warszawa, 2016. — S. 63.

335 Skorowidz Mejscowosci Rzeczpospolitej Polskiej. T. VII, cz. 1: Wojewodstwo Nowogrodske. — Warszawa, 1923. — S. 68.

336 Дадзеныя прыводзяцца згодна з інфармацыяй партала «Жертвы политического террора в СССР» [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: https://base.memo.ru/, http://lists.memo.ru.



*Нёман каля в. Шаршні*

царквы Шаршні перайшлі пад пастырскае акармленне Накрышскага прыхода, бо знаходзяцца на тэрыторыі Дзятлаўскага раёна.

Салдаты Вялікай Айчыннай вайны, ураджэнцы Шаршнёў: Уладзімір Ігнатавіч Васько, Вікенцій Дзмітрыевіч Савашынскі, Іван Іванавіч Філідовіч, Іосіф Пятровіч Філідовіч[337].

Назва вёскі, відавочна, паходзіць ад назвы аднайменнага насякомага. Цікава, што суседняя вёска называецца Гузні. Мясцовыя людзі жартуюць, што шаршні з Шаршнёў кусалі суседзяў, а тыя хадзілі з гузакамі, таму і вёску назвалі Гузнямі.

Ужо больш як 10 гадоў запар на беразе Нёмана каля вёскі Шаршні ў маляўнічай дуброве праходзяць злёты праваслаўнай моладзі з Ліды.

## ДЗЯМ'ЯНАЎЦЫ

Першае пісьмовае ўпамінанне датуецца 1577 годам. Вёска адносілася да маёнтка Ліпічна і знаходзілася ва ўладанні сям'і Пятко-

337 Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Дзятлаўскага раёна. — Мінск : Універсітэцкае, 1997.








*План курганных пахаванняў каля в. Дзям’янаўцы*




*План курганных пахаванняў у ваколіцах в. Дзям’янаўцы*

вічаў[338]. Вядома, што на пачатак XIX стагоддзя Дзям’янаўцы знаходзіліся ва ўладаннях графаў Тызенгаўзаў[339] і адносіліся да Арлянскай гміны Жалудоцкага павета. Па сведчаннях мясцовых людзей, у 20-я і 30-я гады XX стагоддзя ў Дзям’янаўцах быў па-

338 Вялікі гістарычны атлас Беларусі. 2009. — Т. 1. — С. 206.

339 Лаўрэш, Л. Прыход у Орлі. Парафіяне царквы ў Орлі, 1829 г. / Л. Лаўрэш // Лідскі Летапісец. — 2017. — № 4(80). — С. 22–38.







*Помнікі на могілках в. Дзям'янаўцы*





ляўнічы двухпавярховы цагляны дом Чацвярцінскіх з Жалудка. Ад гэтай сядзібы цяпер засталася толькі пад'язная алея, бо сам дом падчас вайны ўзарвалі партызаны з-за меркаванняў, што немцы могуць зрабіць тут камендатуру. Бліжэй да вёскі размяшчаўся таксама двухпавярховы драўляны дом ляснічага, які ў пачатку вайны быў спалены. Мясцовыя старажылы ўзгадваюць, што пасля прыходу савецкай улады ў 1939 годзе панскі дом Чацвярцінскіх перадалі пад школу для мясцовых дзяцей, і адна з настаўніц знайшла там залаты бранзалет.

Згодна дадзеных перапісу насельніцтва за 1923 год, у вёсцы быў 51 дом і 315 жыхароў[340]. У 20–30-х гадах у Дзям'янаўцах пражывала адна стараверская сям'я Сасноўскіх[341]. На пачатку 20-х гадоў XX стагоддзя па ініцыятыве актывіста віленскага беларускага камітэта Івана Дразда тут адкрылася беларускамоўная школа[342].

Вёска стаіць на беразе старога русла Нёмана. Адлегласць ад паселішча да сучаснага русла ракі складае прыкладна 700–800 м. Назва, відавочна, паходзіць ад імені Дзям'ян. Існуе паданне, што пасля шведскай вайны з былых жыхароў гэтых мясцін застаўся адзін толькі Дзям'ян. Ён і заснаваў вёску, надаўшы ёй сваё імя. Ад мясцовых людзей даводзілася чуць і іншае паданне, не пазбаўленае народнага гумару, згодна з якім, падчас сусветнага патопу біблейскі Ной зрабіў каўчэг і плаваў па водах, а беларускі Дзям'ян схаваўся ад вады пад човен і так перачакаў патоп. Пасля таго, як вада сышла, Ной з каўчэгам прыстаў да нейкай высокай гары, а Дзям'ян, вылезшы з-пад чоўна, заснаваў Дзям'янаўцы.

Пра паходжанне назвы згадвае і адзін з яе ўраджэнцаў Канстанцін Рышкевіч у кнізе ўспамінаў: «Пачыналася мая вёска з васямнаццаці гаспадарак. Калісьці прыехалі ў гэтую пушчу 18 сем'яў, падзялілі паміж сабою ўсе палі ды лугі, усім пароўну па 12 гектараў ворнай зямлі і па 5 гектараў сенакосу»[343]. Магчыма, і за гэтым сведчаннем ёсць нейкія рэальныя падзеі, якія адбыліся ў той ці іншы момант гісторыі.

Можа падацца дзіўным, але і версія пра Ноя не зусім беспадстаўная, бо пачатак вёскі сягае ў незапамятную даўніну. Дзям'янаўцы літаральна абкружаны старадаўнімі курганамі. Згодна з дадзены-

340 Skorowidz Mejscowosci Rzeczpospolitej Polskiej. T. VII, cz. 1: Wojewodstwo Nowogrodske. — Warszawa, 1923. — S. 24.

341 Ришкевич, К. Моя школа — жизнь / К. Ришкевич. — Луганск, 2004. — С. 22.

342 Лаўрэш, Л. Іван Дрозд — грамадскі дзеяч і навуковец / Л. Лаўрэш // Лідскі Летапісец. — № 1(85). — С. 23.

343 Ришкевич, К. Моя школа — жизнь / К. Ришкевич. — Луганск, 2004. — С. 7.



мі археалагічных даследаванняў, гэтая мясцовасць была заселена прыкладна ў другой палове I тысячагоддзя да н.э. У 1955 годзе ад Дзям’янаўцаў у бок Карытніцы быў знойдзены курганны могільнік I тысячагоддзя да н.э.[344]. Пахавальным звычаем тут была крэмацыя па агульных індаеўрапейскіх традыцыях[345]. У адным са старажытных курганоў знойдзены 3 каменныя сякеры[346]. Яшчэ адзін старажытны могільнік адкрыты непадалёк ад Дзям’янаўцы каля дарогі, якая вядзе ў Карытніцу. Там налічваецца каля 30 курганных пахаванняў XI–XIII стагоддзяў[347]. На захад ад вёскі ў кірунку Шаршні размешчаны на плошчы 350 м2 яшчэ 7 курганоў. Іх дыяметр складае 12–17 метраў, а вышыня каля 2 метраў. На адлегласці прыкладна 1 кіламетра на поўнач ад вёскі знаходзяцца яшчэ 4 доўгія курганы, якія ўяўляюць сабою, па сведчанні археолагаў, парэшткі славянскіх гарадзішчаў VI–VIII стагоддзяў і XV–XVI стагоддзяў. Агулам

344 Прибалтийская объединенная комплексная экспедиция Х. Моора. — 1959. — Т. 1. — С. 252.

345 Побаль, Л. Д. Старажытнасці Дзятлаўшчыны: кароткі аналіз археалагічных дадзеных / Л. Д. Побаль // На зямлі Дзятлаўскай : матэрыялы гісторыка-краязнаўчай канферэнцыі. — Ліда, 1998. — С. 124.

346 Лакіза, В. Л. Справаздача аб археалагічных даследаваннях у 1994 годзе / В. Л. Лакіза. — Архіў Інстытута гісторыі АНБ. — Сп. 1513.

347 Краткие сообщения о докладах и полевых исследованиях Института истории материальной культуры, выпуски 71–77. Академия наук СССР. Институт истории материальной культуры. 1958. — С. 58.







*Старыца Нёмана ў Дзям’янаўцах*

у ваколіцах Дзям’янаўцаў налічваецца больш за 40 курганоў, якія адносяцца да розных эпох і культур. У прыватнасці, славянскае гарадзішча VI–VIII стагоддзяў, могільнік XI–XIII стагоддзяў і славянскае гарадзішча больш позняга часу XV–XVI стагоддзяў[348]. Згодна гэтым дадзеным, можна меркаваць, што пасяленне тут існуе бесперапынна на працягу прыкладна дзвюх з паловай тысяч гадоў. Відавочна, гэтае месца на беразе ракі выконвала нейкую важную ролю ў арганізацыі Нёманскага гандлёвага шляху. Каля вёскі ёсць і пры-

348 Зверуго, Я. Г. Верхнее Понеманье в IX–XIII вв. / Я. Г. Зверуго. — Мн., 1989. — С. 96.

родныя помнікі геалагічнага мінулага — дзюны былога Нёманскага мора. Пры ўездзе ў вёску асабліва звяртае на сябе ўвагу доўгая і высокая дзюна вышынёй каля 10 метраў.

Паблізу Дзям'янаўцаў знаходзілася да асушэння велізарнае балота, якое звалася Ройста. У самых вузкіх месцах яго шырыня складала каля 400 метраў. А агульная даўжныя прыкладна каля 15 кіламетраў. Паданне, пачутае ад мясцовых людзей, мае 2 версіі. Там, дзе знаходзілася балота, некалі цёк Нёман, але, па адной з версій, аднойчы адбылася страшная бітва, і рака была настолькі закідана целамі людзей, коней і вазамі, што нёманская вада не змагла цячы па сваім рэчышчы і праклала новае. Паводле другой версіі, калі адбылася крывавая бітва, шмат чалавечай крыві вылілася ў Нёман, і рака, не жадаючы мяшаць сваю ваду з крывёй загінулых, змяніла рэчышча, а там, у старым рэчышчы, утварылася непраходнае балота. Так ці інакш, але народнае слова кажа, што балота Ройста некалі было рэчышчам Нёмана, і гэта выглядае цалкам праўдападобна. Магчыма, першапачаткова пасля змянення рэчышча, Ройста стала мёртвым возерам, а потым паступова пераўтварылася ў балота, а цяпер па волі чалавека тут палі і сенакосы. У часы вайны гэтае балота не раз служыла надзейным укрыццем для людзей, якія шукалі паратунку.

Непадалёк ад Дзям'янаўцаў, уверх па цячэнні Нёмана, каля лясной дарогі, якая вядзе да вёскі Калпінскія, знаходзіцца таксама легендарнае ў гэтых краях лясное возера, якое завецца Глухім ці Дзікім. Возера з халоднаю вадою, бо з берагоў б'е шмат крыніц. Мясцовыя жыхары апавядаюць, што тут салдаты Напалеона пры адступленні ўтапілі золата[349]. Больш шырокая версія гэтага падання апавядае, што за тым золатам палез нейкі малады паніч і ўтапіўся, шукаючы той скарб, і цяпер тры разы на год ён выходзіць з возера ў капелюшы і шукае камень, на якім пазначана дакладнае месца, дзе схавана золата. А камень той шукае ён на краменай гары ў лесе, але таго каменя з пазначаным месцам скарбу там няма, бо яго вывезлі на будаўніцтва тамавання (дамбы), што ўзводзілася на Нёмане. Таму той бедны паніч ніяк не знойдзе сабе спакою.

Падчас Вялікай Айчыннай вайны Дзям'янаўцы неаднаразова траплялі ў зону карных экспедыцый ворага. Шмат хто з жыхароў вёскі быў расстраляны ці сышоў да партызан. Непадалёк дзейнічаў тайны аэрадром, з дапамогай якога партызаны падтрымлівалі сувязь з цэнтрам.

349 Запісана ад Уладзіміра Данільчыка (1927 г.н.) [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: https://sites.google.com/site/dyatlovomytown/daleeka-u-minulae/legendy-i-padanni.





Акрамя таго, Дзям'янаўцы падчас вайны сталі адным з месцаў зацятага супрацьстаяння Арміі Краёвай і савецкіх партызанскіх атрадаў. Нёман быў своеасаблівай мяжой паміж зонамі ўплыву. Урадлівыя землі правабярэжжа кантралявала АК. Яе галоўная задача — абарона польскамоўнага насельніцтва ад нападаў чырвоных партызан. Лясістае і балоцістае левабярэжжа кантралявалі чырвоныя партызаны, але, каб пракарміцца, яны рэгулярна наведваліся на супрацьлеглы бераг і раз за разам натыкаліся на агонь АК. Мясцовыя людзі апавядалі, краёўцы, ведаючы, што ў Дзям'янаўцах рэгулярна спыняюцца чырвоныя партызаны, трымалі бераг Нёмана пад пастаянным прыцэлам, і было крайне небяспечна выходзіць да ракі. Але і чырвоныя партызаны адказвалі чэргамі з кулямётаў. Згодна з успамінамі К. Рышкевіча, аднойчы краёўцы пераправілі ў Дзям'янаўцы дыверсійную групу, бо ведалі, што ў адным з дамоў спыніліся партызаны. Уночы польскія партызаны падкраліся і ўзарвалі гранатамі дом Дзехцяровых. Узнікла паніка, што дало магчымасць забіць яшчэ і тых, каго не пабілі асколкі гранат. Дыверсійная група паспяхова пераправілася на свой бераг Нёмана[350]. Пасля гэтага партызанскае камандаванне прыняло рашэнне трымаць у прынёманскіх вёсках Дзям'янаўцы і Карытніца пастаянныя гарнізоны[351].

350 Ришкевич, К. Моя школа — жизнь / К. Ришкевич. — Луганск, 2004. — С. 50.

351 ПРИКАЗ № 31 УПОЛНОМОЧЕННОГО ЦК КП(Б)Б И БШПД ПО ЩУЧИНСКОМУ МЕЖРАЙЦЕНТРУ БАРАНОВИЧСКОЙ ОБЛАСТИ С. П. ШУПЕНИ КОМАНДИРАМ ПАРТИЗАНСКИХ БРИГАД «ЛЕНИНСКАЯ» И ИМЕНИ К. Е. ВОРОШИЛОВА О БОРЬБЕ С ПОЛЬСКИМИ ОТРЯДАМИ АРМИИ КРАЙОВОЙ 4 марта 1944 г.

Сов. секретно. В связи с тем, что белопольские банды усилили свою деятельность против мирных жителей, живущих на левом берегу реки Неман, так, например, в конце февраля белопольские банды устроили налет на дер. Гезгалы, где убили наших партизан и избили крестьян этой деревни.

С 2 на 3 марта с. г. ночью этими же белопольскими бандами был произведен налет на д. Демьяновичи, в результате сожжен один дом, избито два крестьянина и убит один партизан.

В целях недопущения налетов на населенные пункты нашей партизанской зоны приказываю:

1. Ленинской партизанской бригаде занять деревни и установить постоянные гарнизоны в населенных пунктах: Корытница, Демьяновичи, Шерстни и Гузни.

3. Гарнизоны обязаны в ночное время выставлять посты, секреты и обходные патрули, одновременно произвести укрепление, отрыть окопы для обороны.

4. Гарнизоны в указанных выше населенных пунктах должны состоять не менее как из одного взвода — 25 человек, а в д. Корытница — не менее 50 человек.

Предупреждаю, что в каждом выделенном гарнизоне должны быть ответственные лица за сохранение полного военного порядка в населенных пунктах.

Об исполнении донесите 8 марта с. г.

Уполномоченный ЦК КП(б)Б и Белорусского штаба партизанского движения по Щучинскому межрайцентру Барановичской области Шупеня (Цытуецца па кнізе: ПОЛЬША – БЕЛАРУСЬ (1921–1953). Сборник документов и материалов. — Минск, Беларуская навука, 2012. — С. 286).

Магчыма, гаворка ідзе пра краёўскае падраздзяленне «Пазуркевіча»[352], падзеі ў абодвух крыніцах апісваюцца падобна, але не супадае датаванне.

Канстанцін Рышкевіч згадвае і яшчэ адзін бой паміж краёўцамі і чырвонымі партызанамі, які, як ён сведчыць, адбыўся на самым Нёмане. Яго інфармацыя пацвярджаецца і сучаснымі даследчыкамі гэтага супрацьстаяння, далейшы ход якога будзе апісаны на аснове артыкула М. Вовка[353]. Сутычка, што адбылася ў лістападзе 1943 года, была адной з самых кровапралітных і буйных. 19 лістапада каля тысячы савецкіх партызан Беластоцкага аб'яднання пад камандаваннем Філіпа Капусты хацелі перайсці Нёман, але сутыкнуліся з падраздзяленнем краёўцаў у вёсцы Буцілы. Пасля непрацяглага бою польскія партызаны адышлі ў Моцевічы, дзе базіраваліся асноўныя сілы краёўцаў у гэтым рэгіёне. Савецкія партызаны працягнулі наступ і пасля гадзіннага бою прымусілі польскіх салдат пакінуць вёску. Савецкія партызаны пачалі вышукваць прыхільнікаў АК у Моцевічах і збіраць з сялян прадукты. Яны палічылі, што фарміраванні АК разбіты і страцілі пільнасць. Гэтым скарысталіся краёўцы. Да Моцевічаў незаўважаным падышоў батальён «Рагнара» і ўступіў у бой, атакаваўшы разрозненыя групы савецкіх партызан. Партызаны з левабярэжжа паспрабавалі спешна пераправіцца на свой бераг, але ў час гэтай пераправы шмат хто загінуў. Па падліках краёўцаў страты праціўніка склалі 200 чалавек, а па падліках чыровных партызан загінулі толькі 4 чалавекі. Амаль што да прыходу рэгулярных частак савецкай арміі захоўвалася своеасаблівая раўнавага сіл польскіх і савецкіх партызан.

Жыхары Дзям'янаўцаў, якія загінулі ў нямецкай няволі ці былі расстраляны: Серафім Васько, Юльян Васько, Васіль Ганчарук, Іосіф Малашка, Вікенцій Панасевіч[354].

352 Armia Krajowa na Ziemi Lidzkiej Batalion Zaniemeński (lipiec–grudzień 1943). Część II [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: http://pawet.net/zl/zl/1999_37/7.html «16.12.1943 r. Wymiana ognia pomiędzy oddziałem 2 kompanii i partyzantką sowiecką w rejonie Mociewicz. — Druga polowa grudnia 1943 r. Potyczki 1 kompanii z partyzantką sowiecką we wsiach Długą i Hołuby. — 29.12.1943 r. Potyczka 1 kompanii z oddziałem Brygady im. Lenina w Bieregowcach. — Grudzień 1943 r. (brak dokładnej daty). Wkrótce potem przeprowadzono kolejny wypad na Giezgały. W innym przypadku przeprowadzono wypad na wysokości Dąbrówki. «Ragnerowcy» słysząc z lewego brzegu Niemna odgłosy zabawy i dźwięki harmonii, przeprawili się łodziami — ubezpieczani przez cekaem — po czym udali się do chutoru, w którym bawili się bolszewicy. Rozbito grupę sowiecką, która przyjechała na dwóch furmankach. Pluton «Pazurkiewicza» przeprowadził też wypad na grupę sowiecką w «Dziemianowcach».

353 Вовк, М. Неман — река раздора [Электронный ресурс]. — Режим доступа: https://warspot.ru/10894-neman-reka-razdora.

354 Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Дзятлаўскага раёна. — Мінск : Універсітэцкае, 1997.








*Схема бою паміж краёўцамі і чырвонымі партызанамі каля в. Дзям'янаўцы. 1943 г.*

Салдаты і партызаны ВАВ з вёскі Дзям'янаўцы: Канстанцін Паўлавіч Заяц, Вікенцій Казак, Іван Казак, Вікенцій Мацінкевіч, Юльян Панасевіч, Віктар Рыжкевіч, Юльян Канстанцінавіч Васько, Іван Ігнатавіч Крупіца, Іосіф Рыгоравіч Курачка, Васіль Сямёнавіч Малышка, Канстанцін Ігнатавіч Малышка, Казімір Паўлавіч Міськевіч, Іосіф Пятровіч Філідовіч, Анатоль Канстанцінавіч Шымановіч, Іван Іванавіч Шымановіч, Канстанцін Ігнатавіч Шымановіч[355].

Цікавы лёс склаўся яшчэ ў аднаго жыхара вёскі, ветэрана Другой сусветнай вайны — Андрэя Лявонавіча Шымановіча[356]. Быў пры-

355 Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Дзятлаўскага раёна. — Мінск : Універсітэцкае, 1997.

356 Дадзеныя прыводзяцца згодна з інфармацыяй партала «Wojskowe Biuro Historyczne» [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: https://wbh.wp.mil.pl/pl/skanydetale_wyszukiwarka_bazy_personalne/214741.





*Свята-Сергіеўская царква в. Дзям’янаўцы*





званы ў польскую армію ў 30-х гадах XX стагоддзя і ў якасці жаўнера Войска Польскага сустрэў пачатак вайны, патрапіўшы ў савецкі палон. У далейшым стаў салдатам Арміі Андэрса і ваяваў пад Монтэ-Касіна. Пажадаўшы вярнуцца пасля вайны на радзіму, Андрэй Шымановіч разам з жонкай і дзецьмі трапляе на катаргу і накіроўваецца ў спецпасяленне ў Іркуцкай вобласці. Ён і яго сям’я былі вызвалены толькі ў 1958 годзе, пасля яны накіраваліся ў Польшчу[357].

З ліку жыхароў паселішча быў рэпрэсаваны савецкай уладай у 1940 годзе як сацыяльна небяспечны элемент Фёдар Андрэевіч Грышкевіч[358].

У пасляваенныя часы ў вёсцы быў цэнтр калгаса і сельсавета, дзейнічала васьмігадовая школа, клуб і фельчарскі пункт. Але паступова колькасць жыхароў пачала няўхільна памяншацца, сёння тут дзейнічае толькі лясніцтва. Тым не менш Дзям’янаўцы прываблiваюць людзей з гарадоў сваёй маляўнічай прыродай, блізкасцю Ліпічанскай пушчы і Нёмана. Пустуючыя дамы хутка знаходзяць новых гаспадароў, а ўлетку тут бывае па-сапраўднаму мнагалюдна.

Значная падзея адбылася ў вёсцы ў 2009 годзе. На сродкі старшыні абласной думы Калінінграда С. В. Булычава ў Дзям’янаўцах быў пабудаваны драўляны храм у гонар прападобнага Сергія Радонежскага.

Тут пануе своеасаблівы вясковы быт і традыцыі. Асаблівую цікавасць уяўляе пахавальны абрад. Памерлым у труну кладуць плецены арнаментны пояс. Перад тым, як вечка труны будзе закрыта, паясок завязваецца на нябожчыку. На мясцовых могілках захавалася яшчэ некалькі старых дубовых помнікаў, якія ўяўляюць сабой тоўсты драўляны стоўп, увянчаны шырокай засенню на чатырох ножках. Пад засенню стаялі, верагодна, фігуры Хрыста і Багародзіцы.

# КАРЫТНІЦА

Вёска Карытніца знаходзіцца паміж дзвюма градамі выдмаў, таму сапраўды адпавядае сваёй назве з-за асаблівасцей ландшафту. Вёска абкружана старажытнымі курганамі. На заходнім ускрайку маюцца

[357] Adamushko, V. I. Grzegorz Jakubowski, Jędrzej Tucholski, Przemysław P. Romaniuk. Spod Monte Cassino na Sybir: deportacja byłych żołnierzy Polskich Sił Zbrojnych na Zachodzie z Białorusi, Litwy i Ukrainy w 1951 roku. — Centralne Archiwum Ministerstwa Spraw Wewnętrznych i Administracji, 1998. — S. 209.

[358] Дадзеныя прыводзяцца згодна з інфармацыяй партала «Жертвы политического террора в СССР» [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: https://base.memo.ru/, http://lists.memo.ru.




*Схема курганных пахаванняў каля в. Карытніца*

З валападобныя насыпы даўжынёй 21–26 м. За 0,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, уздоўж палявой дарогі знаходзіцца 35 круглых і валунападобных насыпаў. Звыш дзясятка насыпаў розных форм захавалася ў паўночнай частцы сучаснага могільніка.

Першая пісьмовая згадка датуецца 1580 годам. Карытніца адносілася да маёнтка Здзяцель, якім валодаў князь Канстанцін Астрожскі[359]. У інвентары прыводзіцца спіс жыхароў і апісанне іх павіннасцей. Гэтая вёска была лесніčоўкай, бо яе жыхары павінны былі пільнаваць княскую пушчу. У 1624 годзе яна знаходзіцца ў складзе Дзятлаўскай (Здзенцельскай) воласці ва ўласнасці Сапегаў. Потым карытніцкая зямля пераходзіць да князёў Радзівілаў, якія, у сваю чаргу, перадаюць іх ва ўласнасць пробашчу Жалудоцкага касцёла ў 1727 годзе[360]. У 1744 годзе вёска ўзгадваецца ў пераліку пасяленняў, якія адносяцца да Дзятлаўскай каталіцкай парафіі Віленскай дыяцэзіі[361].

359 Акты, издаваемые Виленскою археографическою комиссиею. Т. XIV. Инвентари имений XVI столетия. — Вильна, 1888. — С. 218.

360 Michał Szymielewicz. Szkice do monografii Żołudka [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: http://pawet.net/zl/zl/2005_65/7.html.

361 Synod Diecezji Wileńskiej z 1744 roku [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: https://jzi.org.pl/parafie/synod-diecezji-wilenskiej-z-1744-roku.







Карытніца знаходзіцца на Нёманскім левабярэжжы, але гістарычна склалася так, што карытнянскія ворныя землі былі на правым беразе ракі. У кожнай хаце тут была мінімум адна лодка і адносіны з правабярэжжам былі вельмі інтэнсіўнымі. Таму здаўна гэтая вёска належала да Жалудоцкай гміны. У 1921 годзе ў Карытніцы адкрылася беларускамоўная школа для мясцовых дзяцей. Потым пад ціскам польскай улады навучанне было пераведзена на польскую мову.

Па стане на 1923 год насельніцтва Карытніцы складалася з 360 жыхароў, з якіх 5 былі яўрэямі. Згодна гэтаму перапісу ўсе 360 чалавек, нават яўрэі, былі запісаны палякамі[362], што, натуральна, не адпавядала рэчаіснасці.

Падчас Другой сусветнай вайны Карытніца, як і іншыя пушчанска-нёманскія вёскі, апынаецца ў трохкутніку ваеннага супрацьстаяння: немцы — Армія Краёва — савецкія партызаны. У 1942 годзе вёска магла быць знішчана немцамі. Атрад захопнікаў выгнаў усіх людзей з хат і пагнаў да мясцовых могілак на расстрэл, але пасля пільнай праверкі вёскі людзей адпусцілі. Найбольшае напружанне існавала ад пастаяннага супрацьстаяння партызан і краёўцаў. Каля вёскі рэгулярна адбываліся баі. Выхад на Нёман быў небяспеч-

362 Skorowidz Mejscowosci Rzeczpospolitej Polskiej. T. VII, cz. 1: Wojewodstwo Nowogrodske. — Warszawa, 1923. — S. 25.

ны, а людзі мусілі перапраўляцца на правы бераг, каб апрацоўваць сваю зямлю. Напрыканцы 1943 года непасрэдна ў вёсцы размясціўся пастаянны партызанскі кантынгент, каб пільнаваць бераг ад падраздзяленняў Арміі Краёва. У сакавіку 1944 года тут адбылася крывавая сутычка польскага падраздзялення пад камандаваннем З. Сікорскага, падчас якой савецкімі партызанамі быў забіты адзін з польскіх жаўнераў[363].

Жыхары Карытніцы, якія былі падчас вайны салдатамі Чырвонай Арміі і партызанамі: Мікалай Антонавіч Корда, Вікенцій Паўлавіч Вадзейша, Марыя Міхайлаўна Скабейка, Васіль Пракопавіч Клімовіч, Сяргей Вікенцьевіч Корда, Вікенцій Аляксандравіч Корда[364].

Некаторыя жыхары вёскі былі рэпрэсаваны савецкай уладай: Васіль Фёдаравіч Русін, Юльян Паўлавіч Вадзейша, Тафілія Аляксандраўна Санцэвіч, Міхаіл Філіпавіч Кірэль[365].

У вёсцы Карытніца нарадзіўся Іосіф Іосіфавіч Клімовіч — доктар медыцынскіх навук, прафесар Гродзенскага дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэта.

## КРАСАЧКІ

Красачкі — невялічкая вёсачка ў непасрэднай блізкасці ад Карытніцы, знаходзіцца за ракой Карытнянкай. Насельніцтва паселішча каталіцкае. Большасць тутэйшых сем'яў маюць прозвішча Красачка.

## ЛАТЫШЫ

Вёска Латышы знаходзіцца на самым беразе Нёмана, сюды вядзе толькі адна лясная дарога, якую ў непагадзь праехаць досыць цяжка. Асноўным шляхам тут заўсёды быў Нёман. За паўтара кіламетра на захад ад вёскі знаходзяцца старажытныя курганы, якія былі выяўлены і даследаваны вядомым беларускім археолагам М. М. Чарняўскім. Даследчыкамі былі знойдзены крамянёвыя

[363] Ppor. Czesław Zajączkowski ps. «Ragner» i zgrupowanie «Południe» [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: https://armiakrajowa-lagiernicy.pl/ppor-czeslaw-zajaczkowski-ps-ragner.
[364] Звесткі прыводзяцца згодна з дадзенымі партала «Память народа» [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: https://pamyat-naroda.ru.
[365] Дадзеныя прыводзяцца згодна з інфармацыяй партала «Жертвы политического террора в СССР» [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: https://base.memo.ru/, http://lists.memo.ru.





нуклеусы, скрабкі, нажы, наканечнікі стрэл, фрагменты керамікі, якія адносяцца да т.зв. культуры штрыхаванай керамікі і датуюцца бронзавым векам — II тысячагоддзем і першай паловай I тысячагоддзя да н.э.[366]. Як можна меркаваць, назва паселішча паходзіць ад беларускага слова «латка» ў сэнсе «кавалка зямлі». Але некаторымі выказваецца меркаванне, што назва можа быць звязана і з балцкім латышскім племенем.

У сярэдзіне XIX стагоддзя Латышы былі своеасаблівым рачным портам, адкуль Стравінскія адпраўлялі праз яўрэйскіх купцоў свой лес на продаж у Крулёвец (Königsberg, суч. Калінінград) і тут жа атрымлівалі тавар, прывезены з Прусіі. Тым і тлумачыцца прысутнасць яўрэйскага насельніцтва ў якасці пастаянных жыхароў у гэтай невялічкай вёсачцы.

Па дадзеных на 1905 год тут жыло 57 чалавек. У 1923 годзе налічвалася 42 чалавекі, з якіх 10 былі яўрэямі. Сама вёска складалася з 9 двароў[367]. У Латышах знаходзіўся і панскі маёнтак. Жыхары ўзгадвалі, што апошняя пані была адзінокай жанчынай, а ў яе доме жыло мноства катоў. Падчас апошняй вайны панскі дом згарэў і цяпер пра яго напамінаюць толькі густыя зараснікі бэзу.

Прывядзём запісаныя карэспандэнтам Дзятлаўскай раённай газеты «Перамога» А. Дуброўскай успаміны пра вясковае жыццё яе апошніх жыхароў, якіх сёння засталося толькі трое.

Соф'я Аляксееўна Рагойжа: «Некалі ў вёсцы было дзве раты кароў, некаторыя жыхары трымалі іх нават па дзве і па тры. Калі толькі прыйшла ў Латышы жыць, то тут было шмат людзей, моладзі было шмат. Хлопцы і дзяўчаты хадзілі на гулянне да Каўпінскіх. Туды ж дзеці хадзілі ў пачатковую школу, затым працягвалі адукацыю ў Панямонцах (вёска Лідскага раёна, размешчана на супрацьлеглым беразе Нёмана). Перапраўляліся на чаўнах. Зімой дзеці заставаліся ў інтэрнаце пры школе. Не ведаю, ці цяпер ёсць яна ў Панямонцах. Можа, ужо і няма, паколькі новую пабудавалі ў Пескаўцах…

Калісьці ў гэтых мясцінах жылі яўрэі. Яны трымалі магазіны, фарбавалі тальк. А вось чаму так вёска завецца — не ведаю. Можа, тут калісьці латышы жылі… У гады маёй маладосці былі ў вёсцы дзве фермы, куды кароў прыганялі толькі на лета. На работу мы ха-

[366] Лакіза, В. Л. Помнікі бронзавага веку Дзятлаўшчыны / В. Л. Лакіза // На зямлі Дзятлаўскай : матэрыялы гісторыка-краязнаўчай канферэнцыі. — Ліда, 1998. — С. 133.
[367] Skorowidz Mejscowosci Rzeczpospolitej Polskiej. T. VII, cz. 1: Wojewodstwo Nowogrodske. — Warszawa, 1923. — S. 68.

дзілі ў суседнюю вёску Дубраўку, працавалі ў брыгадзе. Крамы ў Латышах не было. За прадуктамі хадзілі зноўку ж у Дубраўку».

Соф'я Іванаўна Глыбокая расказвае: «Калі я толькі прыйшла жыць у Латышы, тут было 14 хат. Жыхары трымалі вялікія гаспадаркі. Дзеці хадзілі ў школу: спачатку ў Каўпінскія, затым у Панямонцы. Увогуле, усяго ў жыцці хапала. Клопату ствараў вяскоўцам і Нёман. Вялікія паводкі былі ў 1931 і 1958 гадах. Вада нават у сенях стаяла. Перамяшчацца магчыма было толькі на лодках. Цяпер, дзякуй Богу, такіх паводак ужо няма».

Соф'я Барысаўна Змітрукевіч (1930 г.н.) — карэнная жыхарка Латышоў: «У гады майго дзяцінства ў гэтых мясцінах было шматлюдна, — гаворыць мая суразмоўца, — не тое, што цяпер. І хто б мог падумаць, што так будзе, што тут застануцца жыць толькі чатыры чалавекі?.. Падчас вайны непадалёку ля вёскі, на выгане, былі расстраляны сямёра немцаў. Некалькі гадоў таму праводзіліся раскопкі, шукалі іх пахаванне. Але так і не знайшлі»[368].

Салдатам Першай сусветнай вайны з латышоўцаў быў Вітольд Юманавіч Бартаноўскі[369], а ў Другую сусветную вайну прызваны Рыгор Сямёнавіч Грынцэвіч[370].

## КАЎПІНСКІЯ

Вёска Каўпінскія стаіць на беразе возера-старыцы Нёмана, якое мае назву Мачука. Як і ў іншых прынёманскіх вёсках, тут захаваліся старажытныя курганы. На паўночным усходзе Каўпінскіх, непадалёк ад возера, знаходзіцца адзін з такіх курганоў. Тут была знойдзена адпаліраваная матыка з рога з прасвідраванай адтулінай[371].

Першая вядомая пісьмовая згадка адносіцца да 1624 года. Вёска была ў складзе Здзенцельскай воласці ва ўласнасці Сапегаў. У інвентары 1795 года Каўпінскія называюцца прысёлкам і адзначаецца, што тут жыве 18 чалавек. Але ўжо ў інвентары 1858 года пазначана, што ў Каўпінскіх пражывала 46 мужчын і 52 жанчыны[372]. У 1887 годзе вёска адносяцца да Пацаўскай воласці Слонімскага

368 Дуброўская, А. Тры Соф'і і Пётр. Дзятлаўская раённая газета «Перамога».

369 Дадзеныя прыводзяцца згодна з інфармацыяй партала «Герои великой войны 1914–1918» [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: https://gwar.mil.ru.

370 Звесткі прыводзяцца згодна з дадзенымі партала «Память народа» [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: https://pamyat-naroda.ru.

371 Лакіза, В. Л. Помнікі бронзавага веку Дзятлаўшчыны / В. Л. Лакіза // На зямлі Дзятлаўскай : матэрыялы гісторыка-краязнаўчай канферэнцыі. — Ліда, 1998. — С. 139.

372 Biblioteka Uniwersytetu Warszawskiego. Inwentarz. Sygnatura 306.







*Нёманская старыца ў Каўпінскіх*





*Асвячэнне капліцы ў в. Каўпінскія*



*Фундатар будаўніцтва капліцы С. В. Булычаў на асвячэнні з сям'ёй*





павета, пражывала тут 148 чалавек[373]. У 1905 годзе налічвалася 169 жыхароў[374].

Побач з возерам-старыцай Мачука праходзяць дзве дарогі. Адна вядзе да Каўпінскіх, а другая перасякае ўсе дарогі, якія выходзяць з вёскі, і называецца «штрэка», што, відавочна, паходзіць ад нямецкага слова die Strecke — адрэзак, участак дарогі. Па сведчанні мясцовых людзей, дарогу гэтую будавалі ў 1915 годзе сяляне з бліжэйшых вёсак пад наглядам ваенных інжынераў кайзераўскіх войск. Пры тым дарога рабілася паверх старой, так званай «маставой», якая, у сваю чаргу, нібыта была зроблена французамі ў 1812 годзе да маста праз Нёман. З тых часоў гэтае ўрочышча завецца «Масцішча». Цікава, што асобныя кавалкі той маставой дарогі не зараслі і дагэтуль.

Згодна з перапісам 1923 года ў Каўпінскіх пражывала 136 чалавек[375]. Сёння колькасць пастаянных жыхароў не перавышае 10 чалавек.

У 1949 годзе па абвінавачанні ў супрацоўніцтве з акупантамі быў асуджаны жыхар вёскі Антон Міхайлавіч Грынцэвіч[376].

У 2011 годзе ў Каўпінскіх на сродкі Сяргея Васільевіча Булычава пачалося будаўніцтва могілкавай капліцы. У 2012 годзе будаўніцтва завершана, а капліцу асвяцілі.

## НАГОРНІКІ

Вёска Нагорнікі размяшчаецца на невялічкім пагорку сярод прынёманскай забалочанай нізіны непадалёк ад возера-старыцы Мачука. Калі глядзіш на навакольную нізіну, то гэты пагорак падаецца нейкім востравам, на яго немагчыма не звярнуць увагу. Цалкам верагодна, што гэты пагорак, на якім стаіць вёска, таксама можа быць нейкім старажытным курганам. У інвентары 1795 года Нагорнікі згадваюцца як прысёлак, пазначаецца, што тут пражывала 20 чалавек. Па звестках 1887 года ў Нагорніках жыло 75 чалавек. У 1905 годзе колькасць склала 73 чалавекі, а пасля Першай сусветнай вайны, паводле перапісу 1924 года, у вёсцы налічвалася 69 жыхароў[377].

373 Архіў Накрышскай царквы. Кліравыя ведамасці за 1887 г.

374 Архіў Накрышскай царквы. Кліравыя ведамасці за 1905 г.

375 Skorowidz Mejscowosci Rzeczpospolitej Polskiej. T. VII, cz. 1: Wojewodstwo Nowogrodske. — Warszawa, 1923. — S. 68.

376 Дадзеныя прыводзяцца згодна з інфармацыяй партала «Жертвы политического террора в СССР» [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: https://base.memo.ru, http://lists.memo.ru.

377 Архіў Накрышскай царквы. Кліравыя ведамасці за 1887, 1905 і 1923 гг.



*Від на Нагорнікі з вышыні*

Паколькі вёска знаходзіцца на востраве, то яна мела натуральнае абмежаванне, таму не магла вырасці больш. З-за гэтага колькасць хат тут была заўсёды невялікая. Сёння ў Нагорніках не засталося пастаянных жыхароў, час ад часу сюды наведваюцца нашчадкі былых гаспадароў.

У час Другой сусветнай вайны ў шэрагі савецкай арміі былі прызваны з Нагорнікаў: Іван Іосіфавіч Грынцэвіч, Іван Ігнатавіч Грынцэвіч[378].

## ГАНЧАРЫ

Назва вёскі гаворыць сама за сябе. Паселішча знаходзіцца прыкладна на адлегласці паўтара кіламетра ад берага Нёмана. А побач размяшчаліся залежы гліны, таму з даўнейшых часоў мясцовыя жыхары зараблялі здабычай гліны, ганчарствам і продажам адпаведных вырабаў. Непадалёк ад Ганчароў на адным з прытокаў Нёмана стаяў вадзяны млын, які належаў Накрышскай царкве, сюды сцякалася ўся ваколіца, каб змалоць зерне на муку.

378 Звесткі прыводзяцца згодна з дадзенымі партала «Память народа» [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: https://pamyat-naroda.ru.







Першая пісьмовая згадка адносіцца да 1583 года[379]. Згодна з інвентаром за 1795 год у Ганчарах жыло 37 чалавек. У 1858 годзе колькасць вырасла да 51 чалавека[380]. Па стане на 1887 год у Ганчарах налічвалася 89 чалавек. Па дадзеных за 1905 год колькасць жыхароў склала 92 чалавекі[381]. Значны спад адзначаецца пасля заканчэння Першай сусветнай вайны. Па стане на 1923 год у Ганчарах налічвалася 13 дамоў, у якіх пражывала 59 чалавек[382]. Сёння з пастаянных жыхароў тут засталіся літаральна некалькі чалавек. Выхадцам з гэтай вёскі быў вядомы гродзенскі свяшчэннік — протаіерэй Ян Макуца (1936–2016).

Ганчароўскія салдаты і партызаны, якія ваявалі ў часы ВАВ: Мірон Барташэвіч, Восіп Барташэвіч, Васіль Макаравіч Каска[383].

Загінулыя ў нямецкай няволі і расстраляныя: Іван Іосіфавіч Грынцэвіч, Зінаіда Восіпаўна Макуца, Іван Іванавіч Макуца, Іван Уладзіміравіч Макуца, Лідзія Уладзіміраўна Макуца, Уладзімір Гаўрылавіч Макуца, Якаў Пятровіч Пароба, Сафія Лук’янаўна Шавель[384].

379 Вялікі гістарычны атлас Беларусі. — 2009. — С. 202.

380 Biblioteka Uniwersytetu Warszawskiego. Inwentarz. Sygnatura 306.

381 Архіў Накрышскай царквы. Кліравыя ведамасці за 1887 і 1905 гг.

382 Skorowidz Mejscowosci Rzeczpospolitej Polskiej. T. VII, cz. 1: Wojewodstwo Nowogrodske. — Warszawa, 1923. — S. 68.

383 Звесткі прыводзяцца згодна з дадзенымі партала «Память народа» [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: https://pamyat-naroda.ru.

384 Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Дзятлаўскага раёна. — Мінск : Універсітэцкае, 1997.

# ДАДАТКІ

## Дадатак № 1
## ПАХАВАННІ НА ЦАРКОЎНЫМ ЦВІНТАРЫ

Настаяцель Накрышскай царквы —
протаіерэй Дзімітрый Гладкоў.
Сын і нявестка айца Дзімітрыя Гладкова:
Дзімітрый Дзімітрыевіч Гладкоў і Вера Гладкова.
Ганна Барысевіч (13.11.1875 — 28.02.1905).
Канстанцін Каліноўскі (памёр 26.09.1934) —
ахвяраваў царкоўныя званы і пахаваны побач са званіцай.
Падлеткі: Іван, Сафія, Аляксандр.
На помніку не пазначаны іх прозвішчы.

На царкоўным цвінтары знаходзяцца таксама помнікі прыхаджанам храма, якія загінулі ці прапалі без вестак падчас Вялікай Айчыннай вайны:

Канстанцін Лоўчык (1944),
Мікалай Гоман (1943),
Васіль Маісевіч (1944),
Міхал Гоман (1945),
Уладзімір Сасінскіх,
Гаўрыіл Амяльянчык (магіла ў г. Вартэнбергу, 1945),
Аляксандр Гоман (1944).

Апошняе пахаванне каля храма адбылося ў 2018 годзе, калі спачыла вядучая пеўчая — Марыя Аляксееўна Сцяцко. Жанчына прысвяціла царкве літаральна ўсё сваё жыццё: яшчэ малой дзяўчынкай падпявала сталым харысткам, а пасля да глыбокай старасці заставалася асноўнай пеўчай хору. У пагоду і ў непагадзь, не зважаючы на холад, спёку ці дрэннае самаадчуванне яна заўсёды была ў храме. Марыя Аляксееўна ніколі не мела сям'і, і абшчына Накрышскага храма стала яе адзінай сям'ёй. За сваю надзвычайную набожнасць яна атрымала ад мясцовага люду характэрнае прозвішча «святая Маня». І найменне гэтае адпавядала ладу яе хрысціянскага жыцця. Характар мела цвёрды, а часам і цяжкі, але за ўсім гэтым была шчырая любоў да царквы і людзей. Паміраючы, будучы часткова паралізаванай, яна спакойна чакала часу свайго адыходу ў жыццё вечнае. Па сведчанні айца Аляксія Сцепановіча, які прыняў яе апошнюю споведзь і прычасціў на смяротным ложы Святых Хрыстовых Тайн, малітва не сыходзіла з яе вуснаў. Па благаславенні правячага архірэя Навагрудскай епархіі і з дазволу мясцовай улады Марыя Аляксееўна Сцяцко была пахавана за алтаром Накрышскага храма, у якім прайшло ўсё яе жыццё.



*М. А. Сцяцко (Святая Маня)*

## Дадатак № 2
## ЗНАХОДКІ

На царкоўным гарышчы знойдзена вельмі старая і струхлелая ікона Благавешчання на палатне. На зваротным баку захаваўся надпіс ці то з імем іканапісца, ці то з імем ахвярадаўца: **«Паўлоўскі, 1821 г.»**. Верагодна, ікона была напісана да дня асвячэння храма.

На дзвярах рызнічнай шафы алоўкам было зроблена некалькі запісаў. Большасць з іх цяпер ужо не чытаецца. Дакладна разабраць можна толькі адзін: **«Канстанцін Мікалаевіч Мякіш 1919–1930»**. Верагодна, гэта імя ці царкоўнага старасты, ці панамара Накрышскай царквы.

# Дадатак № 3[385]
# ОПИСАНИЕ ВЯЗОВЕЦКОЙ ЦЕРКВИ И ПРИХОДА НАСТОЯТЕЛЕМ ВЯЗОВЕЦКОЙ ЦЕРКВИ АНТОНИЕМ ВАСИЛЕВСКИМ, 1887 ГОД[386]

**Внешний быт прихожан.** Избы крестьян все имели печи и были построены из соснового дерева. Избы были построены в угол простой, а некоторые — в т.н. немецкий, т.е. внутреннее пространство дома было разделено кирпичной стеной, внутри которой проходил дымоход и от стены отапливались две комнаты. В некоторых деревнях жители занимаются садоводством. Выращивают и продают сливы, вишни, яблоки, груши.

**Одежда.** Лапти крестьяне одевают только на луг, а дома ходят или босыми, или в сапогах. Верхняя одежда из старого домашнего сукна, по краям обшита черным или зеленым сукном, называется маринаркой. На праздники многие молодые люди одевают черные суконные, а иногда и драповые сюртуки. Шапки носят черные с козырьками, а из черной бараньей кожи носят зимние шапки только старики.

Незамужние девки в церковь ходят в черных суконных или драповых буриносах, а замужние одевают серые маринарки по краям и около карманов обшитые зеленым сукном.

**Экономический быт.** Крестьяне занимались главным образом земледелием. Земельные наделы были разными. Больше земли было у помещичьих крестьян, в среднем, по 20 десятин. У других было по 15–18 десятин. При деревнях были общие луга для выпаса мелкорогатого скота. Для крупнорогатого скота пастбища арендовались у помещиков или у государства. На пахотных землях выращивали: рожь, ячмень, овес, гречиху, горох, коноплю и в некоторых деревнях сеяли пшеницу. При хорошем урожае излишки зерна продавали в ближайших местечках. Занимались также и пчеловодством. Некоторые крестьяне зарабатывали рубкою леса и его сплавом по Нёману и Щаре.

**Социально-юридический быт прихожан.** По мелким спорам обращались к сельскому старосте, если оставались недовольны его судом, тогда в волостное правление, где суд производили судьи, выбранные крестьянами. В этом суде часто случаются подкупы. Сельские старосты и писари внешне остаются непричастными, но в действительности пытаются влиять на судей. Иногда крестьяне обращаются за судом к священнику. В семьях принято беспрекословно подчиняться отцам семейств. Достигающие совершеннолетия сыновья часто ропщут на отцов и стремятся отделиться от них. Иногда случаются крестьянские сходы для решения общих вопросов или для суда. Женщины в судах участия не принимают. На общих судах богатые люди как правило сохраняют молчание, а крикуны, благодаря которым дело решается в ту или иную пользу, получают от лица, выигравшего суд, попойку. При избрании должностных лиц, например, старост, часто бывают взятки и магорычи.

**Религиозный быт.** Отношения католиков с православными можно назвать дружескими. Этому способствуют смешанные браки. И православные, и католики пренебрежительно относятся к еврейской вере. Среди крестьян мало тех, кто бы исповедовался и причащался лишь один раз в году. Как правило, причащаются по 2–3 раза. Крестьяне с удовольствием посещают храмовые праздники близлежащих церквей.

Кроме собственно церковных праздников, соблюдаются некоторые народные дни: сухая среда после Пасхи (чтобы не было засухи и пожаров) и грядовая среда после Пятидесятницы. Иногда в эти дни обходят поля крестным ходом, но чаще всего процветает праздность и пьянство.

Великий пост соблюдается повсеместно, а Пасха встречается с радостью и веселием. 24 июня в церковь приносятся цветы, травы, зелья. 6 и 15 августа в церковь для освящения приносят фрукты и овощи: морковь, капусту и проч.

Религиозные чувства в прихожанах не развиты в полной мере: крестные ходы, литургии бывают большей частью во время эпидемических болезней, а остальные праздничные дни проводят в близлежащих местечках на базарах, кто по надобности, а кто и без причины. Поминальные дни большей частью начинаются с 1 октя-

385 Архіў Вязавецкай царквы.

386 Прыводзім у дадатку вытрымку з апісання протаіерэем Антоніем Васілеўскім Вязавецкага прыхода, бліжэйшага да прыхода Накрышскай царквы. Айцец Антоній дае надзвычай падрабязнае і цікавае апісанне побыту, традыцый і менталітэту сваіх прыхаджан. Усё, што адзначана складальнікам «Апісання» ў дачыненні да прыхаджан Вязавецкай царквы, характэрна і для прыхаджан Накрышскай царквы, бо і тыя, і другія жылі на адной зямлі і ў адзінай культурнай прасторы. Гэты тэкст яскрава паказвае як і чым жылі людзі ў другой палове XIX ст.

бря и продолжаются до 14 ноября. В эти дни служатся литургии с панихидой, за что уплачивается причту 1 р. 50 коп. и на церковь около 30 коп.

Любимая народная поговорка: «Без Бога не до порога». О злых духах говорят, что они живут в болотах и лесах, что они могут иметь силу над неверующими в истинного Бога. При покойниках сору из избы не выносят. Особенных суеверий нет.

**Обычаи и обряды.** При рождении ребенка присутствует одна или несколько баб, смотря по надобности. После рождения в первый воскресный или праздничный день отец приглашает восприемников и привозят дитя к крещению. Редко крестят через неделю или более. После крещения на дому родителей устраивается угощение с выпивкой. У бедных празднование крещения проходит один день, у богатых и не скупых может продолжаться до 3 дней. Празднование крещения заканчивается тем, что выводят бабу, и после этого гости расходятся по домам.

При свадьбе садят жениха и невесту на почетном месте, т.е. за столом на покути, а сват распоряжается выпивкой и закуской. После обеда жених со своей дружиной отправляются домой, и свадьба, т.е. гульба, ведется у жениха и невесты, но у невесты собрание больше, чем у жениха. С понедельника на вторник вечером или ночью приезжает жених в дом невесты; погулявши до вечера вторника, забирает невесту и увозит в свой дом. После выезда невесты в этот или в следующий день несут в дом жениха приданое и везут сундук с гардеробом, холстом и другими принадлежностями. Есть такая поговорка: «Говорила кочерга, чтобы свадьба была до четверга». В первое воскресенье после свадьбы жених и невеста с родителями приезжают в церковь с пирогами. Невеста приходит в притвор церкви «для ввода» — разрешения венцов. После богослужения направляются гулять к родителям невесты и, погуляв, отправляются домой. Свадьба кончена.

При похоронах так бывает: когда кто-либо умирает, тотчас едут к священнику, везут на звоны от 20 до 30 коп.

При выносе гроба из хаты посыпают рожь на гроб в знак того, чтобы по смерти умершего не пропал урожай в доме, где был умерший. После похорон моют руки, пьют водку и варят ужин — капусту и кашу. После вечери похороны заканчиваются. Девушек после смерти одевают как к свадьбе. Но обрядов ни свадебных, ни других не совершают.





Прихожане встречают первый гром и дождь крестным знамением. Когда выходят весною первый раз пахать, то освящают соху святою водой, при первых посевах, косьбе, молотьбе осеняют себя крестным знамением.

Завертки и закрутки оставляют на полях, думая, что это скручено на жизнь того, кто вырвет или сожжет.

**Нравственность прихожан.** Особенных пороков, как конокрадство, сифилитство, смерть от пьянства и воровство со взломом замков, в среде прихожан не наблюдается. Нищих в приходе, которые бы ходили по деревням и просили милостыню, очень мало. В целом среди крестьян действует сильная взаимоподдержка, помощь малоимущим, вдовам и сиротам. У исповеди бывают 2–3 раза в год. В приходе находятся 2 знахаря из отставных солдат, несколько лиц выговаривают словами такие болезни как рожа, лихорадка, болезни животных.

Обряд публичного поругания над женщинами, уличенными в нарушении целомудрия, избиение их веревками от звонов уже давно прекращен.

Что касается устной народной словесности, то она в настоящее время на очень низкой ступени. Мало песен, и мало поют. Возвращаясь с сенокосов, жатвы и других работ, потому что в заработки громадой почти не ходят. И возвращаются по одному, два, три лица.

В праздник Воскресения Христова римляне ходят вечером с воскресения на понедельник и поют под окнами.

**Умственное развитие прихожан.** Прихожане считают умным того человека, который никогда не упивается, хорошо ведет хозяйство, удерживает детей и может хорошо посоветовать в хозяйственных делах, кто живет смирно и с расчетом.

Прихожане смотрят на мир Божий, на небесные светила, затмение солнца и луны, появление комет, падающие звезды, предметы растительного и животного царства, на человека и на все прочее, как на творение рук Божиих и Его всемогущества.

**О народной медицине.** Коль скоро кто заболеет, начинают сперва лечить зельем бабы, а если бабье лечение не помогает, то призывают фельдшеров — жидов и католиков. Иногда при лечении рожи и лихорадки заговаривают эти болезни симпатическими словами, и многим заговор помогает. Верят в то, что есть люди, которые могут «урочи», т.е. сглазить. Что касается супружеской жизни, то если

пред браком упадет корова или лошадь в доме жениха или невесты, то говорят, что жизнь не будет счастливой. В понедельник многие из прихожан не начинают новой работы (косить, жать, полоть и др.), считая этот день несчастливым.

**Гадание и ворожба.** При закладке и постройке домов некоторые из прихожан просят священника освятить место, где будет стоять дом, по освящении берут в руки топоры и, перекрестившись, зарубливают дерево, говоря: «Дай же, Боже, чтобы этот дом долго стоял на этом месте и сгнил на этом же месте». Когда выезжают в дорогу, осеняют себя крестным знамением и, став пред лошадью, начертывают крест и над ней. Некоторые из девушек носят на шее платки от урока, т.е. от сглаза.



# ЛІТАРАТУРНЫЯ АПОВЕДЫ ПА МАТЫВАХ НАКРЫШСКАЙ ГІСТОРЫІ

протаіерэй Георгій Рой

## КРЫЖ ПАНА ІЛІНІЧА

Пан Ілініч драў вушы сынам — Яцку ды Яну. Водгулле ад гэтай экзекуцыі чула ці не палова Старадуба. А справа ў чым была? Сапсавалі хлопцы ўязную браму Ілінічавай сядзібы, кідаючы ў яе нажамі, ажно трэскі ляцелі. Спаборнічалі свавольнікі, хто ў выразаныя фігуры жывёл і людзей лепш пацэліць. Бацька ж за тую браму разьбярам летась кіпу грошай адваліў. Больш за тое, не кухаравы нажы ўзялі, бо той бы і не даў для марнатраўства, а з бацькавага баявога рыштунку лязо сцягнулі.

Моцна злаваў Ілініч, але калі ўтаймаваўся ды разважыў, купіў малым пару добрых турэцкіх нажоў, а татарыну паланёнаму, які з лязом мог цуды рабіць, наказаў вывучыць хлапцоў так, каб не горш за яго з тымі нажамі абыходзіліся. Не раз потым ратавала іх тая навука і бацькоўскі дарунак.

* * *

Вестка пра тое, што Кароль зняволіў Яна і пазбавіў яго лідскага намесніцтва, дайшла да пана Яцка Ілініча на Дняпры пад Лоевам. Праўду кажуць: бяда адна не ходзіць. Якраз у той час пачалі адна за адной прыходзіць трывожныя звесткі пра гуртаванне крымчакоў. Пакуль цяжка было зразумець іх намеры, але з усяго выходзіла, што Гірэі вялікую сілу на паход збіраюць. Як ніколі патрэбна была на паўднёвай літоўскай мяжы вайсковая дапамога з Вільні. Але Ілінічавы просьбы ды патрабаванні аніякага адказу ні ад караля, ні ад Рады не мелі.

Яцко тэрмінова накіраваў веставых у Вільню. Разам з тым былі напісаны лісты і да паноў літоўскіх з прапановаю сустрэцца. Яцко

ведаў пра разлад паміж Каралём і раднымі. Тыя былі моцна незадаволены бяздзейнасцю яго ў ваенных справах. Але, бадай, больш непакоіліся яны парушэннем сваіх асабістых уладных паўнамоцтваў. Напэўна, разумелі, што лідскі намеснік — гэта толькі першы зняволены радны, а наступным можа стаць кожны з іх. Таму Ілініч разлічваў на іх падтрымку як з пытаннем вайсковай дапамогі, так і ў братавай справе.

Даўшы належныя распараджэнні, Яцко наказаў сваім людзям пільна сачыць за Дняпром і Задняпроўем. Як выпраўляўся ў дарогу, Яцко заўсёды браў стары бацькаў нож, для якога ў рукаве жупана была зроблена адмысловая кішэня, каб калі якая раптам пагроза, зброя адразу ў руцэ была.

* * *

Наваградскі кашталян Альбрэхт Гаштольд аглядаў прыгатаваную для паноў рады залу ў замкавым доме. Нядаўні ліст ад Пана вялікага гетмана Станіслава Кішкі не пакідаў сумневаў: паны радныя жадаюць пазбегнуць залішняй публічнасці. Але тое і зразумела, бо часы неспакойныя… Бяда, што Кароль і Вялікі князь Літоўскі Аляксандр нікога, апроч Міхаіла Глінскага, свайго ўлюблёнца, і слухаць не хоча.

Іх мосці, паны літоўскія, без суправаджэння сваёй вайсковай шляхты з’ехаліся пад вечар. Апошнім прыбыў, калі ўжо зусім звечарэла, біскуп Віленскі Войцех Табар. Яго Эксцэленцыя, каб не прыцягваць залішняй увагі да свайго падарожжа, паехаў не кароткім шляхам праз Ліду, а рушыў да Навагрудка праз Іўе ды Уселюб.

Вячэру па загадзе Гаштольда падалі адразу ў радную залу, а сам пан Альбрэхт расставіў варту так, каб ніводнага лішняга вуха каля зальных дзвярэй не прыліпла.

* * *

Пасля вячэры ваявода Віленскі Мікалай Радзівіл не стаў падымацца з-за стала. Счакаўшы, пакуль слугі прыбралі посуд і выйшлі, ён прапанаваў радным перайсці да спраў.

Стараста Жмудскі Станіслаў Кезгайла, чалавек неўтаймаванага характару, заўсёды раздражнёны і рэзкі, адкінуўшы з плеч свае доўгія сівыя валасы, злосліва прамовіў:

— Яшчэ летась у Берасці, пане Мікалаю, гаварылі пра гэта ўжо. Ці змянілася што? А я яшчэ тады казаў: досць балбатні, за справу





брацца трэба! Дык вось, дачакаліся. Дзе, Вашыя мосці, скажыце вы мне, нашыя паўнамоцтвы радныя? Каго наступнага Глінскі сваім халуём заменіць? Гэтак, паны, калі толькі гаварыльняй займацца, усё па ветру пойдзе…

— Ты, пане-браце, не накручвай! — уступіўся Троцкі ваявода Ян Забярэзінскі. — Не склаўшы план нічога не зробіш. А кідацца немаведама куды — толькі справе нашкодзіць. На Глінскага ўправу знойдзем, дай час, а вось крымчака хітрасцю не звядзеш, тут сіла трэба. Пан Яцко трывожныя весткі прынёс. Гірэі, напэўна, Дняпро перайдуць, калі ўжо не перайшлі… А стрымаць іх там няма каму. Так і не дапамаглі мы пану Ілінічу мяжу абараніць. Цяпер дарога для татараў, лічы, да самой Вільні адкрытая. З Вільні то не ўбудзе, а нашыя землі басурманы вынішчаць. Кароль дагэтуль не даў дабра на тое, каб войска сабраць. Ці не здрада тут якая? Мо наўмысна нас паслабіць хто хоча? Напэўна, Глінскі! Ці мо палякі свае інтарэсы ў тым маюць? Што скажаш, пане гетмане?

— А дзе зараз без таго чорта — Глінскага — справа абыходзіцца? Выбачайце, Ваша Эксцэленцыя!

Гетман схіліў галаву ў бок біскупа. Той у адказ адно толькі абыякава махнуў рукою і далей узяўся перабіраць свой ружанец.

Гетман, падвысіўшы голас, працягваў.

— Міхала таго ад вайсковых маіх спраў не адагнаць. Я ўжо каторы час з Глінскім больш ваюю, чым з якім ворагам. Я адно кажу Каралю, а той — іншае… Дзе ж ты гэтак тое войска збярэш?! А пакуль паміж сабою дужаемся — дарога для Гірэяў адкрыта. Апошнімі дурнем быў бы той хан, каб гэткай магчымасцю не скарыстацца.

Над сталом узвысілася постаць пана Яцко. Святло свечак адкінула ад яго мажнай фігуры шырокія цені на зальныя сцены. Радныя змоўклі.

Старэйшы з Ілінічаў быў вядомы ўсяму Княству сваімі сутычкамі з татарскімі наездамі. А на поўдні, у Старадубшчыне, яго шанавалі як збаўцу, бо тысячы жыццяў ўратаваў і ад няволі татарскай пазбавіў. Умеў Яцко хітрыя пасткі татарскім раз’ездам падрыхтаваць. Дзікай іх напорыстасці не баяўся і ўмеў так кіраваць сваімі невялікімі атрадамі, што наскок татарскі разбіваўся, бы тая хваля аб камень.

— Вашыя мосці, шаноўныя паны радныя! Гірэі гэтым разам не менш, як тысяч з дваццаць войска сабралі. Паверце слову старога ваякі, гэта не звычайны татарскі загон для рабавання. Цяпер малою крывёю не абыдзецца. А ідуць чаму? Бо безуладдзе нашае чуюць.

Татары з моцнымі не ваююць, б’юць тады, калі слабасць адчулі. Ці ж не бачылі яны, што дапамога з Літвы да Дняпра так і не прыйшла? А чаму войска на Дняпры дагэтуль няма? Бо Кароль не можа даць войска мне — Янаву брату, калі самога яго ў вязніцы трымае! От і выходзіць для татара наша ліцвінскае «шчыра запрашаем». Згаджуся, пане гетмане, Гірэі — не дурні, нагледзеўся я на іх шмат. Магчымасці сваёй, як піць дай, не ўпусцяць. Каролем нашым Глінскі верціць як хоча. Але дзейнічаць трэба пільна. Ці ж не вашая то справа, паны радныя? І за брата скажу. Вашая віна, што Глінскі яго зняволіў і пасаду пазбавіў. Ад вас жа і справядлівасці цяпер чакаю!

Пасля слоў Ілініча першым перарваў маўчанне Полацкі ваявода Станіслаў Глябовіч, які меў звычку гаварыць няспешна і важка.

— Дзякуем табе, пане Якаве, за службу тваю адданую. Але і ты нам павер, падчас каля Караля бывае больш цяжка і небяспечна, чым перад татарынам тым ці маскавітам. Што да брата твайго, то не адступімся, бо прызначэнне Дразда на лідскае кашталянства, то знявага не для аднаго Яна Ілініча, а для нас усіх. Гэтак Глінскі нам нашае месца хоча паказаць, але мы не шляхцюкі дворныя, каб нейкі выскачка патураў намі. Таму, пане-браце, Ян на волі і пры пасадзе будзе, чаго б нам тое не каштавала. Дай толькі час! Радным рашэннем сёння ж мы прыпынім Драздовы паўнамоцтвы. А Каралю пры сустрэчы нагадаем яго прысягу пры сталаванні княжацкім: «Ні ў кога нельга пасаду забіраць, акрэм таго, хто паводзінамі сваімі страціў павагу да сябе ці развітаўся з жыццём». Што да вайны, то заўтра ж без якіх-кольвек узгадненняў пачнём войска збіраць.

Як Глябовіч скончыў, Віленскі біскуп адклаў свой ружанец, няспешна перажагнаўся і танклявым, але ўладным голасам, працяжна прагаворваючы словы, мовіў.

— Амэн, панове! Пан Глябовіч мае рацыю. Яшчэ ў Берасці на сойме я клікаў на караля гнеў Божы за яго бяздзейнасць. Колькі часу прайшло? Цяпер маем права дзейнічаць самастойна. Хай не крыўдуе Яго вялікасць! А сабранае намі войска будзе добрым дадаткам да справядлівага вырашэння пытання з лідскім намесніцтвам.

* * *

Яшчэ на золку ў Наваградскім замку пачалася беганіна. З’яўленне татараў пад Любчаю было поўнай нечаканасцю для ўсіх. Веставыя паведамілі, што Стары Гірэй стаў кашом пад Менскам і адправіў войскі на Слуцк, а маладыя Біці-Гірэй і Бурнаш са сваімі коннікамі





ўжо ў Любчы. Пан Альбрэхт Гаштольд паспешна рыхтаваўся да абароны. Паны радныя мусілі неадкладна выязджаць. Адзіным бяспечным кірункам пакуль заставалася дарога на Беліцкі мост. Але яшчэ не ад’ехаўшы і трох вёрст ад Наваградка конныя радцы спаткалі татарскую выведку, з чаго стала зразумела, што пагоні ім не пазбегнуць і трэба раздзяляцца.

Пан Яцко Ілініч абраў дарогу на Гродна і скіраваўся на Здзецела. У той жа час Бурнаш-Гірэй з Лаўрышава на Здзецела і Ваўкавыск накіраваў атрад Шайбека. Ужо ў Ельні Ілініч сустрэў Шайбекавых коннікаў, але яшчэ меў запас часу і адлегласці. Ад Здзецела ж пачалася небяспечная пагоня. Адзінай надзеяю было паспець схавацца ў Ліпічанскай пушчы. Праз Ятвезь Яцко паспеў даехаць да Парэчча і, пераскочыўшы ручай, падняўся на пагорак, за якім ужо віднеўся сіні ўскраек пушчанскага лесу. Але і татары былі ўжо зусім побач. Ілінічаў конь ажно хроп ад натугі і стомленасці.

Разумеючы, што важны вершнік можа сысці, Шайбек, нават рызыкуючы забіць магчымага закладніка, загадаў страляць. Дзве стралы патрапілі ў каня, і той паваліўся. Упаўшы з сядла, Ілініч здолеў хутка ўстаць на ногі, падрыхтаваў да бою свой нож і выхапіў меч. Татары абышлі Ілініча кругам. Ён спрытна адкідваў і рэзаў вяроўкі, якія татары хацелі на яго накінуць. На меч ісці не адважваліся, але лукі з укладзенымі стрэламі трымалі напагатоў. Наперад выехаў Шайбек. З Яцкам яны зналіся яшчэ на Дняпроўшчыне, калі Шайбек патрапіў у Ілінічаву пастку і паўгады прабыў у палоне. Яны адразу пазналі адзін аднаго. Нядобрая ўсмешка з’явілася на Шайбекавым твары. Часу для роздуму не заставалася. Імклівы рух рукі, вокамгненны бляск ляза — і адно рукаятка нажа засталася тырчаць над Шайбекавым пераноссем і той, заліўшыся крывёю, схіліўся і грымнуў на зямлю. У тое ж імгненне з дзясятак стрэл працялі самога Ілініча.

* * *

У тым жа 1506 годзе паны Літоўскай рады прымусілі Караля выпусціць Яна Ілініча і аднавіць яго на Лідскім намесніцтве. З’яднаўшыся перад агульнай пагрозай, літвіны перамаглі татараў пад Клецкам.

Здзецельскі староста Абрамовіч апавёў лідскаму кашталяну, як загінуў яго старэйшы брат. Прыехаўшы на месца пахавання, Ян, укленчыўшы, доўга стаяў у малітве над магілаю. Пасля, адшпіліў-

шы ад рукава свайго жупана стары бацькоў нож, закапаў яго над Яцковым целам.

Па загадзе кашталяна на месцы братавай гібелі быў пакладзены камень, на якім майстры выбілі крыж і напісалі імя — «Яцко Ілініч». Ян на свае грошы збудаваў тут капліцу, а зямлю тую набыў ва ўласнасць свайму сыну Юр'ю.

Мясцовы люд яшчэ з тых часоў пачаў шанаваць месца гібелі пана Ілініча, а камень з крыжам лічыўся гаючым. Людзі хадзілі туды з усяе акругі. Дарогу да капліцы пачалі называць «накрыжскаю», а неўзабаве паблізу паўстаў Накрыжскі фальварак і вёска Накрыжкі.

* * *

Праз чатыры стагоддзі пасля тых падзей, калі царква была ўжо даўно перанесена ў іншае месца, а надпіс на помніку амаль сцёрся, як і сама памяць пра Ілінічаву смерць, аканом Парэцкага фальварка загадаў перавезці камень, які ляжаў пасярод ворнага поля, з пагорка да свайго дома ды пакласці яго каля парога. Аднак ноччу не здолеў заснуць, бо выразна і неаднойчы чуў пагрозлівы голас: «Вярні мой крыж на месца!» Жах апанаваў аканома. Пасля страшнай і бяссоннай ночы ён сам павёз камень туды, дзе той спрадвеку ляжаў, ды загадаў на месцы старой царквы ўсё да ладу прывесці.

Ад таго Парэцкага аканома, які па справе быў у Гродне, даведаўся пра той камень вядомы віленскі вучоны-археолаг ды захацеў абавязкова ўбачыць старадаўні помнік. Не паленаваўся, паехаў. Доўга карпеў ён над тым каменем, але расчытаў на ім надпіс — «ЯЦЬКО ИЛИНИЧЬ».

## ГАНЧАРОВА ВЕЧНАСЦЬ

Стары няспешна распляскаў перамешаны з жарствою кавалак гліны, выраўняў яго і да бляску выгладзіў з абодвух бакоў. Драўляны круглы прыклад ён паклаў на распластаваную гліну і ахайна прайшоўся нажом вакол. Асцярожна адняў дрэва, і на падстаўцы цяпер ляжаў тоўсты гліняны блінец. У справу пайшло давіла — драўляны круг са шчыльна ўстаўленым пасярэдзіне доўгім дзяржалам. Ганчар то падымаў, то ізноў апускаў сваю прыладу на шэра-сівую гліняную загатоўку. Прымяраўся. Урэшце давіла стала роўна пасярэдзіне блінца. Майстар пачаў няспешна ўціскаць дрэва ў вільготную падатлівую гліну. Месіва павольна папаўзло ў бакі і ўверх, утвараючы няроўныя краі. Атрымалася нібыта талерка. Стары спярша ўшчыльніў пальцамі донца, а потым узяўся выроўніваць беражкі. Спачатку ён згладзіў на іх пукатасці, а потым даляпляў і раўнамерна размазваў па ўсяму кругу невялікія кавалачкі мокрай гліны. Але на тым справа не скончылася, бо трэба было зрабіць гаршчок. Ганчар узяўся за іншы размяклы кавалак неапрацаванай гліны. Дзеянні амаль паўтарыліся: перамяшаў жарству з глінаю ў аднароднае месіва, расплюскаў, выгладзіў, выраўняў. Але гэтым разам кавалак быў збіты не ў круг, а расцягнуўся ўздоўж. Дзед ізноў узяў нож і выразаў шырокую і прадаўгаватую гліняную стужку, якой акурат хапіла, каб замкнуць круг над донцам. Пасля ён пачаў згладжваць гліну так, каб злучыць паміж сабою два канцы гэтай стужкі і яе ніжні край з беражкамі ўнізе. Цяпер ужо міса была досыць глыбокай. Кожная наступная стужка была вузейшай за папярэднюю. Менавіта тут патрэбен быў належны досвед. Перагрузіш сценкі гаршка ўверсе — яны папаўзуць і пакрывяцца, і ўся праца змарнуецца. Таму майстар працаваў няспешна і асцярожна. Балазе, за доўгае жыццё было зроблена безліч розных гаршкоў, збанкоў, місачак, сподачкаў ды іншай драбязы.

Юнакі, што прынеслі ганчару добрай гліны з новай копанкі ля Нёмана, уважліва сачылі за рухамі ганчара. Яшчэ з маленства яны любілі таўчыся каля ганчаровай лавы, бо той заўсёды ляпіў ім гліняныя цацкі: качак, конікаў, птушачак, фігуркі людзей, маленькія збаночкі. А яшчэ ён умеў, як ніхто іншы, захапляльна апавядаць малым казкі. Таму, можа, і цяпер, калі стары прасіў дапамогі, то вясковыя дзецюкі, памятаючы і казкі, і цацкі, ніколі яму не адмаўлялі. Вось і зараз хлопцы не разыходзіліся, прызвычаіліся да таго, што стары ці распавядзе штосьці, ці размову цікавую пачынае. Ганчар запрасіў іх сесці, а калі паселі, не спыняючы працы, спытаўся:

— Ну, то ці ведае хто, чым чалавек ад жывёлы адрозны? Што кажаш? — Поўсці не маем, а замест лап рукі і ногі… Дык і жаба поўсці не мае, але ж яна ад таго чалавекам не стала. А рукі і ногі — гэта тыя самыя лапы, толькі выглядаюць інакш… Як жа гаварыць не ўмеюць? Гавораць толькі па-свойму, па-звярынаму. І гавораць. І пяюць. І нават плачуць, калі баліць. Усё як у нас — людзей, адно што мы іх мовы разумець не можам… А ці ж такія яны неразумныя, як ты кажаш?! Звер надта хітры бывае. Спытай у паляўнічых, яны табе шмат могуць распавесці, як звер чалавека абводзіць... Але і хлапцы!

Няўжо не ведаеце?! Падказка ж навідавоку. Вось яно, нашае чалавечае адрозненне — у руках маіх.

Стары падняў амаль далеплены збан і пранёс яго перад здзіўленымі вачамі юнакоў.

— Чалавек посуд мае, прылады працы і зброю. Звер жа няздольны ні посуду вырабіць, ні зброі, а ўсё, што мае з прылад — ягоныя лапы ды зубы. Дзе-які звер, вазьмі да прыкладу таго бабра, жытло вельмі спрытна сабе зубамі і лапамі скласці можа. Але ж гаршка ці місы ўсё адно не зробіць. Вось і выходзіць, што менавіта посуд вылучае чалавека ад жывёлы. Кожны глечык ці талерка — то не проста пасудзіна для гаспадаркі, а напамін пра тое, што мы людзі. А навошта, вы думаеце, памерламу на апошняе вогнішча посуд кладуць? Каб пазначыць, што то быў чалавек, а не звер лясны. Так і пераходзіць чалавек у іншы свет са збанам, каб і там ведалі, хто прыйшоў і дзе ягонае месца. Гліна ў вогнішчы каменем стане, і памяць па нас, лічы, назаўсёды застанецца.

Пад размову ганчар даляпіў свой гаршчок. Ладны атрымаўся, раўнюткі. Ён пачаў выгладжваць яго пукам цвёрдай саломы, ад якой на гліне заставаліся неглыбокія палосы. Потым, узяўшы невялічкую костку, майстар прыняўся выводзіць адмысловы ўзор на верхняй частцы пасудзіны. Гэтым разам ганчар маляваў перакрыжаваныя наўздоўж рысачкі. Юнакі ведалі, што такі малюнак заўсёды быў на посудзе, які клалі нябожчыкам.

— А ці ў нас хто памёр, дзеду?

— Гэты гаршчок для сябе ляплю. Хачу са сваім у іншы свет адысці.

— А чаму менавіта на нябожчыцкіх гаршчэчках гэткія скрыжаваначкі малююць?

— Як рысачка з рысачкай сыходзіцца, так і ў смерці чалавечай жыццё тутэйшае з тамтэйшым сустракаецца. Людзі нараджаюцца і адыходзяць, але ўсе нашыя жыцці злучаны і перакрыжаваны. Тое што будзе, залежыць ад таго, што было. Вось так і ідзе па збаночку гэтае накрыжжа адно за адным, пакуль першае з апошнім не сустрэнуцца. А потым паспрабуй разбяры, дзе тут папярэдняе, а дзе наступнае? Дзе зараз знойдзеш першы крыжык, а дзе апошні? Усё злучана і звязана адзінаю вяззю. Бадай, хутка ўжо і я адыду, але і застануся. Костак маіх не будзе, а аскепачкі майго пахавальнага гаршчэчка праляжаць стагоддзі і камусьці некалі нагадаюць пра даўнейшага ганчара. Гэтак жыць трэба, каб скрыжавалася цяперашняя твая справа з будучыняю. Яшчэ дзед мой некалі казаў: круг часу зямнога мае замкнуцца, вось як гэтыя скрыжаваначкі на гаршчэчку — пачатак з канцом сустрэнуцца. І не будзе ўжо ані мінулага, ані будучага. Будзе адно бясконцае цяпер.





* * *

Спецыяліст Ленінградскага аддзела Акадэміі навук Фрыда Давыдаўна Гурэвіч пасля грунтоўнага вывучэння археалагічнай спадчыны Навагрудка звярнула ўвагу на мала даследаванае Нёманскае левабярэжжа. Па яе просьбе ў 1961 годзе ў Дзятлаўскі раён накіравалася студэнцкая даследчая група для археалагічнай разведкі на Нёманскім левабярэжжы. Фактлагічнай асновай для гэтай экспедыцыі паслужылі запіскі вядомага дарэвалюцыйнага даследчыка Фёдара Пакроўскага. Адным з найбольш перспектыўных для пошукаў быў вызначаны раён ад вёскі Накрышкі да вёскі Шаршні. Задача мінімум — знайсці помнікі, апісаныя Пакроўскім, і зрабіць на іх першасныя археалагічныя даследаванні. Задача максімум — даследаваць рэльеф мясцовасці на прадмет выяўлення невядомых раней курганных пахаванняў ці месцаў старажытных селішч. Летам таго ж года група студэнтаў-гісторыкаў пад кіраўніцтвам прафесара Міхаіла Міхайлавіча Бляўскага накіравалася ў Дзятлаўскі раён.

* * *

Грузавая машына, кузаў якой быў пакрыты брызентам, рэзка спынілася ля Накрышскай царквы. Воблака шэрага пылу выплыла з-пад калёс аўтамабіля і павольна асядала на траву каля мураванай царкоўнай агароджы. З кузава выскачыў малады хлопец, і яму ў рукі паляцелі адзін за адным некалькі шчыльна наладаваных бледна-зялёных заплечнікаў. Нечыя рукі перадавалі з машыны рыдлёўкі, шуфлі, грабелькі ды нейкі іншы інструмент. Апошняй з'явілася гітара, якую асцярожна перадалі з рук у рукі. Урэшце з-пад брызенту выскачылі яшчэ трое маладзёнаў, а за імі дзве дзяўчыны. Адчыніліся таксама дзверцы кабіны з боку пасажырскага месца, і адтуль выйшаў сярэдняга росту хударлявы мужчына гадоў пяцідзесяці. Хлопцы перацягнулі ўвесь выгружаны з машыны рыштунак да сцяны муранай царкоўнай агароджы. Вадзіцель, не выходзячы з кабіны, на знак развітання махнуў рукою сваім пасажырам, развярнуў машыну і панёсся назад на Дзятлава.

— Трэба ў каго запытацца, дзе тут тыя хаты, што вызначыў нам сельсавет. Старшыня казаў, дзесьці непадалёк ад царквы, — звярнуўся адзін з маладзёнаў да мужчыны, які, відавочна, быў галоўным у гэтым дэсанце.

Кіраўнік атрада не паспеў даць адказ, бо з царкоўнай брамы выйшаў высокі, тонкі святар, апрануты ў доўгую чорную вопратку, на галаве ў яго быў шыракаполы капялюш.

— Дзень добры, паважаныя госці! Людзі мне казалі, што маюцца вучоныя да нас прыехаць. Па ўсім бачу — вы і ёсць тыя самыя археолагі. Калі прыехалі вучоныя, то будуць, напэўна, і адкрыцці! Пра нашыя Накрышкі даведаецца ўвесь вучоны свет!

Святар прыветліва засмяяўся, і немагчыма было не адказаць яму ўсмешкаю. Потым ён неяк адразу пасур’ёзнеў і тонам свецкага чалавека мовіў:

— Дазвольце прадставіцца! Свяшчэннік Накрышскай царквы — Андрэй Емельянавіч Зянюк.

Святар на знак вітання элегантна прыпадняў леваю рукою свой капялюш і крыху схіліў галаву.

Маладзёны, убачыўшы святара, крыху сумеліся і адно толькі зацікаўлена вывучалі яго знешнасць і манеры. Кіраўнік групы, наадварот, адразу падаўся насустрач свяшчэнніку, працягнуў руку для вітання і прадставіўся.

— Міхаіл Міхайлавіч Бяляўскі, археолаг, прафесар. А гэта мой археалагічны атрад. На тыдзень-другі — госці вашых краёў. Будзем старажытныя курганы шукаць. Мо і Вы нам штосьці падкажаце. Напэўна, даўно тут служыце?

— У Накрышкі я прыехаў яшчэ напрыканцы дваццатых… Атрымоўваецца, ужо болей як трыццаць год у гэтай царкве. Так, ёсць тут мясціны, якія, як кажуць, дыхаюць старажытнасцю. Людзі, бывае, знаходзяць рознае і, ведаючы мой інтарэс да старажытнасцей, прыносяць паказаць. Нават дома маю невялічкую калекцыю. Але што ж мы стаім на сонцы? Па справе яшчэ паспеем пагаварыць. Давайце дапамагу вам вашыя кватэры знайсці. Дамы ўсе паблізу. Праз парк толькі трэба прайсці. Ці дазволіце быць вашым правадніком?

— Будзем надзвычай удзячны, Андрэй Емельянавіч, калі толькі не даставім Вам шмат клопату, — прамовіў Бяляўскі.

Святар дапамог юнакам узваліць на спіны іх цяжкія заплечнікі. Сам узяў некалькі рыдлёвак, і яны рушылі праз былы панскі парк да бліжэйшых вясковых хат.





Спачатку свяшчэннік паказаў дамы, дзе павінны былі размесціцца хлопцы і дзяўчаты, і тыя пацягнулі клункі да сваіх кватэр. Прафесарскае жытло было крыху далей па вуліцы.

— Праводжу і Вас, Міхаіл Міхайлавіч! Шчыра рады знаёмству. Чытаў некаторыя вашыя артыкулы, бо вельмі цікаўлюся і гісторыяй, і археалогіяй. Хачу запрасіць Вас сёння да сябе на вячэру! Мой дом, праўда, на другім канцы вёскі. Ён крыху адрозны ад іншых вясковых хат, таму, думаю, калі пагодзіцеся адведаць, знойдзеце маё жытло лёгка.

— Дзякую за запрашэнне, Андрэй Емельянавіч! З задавальненнем павячэраю з вамі. Тым больш Вы казалі, што маеце нейкую калекцыю старажытнасцей.

— Так, калекцыя ёсць, і значная яе частка мае менавіта археалагічнае паходжанне.

— Я заінтрыгаваны…

— Паверце, заінтрыгавацца ёсць чым. Вось у гэтым доме ваша кватэра, а гаспадыня, як бачу, Вас ужо чакае. Такім чынам, да вечара!

* * *

Пасля супольнай вячэры і агульнай нарады, на якой былі вызначаны планы группы на бліжэйшыя дні, прафесар Бяляўскі пакінуў студэнтаў пры вогнішчы з гітараю, а сам выправіўся на вячэрні шпацыр па вёсцы і накіраваўся да святарскага дома. Жытло свяшчэнніка сапраўды вылучалася сярод іншых хат адкрытым ганкам з драўлянымі калонамі, а таксама ліштвамі вакол акон.

Як толькі прафесар наблізіўся да весніц, на ганак сустракаць госця выйшаў гаспадар. Свяшчэннік быў у цывільным. Нейкая ўжо даўно забытая старасвецкасць праглядалася ў выглядзе дома, ва ўладкаванні панадворка і саду, нават у вопратцы і размове гаспадароў.

Стол быў накрыты без лішняга. Можна было пакаштаваць розных вясковых далікатэсаў, пераважна разматых гатункаў вяленага і копчанага мяса, але падавалася ўсё так, каб дэгустацыя заставалася дэгустацыяй. Каб смакі не перамешваліся, гаспадар прапаноўваў ачышчаць рэцэптары самаробнай пушчанскай настойкаю, якую наліваў у малюсенькія кілішачкі, якіх і хапала дакладна для пазначанай мэты.

Пасля вячэры госця запрасілі перайсці ў пакой, які называўся бібліятэкай. Памяшканне было невялікім. Шмат месца займаў стары шырокі стол. Пад стаць яму і крэсла — драўлянае, шырокае, з разнымі пацёртымі падлакотнікамі і высачэзнаю спінкаю, якую па краях вянчалі точаныя булавешкі. У бліжэйшым да стала куце — іконы. Уздоўж усіх сцен пакоя размяшчаліся адкрытыя шафы, паліцы якіх былі шчыльна запоўненыя кнігамі, паперамі, падшыўкамі старых газет і часопісаў. Пасярэдзіне дальняй сцяны грувасцілася закрытая шафа, ад якой па адбодва бакі да самых кутоў былі таксама прымацаваны паліцы. Кніг на іх не было — адно раскладзены шэрагі нейкіх прадметаў, якія ў паўцемры цяжка было разгледзець. Але менавіта туды, узяўшы лямпу, і накіраваўся айцец Андрэй.

— Прашу прафесара падысці! У гэтай шафе і на паліцах тое, што Вас можа зацікавіць.

Калі святло лямпы дасягнула паліц, то на іх можна было ўбачыць шэрагі старажытных прадметаў, пераважна царкоўных: кадзілы, крапілы, фрагменты ўзорных металічных вокладак, нейкія разныя скрыначкі, драўляныя фігуркі святых з адбітымі часткамі іх целаў. Побач з царкоўнымі рэчамі знаходзіліся і іншыя прадметы: паедзены іржою складны ключ з круглаю ў далонь галоўкаю, учарнелае лязо нажа, чатырохгранны рускі штык, каска кайзераўскага салдата з пікаю на самым версе, груба скаваныя цвікі, клямкі, гузікі, кулі і іншая драбяза, да якой трэба было прыглядацца, каб зразумець што гэта.

— Цікавая калекцыя! Адкуль усё гэта?

— Хтосьці мог бы сказаць — непатрэбны стары хлам. Але я захоўваю гэтыя рэчы, бо кожная з іх нясе гісторыю свайго часу. Тут многа царкоўных прадметаў, якія яшчэ маімі папярэднікамі былі складзены на царкоўным гарышчы як непатрэбныя для ўжытку, але я іх перабраў, ачысціў, а самае цікавае прынёс сюды. Тут таксама шмат знаходак з месца, дзе стаяла першая Накрышская царква. Там зараз калгас поле зрабіў, і часта на ворыве розныя рэчы знаходзяцца. Як вось, напрыклад, гэтае лязо.

— Гэта сапраўды цікавая знаходка. Мяркую, XVI стагоддзе. Магчыма, турэцкі нож.

— Шмат чаго з гэтай калекцыі людзі прынеслі. Бо ў нас, па вялікім рахунку, нікога гэтая пабітая, паржавелая ды пагнілая старызна і не цікавіць. Вы ж ведаеце, усе зацята будуюць новы свет. Вартасць мае толькі новае. А мне пасуе займацца даўнейшым, бо я ж і сам





прадстаўнік старога, як цяпер кажуць, аджылага свету. Так вось адно лядашчае да другога і прыцягваецца.

Свяшчэннік паставіў лямпу на паліцу так, каб яна асвятляла шафу, дастаў з кішэні ключык і адкрыў дзверцы. У шафе былі складзены скрынкі розных памераў. Некаторыя з іх, як заўважыў прафесар, былі падпісаны па-польску.

— Гэта тое, што будзе для Вас найбольш цікавым, — сказаў святар, адкрываючы адну са скрынак.

Прафесар убачыў загорнутыя ў тонкую паперу фрагменты керамікі. Раскрыўшы абгортку, ён узяў найбольшы прадмет і ўзважыў яго на далоні. Потым паднёс керамічны адломак бліжэй да святла, некалькі разоў перавярнуў яго, абмацаў пальцамі ўсе няроўнасці. Наблізіў кавалак да вачэй і пачаў уважліва разглядаць яго. Адклаў на паліцу. Другі і трэці адломкі прайшлі гэтакае ж даследаванне. За ўвесь гэты час Бяляўскі не вымавіў ні слова, потым выпрастаўся, яшчэ раз кінуў позірк на скрыні ў шафе і спытаў.

— Адкуль гэтая кераміка?

— Доўгая гісторыя, якая цягнецца прыкладна з канца XVIII стагоддзя, калі Накрышкі перайшлі да Фларыяна і Барбары Стравінскіх. Яны абралі Накрышкі сваім родавым маёнткам і мелі вялікі план разбудовы фальварка. Сярод іншага вырашылі збудаваць новую царкву. Месца абралі не тое, дзе стаяў стары храм, а вызначылі пляц пад будаўніцтва бліжэй да сваёй сядзібы. Але месца было ў нізіне, і Стравінскія вырашылі падсыпаць зямлі пад падмуркі новай царквы, каб яна стаяла на ўзвышшы. Непадалёк ад вызначанага пад будаўніцтва месца, пасярод поля быў пагорак, які заўсёды замінаў гаспадарчым працам. Фларыян вырашыў, як кажуць, адным стрэлам двух зайцоў забіць: і поле выраўняць, і нізіну падсыпаць. Загадаў ён скапаць той пагорак, а грунт скарыстаць для падсыпкі. Калі ж пачалі раскопваць, то знаходзілі шмат вось гэткіх керамічных абломкаў. Пан быў адукаваным чалавекам, юнаком вучыўся ў Еўропе, і калі даведаўся пра тыя чарапкі, то загадаў усё збіраць і яму перадаваць. Большая частка таго, што Вы тут бачыце, менавіта знаходкі таго часу. Дарэчы, наколькі мне вядома, Фларыян Стравінскі пакінуў і нейкае апісанне гэтай археалагічнай калекцыі, якое ў 20-я гады разам з іншымі старажытнымі рукапісамі з Накрышскай бібліятэкі было перададзена ў фонды Універсітэцкай бібліятэкі ў Варшаве. Не ведаю, ці захавалася што-небудзь там… Пасля Фларыяна тым месцам займаўся ягоны ўнук Адам Стравінскі, які нават

зладзіў адмысловыя раскопкі. Вось у гэтых двух скрынях Адамавы знаходкі.

— Якім чынам усё гэта патрапіла ў ваш дом?

— Я меў добрыя, амаль сяброўскія зносіны з апошнім са Стравінскіх — Уладыславам, які тут быў панам. У свой час ён паказаў мне гэты збор і распавёў яго гісторыю. У верасні 1939-га, калі пачалася вайна, Уладыслаў Стравінскі вырашыў з'язджаць і, мабыць, разумеў, што назаўсёды. Перад самым сваім ад'ездам з Накрышак ён перадаў гэтую калекцыю мне з просьбай захаваць яе. Стравінскі меў рацыю, бо маёмасць панскага дома была цалкам расцягнута, рэшткі бібліятэкі спалены, а гэтыя чарапкі, напэўна, выкінулі б на сметніцу.

— Андрэй Емельянавіч, а ці можаце вы хоць прыкладна паказаць тое месца, дзе ўсё гэта было знойдзена?

— Чаму ж не… Ведаю тое месца дакладна. Больш за тое, там дагэтуль на ворыве знаходзяць падобныя чарапочкі. Спадзяюся, Вам пашчасціць знайсці матэрыяльнае пацверджанне майго аповеду.

— Заўтра ж мы з гэтага і пачнём! Усе гэтыя чарапкі — так званая штрыхаваная кераміка, узрост якой сягае больш як за две тысячы гадоў. Палеаліт.

Прафесар яшчэ раз паднёс да святла той кавалак керамікі, які трымаў у руках.

— Дарэчы, надзвычай цікавы прыклад малюнка — крыжаванка, якая, верагодна, ішла па ўсёй акружнасці той пасудзіны. Ёсць версія, што менавіта такія малюнкі наносіліся на пахавальную кераміку.

— Што здзіўляцца? Вёска ж наша называецца Накрышкі, ці як раней гаварылі — Накрыжкі. Ці не ад гэтай крыжаванкі такая дзіўная назва з'явілася? Вядома, часы дахрысціянскія, але тым не менш знак крыжа. А ці ж выпадковасць, што менавіта тая зямля легла пад царкоўны падмурак?

— Андрэй Емельянавіч, дазвольце спытацца, што вы мяркуеце рабіць з гэтай калекцыяй?

— Лічу, шаноўны прафесар, нашу сустрэчу невыпадковай і вельмі своечасовай. Я ўжо даўно хацеў перадаць гэтую калекцыю ў рукі прафесіяналаў. Тым больш не ведаю, ці доўга мне давядзецца тут яшчэ служыць. Усё ідзе да закрыцця храма. Ціск на мяне і на маіх прыхаджан надзвычайны. На Вялікдзень падчас усяночнай камсамольцы вокны паразбівалі ў царкве. Мінулым месяцам адзін з нашых мясцовых актывістаў узлез на званіцу і кувалдаю разбіў старажытны звон. Я ўжо ведаю па іншых прыходах, што калі такое адбываецца, то царква вызначана пад закрыццё… Сацыяльны канфлікт, як кажуць. Калі ж храм закрыюць, то мне трэба будзе адсюль некуды з'язджаць. Забіраць гэтую калекцыю з сабою было б няправільна, а пакінуць тут, на жаль, няма каму. Таму я рады, што вы прыехалі. Цяпер жа са спакойнаю душою магу ўсё гэта перадаць у надзейныя рукі. Гліняны скарб знайшоў свайго ўладальніка.

— Шчыра скажу, разлічваў на такі адказ. Маючы ўсё гэта, нашая экспедыцыя, лічы, ужо паўсправы зрабіла. У сваю чаргу, абяцаю, што выйду на тых людзей, ад якіх можа залежыць лёс вашага храма, і зраблю ўсё магчымае, каб царква не закрылася. Сёння крыжаванае пасланне старадаўняга ганчара я прачытваю менавіта так.

— На ўсё Божая воля! Мо і дапаможа нам ганчарова пасланне ды і Вашае слова, напэўна, не зашкодзіць… Я заўтра перавязу калекцыю ў царкву, а вы прыходзьце са сваёй моладдзю і прымайце артэфакты ў фонд навуковай экспедыцыі. А пасля падыдзем да таго месца, дзе ўсё гэта было знойдзена.

* * *

Справаздача прафесара Бяляўскага па выніках археалагічнай разведкі на Нёманскім левабярэжжы Дзятлаўскага раёна выклікала зацікаўленасць у навуковай супольнасці. Акадэмія навук БССР дала дазвол на правядзенне даследчай археалагічнай экспедыцыі на Дзятлаўшчыне. Знойдзеныя ў Накрышках фрагменты керамікі былі дасканала даследаваны і навукова апісаны. Найбольшую цікавасць у даследчыкаў выклікалі фрагменты з крыжаваным узорам, які ўдалося амаль цалкам аднавіць са знойдзеных керамічных адломаў.

* * *

Упаўнаважаны па справах рэлігіі Дзятлаўскага райвыканкама на абласной нарадзе атрымаў вусную рэкамендацыю свайго кіраўніцтва спыніць на некаторы час справу па закрыцці Накрышскай царквы і дазволіць святару Андрэю Зенюку бесперашкодна ажыццяўляць яго святарскія абавязкі.

* * *

Пасля нядзельнай Літургіі пеўчыя Накрышскай царквы, дачакаўшыся, пакуль бацюшка выйдзе з алтара, ізноў абступілі яго з пытаннямі.

— Айцец Андрэй, то што з царквою нашай будзе? Што там чуваць з райвыканкама?

— Ці ж не закрыюць?

— Калі закрываць будуць, то неяк ратаваць іконы трэба?

Свяшчэннік пачакаў пакуль жанчыны сцішацца і спакойна мовіў.

— Усё добра будзе з царквою. Будзем служыць. Падзякуйце Богу і ганчару!

— Якому ганчару, бацюшка?!

— Якому? А быў тут у Накрышках адзін некалі. Ён і дапамог.

## ПАН ЁДКА І ЎРАТАВАНАЕ КАХАННЕ

### Аповед па матывах рэальных падзей

Штораніцы Францішак Керда мусіў са сваёй левабярэжнай Карытніцы плыць на ўрадлівы правабярэжны бераг Нёмана, дзе была Карытнянская ворная зямля ды сенакос. Каму толькі ў галаву прыйшло падзяліць ракой вёску і надзелы. Але не Францішкам так было прыдумана і не ў яго магчымасцях было змяніць гэткі спрадвечны стан рэчаў. Малады 20-гадовы хлопец моцнымі, налітымі дужаю сілаю рукамі робіць некалькі шырокіх рухаў вёсламі, пераадольваючы імклівую нёманскую плынь, і праз пару хвілін яго човен ужо ўтыркаецца ў жоўты пясочак на супрацьлеглым беразе.

На правабярэжжы з карытнянскаю зямлёю межавалі надзелы мастаўлянскіх людзей. Найбліжэйшым да Кердавай зямлі быў надзел Лаўрына Келніка, які, сыноў не маючы, прыхodзіў працаваць з дачкою — маладою прыгажуняй Матронкай, высокай, статнай дзяўчынаю. І ці ж многа маладым для кахання трэба? То Францішак яе папросіць вадзіцы выпіць, нібыта сваю забыў, то Матрона кліча дужага хлопца дапамагчы падняць які цяжар. Карацей, працавалі яны побач старанна і з поля дахаты бегчы не надта спяшаліся… А тут і ўзрост ужо адпаведны, а дзяўчына вунь якая прыгожая, дасціпная ды гаспадарлівая — добрая жонка будзе! Параіўся Фрнцішак з бацькамі ды і выправіў на чаўнах у Мастаўляны да Лаўрыновай хаты сватоў. Дасведчаныя бацькі пра такое загадзя ведаюць і заўсёды на такі выпадак пачастунак у каморцы трымаюць. Не здзівіўся і Лаўрын, не запярэчыў, гасцей у дом запрасіў. Даўно ўжо бачыў, да чаго справа ідзе. Ды і Францішак той, што ні кажы, спрытны, працавіты, ветлівы, з добрай сям'і. Чым не мужык для малодшай любімай дачкі? Матрона ж таго толькі і чакала.





Пагаманілі, сватоўскія справы вырашылі, толькі селі за стол, каб абмыць умову, падднялі кілішкі за добры лёс, як наляцеў каршуном Беліцкі пан Эдвард Захваловіч. Ох, і не любіў ён ані карытнянцаў, якія штогод сенажаці яго падкошвалі, ані тым больш іхнага пана — лідскага суддзю гранічнага Ёдку. Надоечы не на карысць Захваловіча той адну балючую справу вырашыў. От табе і сусед... Пасварыліся ўшчэнт і крыўда вялікая засталася. Дык вось убачыўшы карытнянскіх сватоў, Ёдкавых сялян — выхапіў пан Захваловіч сваю пугу ды і пагнаў усю дэлегацыю прэч. Бач ты, сена крадуць, дык яшчэ і дзеўку звесці хочуць! Ледзь тыя сваты ў чаўны ўскочыць паспелі. Вярнуўшыся да Лаўрынавай хаты, крычаў Захваловіч, што ніколі не дасць згоды на гэткі шлюб. А без панскай згоды пад вянец не станеш.

Моцна бедаваў Францішак, але ад свайго шчасця, каб і хацеў, не збяжыш. Даведаўшыся пра такія нягжэчныя паводзіны суседа, карытнянскі пан Ёдка вырашыў дапамагчы маладым шлюбам пабрацца. Бо як жа можа справядлівы суддзя такую несправядлівасць сцярпець? Дый Захваловіча даўно трэба на месца паставіць. Паклікаўшы роспачнага Францішка, пан Ёдка перакнаў яго нічога не баяцца, а ўночы пераплысці ў Мастаўляны ды ўкрасці нявесту, а раніцою ехаць з маладою да Накрышскай царквы і чакаць яго — дабрадзея. Сам жа, будучы ва ўсёй акрузе чалавекам паважаным, паехаў да састарэлага ўжо Здзецельскага дэкана айца Ралевіча і, задобрыўшы сведак, увёў старога пробашча ў зман, каб той даў патрэбную для шлюбу даведку на нявесту, а разам і загад падначаленаму свяшчэнніку Накрышскай царквы павянчаць маладую пару. Але была адна падкавыка, скрадзенай Келнікавай Матроне трэба было назвацца іменем сваёй карытнянскай равесніцы — хворай Тэклі Лунь, бо менавіта на тую Тэклю і прасіў пан Ёдка даведку ад вялебнага айца дэкана. Атрымаўшы патрэбны дакумент і паправіўшы настрой у прыдарожнай карчме, пан Ёдка паехаў да Накрышак, дзе ўжо павінны былі яго чакаць Францішак з Матронаю. Перахрысціўшы дэканаваю даведкаю Матрону ў Тэклю, пан Ёдка павёў маладых на сустрэчу з Накрышскім пробашчам Бароўскім. Пан суддзя перадаў паважанаму айцу Бароўскаму ўсе тэрміновыя наказы дэкана, прадставіў маладую пару са сваёй вёскі ды настойліва прасіў тэрмінова павянчаць маладых. Нечаканасць шлюбнай справы і яе паспешнасць крыху бянтэжылі Накрышскага айца-пробашча, але загад дэкана ды сама судзейская прысутнасць пана Ёдкі

павінны былі сведчыць пра несумнеўную кананічную і юрыдычную легітымнасць справы і яе надзвычайную важнасць для шаноўнага пана суддзі. Ні пра што не здагадваючыся, вялебны Мікалай Бароўскі прыняў у маладых споведзь і ўрачыста павянчаў Францішка і Тэклю-Матрону. Пан Ёдка на вянчанні быў у добрым гуморы, і па ўсім бачна было, што ён шчыра задаволены такім вынікам. Пакуль гучалі належныя шлюбныя малітвы, суддзёва сумленне падводзіла дакладны рахунак справы: «Канешне, і па законе, і па каноне выходзіць парушэнне, але ці ж такое яно вялікае тое парушэнне. Зла ніякага не зрабіў. Ды і дзе тых парушэнняў няма?! Калі які грэх і ёсць на мне за гэты шлюб, то ці ж не адкупіцца ён перад Богам шчасцем гэтых маладзёнаў і паразаю зламыснасці пана Захваловіча?! Ты ж, Божа, таксама суддзя, і бачыш, што справядлівасць на маім баку. То ўжо не дай, Усемагутны Пане, адужаць мяне таму задзірыстаму ганарліўцу Захваловічу! Амэн!»

Весткі пра вяселле дайшлі да Захваловіча яшчэ ўвечары. Жонка ледзьве стрымала раз'юшанага пана Эдварда, які ўжо збіраўся ехаць біцца з Ёдкам. Абражаны і абсмеяны Захваловіч быў гатовы на ўсё. Крыху супакоіўшыся, ехаць біцца пабаяўся, але прыцягнуў да разгляду справы ўсіх, каго толькі мог, каб разабрацца з тым Ёдкам і ягонымі карытнянскімі злодзеямі. Пазбавіць яго суддзёвай годнасці! Спагнаць грашовую кару! Зняславіць нягодніка! Але як ні круці, судзіцца з суддзёю не так проста… Ды і ў судах тых, ці дабʼешся праўды. Вінаватых, як заўжды, не выявілася. Царкоўны суд прызнаў шлюб Францішка з Матронаю дзейсным, і дзяўчына засталася жыць у Ёдкавай Карытніцы. Накрышскі святар Бароўскі па разглядзе справы духоўнай кансісторыяй таксама быў абвешчаны невінаватым. Старому здзецельскаму дэкану айцу Ануфрыю Ралевічу выбачылі памылку за старасць і бездакорную рэпутацыю. Сам жа пан Юстын Ёдка суда не баяўся. Бо і дзіва было б, каб суддзя зямнога суда пачаў баяцца. А вырак суда Боскага, не сумняваўся Ёдка, быў на яго баку.



# ЗМЕСТ

*Навукова-папулярнае выданне*

Протаіерэй **Георгій Рой**

# НАКРЫШКІ
## ЛЕТАПІС БАРЫСА-ГЛЕБСКАЙ ЦАРКВЫ І КРАЮ

*У афармленні выдання выкарыстаны фотаздымкі Андрэя Пугача, Уладыслава Мігдалёнка, Вацлава Спорскага, прот. Я. Свідэрскага.*

Адказны за выпуск *Ж. Ю. Клімянок*
Дызайн вокладкі і камп'ютарная вёрстка *В. В. Анцух*
Карэктары: *К. С. Голуб, М. Д. Ліпніцкая*

